

Сустрэча з Данчыкам каля музэю Максіма Багдановіча, 1989



Сьвяткаваньне 5-х угодкаў Беларускага Народнага Фронту.
Яўген Кулік, Аляксандар Лукашук, Алесь Бяляцкі,
Зянон Пазьняк.
Менск, кастрычнік 1993





Алесь Бяляцкі на мітынгу

Людзі ў цывільным затрымліваюць Алеся Бяляцкага
на Дзень Волі.
Менск, сакавік 2004



Вацлаў Гавэл уручае прэмію Алесю Бяляцкаму.
Прага, 2006





Алесь Бяляцкі і іншыя актывісты «Вясны» пратэстуюць супраць рашэньня Вярхоўнага суду

Алесь Бяляцкі перад офісам «Вясны» ў дзень арышту, 4 жніўня 2011





Канваір здымае кайданкі з Алеся Бяляцкага на судовым паседжаньні, лістапад 2011

Алесь Бяляцкі на судзе, лістапад 2011



У залі суду над Алесем Бяляцкім,
у першым шэрагу — Алесева жонка Натальля Пінчук,
лістапад 2011






Алесь Бяляцкі ў бабруйскай калёніі. Фатаздымак зроблены патаемна на тэлефон, а затым гэтак жа патаемна вынесены на волю

Ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі міру Аўнг Сан Су Чы на акцыі ў падтрымку Алеся Бяляцкага.
Парыж, 2012






Сустрэча Алеся Бяляцкага пасьля вызваленьня.
Менск, 21 чэрвеня 2014

Алесь Бяляцкі пасьля вызвалленьня ў бюро Радыё Свабода.
Менск, 2014






Алесь Бяляцкі ў Брусэлі, ліпень 2014

Прэзэнтацыя новай, пятай па ліку, кнігі Алеся Бяляцкага «Халоднае крыло Радзімы».
Сьнежань 2014




Прэзэнтацыя кнігі Алеся Бяляцкага «Халоднае крыло Радзімы»
у сядзібе партыі БНФ.
Менск, сьнежань 2014




«Вясноўцы» Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч і Ўладзь Лабковіч на адным з маршаў у жніўні 2020

**Алесь Бяляцкі на Свабодзе.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2022. 444 с.: +12 с. іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Укладаньне, рэдактура *Сяргей Навумчык*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*

Голас ляўрэата Нобэлеўскай прэміі міру, праваабаронцы Алеся Бяляцкага некалькі дзесяцігодзьдзяў гучаў на Радыё Свабода ў абарону дэмакратычных каштоўнасьцяў у Беларусі і сьвеце.
Кнігу складаюць выбраныя матэрыялы, прысьвечаныя Бяляцкаму, якія гучалі ў этэры з 1996 году, калі была створана «Вясна-96», і публікаваліся на інтэрнэт-сайце svaboda.org.


FOL

ISBN 978-0-929849-97-3

# Зьмест

**Кантэкст. 2011**

**Кантэкст. 2020**

**Кантэкст. 2022**

**Па-за кантэкстам**

# ЧАЛАВЕК ВЯСНЫ

Ў краіне нашай, дзе мы не ўміраем,
Хоць ў турмы вядуць свабоды дарогі,
Мы не самотныя — Алеся маем,
І сілу і славу яго перамогі.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# Чалавек надзеі для Беларусі

Прысуджэньне Нобэлеўскай прэміі міру Алесю Бяляцкаму — ня толькі належная даніна павагі вялікаму змагару за свабоду, але і глябальная дэкярацыя падтрымкі яго змаганьню за дэмакратыю ў Беларусі — змаганьню, якое ён вядзе ўсё сваё жыцьцё. Дысыдэнт позьняга савецкага пэрыяду, Бяляцкі неўзабаве пасьля таго, як Аляксандар Лукашэнка ў 1994 годзе зноў усталяваў у Беларусі дыктатуру, заснаваў Праваабарончы цэнтар «Вясна». Пад пастаянным перасьледам і арыштамі, непахісна адданы справе негвалтоўнасьці і дэмакратыі, Бяляцкі застаецца аб'ядноўчай нацыянальнай постацьцю, ня толькі абараняючы палітычныя правы ўсіх беларусаў, але і змагаючыся за захаваньне іх культуры, мовы і нацыянальнай ідэнтычнасьці. Ён увасабляе дэмакратычныя памкненьні людзей Беларусі і іх надзею на лепшую будучыню.

Наколькі ж ён адрозьніваецца ад Лукашэнкі, якога прысуджэньне Нобэлеўскай прэміі Бяляцкаму выявіла ў праўдзівым сьвятле — як дыктатара, які, ня маючы легітымнасьці, кіруе толькі з дапамогай сілы. Вялікі польскі філёзаф Лешэк Калакоўскі ў 1971 годзе ў эсэ "Пра надзею і роспач" казаў, што ніякая дзяржава або палітычная сыстэма ня можа існаваць без дэмакратычнай легітымнасьці, пры адсутнасьці якой дыктатары шалёна спрабуюць стварыць сабе легітымнасьць сурагатную, заснаваную на ідэалёгіі, эканамічных дасягненьнях або

нацыяналізьме. У Лукашэнкі нічога з гэтага няма. Камуністычная ідэалёгія памерла; разбуральныя наступствы расейскага ўварваньня ва Ўкраіну прывялі да таго, што эканамічны прагрэс у Беларусі ў агляднай будучыні немагчымы; а безагаворачнае падпарадкаваньне Лукашэнкі Пуціну ў якасьці платы за яго ўтрыманьне пры ўладзе не пакінула ані кроплі даверу да яго як да патрыёта. Тым часам Бяляцкі, чый статус цяпер узьняты Нобэлеўскай прэміяй, наадварот, становіцца нацыянальным героем.

У рэшце рэшт непазьбежная параза Расеі ва Ўкраіне сьпіша ня толькі Пуціна, але і ягонага беларускага прыслужніка на сьметнік гісторыі. Аслабленьне Расеі ўмацуе пэрспэктыву пераходу да дэмакратыі ў Беларусі, і, як зазначалася ў важным артыкуле, апублікаваным у Journal of Democracy, гэтая пэрспэктыва была таксама ўзмоцненая грамадзянскай мабілізацыяй пасьля сфальшаваных выбараў 2020 году, якая «трансфармавала сьвядомасьць беларускай нацыі». Прынамсі, у нас ёсьць маральны і дэмакратычны прыклад Алеся Бяляцкага, чыя мужнасьць, трываласьць і гуманізм натхняюць адраджэньне Беларусі. Гэта надае сабраным у гэтай кнізе інтэрвію Бяляцкага і паведамленьням пра яго на Радыё Свабода асаблівую цікавасьць для народу Беларусі і для кожнага, каму неабыякавая будучыня краіны.

*Карл Гершман,*
*прэзыдэнт-заснавальнік Нацыянальнага фонду дэмакратыі ЗША*

## «Мы плакалі ад шчасьця і скакалі»

7 кастрычніка 2022

*А 12-й гадзіне па менскім часе ў сталіцы Нарвэгіі Осла Алесь Бяляцкі быў абвешчаны ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі міру.*

З чэрвеня 2021 году кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Вясна» знаходзіцца пад арыштам.

Алена Масьлюкова, праваабаронца «Вясны»: «Мы плакалі ад шчасьця і скакалі. Нам званілі людзі, віншавалі і таксама плакалі. Уяўляю, як адрэагаваў бы на гэтую навіну Алесь. Ён сказаў бы: „Сябры мае, гэта ваша перамога!“.

Наша праца, усёй „Вясны“, накіраваная на абарону правоў чалавека, абарону ўсіх, хто сёньня мае патрэбу ў гэтым у Беларусі, адзначана на такім узроўні. Мы баронім як палітвязьняў, так і самога Алеся, які за сваю праваабарончую дзейнасьць больш як год за кратамі».

Натальля Пінчук, жонка палітвязьня Алеся Бяляцкага, некалькі хвілін таму даведалася пра Нобэлеўскую прэмію міру для яе мужа:

«Я толькі што, будучы ў дарозе, даведалася пра Нобэлеўскую прэмію для Алеся. Мяне перапаўняюць эмоцыі, трэба сабрацца з думкамі. Але перш за ўсё я выказваю вялізную ўдзячнасьць Нобэлеўскаму камітэту і сусьветнай супольнасьці за прызнаньне працы Алеся, яго паплечнікаў і яго арганізацыі.

У лістах да мяне Алесь заўсёды піша, што ўсё ў яго нармальна, ня скардзіцца на здароўе, стараецца мяне не засмучаць. 4 кастрычніка ад яго быў апошні ліст, сярод іншага ён пісаў у ім пра свой 60-гадовы юбілей, які сустрэў за кратамі 25 верасьня: „Дзіўны юбілей, ціхі і спакойны, нешта на юбілеі мне не шанцуе. Ня верыцца, што мне 60 год, здаецца, гэта ня мне, а камусьці іншаму“, — напісаў ён. Алесь меў на ўвазе, што і свае 50 год ён сустрэў у турме.

У менскім СІЗА знаходзіцца ўжо больш за год, з чэрвеня 2021 году. На якой стадыі сьледзтва, мне нічога не вядома. Гэта таямніца, адвакаты пад падпіскай аб неразгалошваньні і нічога мне ня кажуць.

Спатканьняў мне не давалі».

**1996 становіцца першым годам шматтысячных пратэстаў супраць інтэграцыі Беларусі і Расеі, якія ўваходзяць у гісторыю як «Вясна-96».**

**Сакратар Управы БНФ (выканаўчага органа Народнага Фронту), дэпутат Менскага гарсавету Алесь Бяляцкі — адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў мітынгаў і шэсьцяў 24 сакавіка (Дзень Волі), 2 красавіка (дата падпісаньня дамовы аб супольнасьці Беларусі і Расеі), Чарнобыльскага шляху 26 красавіка, іншых акцыяў пратэсту.**

**Бяляцкі ўзначальвае створаны Народным Фронтам праваабарончы камітэт «Вясна-96».**

**У 1996 у незалежнай Беларусі зьяўляюцца першыя палітычныя вязьні — за краты кінутыя палітычны актывіст Андрэй Рамашэўскі за «зьдзек над дзяржаўнай сымболікай» і паэт Славамір Адамовіч за верш «Убей президента!». За ўдзел у масавых акцыях арыштаваныя лідэры БНФ Вячаслаў Сіўчык і Юры Хадыка, якія абвяшчаюць галадоўку.**

**Алеся Бяляцкага за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях міліцыя затрымлівае сем разоў.**

**Зьяўляюцца першыя палітычныя эмігранты — палітычны прытулак у ЗША атрымалі старшыня БНФ Зянон Пазьняк і прэс-сакратар Фронту Сяргей Навумчык.**

# Кантэкст. 1996

**Увосень 96-га супрацьстаяньне паміж Вярхоўным Саветам і прэзыдэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, які з парушэньнем Канстытуцыі імкнецца сканцэнтраваць усю ўладу ў сваіх руках, дасягае кульмінацыі. Дэпутаты зьбіраюць належную колькасьць подпісаў за імпічмэнт прэзыдэнта. Лукашэнка прызначае рэфэрэндум аб зьмене Канстытуцыі. Старшыня Цэнтравыбаркаму Віктар Ганчар абвяшчае рэфэрэндум незаконным.**

**У лістападзе Алесь Бяляцкі ды іншыя лідэры БНФ выводзяць на плошчу тысячы людзей з патрабаваньнем імпічмэнту Лукашэнку. Аднак старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі і старшыня Канстытуцыйнага суду Валер Ціхіня ў прысутнасьці кіраўнікоў Расеі падпісваюць з Лукашэнкам пагадненьне, у выніку якога імпічмэнт касуецца, праводзіцца рэфэрэндум і Вярхоўны Савет распускаецца.**

**Міжнародная супольнасьць не прызнае вынікі рэфэрэндуму.**

**У гэты і бліжэйшыя гады Алесь Бяляцкі сумяшчае некалькі функцый — ён сакратар Управы БНФ, кіраўнік «Вясны-96», дырэктар літаратурнага музэю Максіма Багдановіча.**

## «Цяпер іншая палітычная сытуацыя»

25 траўня 1996

*Некалькі сотняў чалавек сабраліся ля помніка Максіму Багдановічу ў Менску, каб адзначыць дзень народзінаў паэта.*

Традыцыя ўшанаваньня памяці Багдановіча ля помніка ў цэнтры Менску налічвае ўжо пятнаццаць гадоў. Гэтым разам арганізатарам мерапрыемства быў музэй Максіма Багдановіча — па словах дырэктара музэю Алеся Бяляцкага, мерапрыемства ёсьць у афіцыйным пляне працы музэю. Тым ня менш улады не далі дазволу на выкарыстаньне агучвальнага абсталяваньня.

Удзельнікі прынесьлі з сабой бел-чырвона-белыя сьцягі, ля помніка гучалі песьні, чыталіся вершы.

Падчас мерапрыемства інцыдэнтаў зь міліцыяй не было, але пасьля завяршэньня пяцёра ўдзельнікаў былі затрыманыя людзьмі ў цывільным і дастаўленыя ў Цэнтральны РАУС Менску.

Міліцыянты склалі пратакол на Алеся Бяляцкага за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу. У адказ на словы Бяляцкага, што адзначаць дзень народзінаў Максіма Багдановіча дазвалялася пры камуністах, афіцэр міліцыі заявіў, што «цяпер іншая палітычная сытуацыя».

## Бяляцкі затрыманы паводле завочнага суду

16 чэрвеня 1997

*У нядзелю ўвечары быў затрыманы адзін зь лідэраў БНФ, дырэктар музэю Максіма Багдановіча Алесь Бяляцкі.*

Як паведаміла ягоная жонка Натальля, міліцыянты неаднаразова прыходзілі да Бяляцкіх, каб затрымаць гаспадара і тым самым выканаць пастанову Савецкага раённага суду Менску, які яшчэ ў сакавіку пакараў дырэктара музэю Багдановіча за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця ў падтрымку дэмакратычных сілаў Баўгарыі ды Сэрбіі.

Гэтае шэсьце пад назвай «Менск — Сафія — Бялград» адбылося 25 студзеня. Менавіта яно адкрыла бурны палітычны сэзон зімы-вясны 1997 году.

Пачынаючы з красавіка, калі пракуратура адхіліла абскарджаньне Бяляцкім рашэньня суду, пачалося паляваньне. Неаднаразова Алесь быў вымушаны не начаваць на сваёй кватэры, каб ня трапіць у рукі ўладаў.

Учора пасьля таго, як Бяляцкі прыехаў дадому зь вёскі, раздаўся настойлівы званок у дзьверы. Па словах жонкі Бяляцкага, міліцыянты пры затрыманьні паводзілі сябе карэктна. Зачыталі

пастанову суду, далі магчымасьць сабраць неабходныя рэчы, разьвітацца.

Цяпер Бяляцкі знаходзіцца ў спэцпрыёмніку на вуліцы Акрэсьціна, дзе правядзе трое сутак. Ягоную жонку папярэдзілі, каб спатканьня з мужам не дамагалася, патлумачыўшы, што тэрмін невялікі.

Цікавай у гэтай гісторыі падаецца наступная асаблівасьць. Мала таго, што Бяляцкага арыштавалі праз тры месяцы пасьля суду, але і сам прысуд быў вынесены завочна, без удзелу абвінавачанага.

Арышт Бяляцкага камэнтуе сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык:

«Судзілі і Бяляцкага, і шэраг іншых кіраўнікоў апазыцыі за дэманстрацыю 25 студзеня ў сярэдзіне вясны 1997 году так званыя завочныя суды. Тыя, каго абвінавачвалі, проста ня ведалі пра гэтыя суды. У нашым заканадаўстве адназначна такія суды не прадугледжаныя, але ж менавіта такі суд Савецкага раёну вынес спадару Бяляцкаму вырак у трое сутак, і гэтыя трое сутак Бяляцкі цяпер вымушаны адседзець. Вельмі б хацелася спыніць гэтыя гвалтоўныя дзеяньні ўладаў, хаця мы цудоўна разумеем характар і магутнасьць гэтай дыктатуры. Тут самае галоўнае, мусіць, тое, што затрыманьне Алеся Бяляцкага, аднаго з кіраўнікоў Беларускага Народнага Фронту, паказала сапраўдныя намеры рэжыму наконт так званых перамоваў паміж легітымнай часткай Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня і рэжымам пры пасярэдніцтве эўрапейскіх структураў. Калі адбываюцца такія гвалтоўныя

дзеяньні, гэта якраз і паказвае сапраўдныя намеры Аляксандра Лукашэнкі і ягонага атачэньня дамовіцца з апазыцыяй».

## «Пад чырвона-зялёным сьцягам зьявіліся першыя палітвязьні»

10 сьнежня 1998

*50-я ўгодкі прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека ўсе праваабарончыя беларускія арганізацыі адзначылі пікетамі. І Праваабарончы цэнтар «Вясна-96», і Беларускі Хэльсынскі камітэт, і «Хартыя-96» патрабавалі спыніць палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі.*

«У той час як мы адзначаем 50-годьдзе прыняцьця Дэклярацыі правоў чалавека, мой брат сядзіць у турме. Таму я тут стаю», — заявіла на пікеце Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Ларыса Ліпарская, сястра Юрыя Хадыкі, які разам зь іншымі асуджанымі пасьля праваабарончае акцыі 6 сьнежня адбывае 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

Двухгадзінны пікет быў выстаўлены ў цэнтры Менску ля крамы ЦУМ. Акцыя праходзіла пад лёзунгам «Беларусь народжаная быць незалежнай». Арганізатар пікету Валянцін Стэфановіч заявіў:

*Стэфановіч:* «Старшыня нашага праваабарончага цэнтру Алесь Бяляцкі знаходзіцца на Акрэсьціна і атрымаў 10 сутак. Такім чынам нашыя афіцыйныя ўлады адзначылі гэтае сьвята. Таму мы сёньня тут і хочам нагадаць людзям аб тым, што кожны павінен бараніць свае правы».

На плякаце, які трымае Валянцін Стэфановіч, — выява Сусьветнай дэклярацыі правоў чалавека і бот, які яе растоптвае.

*Стэфановіч:* «Бот пафарбаваны ў чырвоны й зялёны колеры. Колеры так званага нашага „дзяржаўнага сьцяга“, які ў нас сёньня. Менавіта пад гэтым чырвона-зялёным сьцягам парушаюцца правы чалавека, і менавіта пад гэтым сьцягам зьявіліся першыя палітвязьні ў нашай краіне».

Палітвязьням быў прысьвечаны двухгадзінны пікет Беларускага Хэльсынскага камітэту, выстаўлены ў той самы час за 100 мэтраў ад ЦУМу, ля станцыі мэтро.

Арганізатар Валер Костка заявіў: «Акцыя — для прыцягненьня ўвагі, таму што ў Беларусі асноўныя правы і свабоды чалавека парушаюцца. І таму на нашых фатаздымках адлюстраваныя ўсе гэтыя факты зьбіцьця мірных дэманстрантаў падчас дазволеных мірных мітынгаў і гэтак далей».

На адным з фатаздымкаў зьбіцьця дэманстрантаў была зафіксаваная прэсавы сакратар Беларускага Хэльсынскага камітэту Сьвятлана Курс, якая ўжо мае стаж палітычнае адседкі.

*Курс:* «Нашая краіна якраз уваходзіць у лік тых краін, дзе правы чалавека вельмі парушаюцца. Тое, што веды пра Дэклярацыю пачалі распаўсюджвацца, — гэта сьвята, а падстава для роздуму — напэўна, таксама, таму што многія людзі ня хочуць ведаць Дэклярацыю, ня хочуць браць яе з нашых рук».

«Хартыя-97» выставіла гадзінны пікет на скрыжаваньні вуліц Няміга й Гарадзкі Вал. Прэсавы сакратар «Хартыі-97» Алег Бябенін паведаміў нашаму радыё, што арганізацыя праводзіць пікеты ня толькі ў Беларусі.

*Бябенін:* «Сёньня каля беларускае амбасады ў Рызе праводзяць пікет латыскія студэнты. Яны выйшлі да амбасады зь лёзунгамі, дзе патрабуюць свабоды беларускім палітвязьням і непрызнаньня рэжыму Лукашэнкі ў Эўропе».

## «...Мышы падохлі і ўцяклі»

17 сьнежня 1998

*Сёньня зранку пасьля 10 сутак адміністрацыйнага арышту зь СІЗА на Акрэсьціна вызваліліся намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка і сакратар Управы БНФ, старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі.*
*Хадыка і Бяляцкі адбывалі адміністрацыйнае пакараньне за тое, што 6 сьнежня зладзілі несанкцыянаваны праваабарончы мітынг, прысьвечаны 50-годзьдзю прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. У вязьніцы застаецца дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Валеры Шчукін.*

Пасьля 10 сутак чарговай адседкі Юры Хадыка і Алесь Бяляцкі выйшлі з адгадаванымі бародамі, але задаволеныя тым, што стаўленьне да палітвязьняў у вязьніцы нарэшце пачало мяняцца.

*Хадыка*: «Вядома, я паўтара года назад быў у гэтым самым разьмеркавальніку, дык наогул сытуацыя крыху памянялася. Наша камэра называлася палітычнай, што раней строга забаранялася. Пачалося з таго, што там былі ўсе шэсьць нашых сяброў, потым частка сышла і сталі падсаджваць новых. Сама міліцыя называла нас палітычнымі зьняволенымі, і стаўленьне стала крышачку мякчэйшае, чым гэта было год ці паўтара назад. Гэта сьведчыць, па-мойму, пра тое, што нават

сілавыя структуры незадаволеныя цяперашнім рэжымам».

Паводле словаў Алеся Бяляцкага, ня толькі ахова, але і самі арыштанты, сярод якіх пераважная большасьць — простыя людзі, незадаволеныя цяперашняй сытуацыяй.

*Бяляцкі*: «Наша камэра была на 6 чалавек, у ёй знаходзілася ад 7 да 4 чалавек. Людзі, якія сядзелі, у асноўным ставяцца вельмі крытычна да ўлады Лукашэнкі».

Алесь Бяляцкі падзякаваў Праваабарончаму цэнтру «Вясна-96», актывістам Фронту і «Хартыі-97» за харчовыя перадачы і газэты. Ён паведаміў, што змагацца за свае правы палітвязьні працягвалі і ў камэры.

*Бяляцкі*: «Недзе побач, праз камэру, сядзеў спадар Шчукін. Спробы наладзіць больш-менш нармальнае існаваньне мы там рабілі, і першы распачаў гэтую працу Шчукін, які напісаў заяву на правядзеньне пікету — гэта была такая гратэскная й гумарыстычная заява на імя начальніка спэцразьмеркавальніка — пікету ў двары разьмеркавальніка супраць мышэй, якія атакавалі нашыя камэры. Самае цікавае, што ўлады гэтага разьмеркавальніка вельмі сур'ёзна паставіліся да гэтай заявы: на наступны дзень была выклікана санэпідэмстанцыя, жанчынкі прыйшлі й рассыпалі атручаныя крупы — і мышы падохлі і ўцяклі... Пасьля Шчукін пачаў патрабаваць душ. Вынікам гэтых патрабаваньняў было тое, што нам усё ж такі далі душ! Мы там, у гэтым душы, з Шчукіным і спаткаліся. Натхнёныя ягоным пры-

кладам, мы напісалі, у сваю чаргу, заяву на прадастаўленьне нам прагулак — дык на наступны дзень нас вывелі на прагулку!»

Сёньня ж на наладжанай Хадыкам і Бяляцкім прэсавай канфэрэнцыі было заяўлена, што ва ўмовах, калі людзі трапляюць за краты за сьвяткаваньне ўгодкаў Дэклярацыі правоў чалавека, эўрапейскія структуры робяць спробы палепшыць стасункі з афіцыйным Менскам. «Калі б яны ведалі Лукашэнку гэтаксама добра, як на ўласным досьведзе даведаліся мы, — заявіў Юры Хадыка, — то ілюзіяў не было б».

## «Афіцыйныя структуры павесілі сабе на вочы ружовы вэлюм»

22 сьнежня 1998

*Сёньня на круглым стале, прысьвечаным ААН, прадстаўнікі недзяржаўных арганізацыяў Беларусі заявілі, што Беларусь ня толькі не выконвае ўзятыя на сябе абавязаньні ў галіне захаваньня правоў чалавека, але афіцыйны Менск робіць крокі дзеля пабудовы таталітарнай дзяржавы.*

Невыкананьню афіцыйным Менскам узятых на сябе абавязаньняў у межах ААН быў прысьвечаны сёньняшні круглы стол з удзелам прадстаўнікоў судовай улады і 8 міністэрстваў беларускага ўраду, а таксама недзяржаўных арганізацыяў.

Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі асноўны акцэнт зрабіў на беларускім заканадаўстве, якое значна абмяжоўвае гарантаванае Пактам права на вольнае выказваньне сваіх палітычных поглядаў.

*Бяляцкі*: «Упершыню на гэты круглы стол запрошаныя і прадстаўнікі грамадзкіх праваабарончых арганізацыяў, якія дадуць праўдзівую інфармацыю і здолеюць нейкім чынам зьняць гэты ружовы вэлюм, які павесілі сабе на вочы афіцыйныя структуры, што датычыць правоў чалавека ў Беларусі».

Прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна выказалася больш скептычна. Яна

назвала ўсіх прысутных «мілымі людзьмі, якія нічога не вырашаюць». Фармулёўкі наконт стану беларускіх СМІ, якія давалі праваабаронцы, яна назвала мяккімі. А дырэктар Цэнтру прававой абароны сродкаў масавай інфармацыі Міхаіл Пастухоў запрапанаваў ушанаваць Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах ААН хвілінай маўчаньня.

**У ліпені 1999 завяршаецца пяцігадовы тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі, вызначаны Канстытуцыяй 1994 году. У 1996 праз рэфэрэндум, не прызнаны міжнароднай супольнасьцю, Лукашэнка мяняе Канстытуцыю і пачынае адлічваць пяцігадовы тэрмін з гэтага часу. Дэмакратычная апазыцыя настойвае на новых выбарах у 1999.**

**Частка дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га склікаvětньня стварае альтэрнатыўны Цэнтрвыбаркам. Старшынём ЦВК зацьвярджаецца Віктар Ганчар, ягонымі намесьнікамі — Іосіф Навумчык і Георгі Таразевіч, сакратаром — Барыс Гюнтэр.**

**Кандыдатамі ў прэзыдэнты на альтэрнатыўных выбарах становяцца старшыня БНФ Зянон Пазьняк і экс-прэм’ер Міхаіл Чыгір. У сакавіку 1999 Чыгіра арыштоўваюць, ён прызнаны вязьнем сумленьня. Пазьняк знаходзіцца ў эміграцыі.**

**Пасьля пачатку галасаваньня ў траўні Зянон Пазьняк абвінавачвае Цэнтравыбаркам у парушэньнях працэдуры выбараў і здымае сваю кандыдатуру. Галасаваньне адбываецца 16 траўня, аднак пераможца не абвяшчаецца.**

# Кантэкст. 1999

**Падчас выбарчай кампаніі затрымана, арыштавана, зьбіта і аштрафавана больш як паўтары тысячы чалавек, у тым ліку члены альтэрнатыўнага Цэнтравыбаркаму, давераныя асобы кандыдатаў, кіраўнікі мясцовых выбарчых камісіяў. Некалькі разоў затрымліваецца Алесь Бяляцкі.**

**Старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі зьяжджае ў эміграцыю, функцыі старшыні пачынае выконваць Віктар Ганчар.**

**У верасьні 1999 Віктар Ганчар і былы міністар унутраных справаў Юры Захаранка зьнікаюць бязь вестак.**

## 10 сутак за антыфашыстоўскую акцыю

2 сакавіка 1999

*Сёньня ў камэру, дзе знаходзіцца старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар, ня быў дапушчаны адвакат Гары Паганяйла. Адвакату таксама адмовілі ў праве азнаёміцца з судовымі справамі сяброў «альтэрнатыўнага» Цэнтравыбаркаму.*

Усіх сяброў ЦВК на чале з старшынём, якія ўчора атрымалі ад 5 да 10 сутак арышту, даставілі ў спэцразьмеркавальнік на Акрэсьціна. Як стала вядома нашаму радыё, Ганчар, Гурыновіч, Гюнтэр і Абадоўскі (які трымае галадоўку пратэсту) утрымліваюцца ў розных камэрах.

У асобнай камэры ўтрымліваецца і старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі, які за антыфашыстоўскую акцыю пратэсту атрымаў учора 10 сутак пазбаўленьня волі.

## Рэпрэсіі за невядомыя «іншыя парушэньні»

15 сакавіка 1999

*Ужо некалькі дзясяткаў тысячаў подпісаў сабралі 2730 сяброў ініцыятыўнай групы па вылучэньні Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзыдэнты. «Нягледзячы на ціск з боку ўладаў, справа ідзе, мы ўпэўненыя, што да 25 сакавіка неабходныя 100 000 подпісаў зьбяром», — заявіў кіраўнік ініцыятыўнай групы Сяргей Папкоў.*

Падрабязна пра супрацьстаяньне выбарчых актывістаў і ўлады расказаў Алесь Бяляцкі. Паводле ягоных назіраньняў, шмат дзе сяброў выбарчых камісіяў выклікаюць у міліцыю і папярэджваюць. У Гомлі, да прыкладу, былі папярэджаныя 50 сяброў камісіяў. Выкарыстоўваюцца і іншыя мэтады. У пасёлку Сьвіслач была скасаваная фірма бізнэсоўца Віктара Транчаловіча, які ўваходзіць у склад адной з тэрытарыяльных камісіяў.

Асобнай увагі, на думку Бяляцкага, заслугоўвае кампанія супраць зборшчыкаў подпісаў. Ім звычайна інкрымінуецца артыкул 167, частка 3 Кодэксу аб адміністрацыйных парушэньнях. «Віну» зборшчыкаў знаходзяць у той частцы гэтага артыкула, дзе сказана «...ды іншыя парушэньні». За невядомыя «іншыя парушэньні» ўжо пакарана некалькі дзясяткаў чалавек.

# Віцебскага актывіста абараняюць «Вясна-96» і легендарны Мірон

16 сакавіка 1999

*У Віцебску пачаўся судовы працэс над Уладзімерам Плешчанкам, старшынём Віцебскай рады БНФ «Выбар». Ён абвінавачваецца ў выкраданьні 2 верасьня летась гіпсавага бюста расейскага палкаводца Суворава.*

Уладзімер Плешчанка знаходзіцца за кратамі ўжо больш як паўгода, ён ляўрэат нацыянальнай прэміі ў галіне правоў чалавека ў намінацыі «За асабістую мужнасьць».

Разам з адвакатам Уладзімерам Шайкевічам будуць выступаць грамадзкія абаронцы ад «Вясны-96» Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч.

Абвінавачаньне сьцьвярджае, што ў ноч на 1 верасьня 1998 году спадар Уладзімер Плешчанка разам зь нявысьветленымі асобамі з хуліганскіх памкненьняў, выяўляючы дзёрзкасьць, зьбіў бюст, які зьяўляецца помнікам архітэктуры, і гэты бюст выкінуў непадалёк у сквэры.

Як стала вядома Радыё Свабода, днямі ў Лёзьне на высакавольтнай апоры лініі электраперадачы быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг. Таксама была прымацаваная цыдулка: «Наяўнасьць палітвязьняў на маёй Радзіме лішні раз пацьвярджае антыбеларускі курс рэжыму. Свабоду Ўладзімеру Плешчанку! Мірон».

# «У трагедыі на Нямізе ёсьць вінаватыя»

10 верасьня 1999

*Як спробу перашкодзіць правядзеньню масавых апазыцыйных акцыяў увосень расцэньвае апазыцыя зьяўленьне сёньняшняга дэкрэту Аляксандра Лукашэнкі «Аб некаторых мерах па папярэджваньні надзвычайных здарэньняў пры правядзеньні масавых мерапрыемстваў».*

Нагодай для зьяўленьня дэкрэту стала трагедыя на станцыі мэтро «Няміга», калі загінулі 53 чалавекі.

Разам з тым дагэтуль няма вынікаў працы афіцыйнае камісіі, што дасьледуе абставіны трагедыі. На гэтым тыдні пракуратура працягнула тэрмін сьледзтва да 30 верасьня. Паралельна з афіцыйнай працуе грамадзкая камісія.

Кіраўнік грамадзкае камісіі, старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі лічыць, што Лукашэнка абверг свае словы пра тое, што 30 траўня не было п'яных, а ва ўсім вінаватая трагічная выпадковасьць.

*Бяляцкі:* Як бы афіцыйна ўлада ні адпрэчвалася, а вось тое, што яны зараз запісалі ў гэтыя пункты, ускосна пацьвярджае тыя зьвесткі сьведак падзеяў, што сьпіртусовыя напоі там былі. Праца камісіі яшчэ ідзе. Яшчэ ўсе кропкі над «і» мы расставіць не гатовыя. Я думаю, што больш-менш арганізаваную карціну мы зможам даць да канца гэтага году.

*РС:* Спадар Бяляцкі, у чым сабраныя вашай камісіяй зьвесткі адрозьніваюцца ад афіцыйных?

*Бяляцкі:* Калі казаць у агульных рысах (а зараз толькі так і можна казаць), мы абсалютна ня згодныя з тым, што ў трагедыі на Нямізе няма вінаватых. Вінаватыя ёсьць. Мы іх назавем у сваім дасьледаваньні.

Паводле Алеся Бяляцкага, Лукашэнку ня столькі рупяць «53 шнары на сэрцы», пра якія афіцыйна было абвешчана пасьля трагедыі на Нямізе, колькі сёлетняя восень і плянаваныя акцыі апазыцыі. Менавіта таму гарадзкім выканаўчым камітэтам дадзены загад выдзеліць апазыцыі асобныя месцы для масавых акцыяў.

*Бяляцкі:* Я хацеў бы адзначыць, што любое ўгоршваньне правядзеньня такіх акцыяў, як правіла, прыводзіць да нейкіх канфліктаў, да нейкіх эксцэсаў, да напружаньня сытуацыі ў грамадзтве. Бессэнсоўна дасылаць дэманстрацыю ў Менску куды-небудзь на пляц Бангалор, бо ўсё роўна яны туды хадзіць ня будуць, гэта відавочна. І калі будзе жаданьне сьпіхнуць масавыя грамадзкія акцыі на ўскраіны гораду ці на бязьлюдныя нейкія мясьціны, у прыватнасьці ў Менску, у абласных вялікіх гарадох, гэта будзе безумоўна прыводзіць да парушэньня гэтага закону, да таго, што людзі ня будуць падпарадкоўвацца гэтым рашэньням выканаўчых камітэтаў. І, безумоўна, будуць парушацца правы гэтых людзей.

##Ператрус у офісе «Вясны-96»: «Листовки печатаете, бэнээфовцы!»

5 кастрычніка 1999

*У офісе Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» учора ўвечары адбыўся чатырохгадзінныператрус, падчас якога была сканфіскаваная тэхніка й частка накладу праваабарончага выданьня «Права на волю».*

Ператрус распачаўся а 18-й гадзіне пад выглядам традыцыйнага «пошуку бомбы».

Кіраваў акцыяй маёр з раённага аддзелу Анатоль Прузан. У часе ператрусу ў офісе знаходзіліся людзі ў цывільным, якія адмовіліся назваць свае імёны. Кіраўнік «Вясны-96» Алесь Бяляцкі пазнаў у адным зь іх намесьніка міністра ўнутраных справаў Удовікава.

Санкцыі на ператрус міліцыянты ня мелі, а таму назвалі сваю апэрацыю «вонкавым аглядам». У выніку чатырохгадзіннага «аглядааньня» з офісу Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» зьнікла ўся аргтэхніка: два кампутары, дзьве друкаркі ды ксэракс, а таксама частка накладу праваабарончага бюлетэню «Права на волю». Быў складзены пратакол канфіскацыі.

Супрацоўніца «Вясны-96» Паліна Сьцепаненка, якая адчыняла дзьверы нечаканым наведнікам, паведаміла нашаму радыё:

«У вочка я ўбачыла хлопцаў у майках з кароткім рукавом, адчыніла дзьверы, спытала —

Вы да каго? У гэты час мяне адштурхнулі ад дзьвярэй, і ў кватэру ўварваўся нарад міліцыі, які хутка распаўсюдзіўся па ўсёй кватэры, блякаваўшы выхады з пакояў, з крыкамі... Гэта нагадвала захоп, гэта нагадвала тое, як абыходзяцца не са звычайнымі грамадзянамі, а з тэрарыстамі, калі ўжо вядома, што яны знаходзяцца ў гэтай кватэры. Яны пачалі ўсё з крыкаў „Листовки печатаете!“ і „Бэнээфовцы!“. А потым, калі выйшаў наш юрыст Валянцін Стэфановіч і спытаў, у чым справа, яны сказалі, што паступіў „сыгнал“ ад жыхароў дома, і што ў нас шукаюць бомбу, мажліва, якую мы зьбіраемся закласьці... і што можа мы рыхтуем тэракт...»

У часе ператрусу ў офісе знаходзіліся восем бацькоў, дзеці якіх загінулі ў часе катастрофы на станцыі мэтро «Няміга». Зараз «Вясна-96» рыхтуе да друку кнігу, у якую ўвойдуць зьвесткі, адрозныя ад афіцыйнай вэрсіі трагедыі на Нямізе. Праз гадзіну пасьля пачатку ператрусу бацькоў вызвалілі.

Чатырох супрацоўнікаў «Вясны» прымусілі напісаць тлумачэньні.

Кіраўнік «Вясны-96» Алесь Бяляцкі зьяўляецца адным з заяўнікаў антыўрадавае акцыі 17 кастрычніка «Марш Свабоды», на якую апазыцыя паабяцала вывесьці блізу 100 тысячаў чалавек.

Зараз Алесь Бяляцкі знаходзіцца ў місіі АБСЭ ў Беларусі. Ён уваходзіць у апазыцыйную экспэртную групу, адказную за стварэньне палітычнай атмасфэры, вольнай ад страху й перасьледу.

## «Яны вельмі баяцца, што адбудуцца масавыя выступы»

7 кастрычніка 1999

*Амбасада Злучаных Штатаў зьвярнулася ў МЗС Беларусі са скаргаю на дзеяньні беларускіх праваахоўных органаў, якія 4 кастрычніка ў часеператрусу сканфіскавалі ў Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» кампутары і друкаркі. Частка аргтэхнікі зьяўляецца амэрыканскай уласнасьцю й была перададзеная Праваабарончаму цэнтру ў часовае карыстаньне.*

Кіраўніцтва «Вясны» накіравала сёньня скаргу ў пракуратуру Цэнтральнага раёну Менску, бо менавіта міліцыянты Цэнтральнага РАУС праводзіліператрус.

Як паведаміў юрыст «Вясны-96» Валянцін Стэфановіч, у скарзе адлюстраваныя парушэньні беларускага заканадаўства, якія былі дапушчаныя міліцыянтамі. Міліцыянты сьцьвярджалі, што праводзілі вонкавы агляд, у той час як адбываўсяператрус, санкцыі на які не было.

Афіцыйным беларускім уладам прыйдзецца даваць адказ ня толькі на скаргу «Вясны-96», але і на запыт амбасады ЗША ў Менску, кажа старшыня «Вясны-96» Алесь Бяляцкі.

*Бяляцкі*: «Мы, натуральна, адразу паведамілі ў амбасаду, калі гэтыя рэчы былі ў нас забраныя. І нам вядома, што амбасада Злучаных Штатаў зьвярнулася з патрабаваньнем аддаць у

Міністэрства замежных справаў. У сваю чаргу, Міністэрства замежных справаў зьвярнулася да Міністэрства ўнутраных справаў з такой жа просьбаю. Пакуль што нам аніякіх сыгналаў не паступала — мабыць, яшчэ ня ўсю інфармацыю з нашых кампутараў выцягнулі.

На гэтых кампутарах утрымлівалася ўся наша база і ўсе тыя падрыхтоўчыя матэрыялы, якія былі нарыхтаваныя да перамоўнага працэсу экспэртнай камісіяй у правах чалавека пры апазыцыйных партыях.

Я мяркую — гэтая гістэрыя ўладаў зьвязаная найперш з тым, што надыходзіць 17 кастрычніка. Яны вельмі баяцца, што адбудуцца масавыя выступы народу. Таму намагаюцца біць па мяркуемых цэнтрах арганізацыі гэтае акцыі».

Як сказаў нашаму радыё Бяляцкі, пратэсты з нагоды дзеяньняў афіцыйных беларускіх уладаў у дачыненьні да Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» накіравалі Хэльсынская праваабарончая група, а таксама аўтарытэтная міжнародная арганізацыя Human Rights Watch.

## «З таго часу, калі Лукашэнка пачаў падпісваць дамовы з Расеяй, сытуацыя з правамі чалавека пачала пагаршацца»

8 кастрычніка 1999

*У апублікаваным праекце дамовы аб утварэньні саюзнае дзяржавы Рэспублікі Беларусь і Расейскай Фэдэрацыі абвяшчаецца «няўхільнае выкананьне асноўных правоў і свабодаў чалавека і грамадзяніна ў адпаведнасьці з агульнапрынятымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права». Дамову камэнтуе Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна-96».*

*Бяляцкі:* «З таго часу, калі Лукашэнка пачаў падпісваць дамовы з Расеяй, сытуацыя з правамі чалавека ў нас сапраўды пачала пагаршацца. А на сёньняшні дзень — менавіта на сёньняшні дзень (мы вядзем падлік) — у нас праходзяць „крымінальныя“ справы чыста палітычнага характару. Вось гэта такая тэндэнцыя, якая вызначылася ў Беларусі. І фактычна з 96-га году ў нас не было такога, каб не было палітычных вязьняў за кратамі, каб нехта не сядзеў.

Мы ставімся да гэтай дэклярацыі як да нечага несур’ёзнага, таму што рэжым Лукашэнкі будзе рабіць тое, што ён хацеў. І ў дадзеным выпадку Расея ані ў якім разе ня будзе выступаць гарантам захаваньня ці выкананьня тых правоў, якія

яны, так бы мовіць, задэкляравалі ў гэтай саюзнай дамове.

Выразна бачна, што ў Расеі ёсьць стратэгічныя інтарэсы, а тады правы чалавека адыходзяць у Расеі на дваццаты плян. Мы цудоўна бачым, як зараз захоўваецца права чалавека на жыцьцё — самае істотнае права — у Чачні...

І я ня думаю, што захаваньне правоў чалавека ў Беларусі будзе такім важным пытаньнем пры такіх узаемадачыненьнях. Хутчэй за ўсё, тут будзе такі „азіяцкі“ падыход, „азіяцкі“ прынцып. І нічога добрага ў пляне правоў чалавека мы ад гэтае дамовы не дачакаемся».

Да сказанага Бяляцкім можна дадаць, што пасьля падпісаньня дамовы аб саюзе Беларусі й Расеі ў Менску адбыўся разгон і зьбіцьцё дэманстрантаў і журналістаў. А цяпер улады фактычна забаранілі самі дэманстрацыі і мітынгі пратэсу, калі не лічыць тых, што дазволена праводзіць пад пільным вокам міліцыі на пляцы Бангалор.

## «...Прымушалі жанчын, якія плакалі, гучна сьпяваць „В траве сидел кузнечик“. Зьбітых мужчын, якія ляжалі адзін на адным, прымушалі падпяваць. Тых, хто ня мог сьпяваць, білі дубінкамі»

22 кастрычніка 1999

*Каля дваццаці заяваў накіравана на імя гарадзкога пракурора Менску ў сувязі з фактамі жорсткага зьбіцьця і катаваньняў, якія ўжываліся супрацоўнікамі АМАПу ў дачыненьні да затрыманых пасьля «Маршу Свабоды». Пра гэта было заяўлена на сёньняшняй прэсавай канфэрэнцыі, якую наладзілі прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацыяў.*

Пакуль толькі 20 зьбітых удзельнікаў маніфэстацыі 17 кастрычніка зьвярнуліся да гарадзкога пракурора Купрыянава з просьбай узбудзіць крымінальныя справы ў дачыненьні да супрацоўнікаў АМАПу, якія пасьля акцыі ўжывалі да затрыманых мэтады катаваньня. Гэтая лічба можа быць значна большай, бо пакуль людзі яшчэ адбываюць пакараньне ў спэцразьмеркавальніку на вуліцы Акрэсьціна.

Некаторыя зьбітыя проста баяцца засьведчыць пабоі. Пра гэта на сёньняшняй прэсавай канфэрэнцыі заявіў старшыня праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Воўчак. Копіі скаргаў зьбітых накіраваныя ў

камісію ААН у пытаньнях катаваньняў, а таксама кіраўніку менскае міліцыі Тарлецкаму.

Паводле словаў старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алеся Бяляцкага, які быў адным з заяўнікаў «Маршу Свабоды», зараз стаў відавочным той факт, што менавіта сілавыя структуры справакавалі падзеі 17 кастрычніка.

*Бяляцкі:* «Акцыя сутыкненьня дэманстрантаў зь міліцыяй была сплянаваная міліцыяй. Проста быў загад: для таго каб паказаць апазыцыю ў адпаведным сьвятле — спляжыць апазыцыю, быў загад справакаваць гэтыя бойкі — гэта першае. Другое: неадэкватнае абыходжаньне супрацоўнікаў міліцыі з затрыманымі падчас затрыманьня, што зьяўляецца крымінальнай справай, зьяўляецца парушэньнем іхніх унутраных інструкцыяў».

Факты зьдзекаў, якія былі агучаныя на прэсавай канфэрэнцыі, называліся адным словам — катаваньні. Натальля Маковік — сябра «Маладога Фронту», якой учора прысудзілі штраф у 35 мільёнаў рублёў, — расказала наступнае.

*Маковік:* «А першай гадзіне ночы мяне павялі на разгляд да намесьніка старшыні Савецкага РАУСу спадара Гусінскага. Перада мной туды якраз трапіла маскоўская журналістка Анастасія Казахава (яна працуе ў маладзёжнай маскоўскай газэце), і тады там гэты спадар Гусінскі прапанаваў ёй распрануцца, паказаць ейную фігуру, яна адмовілася, і ён пачаў біць яе па галаве. Разьбіў ёй лоб. Яна пачала крычаць: „Дапамажыце!“ Ён быў абсалютна нецьвярозы: перагар быў у пакоі, ён бясконца піў каву, курыў...

Партыямі АМАПаўцы пачалі нас перавозіць на Акрэсьціна. Я сама была сьведкай таго, як хлапцоў, у тым ліку спадара... Калі іх адвозілі, іх ставілі на расьцяжку яшчэ ў РАУСе. АМАПаўцы падыходзілі, апрацоўвалі па баках дубінкамі і нагамі. Пасьля гэтага па адным чалавеку канвой вёў іх у аўтобус, і далей я ня ведаю, што там адбывалася... Аднак я чула крыкі».

Пра тое, што з затрыманымі рабілі супрацоўнікі АМАПу ў аўтобусе ў часе перавозкі на Акрэсьціна, на прэсавай канфэрэнцыі расказаў Уладзімер Чарноў, які толькі выйшаў пасьля трох сутак арышту.

*Чарноў:* «А шостай гадзіне раніцы ў памяшканьне Партызанскага РАУС, дзе мы знаходзіліся, як затрыманыя ў парку імя Горкага, да суду, уварвалася спэцпадразьдзяленьне АМАП і з крыкамі „Рукі за галаву! У аўтобус!“ пачалі зьбіваць кулакамі й дубінкамі — прапускаць праз шэраг. Сярод нас былі дзьве дзяўчыны.

Напаўсонных людзей (гэта шостая гадзіна раніцы) зьбівалі па адным. Прычым білі ўсе амапаўцы адразу. Пасьля гэтага ў праходзе аўтобуса ўсіх звалілі аднаго на другога і наверх закінулі дзьвюх жанчын. У той самы час працягвалі біць па галовах. Плявалі. Спрабавалі мачыцца. Пагражалі мужчын „апусьціць“ сваімі дубінкамі, а жанчын згвалціць. Калі ўнізе пачалі задыхацца, яны пачалі крычаць, што зараз вывезуць усіх у лес і закапаюць, як усіх апазыцыянэраў — усіх, хто супраць Лукашэнкі.

Пакуль аўтобус ішоў, яны прымушалі жанчын, якія плакалі, гучна сьпяваць песьні, у тым ліку „В траве сидел кузнечик“. Зьбітых мужчын, якія ляжалі ў самых нязручных позах адзін на адным, прымушалі падпяваць. Але немагчыма было нават дыхаць.

Яны пачалі скакаць на тых, што ляжалі ў праходзе аўтобуса (ПАЗ — маленькі такі аўтобус). Тых, што не маглі сьпяваць, білі дубінкамі. Пасьля ўдару па галаве я на час страціў прытомнасьць. Тады мяне выцягнулі і двое ламалі рукі, а трэці піхаў і пракручваў у глотцы гумовую дубінку. Адпусьцілі мяне — думалі, што задушылі — калі ўжо пачаў хрыпець. Пасьля гэтага пасадзілі ўсіх на кукішкі і пачалі крычаць ізноў, што ўсіх нас закапаюць. Ад жанчын патрабавалі паказваць стрыптыз. На самым блатным жаргоне абражалі нас і ўсіх апазыцыйных палітыкаў.

Калі я сказаў, што ведаю сяго-таго зь іхнага начальства, яны крычалі, што і Сівакоў для іх ніхто. Прызнаюць толькі Лукашэнку. Толькі тады я зразумеў, што гэта фашысты».

Зьбіты Ўладзімер Чарноў напісаў адкрыты ліст міністру ўнутраных справаў Юрыю Сівакову. Пад лістом паставілі подпісы 60 зьбітых.

На прэсавай канфэрэнцыі было паведамлена, што шосты дзень трымае галадоўку пратэсту ў камэры сьледчага ізалятара лідэр «Народнай Грамады» Мікола Статкевіч, супраць якога ўзбуджаная крымінальная справа і якому пагражае да 3 гадоў зьняволеньня.

# «Упершыню ў нашай гісторыі праваабарончае выданьне будзе спаленае»

26 лістапада 1999

*На 14 мільёнаў беларускіх рублёў — 10 мінімальных заробкаў — аштрафаваны сёньня ў судзе Савецкага раёну Менску старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі. Яго абвінавацілі ў вырабе й распаўсюджваньні незарэгістраванага праваабарончага бюлетэня «Права на волю». Суд прыняў рашэньне частку накладу бюлетэня зьнішчыць.*

Бюлетэні «Права на волю» былі канфіскаваныя ў штаб-кватэры Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» 4 кастрычніка ў часе ператрусу, які несанкцыянавана правялі супрацоўнікі Цэнтральнага РАУСу Менску.

Сама працэдура затрыманьня Бяляцкага больш нагадвала кепскі шпіёнскі дэтэктыў. Учора Алесь Бяляцкі прыйшоў у аддзел міліцыі Цэнтральнага раёну, каб забраць свой кампутар, сканфіскаваны ў часе ператрусу ў штаб-кватэры «Вясны-96» 4 кастрычніка. Як патлумачыў Бяляцкаму ў часе арышту маёр аддзелу міліцыі Прузан, аказваецца, за Бяляцкім палявалі апошні месяц, і калі Бяляцкі сам зьявіўся ў Цэнтральным РАУСе, быў дадзены загад старшыню «Вясны-96» арыштаваць.

З аддзелу міліцыі Цэнтральнага раёну Менску Алеся Бяляцкага даставілі ў аддзел Савецкага раёну, дзе пратрымалі да 12-й гадзіны ночы.

*Бяляцкі:* «Мяне пратрымалі там да 12 гадзіны ночы. У 12 гадзін прыехаў так званы аўтазак, мы былі загружаныя, тыя, хто па тых ці іншых прычынах павінен быў быць дастаўлены на Акрэсьціна, і мяне завезьлі на Акрэсьціна. Прычым дарога была доўгая, мы заяжджалі ў нейкія іншыя РАУСы, было бачна, што ў краіне ёсьць напружаньне з бэнзінам — адна машына зьбірае ўсіх. Мы прыехалі на Акрэсьціна толькі ў 4 гадзіны. Мяне завялі ў асобную камэру, а з раніцы мяне ізноў павезьлі ў Савецкі РАУС, адкуль завезьлі ў суд Савецкага раёну».

Сутнасьць абвінавачаньняў, якія былі высунутыя да Алеся Бяляцкага падчас сёньняшняга судовага паседжаньня, зьвялася да таго, што колькасьць бюлетэняў «Права на волю» пераўзыходзіла 299 паасобнікаў. Згодна зь беларускім заканадаўствам, калі наклад большы за 300 асобнікаў, патрэбная рэгістрацыя пэрыядычнага выданьня ў Дзяржкамдруку.

Алесь Бяляцкі спрабаваў давесьці, што бюлетэні выдаюцца на трох мовах — беларускай, ангельскай ды расейскай — і назвы бюлетэняў на гэтых мовах, адпаведна, гучаць па-рознаму. «Таму нельга лічыць наклады розных выданьняў накладам аднаго бюлетэня», — заявіў Алесь Бяляцкі.

Акрамя таго, ён паведаміў, што ў часеператрусу аніякага падліку колькасьці бюлетэняў не

было — усе яны былі зьмешчаныя міліцыянтамі ў дзьве скрыні й дастаўленыя ў Цэнтральны аддзел міліцыі.

Судзьдзя Анатоль Барысёнак, які разглядаў справу, вырашыў не зьвяртаць увагі на гэтую аргумэнтацыю Бяляцкага й вынес максымальны паводле 171 артыкула прысуд — штраф памерам 10 мінімальных заробкаў (14 мільёнаў рублёў).

Акрамя таго, згодна з рашэньнем судзьдзі Барысёнка, два нумары беларускамоўнага бюлетэня і адзін нумар расейскамоўнага (наклад якіх пераўзыходзіў 299 асобнікаў) павінны быць зьнішчаныя.

*Бяляцкі:* Я лічу, што тут адбыўся такі ўнікальны выпадак, калі праваабаронча выданьне ўпершыню ў нашай гісторыі будзе зьнішчанае, будзе спаленае. Сымбалічна можна сказаць, што гэтае вогнішча, якое будзе заўтра запаленае з нашых бюлетэняў, яно ў нечым перагукаецца з тымі вогнішчамі, якія палілі і сталіністы, і фашысты падчас свайго панаваньня.

## «Патрабую вызваліць палітвязьняў і спыніць зьнішчэньне сувэрэнітэту Беларусі»

10 сьнежня 1999

*Цяпер 17 гадзін паводле менскага часу, і ўсе падыходы да адміністрацыі Лукашэнкі блякаваныя ўзмоцненымі патрулямі міліцыі. Перакрыты падыходы з усіх вуліц. Беларуская апазыцыя — Каардынацыйная рада дэмакратычных арганізацыяў — праводзіць акцыю, прымеркаваную да ўгодак прыняцьця Ўсеагульнае дэклярацыі правоў чалавека.*

Каля сотні людзей стаяць на праспэкце Скарыны ля блякаванай міліцыяй вуліцы Леніна. Частцы, таксама каля сотні, удалося прайсьці да адміністрацыі.

Паводле актывісткі Веры Церлюкевіч, ужо ёсьць першыя затрыманыя.

*Церлюкевіч:* «Пераапранутыя ў цывільнае хлопцы вялі трох хлапчукоў, на руках у іх былі кайданкі».

Акцыя плянавалася ў форме перадачы пэтыцыяў Лукашэнку. Зьмест пэтыцыі, якую плянаваў перадаць у адміністрацыю кожны з удзельнікаў, даволі просты: «Я выказваю свой рашучы пратэст супроць росту цэнаў і зьбядненьня народу, парушэньня правоў чалавека, манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, парушэньня законаў з боку ўлады, гандлю незалежнасьцю Рэспуб-

лікі Беларусь. Патрабую вызваліць палітвязьняў, спыніць зьнішчэньне сувэрэнітэту Беларусі, добраахвотна адмовіцца ад захопленай улады».

Кіраўніку Праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесю Бяляцкаму дазволілі прайсьці ў адміністрацыю Лукашэнкі.

*Бяляцкі:* Шчыльныя кардоны не пускаюць людзей, але сапраўды нам неяк пашанцавала. Мы ўтрох ад Праваабарончага цэнтру «Вясна» прайшлі туды бліжэй. Там таксама праход перапынены, толькі што не пусьцілі вялікую групу навучэнцаў у тэатар, яны ішлі ў Тэатар юнага гледача. Выглядала гэта ўсё вельмі дзіўна. Бо, я нагадваю, сёньня ж Дзень правоў чалавека. Я і спадар Падгол з пэтыцыяй «Вясны» прайшлі праз кардоны, на дзіва, нас прапусьцілі, нават не далі нам суправаджатага, што яны рабілі з наступнымі людзьмі, якія ішлі з пэтыцыямі. Мы прыйшлі ў вітальню прэзыдэнта і апусьцілі ў скрыню свой зварот. Наступным быў спадар Багданкевіч, а наступным — старшыня Сялянскай партыі спадар Лугін.

## «Бараніць мы Лукашэнку, мабыць, ня будзем, але будзем настойваць на справядлівым і адкрытым разьбіральніцтве»

18 чэрвеня 2000

*У дыскусіі ўдзельнічаюць: рэдактар праваабарончага бюлетэню Беларускага Хэльсынскага камітэту Сьвятлана Курс, старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі і каардынатар праваабарончай ініцыятывы «Хартыя-97» Зьміцер Бандарэнка. Мадэратар Алена Радкевіч.*

...*Курс:* Што тычыцца нашага падабенства зь «Вясною», то яно, безумоўна, ёсьць, але ёсьць і розьніца. Мне здаецца, што «Вясна» ня будзе абараняць прэзыдэнта Лукашэнку, калі той будзе ў бядзе, а вось Беларускі Хэльсынскі камітэт якраз і зоймецца абаронай правоў Лукашэнкі, калі, напрыклад, яго захочуць пакараць, як Чаўшэску, за зробленае ім. Калі я памыляюся, тады хай мяне паправіць Алесь Бяляцкі.

Мы таксама, як і «Вясна», займаемся гэтымі ж кірункамі дзейнасьці, аднак менш, магчыма, увагі аддаем сем’ям рэпрэсаваных і самім рэпрэсаваным, і больш аддаем увагі тым, хто не падазрае, што ён рэпрэсаваны. Гэта тыя людзі, якія не падазраюць, што іхныя правы парушаныя. «Вясна» займаецца людзьмі, якія ведаюць, што

іх правы парушаныя, якія змагаюцца супраць гэтага рэжыму, а да нас прыходзяць часта людзі, якія страцілі жытло ці былі пакараныя мясцовай уладай ці несправядлівым судом. Мы ім стараемся дапамагаць.

*Радкевіч:* Узьнікненьне праваабарончых арганізацыяў было адказам на злобу дня, на выклік часу. Напрыклад, сам назоў праваабарончай арганізацыі «Вясна», якая спачатку называлася «Вясна-96», нават расшыфроўвае, чаму і калі ўзьнікла гэтая арганізацыя — менавіта сапраўды на патрэбу часу, калі трэба было абараняць палітычна перасьледаваных людзей увесну 96-га.

Павернемся да пэрспэктывы. Ваша цяперашняя дзейнасьць — гэта спэцыфіка цяперашняй сытуацыі, ці дзейнасьць гэтая будзе працягвацца і надалей — калі, скажам, пераможа дэмакратыя?

*Бандарэнка:* У разьвіцьці беларускага праваабарончага руху вялікую ролю будуць адыгрываць традыцыі. Што датычыцца нас, то, безумоўна, калі мы выбіралі назоў «Хартыя-97» — мы зьвярталі ўвагу на гісторыю «Хартыі-77». Я сустракаўся з шэрагам вэтэранаў гэтай чэхаславацкай грамадзянскай ініцыятывы, і мне вельмі сымпатычны іхны падыход. Калі прайшлі першыя вольныя выбары, арганізатарам гэтых выбараў і кіраўніком Грамадзянскага Форуму быў адзін з вэтэранаў «Хартыі-77» спадар Ян Урбан. Ён заявіў, што на наступны дзень пасьля выбараў я, маўляў, ужо не палітык, а журналіст. Ён сваё слова стрымаў — гэта можна толькі паважаць.

*Радкевіч:* Значыць, я так зразумела Зьмітра Бандарэнку: што тычыцца грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97», то яна спыніць сваю праваабарончую дзейнасьць на наступны дзень пасьля надыходу дэмакратыі. Мяне цікавіць думка Праваабарончага цэнтру «Вясна»: ці вы таксама на другі дзень пасьля перамогі дэмакратычных сілаў будзеце лічыць, што вашыя функцыі ўжо вычарпаныя?

*Бяляцкі:* Ні ў якім выпадку. Я думаю, працы хопіць і нам, і нашым пасьлядоўнікам яшчэ не на адно дзесяцігодзьдзе. Дастаткова паглядзець, як працуюць іншыя праваабарончыя арганізацыі ў краінах, якія вызваліліся ад камунізму — у той жа Польшчы, у Чэхіі. Яны, безумоўна, зьмянілі акцэнт у сваёй дзейнасьці: яны зараз не бароняць палітычных зьняволеных, якіх у іх проста няма, але яны вельмі моцна, актыўна разьвіваюць адукацыйныя праграмы. Яны займаюцца працай, экспэртнай — што датычыцца законаў, дзе ідзецца пра правы грамадзянаў гэтых краін. Яны займаюцца дапамогай грамадзянам іншых краін, што таксама вельмі важна.

*Радкевіч:* А ў чыстым выглядзе праваабарончая дзейнасьць — у такім выглядзе, у якім яна існуе цяпер: абарона грамадзяніна, чалавека ад дзяржавы — ці будзе яна працягвацца і надалей?

*Бяляцкі:* Вось тут Сьвятлана згадвала Лукашэнку: ці будзе «Вясна» бараніць Лукашэнку, калі зьменіцца рэжым? Я, шчыра кажучы, задумаўся над гэтым пытаньнем, пакуль ішоў наш дыялёг, і прыйшоў да такой высновы: бараніць мы

яго, мабыць, ня будзем, але мы будзем настойваць на справядлівым і адкрытым разьбіральніцтве ва ўсіх справах, якія ён нарабіў за гэтыя апошнія пяць гадоў. І гэта таксама, я думаю, ёсьць праваабарончая функцыя праваабарончых арганізацыяў.

# «Інтэрнэт — гэтае страшнае для Лукашэнкі слова»

3 жніўня 2001

*Сёньняшняя прэсавая канфэрэнцыя кіраўнікоў «Незалежнага назіраньня» была прысьвечаная вынікам фармаваньня ўчастковых выбарчых камісіяў на маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбарах.*

Каардынатар «Незалежнага назіраньня» Алесь Бяляцкі сьцьвярджае, што існуе загад, паводле якога амаль усе студэнты ВНУ павінны ўзяць удзел у датэрміновым галасаваньні і 9 верасьня накіравацца на сельгасработы. Алесь Бяляцкі лічыць, што супрацьдзейнічаць гэтаму сцэнару можна пры дапамозе сыстэмы паралельнага падліку галасоў, якой гэтак баіцца Аляксандар Лукашэнка.

*Бяляцкі:* «Натуральна, што мы пры арганізацыі паралельнага падліку будзем выкарыстоўваць кампутары, тэхніку грамадзкіх арганізацыяў. Мы будзем выкарыстоўваць інтэрнэт — гэтае страшнае для Лукашэнкі слова... Усе гэтыя тэхналёгіі мы будзем выкарыстоўваць, якія маюць для яго мітычную, магічную падкладку... Хай ён гэтага не баіцца — гэта ўсё нармальна. І ўсё гэта дасьць нам магчымасьць мець вынікі паралельнага падліку праз гадзіну пасьля заканчэньня выбараў».

## У грамадзкіх арганізацыяў, датычных да назіраньня, канфіскоўваюць кампутары

14 жніўня 2001

*Каардынатары «Незалежнага назіраньня» сёньня правялі прэсавую канфэрэнцыю і распавялі, якім чынам будзе ажыцьцяўляцца паралельны падлік галасоў выбарцаў.*

Паводле каардынатара грамадзянскай ініцыятывы Алеся Бяляцкага, апошнім часам улады і Беларускае тэлебачаньне сьвядома палохаюць выбарцаў паралельным падлікаў галасоў апазыцыяй.

*Бяляцкі:* «Мне гэтая вайна з паралельным падлікам галасоў, якую распачало Беларускае тэлебачаньне і „Советская Белоруссия“, нагадвае вайну 1950-х гадоў, што вялася супраць генэтыкі і кібэрнэтыкі. Я спадзяюся, што ў нашых уладаў хопіць інтэлекту, каб адрозьніць звычайную тэхналёгію, звычайную мэтодыку падліку галасоў ад нейкіх, як яны іх называюць, контрарэвалюцыйных ці падрыўных дзеяньняў. І ўсё ж яны дадуць нам магчымасьць правесьці гэты паралельны падлік галасоў».

Бяляцкі, а таксама каардынатар Міраслаў Кобаса і украінскі сацыёляг Уладзімер Корабаў, паведамілі, што паралельны падлік галасоў будзе праводзіцца не па сыстэме exit polls (апытаньні на выхадзе з выбарчых участкаў), як сьцьвяр-

джаюць беларускія ўлады, а зусім па іншай мэтодыцы.

Прадстаўнікі «Незалежнага назіраньня» зьбіраюцца неўзабаве сустрэцца зь сябрамі Цэнтравыбаркаму і патлумачыць ім, што ніякага парушэньня закону ў гэтай сыстэме паралельнага падліку няма. Тым ня менш, паводле Алеся Бяляцкага, улады цяпер робяць усё магчымае, каб сарваць працэс паралельнага падліку галасоў. У грамадзкіх арганізацыяў канфіскоўваюць кампутары, іншую аргтэхніку.

*Бяляцкі:* «Я хачу сказаць нашым афіцыйным уладам, што гэтыя намаганьні марныя, падлічыць вынікі з 500 участкаў — будзе магчыма зрабіць гэта і на калькулятарах. Усе калькулятары канфіскаваць у назіральнікаў ня ўдасца. Так што вынікі мець мы ўсё роўна будзем, і будзем мець іх хутчэй, чым любыя іншыя сыстэмы і сеткі падліку гэтых галасоў».

## Бяляцкі заявіў пра парушэньне закону ў часе датэрміновага галасаваньня

07 верасьня 2001

*Каардынатар «Незалежнага назіраньня» Алесь Бяляцкі паведаміў, што, паводле іхных зьвестак, колькасьць людзей, якія за тры дні ўзялі ўдзел у датэрміновым галасаваньні, большая за афіцыйную на 3% і ў цэлым па Беларусі складае 8,4% выбарцаў.*

Паводле Цэнтравыбаркаму, за тры дні датэрмінова прагаласавалі 5,4% выбарцаў. Алесь Бяляцкі так патлумачыў несупадзеньне зьвестак «Незалежнага назіраньня» і інфармацыі, што агучыла Лідзія Ярмошына:

«Цэнтральная выбарчая камісія заніжае лічбы людзей, якія прагаласавалі датэрмінова. Тут можа быць некалькі вэрсіяў, але, мне здаецца, гэта робіцца, каб супакоіць міжнародную супольнасьць, міжнародных назіральнікаў. І такім чынам сказаць, што ніякага прымусу ў часе папярэдняга галасаваньня не было. І мне здаецца, што вось гэтая розьніца паміж афіцыйнай лічбай і колькасьцю людзей, што сапраўды прагаласавалі, — гэта ёсьць той адсотак, які можа быць сфальсыфікаваны».

## Улады спрабуюць сарваць незалежнае назіраньне

8 верасьня 2001

*Лідэры арганізацыяў, што ўваходзяць у грамадзянскую ініцыятыву «Незалежнае назіраньне», не сумняюцца, што скасаваньне рэгістрацыі каля 2000 назіральнікаў ад «Вясны» ёсьць правакацыяй уладаў. Гэтак улады хочуць пазбавіць грамадзкасьць магчымасьці даведацца пра сапраўдныя вынікі прэзыдэнцкіх выбараў.*

Пра гэта заяўляе старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі.

*Бяляцкі:* «У грамадзянскай ініцыятыве „Незалежнае назіраньне“ ўдзельнічае больш за 12 000 назіральнікаў на сёньняшні дзень. Так што вось такое скасаваньне рэгістрацыі — гэта, безумоўна, удар па незалежным назіраньні. Таму гэтая лічба скасаваных назіральнікаў можа яшчэ больш павялічыцца, але гэта гаворыць толькі пра тое, што ўлады баяцца незалежнага грамадзкага назіраньня.

Улады шукаюць любых фармальных прычынаў, каб пазбавіцца ад гэтага грамадзкага кантролю. Гэта сьведчыць пра тое, што яны хочуць правесьці закрытыя выбары, што яны рыхтуюць фальсыфікацыі, гэтае назіраньне ім проста не патрэбнае».

## «Улады баяліся і адключылі мабільныя тэлефоны»

10 верасьня 2001

*Судовы пазоў за зрыў мабільнай сувязі падчас выбараў пададзены супраць «Белтэлекаму», арганізацыі «Адкрыты кантакт», якая падтрымлівае электронныя скрынкі беларускіх кліентаў, кампаніі мабільнай сувязі Velcom.*

Кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі бачыць у тэхнічных праблемах палітычную прычыну.

*Бяляцкі:* «Улады вельмі баяліся, што незалежнае назіраньне здолее арганізаваць хуткае паступленьне інфармацыі пра выбары ў цэнтар і апрацоўку гэтай інфармацыі. Адначасова адключылі ўсе тэлефоны каардынатараў у Менску, абласных цэнтрах і вялікіх раённых гарадах. Былі адключаныя таксама сотавыя тэлефоны ў Менску і абласных цэнтрах. І пэўны час мы не маглі імі скарыстацца».

Паводле Бяляцкага, на руках у назіральнікаў было больш за 100 мабільных тэлефонаў, якія абслугоўвае кампанія Velcom. Бяляцкі кажа, што не працавалі тэлефоны ня толькі ў цэнтры, але і ва ўсім горадзе. Ён лічыць, што гэта была «сплянаваная дывэрсія». Бяляцкі не выключае, што ў ліку іншых карыстальнікаў падасьць на кампанію ў суд, аднак лічыць, што ініцыятараў гэтай дывэрсіі трэба шукаць сярод спэцслужбаў.

## «Незалежнае назіраньне» лічыць, што вынікі прэзыдэнцкіх выбараў былі цалкам сфальсыфікаваныя

21 верасьня 2001

*Прадстаўнікі «Незалежнага назіраньня» цягам амаль двух тыдняў зьбіралі, упарадкоўвалі і аналізавалі інфармацыю ад каардынатараў і назіральнікаў з рэгіёнаў.*

На сёньняшняй прэсавай канфэрэнцыі былі згаданыя шматлікія факты ўкідваньня фальшывых бюлетэняў, фальсыфікацыі падчас падліку галасоў у ноч з 9 на 10 верасьня, заніжэньне колькасьці выбарцаў у сьпісах для галасаваньня.

Кіраўнік «Незалежнага назіраньня» Алесь Бяляцкі перакананы, што гэтае галасаваньне было не сапраўднымі выбарамі, а фарсам.

*Бяляцкі:* «Мы можам з пэўнасьцю сказаць, што фальсыфікацыі, якія праводзіліся ў Беларусі падчас гэтых выбараў, былі масавымі. У гэтых фальсыфікацыях удзельнічалі тысячы людзей. На жаль, на сёньняшні дзень мы ня можам знайсьці пацьверджаньняў, мы ня можам знайсьці таго чалавека, які сам браў удзел у гэтых справах. Але, мне здаецца, улічыўшы маштабы гэтай справы, гэтыя людзі знойдуцца, і, безумоўна, гэтая інфармацыя будзе пацьверджаная канкрэтнымі сьведкамі».

## «Бараніцца трэба разам»

18 лютага 2002

*Беларускія праваабаронцы падтрымалі стварэньне рэгіянальных саюзаў людзей, што страцілі працу з палітычных прычынаў.*

Самы вядомы выпадак — звальненьне настаўніка з Крупак Андрэя Аляхновіча, які ўдзельнічаў у незалежным назіраньні за выбарамі. Папулярнага сярод школьнікаў настаўніка звольнілі з фармулёўкай «за антымаральнае выхаваньне дзяцей». Вучні Аляхновіча нават зьбіралі подпісы ў яго абарону, але безвынікова.

Нямала выпадкаў звальненьня актывістаў і проста незадаволеных уладай зафіксавана на Магілёўшчыне, Меншчыне, Горадзеншчыне ды ў іншых рэгіёнах Беларусі.

Кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі задаволены тым, што самі пацярпелыя пачалі аб'ядноўвацца:

*Бяляцкі:* Тое, што створаны такі лякальны саюз у Берасьці, — гэта вельмі добра. Бо бараніцца трэба разам. Тое, што яны аб'ядналіся, можна лічыць пачаткам нейкага агульнарэспубліканскага аб'яднаньня. Я думаю, што да гэтага саюзу далучацца людзі, якія былі выкінутыя з працы з-за сваіх палітычных поглядаў ці за сваю грамадзкую дзейнасьць. Мы, безумоўна, будзем дапамагаць гэтай грамадзкай арганізацыі стаць на ногі, каб яны першым чынам навучыліся неяк бараніць самі сябе.

## Кіраўнікі «Вясны» рыхтуюцца да працы ў нелегальных умовах

16 верасьня 2003

*У часе прэсавай канфэрэнцыі кіраўнікі цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч выказалі свае меркаваньні наконт таго, чаму ўлады хочуць ліквідаваць іх арганізацыю.*

*Бяляцкі:* «Мы лічым, што вось такая пастаноўка пытаньня аб закрыцьці нашай арганізацыі ў агульным кантэксьце тэрору супраць няўрадавых арганізацыяў ёсьць пэўнай адзнакай нашай працы. На сёньняшні дзень закрываюць найлепшых. Ва ўладаў ёсьць плян падрыхтоўкі да парлямэнцкіх выбараў і магчымага рэфэрэндуму. Я перакананы, што пазоў, які атрымала „Вясна", ён не апошні. Гэтая кампанія зачысткі будзе працягвацца і тычыцца тых арганізацыяў, якія трапілі ў адпаведны сьпіс на закрыцьцё».

Да словаў Бяляцкага можна дадаць, што міністар юстыцыі Віктар Галаванаў абвінавачвае цэнтар «Вясна» ў тым, што яго супрацоўнікі пры рэгістрацыі ў 1999 годзе нібыта парушылі закон «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях». На думку міністра, праваабаронцы таксама парушылі заканадаўства, калі стваралі рэгіянальныя структуры цэнтру, і Выбарчы кодэкс у 2001 годзе, калі праводзілі назіраньне за прэзыдэнцкімі выбарамі. Ёсьць у міністэрскім пазове і больш дробныя абвінавачаньні.

Юрыст цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч называе гэтыя абвінавачаньні абсурднымі, бо пасьля рэгістрацыі ў 1999 годзе Мін'юст праводзіў шэраг праверак гэтай арганізацыі і ніякіх парушэньняў не знайшоў. «Я паспрабаваў высьветліць, чаму парушэньні закону ў дзейнасьці „Вясны“ знойдзеныя толькі цяпер, у саміх чыноўнікаў Мін'юсту», — кажа Стэфановіч.

Алесь Бяляцкі кажа, што спыняць працу «Вясны» нават пасьля яе магчымай ліквідацыі ён не зьбіраецца.

*Бяляцкі:* «Мы атрымліваем дзясяткі званкоў падтрымкі. Як ад прадстаўнікоў іншых грамадзкіх арганізацыяў, так і ад нашых партнэраў з-за мяжы, зь якімі мы ўжо ня першы год працуем разам. А таксама ад людзей, якім мы дапамагалі. Яны заклапочаныя нашым лёсам. І мы знойдзем магчымасьці ды легальныя сродкі дзеля працягу нашай працы».

## «Гэта несправядліва і незаконна»

28 кастрычніка 2003

*Праваабарончы цэнтар «Вясна» ліквідаваны.*

*Галасы:* «Ганьба! Ганьба! Ганьба! Вясна! Вясна! Вясна!»

Такімі воклічамі сустрэлі рашэньне судзьдзі Вярхоўнага суду Валянціны Кулік аб ліквідацыі «Вясны» кіраўнік праваабарончага цэнтру Алесь Бяляцкі і сем ягоных калегаў.

Спадар Бяляцкі, а таксама Ўладзімер Лабковіч, Валянцін Стэфановіч, Алег Жлутка, Уладзімер Вялічкін, Мікола Лімяноўскі, Зьміцер Салаўёў і Аляксей Колчын, селі на падлогу судовай залі і пратэставалі супраць несправядлівага, на іх думку, рашэньня судзьдзі.

Спадарыня Валянціна Кулік ліквідавала цэнтар «Вясна», бо, на яе думку, праваабаронцы ў 2001 годзе груба парушылі выбарчае заканадаўства, неправамоцна вылучыўшы сваіх назіральнікаў на прэзыдэнцкія выбары.

*Бяляцкі:* «Мінула 2 гады, і раптам узгадваюць гэтае парушэньне і караюць нас яшчэ раз. Гэта несправядліва і незаконна».

Восем актывістаў «Вясны», што пратэставалі супраць закрыцьця сваёй арганізацыі, былі затрыманыя і на дадзены момант знаходзяцца ва ўправе міліцыі Ленінскага раёну Менску. Суд над імі адбудзецца заўтра. Ім пагражае да 15 сутак адміністрацыйнага арышту альбо буйныя штрафы.

# «Івашкевіч будзе пазбаўлены магчымасьці займацца журналісцкай працай»

16 верасьня 2004

*Галоўны рэдактар газэты «Рабочий» Віктар Івашкевіч асуджаны на два гады абмежаваньня волі за спробу публікацыі артыкула «Злодзей павінен сядзець у турме», у якім пракуратура ўбачыла паклёп на Аляксандра Лукашэнку.*

Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі бачыць у гэтым спробу запалохаць незалежных журналістаў.

*Бяляцкі:* Абуральны і неапраўдана жорсткі прысуд. У параўнаньні з судом над Маркевічам і Мажэйкам, дзе абгрунтоўвалі прысуд тым, што хаця б друкары прачыталі тую газэту, перад тым як яе канфіскавалі, тут жа газэты ўвогуле не было, ніхто яе не чытаў, былі толькі друкарскія пласьціны, што былі канфіскаваныя. Гэта назвалі «замахам на злачынства». І за гэта — ізаляцыя на два гады, канкрэтная ізаляцыя. Зразумела, ён будзе сасланы за межы Менску і пазбаўлены магчымасьці займацца журналісцкай, рэдактарскай працай.

Алесь Бяляцкі ўпэўнены, што гэты і падобныя прысуды зьвязаныя з загадам Лукашэнкі генпракурору Шэйману бараніць ад журналістаў гонар і годнасьць найвышэйшых чыноўнікаў.

*Бяляцкі:* Яны гэта літаральна ўспрынялі, і прысуды кладуцца ў канцэпцыю абароны прэзыдэнта ад усялякіх, як яны лічаць, памкненьняў прынізіць ягоную годнасьць ці яго самога.

# ААН прыняла рэзалюцыю, якая асуджае парушэньні правоў чалавека ў Беларусі

16 красавіка 2004

*Кіраўнік зьліквідаванага Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі прысутнічаў у Жэнэве і меў сустрэчы з прадстаўнікамі нацыянальных дэлегацыяў.*

*Бяляцкі:* Рэзалюцыя па Беларусі зьяўляецца ўжо другі раз. Нагадваю, што летась камісіяй па правах чалавека ААН таксама была прынятая рэзалюцыя па Беларусі, што было дастаткова вялікай нечаканасьцю.

Ініцыявалі рэзалюцыю краіны Эўразьвязу і ЗША. У ёй ідзе гаворка пра ціск, які аказваюць улады на няўрадавыя арганізацыяі, дэмакратычныя партыі, пра кепскае расьсьледаваньне справаў зьніклых. Згадваецца таксама і тое, якія праблемы мае цяпер Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт. Згадваецца, натуральна, і закрыцьцё Гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа.

Найбольш цікавым зьяўляецца тое (і гэта моцна адрозьнівае яе ад папярэдняй, леташняй рэзалюцыі), што прапануецца ўвесьці пасаду спэцыяльнага дакладчыка па правах чалавека ў Беларусі ад камісіі па правах чалавека ААН. Такая пасада звычайна прызначаецца толькі ў краінах з татальным парушэньнем правоў чалавека.

# «Вынікі выбараў і рэфэрэндуму былі сфальшаваныя ў жахлівых памерах»

23 кастрычніка 2004

*17 кастрычніка ў Беларусі прайшлі выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і ініцыяваны Аляксандрам Лукашэнкам рэфэрэндум.*

Грамадзяне павінны былі адказаць, ці дазваляюць яны Лукашэнку зноў абірацца прэзыдэнтам і ці згодныя яны прыбраць з Канстытуцыі забарону адной і той жа асобе займаць пасаду прэзыдэнта больш як два тэрміны.

Пры гэтым Выбарчы кодэкс Беларусі забараняе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, зьвязаныя з выбарамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Паводле апытаньня, праведзенага The Gallup Organization/Baltic Surveys, у канцы верасьня за зьмену Канстытуцыі гатовыя былі прагаласаваць 39% апытаных.

Цэнтральная камісія па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў афіцыйна абвясьціла, што 87,97% грамадзян, якія прыйшлі на ўчасткі, выказаліся за зьмену Канстытуцыі, гэта значыць — дазволілі Лукашэнку абірацца прэзыдэнтам неабмежаваную колькасьць разоў.

У знак пратэсту супраць выбарчага фарсу старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі, які зьяўляецца таксама сябрам Цэнтравыбаркаму з дарадчым голасам, адмовіўся ад удзелу ў паседжаньні ЦВК, на якім былі абвешча-

ныя канчатковыя вынікі выбараў і рэфэрэндуму. На падставе свайго маніторынгу праваабаронцы далі ацэнку абедзьвюм палітычным кампаніям.

Праваабаронцы заяўляюць, што афіцыйныя вынікі выбараў і рэфэрэндуму не адпавядаюць сапраўднаму волевыяўленьню беларускага народу. Пра гэта гаворыцца ў распаўсюджаных «Вясной» матэрыялах. Яны ўвойдуць у адмысловую кнігу па выніках рэфэрэндуму й выбараў, якую праваабаронцы выдадуць на беларускай і ангельскай мовах.

*Бяляцкі:* «Выбары былі ганебным фарсам, і рэфэрэндум таксама. Вынікі выбараў і рэфэрэндуму былі сфальшаваныя ў жахлівых памерах. У нас ёсьць сотні ўскосных і прамых доказаў таго, што фальшаваньне адбывалася як падчас папярэдняга галасаваньня, так і асабліва ў дзень галасаваньня.

Гэтыя фальшаваньні адбываліся на ніжэйшым роўні, і шмат хто з старшыняў участковых камісіяў займаліся гэтай справай.

Усе гэтыя рэгулярныя дзеяньні адназначна былі арганізаваныя выканаўчай вэртыкальлю пад кіраўніцтвам прэзыдэнта Лукашэнкі, а заканадаўча яны пакрываліся з боку Цэнтральнай камісіі, якая сваёй манерай правядзеньня выбараў і сваімі камэнтарамі, пастановамі фактычна прыкрыла гэтыя фальшаваньні. Я абсалютна ўпэўнены, што ўсе сябры Цэнтральнай камісіі ведаюць пра тое, што адбылося на самой справе, і тое, што яны пацьвердзілі вынікі выбараў і гэтага

рэфэрэндуму, ускладае значную частку віны і на Цэнтральную выбарчую камісію».

Алесь Бяляцкі перакананы, што выбары і галасаваньне па рэфэрэндуме не адпавядалі нацыянальнаму выбарчаму заканадаўству, міжнародным прынцыпам у галіне арганізацыі й правядзеньня выбараў, а менавіта прынцыпам галоснасьці, празрыстасьці і дэмакратычнасьці.

*Бяляцкі:* «Фактаў дастаткова, і зараз самая галоўная задача — давесьці праўду нашым людзям, як на самой справе адбывалася гэтае галасаваньне».

## «Магчымасьць якіх-небудзь выбараў у Беларусі фактычна скончылася, створаная дасканалая сыстэма фальсыфікацыяў»

9 лютага 2005

*Праваабарончы цэнтар «Вясна» падрыхтаваў і выдаў падрабязны маніторынг леташніх парлямэнцкіх выбараў і рэфэрэндуму ў Беларусі, якія дазволілі Лукашэнку абірацца прэзыдэнтам неабмежаваную колькасьць разоў.*

Каардынатар рабочай групы па падрыхтоўцы маніторынгу Алесь Бяляцкі зрабіў высновы на падставе аналізу сабраных матэрыялаў.

*Бяляцкі:* Магчымасьць якіх-небудзь выбараў у Беларусі фактычна скончылася. Уладамі на сёньняшні дзень створаная дасканалая сыстэма фальсыфікацыяў. Ад выбараў застаўся толькі выбарчы антураж, які вельмі нагадвае выбары савецкіх часоў. Сёньняшняя сытуацыя патрабуе іншых падыходаў, іншых інструмэнтаў для яе вырашэньня ад беларускіх дэмакратычных сілаў. Мы маем справу з рэжымам такога тыпу, такой суровасьці, якога не было ў Эўропе за апошнія 15 гадоў — з часоў распаду Савецкага Саюзу.

## «Драконаўскія меры легалізуюцца дакумэнтам „Для службовага карыстаньня“»

8 чэрвеня 2005

*Рада Праваабарончага цэнтру «Вясна» зьвярнулася з адкрытым лістом да Міністэрства адукацыі і кіраўніцтва шэрагу ВНУ краіны.*

Праваабаронцы пратэстуюць супраць перасьледу студэнтаў з боку адміністрацыі гэтых навучальных установаў. У адкрытым лісьце падкрэсьліваецца, што «шмат у якіх выпадках прарэктары і дэканы факультэтаў супрацоўнічаюць з прадстаўнікамі КДБ, даюць ім інфармацыю пра грамадзка актыўных студэнтаў, праводзяць сумесныя «прафіляктычныя гутаркі».

У звароце гаворыцца, што калі перасьлед студэнтаў з палітычных матываў будзе працягвацца, праваабаронцы пакідаюць за сабой права распачаць грамадзянскую кампанію, скіраваную на прыпыненьне кантактаў унівэрсытэтаў і навуковых цэнтраў Эўропы з кіраўніцтвам адпаведных ВНУ і Міністэрствам адукацыі Беларусі.

Зьмест гэтага папярэджаньня тлумачыць кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі.

*Бяляцкі:* У звароце не ідзе размова пра разрываньне сувязяў, накіраваных на студэнцкі абмен, на ўдасканаленьне навуковага працэсу, на навуковы абмен паміж вышэйшымі наву-

чальнымі ўстановамі. Размова ідзе пра канкрэтных людзей, якія займаюць канкрэтныя пасады, якія падпісваюць загады ці робяць дзеяньні, накіраваныя на тое, каб грамадзка, палітычна актыўныя студэнты былі выключаныя з ВНУ ці зь сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў. Напрыклад, калі дэкан выклікае на «выхаваўчую гутарку» студэнта, таму што студэнт мае пэўную грамадзка-палітычную пазыцыю, пагражае яму выключэньнем, і калі гэтае выключэньне адбываецца і дэкан падпісвае загад аб гэтым выключэньні, то такі чалавек не павінен быць дапушчаны да замежных паездак, да акадэмічных сувязяў паміж замежнымі і беларускімі навучальнымі ўстановамі.

Мы папрасілі Алеся Бяляцкага пракамэнтаваць ліст міністра адукацыі Аляксандра Радзькова «Аб мерах па недапушчэньні спробаў уцягваньня навучэнцаў і студэнтаў у супрацьпраўную дзейнасьць палітычнага кшталту».

*Бяляцкі:* Мне здаецца, што такім чынам улады адгукнуліся на тыя ўспышкі актыўнасьці беларускіх студэнтаў, якія адбываліся апошнім часам, на галадоўку студэнтаў у Жодзіне, на калектыўны ліст студэнтаў у абарону студэнткі, звольненай з журфаку. Міністар Радзькоў вырашыў, што трэба аформіць працэс «выхаваньня» і выключэньня за такую дзейнасьць. Драконаўскія меры легалізуюцца гэтым дакумэнтам «Для службовага карыстаньня», падпісаным міністрам адукацыі.

## «Рэпрэсіі супраць беларускіх палітычных актывістаў рэзка ўзмоцняцца»

25 лістапада 2005

*Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытаньні папраўкі да крымінальнага заканадаўства, якія прадугледжваюць узмацненьне адказнасьці за дзеяньні, «накіраваныя супраць чалавека і грамадзкай бясьпекі».*

Праваабаронца Алесь Бяляцкі адзначае, што сыстэма ў Беларусі разьвіваецца сваім лягічным шляхам, такое ўжо было ў краінах з дыктатарскім рэжымам. Прапанаваныя папраўкі нагадваюць рэпрэсіўныя артыкулы савецкіх часоў.

*Бяляцкі:* Гэты артыкул фактычна завязвае рот усім крытыкам. Калі гэтыя праўкі ўсё ж будуць унесеныя ў крымінальнае заканадаўства, то рэпрэсіі супраць беларускіх грамадзкіх актывістаў, палітычных актывістаў рэзка ўзмоцняцца. Мне асабіста будзе вельмі цікавай рэакцыя міжнароднай супольнасьці, бо фактычна ўнясеньне гэтых правак у беларускае крымінальнае заканадаўства адназначна ўжо пазбаўляе ўсялякіх ілюзіяў што да трансфармацыі рэжыму Лукашэнкі.

# Вацлаў Гавэл уручыў прэмію Алесю Бяляцкаму

1 сакавіка 2006

Сяргей Навумчык

*Сёньня ў Празе падчас адкрыцьця Міжнароднага фэстывалю праваабарончых фільмаў Вацлаў Гавэл уручыў прэмію Homo Homini арганізацыі «Чалавек у нядолі» беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму.*

Гэтая прэмія даецца за выбітныя дасягненьні ў галіне правоў чалавека, усталяваньне дэмакратыі і негвалтоўнага вырашэньня палітычных канфліктаў. Прэмія прынцыпова не ўручаецца палітыкам, а праваабаронцам.

Вацлава Гавэла называюць адным з маральных аўтарытэтаў Эўропы — аглядальнікі заўважаюць, што ягоны ўплыў пасьля сыходу з пасады прэзыдэнта Чэхіі пабольшыўся. Ён сышоў з палітыкі, але не спыніў праваабарончай дзейнасьці.

На працягу доўгага часу Гавэл падтрымлівае беларускую дэмакратыю — гасьцямі ў Праскім градзе былі Івонка Сурвіла, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч, Вінцук Вячорка. У 2003 годзе Гавэл перадаў прэмію рэдактару «Нашай Нівы» Андрэю Дыньку. Летась у лістападзе на запрашэньне Вацлава Гавэла прадстаўнічы «Форум 2000» наведаў кандыдат у прэзыдэнты ад аб’яднанай апазыцыі Аляксандар Мілінкевіч.

Сёньня такую прэмію атрымаў адзін з заснавальнікаў Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі. Падчас свайго выступу Вацлаў Гавэл сказаў, што сытуацыя ў Беларусі вельмі нагадвае тое, што ў свой час было ў Чэхіі, але ён перакананы, што дэмакратыя пераможа.

Алесь Бяляцкі падзякаваў за прэмію і за салідарнасьць з тымі, хто змагаецца за правы чалавека і за дэмакратыю ў Беларусі.

Пасьля цырымоніі Вацлаў Гавэл адказаў на пытаньні Свабоды.

*Навумчык:* Спадар Гавэл, чым патлумачыць вашую падтрымку актывістаў беларускай апазыцыі?

*Гавэл:* Я ім сымпатызую, але ня толькі я, гэта складнік сучаснай афіцыйнай палітыкі чэскай дзяржавы. Мы салідарныя з усімі, хто змагаецца за дэмакратызацыю Беларусі, хто хоча зьмяніць аўтарытарную сыстэму. Мы маем свой уласны вопыт і адчуваем падвышаны абавязак быць салідарнымі з тымі, хто змагаецца за тое, за што і мы змагаліся калісьці.

*Навумчык:* Старшыня КДБ Беларусі заявіў пра «змову апазыцыі» напярэдадні выбараў; яшчэ раней КДБ арыштаваў некалькі маладых актывістаў апазыцыі. У 70–80-я гады чэскія дысыдэнты зазналі на сабе рэпрэсіі з боку чэскага аналягу КДБ — StB. Спадар Гавэл, ці ўдалося вам выявіць нейкі ўнівэрсальны рэцэпт стаўленьня да спэцслужбаў?

*Гавэл:* Заставацца самімі сабой, проста глядзець на гэта ў шырэйшым маштабе і, магчыма,

з гумарам. Я прыгадваю нашыя дысыдэнцкія часы. Часы, можна сказаць, у нечым шчасьлівыя, калі паміж намі была такая салідарнасьць, калі мы ўсе цягнулі адзін канат у адзін бок. І ў той жа час не ўспрымалі мы гэта занадта ўжо сур'ёзна і апантана. Ну, канечне, зь мінулага чалавек хутчэй прыгадвае добрае, чым дрэннае. І ўсё ж галоўнае, канечне, — погляд з дыстанцыі і трывушчасьць.

*Навумчык:* Разам зь ляўрэатамі Нобэлеўскай прэміі міру вы падпісалі зварот адносна палітыкі Крамля ў дачыненьні да Чачні. Сёньня Расея — ці не адзіная краіна ў Эўропе, якая падтрымлівае Лукашэнку. Якім чынам усясьветная супольнасьць можа паўплываць на пазыцыю Масквы?

*Гавэл:* Я перакананы, што трэба адкрыта казаць тое, што думаеш, не заплюшчваць вочы, не замоўчваць. Паміж партнэрамі і прыяцелямі павінна дзейнічаць правіла, што паміж сабой яны застаюцца чэснымі і гавораць тое, што думаюць.

## «Мы мусім убачыць рэальнае пацяпленьне сытуацыі»

31 студзеня 2007

*Гаспадарчая ўправа Кіраўніцтва справаў прэзыдэнта працягнула на год дамову аб арэндзе памяшканьня для Беларускага Хэльсынскага камітэту, які раней змусілі пакінуць офіс.*

Алесь Бяляцкі лічыць, што пакуль зарана гаварыць пра істотную зьмену стаўленьня ўладаў.

*Бяляцкі:* «Мы мусім убачыць не адзінкавыя факты ці рашэньні, якія прымаюцца, мабыць, на самым высокім узроўні, а рэальнае пацяпленьне сытуацыі. Я нагадаю, што, напрыклад, за апошнія сем гадоў ніводная праваабарончая арганізацыя ў Беларусі Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваная не была.

Гэта ўсё пакажа блізкая будучыня: ці гэта сапраўды пачатак адкручваньня гаек, ці гэта ўсё ж адзінкавая акцыя „піярнага“ пляну, якая не мяняе агульнай сытуацыі.

Мы сёньня маем сем асобаў, якія сядзяць адназначна паводле палітычных матываў, і сапраўды ўлады павінны выпусьціць іх — і Аляксандра Казуліна, і Зьмітра Дашкевіча, і Артура Фінькевіча, і іншых. І прынамсі старшыня Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы казаў адназначна: пакуль ня будуць выпушчаныя палітвязьні, перамоваў з уладамі Беларусі Рада Эўропы праводзіць ня будзе».

## «Маўчаць мы ня будзем»

3 траўня 2007

*Праваабаронцы заклікаюць міжнародную супольнасьць не ўключаць Беларусь у склад Рады ААН у правах чалавека. Тым часам афіцыйны Менск ужо падаў адмысловую заяўку і шукае падтрымкі сярод сяброў ААН.*

Афіцыйны Менск хоча трапіць у склад Рады ад групы ўсходнеэўрапейскіх краінаў. Летась, калі была ўтвораная Рада, у яе склад абралі 47 сяброў ад розных рэгіёнаў. У траўні заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў 14 краінаў, абраных на год. Сярод іх Чэхія і Польшча. Цяпер на іхныя месцы прэтэндуюць Беларусь і Славенія.

Паводле Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, якая мае прадстаўніцтва пры ААН, афіцыйны Менск разьлічвае на падтрымку пэўных краінаў.

*Бяляцкі:* Ну, дзяржавы гэта дастаткова адыёзныя, таталітарныя афрыканскія рэжымы, натуральна, Расея. Краіны з разьвітай дэмакратыяй не падтрымліваюць гэты крок. Каб Беларусь магла прэтэндаваць на гэтую пасаду, трэба ў самой краіне выконваць хаця б нейкія мінімальныя стандарты захоўваньня правоў чалавека. Пра што мы абсалютна ня можам сказаць датычна рэжыму.

Тая кампанія, якая цяпер ідзе з самой Беларусі ад няўрадавых арганізацыяў, заканамерная.

І аб’ектыўна — а чаго ж беларускі рэжым хацеў?! Каб мы маўчалі ў той час, калі правы нашых грамадзянаў, правы саміх няўрадавых арганізацыяў парушаюцца самым грубым чынам?!

Не. Маўчаць мы ня будзем. І таму гэтыя звароты цяпер ідуць у міжнародныя структуры, сябрам Рады ў правах чалавека і дзяржаўным прадстаўніцтвам пры ААН, якія будуць галасаваць, вырашаючы гэтае пытаньне: прымаць Беларусь ці не.

# «Раней ці пазьней хтосьці зь беларусаў Нобэля атрымае»

12 кастрычніка 2007

*Сёньня Нобэлеўскі камітэт назваў ляўрэатаў прэміі міру. Адной з самых прэстыжных у сьвеце прэміяў уганаравалі былога віцэ-прэзыдэнта ЗША Альбэрта Гора і Міжурадавую групу экспэртаў у зьмене клімату пры ААН пад кіраўніцтвам навукоўца зь Індыі Раджэндры Пашаўры.*

У заяве Нобэлеўскага камітэту адзначаецца бясспрэчны ўнёсак Альбэрта Гора і групы навукоўцаў ААН у кампанію барацьбы з глябальнымі кліматычнымі зьменамі, выкліканымі дзейнасьцю чалавека.

Прэтэндэнты на прэмію міру былі самыя розныя: ад расейскага праваабарончага «Мэмарыялу» і актывісткі руху канадзкіх эскімосаў Шэйлы Ват-Клют’е да прадстаўнікоў Беларусі — праваабаронцы Алеся Бяляцкага і экс-сьпікера Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча.

Алесь Бяляцкі кажа, што спакойна паставіўся да абвешчаных Нобэлеўскім камітэтам вынікаў, паколькі мяркуе, што ўва ўсіх беларусаў аб’ектыўна не было высокіх шанцаў на перамогу.

*Бяляцкі:* «Тое, што сёлета аж чацьвёра беларусаў былі вылучаныя на Нобэля (у галіне літаратуры — Рыгор Барадулін і Сьвятлана Алексіевіч, на прэмію міру — Станіслаў Шушкевіч і я), мне падаецца нечым надзвычайным. Таму што са-

праўды мы пачалі ўваходзіць у ўсясьветны грамадзка-культурна-палітычны кантэкст, што абсалютна нармальна. Калі ідуць такія вылучэньні, то раней ці пазьней хтосьці прэмію атрымае, я ў гэтым перакананы. Але, можа, для гэтага запатрабуецца яшчэ некалькі гадоў.

Гэтым разам я вельмі спакойна да ўсяго гэтага ставіўся і расцэньваў шанцы ўсіх кандыдатаў ад Беларусі як даволі нізкія. Проста, мабыць, яшчэ і час не прысьпеў».

# «Гэта адзінае сьвята, якое трэба сьвяткаваць на вуліцы»

12 лютага 2008

*25 сакавіка 1918 году ў Менску лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі абвясьцілі незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэткім чынам было заяўлена пра зьяўленьне на мапе сьвету самастойнай і незалежнай дзяржавы.*

Дзесяцігодзьдзямі гэтая падзея была выкрасьленая з гісторыі краіны. Замоўчваецца яна і ў сучаснай Беларусі. Як юбілейныя ўгодкі будуць адзначаць сёньняшнія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі? Пра гэта гаворыць адзін тых, хто пачынаў адзначаць Дзень Волі ў сярэдзіне 80-х, сябра літаратурнай суполкі «Тутэйшыя», праваабаронца і вылучэнец на Нобэлеўскую прэмію Алесь Бяляцкі.

*РС:* Як бы вы адсьвяткавалі 90-я ўгодкі абвяшчэньня БНР?

*Бяляцкі:* Фармат сьвяткаваньня з тых жа 80-х гадоў кардынальна зьмяніўся. І гэта адзінае сьвята, я абсалютна перакананы, якое ўсе сьвядомыя беларусы павінны сьвяткаваць на вуліцы. Каб была вось гэтая візуалізацыя. Бо мы, беларусы, недастаткова бачныя вось у гэтай беларускай прасторы. Нам не хапае нашай нацыянальнай сымболікі, якая была б бачная, не хапае маштабных сьвяткаваньняў. Каб людзі маглі зьбі-

рацца, сьвяткаваць, каб гэта было бачна, што для людзей гэта сапраўды нешта значыць.

*РС:* Што для вас значыць абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі?

*Бяляцкі:* Для мяне гэта азначае дастаткова многа. Гэта адназначная спроба паказаць, што беларусы — народ, што яны здольныя да дзяржаватворчасьці. Бо дзяржаватворчасьць на пэўным этапе нацыянальнага разьвіцьця зьяўляецца вяршыняй сьпеласьці народу, і пераскочыць гэта нельга.

# «Я вельмі востра адчуваю каштоўнасьць гэтага паняцьця — незалежнасьці нашага народу»

25 сакавіка 2008

*Праваабаронца Алесь Бяляцкі згадвае пра тысячагадовыя карані беларускай дзяржаўнасьці, зь якіх вырасла і БНР, і цяперашняя Рэспубліка Беларусь.*

*Бяляцкі:* Для мяне гэта ёсьць пачуцьцё гонару і пачуцьцё нейкай дастатковасьці беларускага народу, бо ў сьвеце шмат хто ня мае гэтай незалежнасьці, і мы бачым, як зараз народы — ня меншыя, а нават большыя за нас — ня могуць гэтага дамагчыся. Таму я вельмі востра адчуваю каштоўнасьць гэтага паняцьця — незалежнасьці нашага народу.

## «Мы заўважаем прысутнасьць паліцэйскай дзяржавы і рысы палітычнага тэрору»

11 ліпеня 2008

*У сядзібе БНФ адбылася прэсавая канфэрэнцыя праваабаронцаў і сваякоў затрыманых, якія пракамэнтавалі хвалю затрыманьняў у сувязі з выбухам у Менску 4 ліпеня, на мерапрыемствах у сувязі з афіцыйным Днём незалежнасьці.*

Паводле Ніны Шыдлоўскай, жонкі былога актывіста «Белага легіёну» Міраслава Лазоўскага, спэцслужбы ня могуць знайсьці рэальных тэрарыстаў, а апазыцыянэраў хапаюць «дзеля справаздачы».

*Шыдлоўская:* «Чаму абвешчана, што сьледзтва вядзе міліцыя, а ўсе затрыманьні праводзіў КДБ? Чаму міліцыя ніяк не камэнтуе сьледзтва, а з КДБ заяўляюць пра магчымую датычнасьць затрыманых да «дэструктыўных арганізацый»? Вядома, што «Белы легіён» займаўся фізычным выхаваньнем моладзі, але чаму тады сьледчых не цікавяць актывісты праўладнага БРСМ, якія таксама фізычна мацнелі ў летніках?»

Віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі таксама зьвярнуў увагу на палітычны характар сьледзтва.

*Бяляцкі:* «Мы заўважаем прысутнасьць паліцэйскай дзяржавы, якая можа змагацца з

палітычнымі супернікамі, але ня ўмее змагацца з рэальнымі тэрарыстамі. Міліцыя выбрала такі варыянт сьледзтва, які набірае рысы палітычнага тэрору».

# «Сыстэма будуецца на сталінскай структуры пакараньня»

2 верасьня 2008

*У сядзібе БНФ у Менску адбылася прэзэнтацыя дакладу «Ўмовы ўтрыманьня пад вартай у Рэспубліцы Беларусь», падрыхтаванага Міжнароднай фэдэрацыяй правоў чалавека (FIDH) і сябрамі не зарэгістраванага ўладамі Праваабарончага цэнтру «Вясна». Праваабаронцы цьвердзяць, што ў Беларусі ўжываюцца катаваньні.*

Місія Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека наведала Беларусь у 2007 годзе. Яна сустрэлася з былымі зьняволенымі і іх роднымі, адвакатамі і праваабаронцамі. Прадстаўнікі ўладаў ад дыялёгу адмовіліся. Як гаворыцца ў дакладзе, місія атрымала шматлікія сьведчаньні ўжываньня катаваньняў і жорсткага абыходжаньня падчас крымінальных і адміністрацыйных расьсьледаваньняў.

Віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі адзначыў, што ў беларускім заканадаўстве няма вызначэньня катаваньняў, і яны не караюцца.

*Бяляцкі:* Зьява рэальна існуе. Прычым на розных этапах зьняволеньня. Умовы ўтрыманьня не адпавядаюць ніякім міжнародным канвэнцыям, нават мінімальным стандартам утрыманьня

зьняволеных. Гэтая сыстэма будуецца яшчэ на той сталінскай структуры пакараньняў, якая запушчана ў 20–30-я гады, толькі яна трохі мадэрнізавалася, яе крыху падмазалі, падчысьцілі.

# «Ніколі да Дзядоў-88 мы не супрацьстаялі ўладам твар у твар»

24 кастрычніка 2008

*30 кастрычніка спаўняецца 20 гадоў першай масавай акцыі ў гонар Дня памяці продкаў «Дзяды». Мітынг 30 кастрычніка 1988 году ля Ўсходніх могілак Менску быў гвалтоўна разагнаны.*

Праваабаронца Алесь Бяляцкі быў удзельнікам тых падзеяў як тагачасны прэзыдэнт грамадзкага аб'яднаньня літаратараў «Тутэйшыя» і адзін з падпісантаў заявы на правядзеньне акцыі. Сёньня ён згадвае Дзяды-1988.

*Бяляцкі:* Перад сьвятам я атрымаў афіцыйнае пракурорскае папярэджаньне, што ў выпадку масавых беспарадкаў я буду прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці. Адпаведна, псыхалягічнае напружаньне было дастаткова моцнае. Бо ніколі дагэтуль мы яшчэ не супрацьстаялі ўладам адкрыта, можна сказаць — твар у твар. Незразумела было, чым гэта ўсё скончыцца, і мы рыхтаваліся да розных варыянтаў.

І нават да самых горшых.

Бо сапраўды, усё ж такі 70 гадоў у нас не было вось такіх масавых акцыяў. Частка людзей думала, што ўсё гэта скончыцца катастрофай.

Я памятаю, як у гэты дзень мэтро было перакрыта, і мы ішлі з папярэдняй станцыі пешшу. Было бачна, як ручайкі людзей цякуць паабапал

праспэкту, тады яшчэ Ленінскага. А мы ішлі разам зь Сержуком Сокалавым-Воюшам, ён быў з гітарай, у нас была вясёлая кампанія. Быў ясны сонечны дзень, марозна, пад нагамі хрусьцеў лядок. Мы ішлі на гэтае сьвята — маладыя, вясёлыя, аптымістычна настроеныя.

Калі мы перайшлі вуліцу, якая перасякае праспэкт, там пачаў гуртавацца народ, і там пачаліся першыя захопы. Я так разумею, што міліцыя нэўтралізоўвала людзей, якія, паводле яе меркаваньня, былі арганізатарамі гэтага сьвята. Недзе побач жанчыны валтузіліся за Пазьняка, і гэта была цікавая сытуацыя, калі жанчыны выканалі значную ролю ў гісторыі Беларусі — адбілі Пазьняка, які потым здолеў правесьці гэтую акцыю да канца.

Ну, а мне не пашанцавала: мяне затрымалі, запіхнулі ў маленькі «козьлік», адвезьлі ў міліцыю Першамайскага раёну. Адразу ж там быў суд, і мне далі 200 рублёў штрафу. Вось такі быў мой удзел. Для мяне, з гледзішча дваццаці гадоў, гэта было, пэўна, самае значнае, што я зрабіў у гісторыі Беларусі.

# Для Беларусі паляпшэньне стасункаў з Эўропай азначае непазьбежнае аддаленьне ад Расеі

11 сакавіка 2009

*На сайце Радыё Свабода адбылася онлайн-канфэрэнцыя з кіраўніком Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесем Бяляцкім.*

Паводле амэрыканскай арганізацыі Freedom House, Беларусь знаходзіцца ў дваццатцы самых несвабодных краінаў сьвету.

Напярэдадні онлайн-канфэрэнцыі Алесь Бяляцкі сказаў: «Сытуацыя з правамі чалавека за апошнія паўгода зрушылася. Нельга сказаць, што яна ідзе прамым кірункам у бок дэмакратызацыі, ідуць нейкія хістаньні туды-сюды. Трэба адзначыць як станоўчае, напрыклад, рэзкае зьмяншэньне колькасьці адміністрацыйных затрыманьняў, так і адмоўнае — летась былі выпушчаныя палітзьняволеныя, а вось зараз літаральна на нашых вачах яны зьявіліся зноў. Мне падаецца, што ўлады шукаюць зараз нейкія іншыя спосабы кантролю над грамадзянскай супольнасьцю, можа, не такія брутальныя, як яны былі летась-пазалетась. Але, тым ня менш, я абсалютна ня бачу добрай ахвоты распачаць дэмакратычныя перамены».

*Макс:* Наколькі важнае для Эўразьвязу выкананьне правоў чалавека ў так званым дыялёгу?

Ці Эўропа вырашыла «заплюшчыць вочы» на палітвязьняў — Аўтуховіча і іншых?

*Бяляцкі:* Захаваньне правоў чалавека ў Беларусі, працэс паляпшэньня сытуацыі з грамадзкімі і палітычнымі правамі, са свабодай СМІ — гэта галоўнае патрабаваньне Эўразьвязу да ўладаў. Пра гэта неаднаразова заяўлялі высокія чыноўнікі Эўразьвязу. У залежнасьці ад таго, як будзе ісьці гэты працэс — такімі будуць выбудоўвацца і стасункі паміж Эўразьвязам і Беларусьсю. Тут у мяне няма ніякіх сумненьняў. Калі я быў у Брусэлі на мінулым тыдні і размаўляў на розных узроўнях «брусэльскіх калідораў», і на палітычным, і на выканаўчым, мяне парадавала абазнанасьць чыноўнікаў, якія адказваюць за Беларусь, што да нашай сытуацыі з правамі чалавека. Там адсочваюць кожны крок беларускіх уладаў і кожную падзею, якая ў нас адбываецца. Што тычыцца Аўтуховіча, Лявонава і Асіпенкі — па іхнай справе недастаткова зьвестак, каб рабіць адназначныя высновы. Мы патрабуем адкрытага працэсу, што дазволіла б нам заняць больш вызначаную пазыцыю.

*Лоер:* Выглядае на тое, што Эўропа вырашыла паспрабаваць прыцягнуць Лукашэнку да сябе, нягледзячы на парушэньні правоў чалавека. Спадар Алесь, а для вас што мае большую значнасьць: замірэньне з Эўропай і аддаленьне ад Расеі — ці ўсё ж такі пытаньні лібэралізацыі ўнутры краіны?

*Бяляцкі:* Ня бачу супярэчнасьці ў вашых пытаньнях, а наадварот, бачу лягічную ўзаемасувязь. Для Беларусі паляпшэньне стасункаў з Эўропай

азначае непазьбежнае аддаленьне ад Расеі. Такая ў нас геапалітычная і цывілізацыйная сытуацыя. І зноў жа ж — паляпшэньне стасункаў з Эўропай немагчымае безь лібэралізацыі ў краіне. Эўрапейскі Зьвяз ня будзе паляпшаць стасункі з такой Беларусьсю, якая яна ёсьць сёньня.

*Ігар:* Як вы лічыце, якім чынам можна разбудзіць беларускія сэрцы, каб прачнулася ў іх любоў да бліжняга? Чаму ў людзей столькі нянавісьці, у першую чаргу да сябе? Дзе выйсьце з агульнага крызісу?

*Бяляцкі:* Пытаньні вечныя, на якія няма простага і адназначнага адказу. Для мяне праваабарона якраз і цікавая тым, што мы спрабуем разбудзіць ва ўладаў і ў грамадзтве павагу да такіх каштоўнасьцяў, як чалавечае жыцьцё, адвечнае чалавечае права «людзьмі звацца». Але барацьба за гэтыя каштоўнасьці — няспынная. Яна будзе працягвацца столькі, колькі будзе існаваць чалавечы род.

*Димыч:* Когда работать начнем по своей основной специальности, филолог Беляцкий? Уже 20 лет в правозащитной борьбе. На какие средства существуем?:)) На гранты?

*Бяляцкі:* Я, Дзімыч, калі ўлічыць, што за незалежнасьць Беларусі, дэмакратыю і правы чалавека працую ўжо з 1982 году (а гэта мая асноўная праца, і гэтаму я вучыўся ўсё сваё жыцьцё), і калі ўлічыць, што праца такога кшталту ў нас адносіцца да шкоднай вытворчасьці, дык ужо, выходзіць, на пэнсію «вэтэрана Адраджэньня» зарабіў. Але рукі яшчэ складаць не зьбіраюся.

Вось і іншым раю — не падколваць, а паспрабаваць зрабіць што-небудзь путнае.

*Пятрусь:* Спадар Алесь, вельмі ўдзячны за вашую працу. Лічу, што вы і вашыя аднадумцы зь ліквідаванай «Вясны» сапраўды, можа, адзіныя адпавядаюць слову «праваабаронцы». Скажыце, якое вашае стаўленьне да дыялёгу Захаду з уладамі, які зараз адбываецца, як вы ацэньваеце дзеяньні ўраду і Эўропы? Наколькі тое, што адбываецца, адпавядае інтарэсам Беларусі?

*Бяляцкі:* Стаўленьне да дыялёгу ў асноўным станоўчае. Што адбывалася ў мінулым годзе? Мы зайшлі ў пэўны такі клінч. Былі абсалютна варожыя адносіны паміж уладамі і грамадзянскай супольнасьцю, калі адны ўжывалі няспынна рэпрэсіўныя меры, а другія адчайна бараніліся, у такой наступальнай манеры. І даходзіла да тысячаў (я не памыляюся, тысячаў) рэпрэсаваных людзей у Беларусі.

Эўразьвяз доўгі час стаяў у гэтым працэсе трохі збоку, яны занялі, на мой погляд, тады правільную пазыцыю, калі былі ўжытыя санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў, і гэта быў адзін зь нешматлікіх інструмэнтаў, якім ЭЗ валодаў у дачыненьні да Беларусі. І ён прымусіў улады пайсьці на пошукі магчымасьці для дыялёгу. І тую ўмову, якую паставіў ЭЗ — Беларусь без палітзьняволеных (яна чыста праваабарончая), — улады вымушаныя выканаць.

Пасьля пачаўся, так бы мовіць, халодны сакавіцкі дыялёг, даволі дзіўны, крок наперад і два назад. Але сытуацыя з правамі чалавека

стала трохі лепшай. Гэта колькасьць арыштаваных па адміністрацыйных працэсах цяпер непараўнальна меншая. Але няма адназначнага жаданьня ўладаў зьмяніць сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.

Праз пару тыдняў павінна прымацца рашэньне пра праграму Эўразьвязу «Ўсходняе партнэрства», у якую Беларусі прапануецца ўступіць пры выкананьні пэўных мінімальных патрабаваньняў, асноўнае зь іх — спыніць рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасьці.

Ці здольныя ўлады пасьпець асэнсаваць за два тыдні, што ўступленьне ва «Ўсходняе партнэрства» — гэта ёсьць гістарычны шанец для Беларусі? Што гэта магчымасьць выбудаваць праграму разьвіцьця для Беларусі на бліжэйшыя 10–15 гадоў і ў эканамічным, і ў сацыяльным кірунку, і ў адносінах з Эўразьвязам? Я ня ўпэўнены, што беларускія ўлады да гэтага гатовыя і што яны пасьпеюць ускочыць у гэты цягнік, які доўга стаяць на нашым прыпынку ня будзе. Бо літаральна праз два тыдні рашэньне, колькі краінаў увойдзе ў праграму «Ўсходняга партнэрства», будзе прынятае.

*Лявон:* Вітаю, Алесь! Адкажы, калі ласка, зь якімі праваабарончымі арганізацыямі на Захадзе ў «Вясны» найбольш шчыльныя стасункі? І другое — ці магчымы эфэктыўны ўплыў заходніх праваабаронцаў на рашэньні Брусэлю адносна рэжыму на Беларусі, а таксама — супрацьдзеяньня Крамлю, маючы на ўвазе залежнасьць Эўропы ад расейскіх энэргарэсурсаў?

*Бяляцкі:* Стасункі з замежнымі праваабаронцамі дастаткова трывалыя і шырокія, яны наладжваліся дзесяць гадоў. Мы маем кантакты з найбольш актыўнымі праваабарончымі арганізацыямі ў большасьці эўрапейскіх краінаў. «Вясна» ўваходзіць у Міжнародную фэдэрацыю правоў чалавека, куды ўваходзяць 150 праваабарончых арганізацыяў з больш як 100 краінаў сьвету. Я зьяўляюся віцэ-прэзыдэнтам гэтай арганізацыі, і гэта ставіць пытаньне Беларусі на даволі высокую пазыцыю. Мы прымаем сумесныя заявы, апроч таго, кантактуем зь «Міжнароднай амністыяй» і Камітэтам па правах чалавека ААН, з АБСЭ. Такая ўзаемападтрымка дапамагае дастаткова эфэктыўна працаваць і ўплываць на палітыку розных дзяржаваў у пытаньні стаўленьня да Беларусі, бо аўтарытэт і пазыцыі праваабаронцаў у заходніх краінах непараўнальна вышэйшыя, чым у нас, яны рэальна могуць уплываць на палітыку сваіх урадаў.

Адказ на другое пытаньне — у нейкай ступені пэўны ўплыў ёсьць. Але, на жаль, прамога ўплыву няма. Праваабаронцы ў Расеі хоць маюць большы статус, чым мы ў Беларусі, але ўплываць на палітыку Крамля ня ў стане.

# «Літаральна хапіла дзьвюх косак, дзьвюх кропак, каб адмовіць нам у рэгістрацыі»

12 жніўня 2009

*Вярхоўны суд падтрымаў Міністэрства юстыцыі, якое адмовіла ў рэгістрацыі грамадзкага праваабарончага аб'яднаньня «Наша вясна». Скаргу на Мін'юст падавалі Алесь Бяляцкі, Уладзімер Лабковіч і Валянцін Стэфановіч.*

Судзьдзя Анатоль Церах спаслаўся на тое, што ў пададзеным на рэгістрацыю сьпісе пра чатырох з 71 заснавальніка аб'яднаньня пазначаныя недакладныя зьвесткі. Таксама суд палічыў, што гарантыйны ліст адносна юрыдычнага адрасу нельга прызнаць юрыдычна значным.

*Бяляцкі:* Мы перастаём падаваць паперы на рэгістрацыю. Але будзем максымальна прыцягваць увагу міжнароднай супольнасьці да таго, што ў Беларусі парушаецца права на асацыяцыю. Яны абапіраліся на беларускае заканадаўства абсалютна фармальна. Літаральна хапіла там дзьвюх косак, дзьвюх кропак дзеля таго, каб фармальна адмовіць нам у рэгістрацыі. Відавочна, што рашэньне мае палітычны характар. Вось такая пазыцыя — няма арганізацыі, няма праблемы — ім зараз найбольш зручная. У Беларусі няма свабоды на асацыяцыю. Улады моцна кантралююць гэты працэс і абмяжоўваюць правы грамадзянаў.

## «Усё нагадвае вайсковы шпіталь»

04 лістапада 2009

*Праваабаронца Алесь Бяляцкі з дыягназам «двухбаковая пнэўманія» знаходзіцца ў аддзяленьні пульманалёгіі трэцяга гарадзкога шпіталя Менску. Ён падзяліўся сваімі ўражаньнямі.*

*Бяляцкі:* Знаходжуся ў шпіталі ўжо трэці тыдзень, ад пазамінулай пятніцы. У нас тут яўнае перапаўненьне, перанасяленьне. Таму што зачынілі аддзяленьне гастраэнтэралёгіі, і ўсіх, хто з запаленьнем лёгкіх, засялілі фактычна ў яшчэ адно дадатковае аддзяленьне. Таму што месцаў не хапае. На калідоры ў нашым аддзяленьні пульманалёгіі сёньня ляжыць 17 чалавек проста на ложках, на прыстаўных крэслах, бо няма куды класьці людзей. Усё гэта нагадвае вайсковы шпіталь. Канечне, умовы ўтрыманьня людзей, якія знаходзяцца ў калідоры, не адпавядаюць ніякім стандартам.

Лекаў хапае, тут нічога ня скажаш. Якой яны вытворчасьці, цяжка сказаць, таму што антыбіётыкі мэдыкі мяшаюць, разводзяць у сябе. Курс антыбіётыкаў мяняюць, мабыць, так, як і трэба: то адны, то другія, то трэція...

## «У Беларусі няўрадавых арганізацыяў у 10 разоў менш, чым у Армэніі»

12 лістапада 2009

*Начальнік упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў Міністэрства юстыцыі Алег Сьліжэўскі заявіў, што падрыхтаваны праект закону, які прадугледжвае скарачэньне часу на разгляд рэгістрацыйных дакумэнтаў (цяпер гэты тэрмін складае месяц) і спрашчэньне працэдуры рэгістрацыі.*

Кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі пракамэнтаваў словы чыноўніка.

*Бяляцкі:* Што рэальна хаваецца за гэтымі гучнымі словамі — цяжка сказаць. Бо мы ведаем, што Мін'юст спрабаваў унесьці зьмены ў заканадаўства, якія ніякім чынам не паўплывалі на спрашчэньне працэдуры рэгістрацыі. Што да зьмяншэньня тэрміну — дык месячны тэрмін рэгістрацыі, у прынцыпе, быў, можа, аптымальны, улічваючы меркаваную колькасьць няўрадавых арганізацыяў, якія павінны былі б быць у Беларусі. Я нагадаю, што на душу насельніцтва, калі так можна сказаць, у нас у 10 разоў менш няўрадавых арганізацыяў, чым у Армэніі ці ў Украіне. І зьмяншэньне тэрміну проста паказвае, што рэальна ня так шмат новых пакетаў дакумэнтаў трапляе ў Мін'юст, і яны рэальна могуць разгледзець дакумэнты значна хутчэй. Наконт астатняга — пакуль што гэта толькі абяцанкі-цацанкі.

## «Улада ідзе на ўсё, каб на вачах усяго грамадзтва зламаць людзей»

22 сьнежня 2010

Юры Дракахруст

*У дзень прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня на плошчы перад Домам ураду і ў іншых месцах Менску былі жорстка зьбітыя міліцыяй сотні людзей, многія зь іх затрыманыя.*

Сьпіс асобаў, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці за падзеі 19 сьнежня, апублікаваны на сайце праваабарончай арганізацыі «Вясна». Мы папрасілі пракамэнтаваць яго кіраўніка арганізацыі Алеся Бяляцкага.

*Бяляцкі:* Мы сабралі гэтыя зьвесткі ад сваякоў затрыманых. Ім званілі з КДБ і паведамілі, што іх родныя знаходзяцца ў сьледчым ізалятары КДБ. Яны самі ці іх знаёмыя пацьвердзілі нам гэтую інфармацыю. Мы сёньня займаліся тым, што забясьпечвалі тым з гэтых людзей, у каго іх няма, адвакатаў. Была і яшчэ адна крыніца інфармацыі, якую я не магу назваць. На ўчора ў сьпісе было 16 чалавек.

*Дракахруст:* У гэтым сьпісе даволі вядомыя людзі. Я ня ўбачыў у ім людзей, якія маглі біць шыбы і ламаць дзьверы ў Доме ўраду.

*Бяляцкі:* Тут могуць быць два варыянты. Ці гэта было справакавана спэцслужбамі, і тады канцоў мы ня знойдзем. І другі варыянт — у гэ-

тым маглі ўдзельнічаць гарачыя галовы, якія думалі, што за 5 хвілін можна перакуліць сьвет. І ў такім выпадку гэты сьпіс будзе папаўняцца.

Але я лічу, што вялікага злачынства там не было. Разьбілі шкло. Гэта, безумоўна, правапарушэньне. Але лёгкае. Мы бачым, як ацэньваюцца такія правапарушэньні ў нармальных дэмакратычных краінах. Там гэта адміністрацыйнае правапарушэньне, і такому правапарушальніку могуць выставіць рахунак за тое, каб ён гэтую шкоду кампэнсаваў.

Мы памятаем, як Валер Шчукін біў шкло ў будынку МУС, як Арына Вячорка біла шкло ў міліцэйскім пастарунку, патрабуючы, каб ёй далі інфармацыю пра сына. Шчукін быў пакараны адміністрацыйным арыштам, Вячорка — штрафам.

*Дракахруст:* Як бы вы маглі пракамэнтаваць пакаяньне былога міліцыянта Аляксандра Класкоўскага, відэаролік зь якім быў вывешаны на сайце менскай міліцыі?

*Бяляцкі:* Гэта ўсё ўкладаецца ў сэрыю «эфэктыўнай» працы КДБ, якая, я мяркую, такім жа чынам спрацавала і з спадаром Раманчуком, які таксама зьмяніўся на працягу адной ночы (кандыдат у прэзыдэнты Яраслаў Раманчук выступіў па тэлебачаньні з пакаянным зваротам. — РС). Частка людзей хапаецца за галаву і кажуць — што ж я нарабіў, я ж за яго галасаваў. Падобная практыка псыхалягічнага ўзьдзеяньня на затрыманых людзей з боку КДБ праяўляецца такім чынам, і ня кожны можа гэта вытрымаць, калі ён раней не трапляў у падобныя сытуацыі.

Асабліва калі гэта людзі з кабінэтных работнікаў, інтэлігенцыя. Прапануюцца розныя варыянты выхаду з сытуацыі, пагражаюць, што ты прападзеш канчаткова, і ўсё гэта ідзе на працягу некалькіх гадзінаў. Людзі проста «плывуць». Гэта псыхалягічны ціск, і так яго трэба і ўспрымаць. Сьледчыя КДБ такім чынам паказваюць свой прафэсійны ўзровень. Але мне падаецца, што гэта паказвае нізасьць сёньняшняй улады, якая ідзе на такія крокі, ідзе на ўсё, каб на вачах усяго грамадзтва зламаць людзей.

**Дзяржаўныя структуры Літвы ў рамках супрацоўніцтва з праваахоўнымі органамі Беларусі перадаюць беларускім уладам зьвесткі пра банкаўскія рахункі Алеся Бяляцкага, якія выкарыстоўваюцца для праваабарончай дзейнасьці.**

**У жніўні 2011 году Алесь Бяляцкі затрыманы па абвінавачаньні ў нібыта ўтойваньні даходаў у асабліва буйных памерах.**

**У выніку палітычна матываванага судовага працэсу 24 лістапада 2011 году Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 года пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму за нясплату падаткаў з грошай, якія ён атрымліваў ад замежных праваабарончых фондаў для дапамогі палітычным рэпрэсаваным у Беларусі і іх сем’ям.**

**Пасьля 2020 году падобнага кшталту абвінавачаньні будуць падставай для турэмнага зьняволеньня дзясяткаў людзей.**

**Арышт, а затым і суд над Бяляцкім набылі шырокі грамадзкі розгалас ня толькі ў Беларусі і Літве, але і ў сьвеце. Дзясяткі палітыкаў, праваабаронцаў, дзеячоў культуры і навукі патрабавалі ад кіраўніцтва Беларусі вызваліць Алеся Бяляцкага.**

**Журналісты Свабоды практычна штодня асьвятлялі сытуацыю вакол праваабаронцы — як у рэпартажах, гэтак і ў інтэрвію і дыскусіях.**

# Кантэкст. 2011

**У 2012 годзе ў кніжнай сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» выйшла кніга журналіста Свабоды Валера Каліноўскага «Справа Бяляцкага», прысьвечаная ня толькі судоваму працэсу і абставінам вакол яго, але і асобе праваабаронцы. Кнігу можна лічыць першай біяграфіяй будучага нобэлеўскага ляўрэата.**

## Затрыманы Алесь Бяляцкі

04 жніўня 2011

*4 жніўня супрацоўнікі Дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў Камітэту дзяржкантролю затрымалі кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага. На кватэры і лецішчы Бяляцкага, а таксама ў офісе арганізацыі прайшліператрусы. Бяляцкага вінавацяць паводле крымінальнага артыкула аб «утойваньні прыбыткаў у асабліва буйных памерах». Журналісты Свабоды вялі жывы рэпартаж.*

17.28 «Ён быў затрыманы ў раёне плошчы Перамогі, па папярэдняй інфармацыі — на загад Дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў. Куды ён дастаўлены — пакуль нам невядома, зараз гэта будзе высьвятляць адвакат. І вядома, што ў кватэры Алеся Бяляцкага зараз праводзіцца ператрус. Я думаю, гэта зьвязана з тым, што мы аказвалі ня толькі прававую, але і матэрыяльную падтрымку ахвярам рэпрэсіяў. Думаю, зьвязана менавіта з гэтым», — заявіла супрацоўніца «Вясны» Таццяна Равяка.

Раней мэдыя паведамлялі, што людзі ў цывільным пачалі зьбірацца каля менскага офісу праваабарончай арганізацыі «Вясна» сёньня ў сярэдзіне дня. У двары прыпаркаваліся дзьве машыны зь невядомымі, а пад пад’ездам дзяжурыў участковы. Супрацоўнікі арганізацыі пакінулі офіс, не чакаючы магчымай сілавой акцыі.

17.47 Жонка спадара Бяляцкага Натальля пасьпела паведаміць журналістам БелаПАН, што людзі ў цывільным прад'явілі пастанову наператрус. Аднак яна так і не разабралася, кім канкрэтна папера падпісаная і якая структура праводзіць ператрус.

Як паведаміў «Белсату» праваабаронца Уладзімер Лабковіч, затрыманьне Алеся Бяляцкага зьвязанае зь ягонай грамадзкай дзейнасьцю, а перадусім з той матэрыяльнай дапамогай, якую праваабарончы цэнтар аказваў палітзьняволеным і ахвярам рэпрэсіяў.

17.57 Ператрус у кватэры Алеся Бяляцкага працягваецца. Людзі ў цывільным не дазваляюць праваабаронцу і ягонай жонцы Натальлі кантактаваць з журналістамі, забараняюць размаўляць па тэлефоне.

18.25 Таццяна Равяка паведамляе, што каля офісу «Вясны» стаяць пяць чалавек у цывільным:

«Наколькі мне вядома, гэта супрацоўнікі КДБ і Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржкантролю. Яны чакаюць, калі сюды прывязуць Алеся Бяляцкага, каб правесьці ператрус і на офісе. Пакуль ніякіх дзеяньняў няма, толькі чакаюць».

18.55 Ля офісу «Вясны» па-ранейшаму дзяжураць людзі ў цывільным.

Паводле зьвестак, вобшук у кватэры Алеся Бяляцкага працягваецца, пасьля яго заканчэньня праваабаронцу павінны прывезьці ў офіс, дзе таксама будзе праведзены ператрус, а жонку Натальлю — на лецішча ў Ракаў.

19.32 Да офісу «Вясны» прывезьлі Алеся Бяляцкага. Ён пасьпеў сказаць, што яго абвінавачваюць паводле крымінальнага артыкула за нібыта «ўтойваньне даходаў у асабліва буйных памерах». У офісе пачаўся ператрус. Жонку з сынам павезьлі на лецішча ў Ракаў, дзе таксама будзе ператрус.

19.36 Тры супрацоўнікі спэцслужбаў у цывільным выйшлі з офісу «Вясны» і накіраваліся ў суседні дом.

19.50 Людзі ў цывільным знайшлі двух панятых — мужчыну і жанчыну. Іх прывялі ў офіс «Вясны». Туды ж увялі Бяляцкага, астатнім уваход забаронены. Яшчэ адзін супрацоўнік спэцслужбаў здымае на відэакамэру ўсіх, хто сабраўся ля офісу — перадусім гэта журналісты і праваабаронцы.

19.55 Артыкул Крымінальнага кодэксу, па якім, паводле папярэдніх зьвестак, Алесь Бяляцкі абвінавачваецца нібыта ва «ўтойваньні даходаў у асабліва буйных памерах», прадугледжвае максымальнае пакараньне — пазбаўленьне волі на тэрмін да 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасьці.

20.49 Калегі Алеся Бяляцкага баяцца, што ўжо сёньня праваабаронца можа быць узяты пад варту. Зьміцер Лаеўскі, адвакат Алеся Бяляцкага, цяпер знаходзіцца ў Дэпартамэнце фінансавых расьследаваньняў, і ад яго стала вядома, што пасьля ператрусу Бяляцкі будзе дастаўлены туды на допыт.

21.04 З Праваабарончага цэнтру «Вясна» выйшлі панятыя, якія прысутнічалі падчас ператрусу

ў офісе. Алесь Бяляцкі і супрацоўнікі спэцслужбаў застаюцца ў памяшканьні.

21.15 Алеся Бяляцкага вывелі з офісу і павезьлі на допыт у Дэпартамэнт фінансавых расьследаваньняў Камітэту дзяржкантролю, дзе яго ўжо чакае адвакат.

22.40 Праваабаронца Ўладзімер Лабковіч паведаміў Свабодзе, што Алеся Бяляцкага затрымалі на 3 сутак.

## Літоўскія чыноўнікі не падумалі? Ці не хацелі думаць?

5 жніўня 2011

*Сёньня Міністэрства юстыцыі Літвы паведаміла, што перадало беларускім уладам інфармацыю пра банкаўскія рахункі ў Літве 400 грамадзян Беларусі. Сваё стаўленьне да гэтага выказваюць некаторыя літоўскія палітолягі і палітыкі.*

Выкладчык унівэрсытэту ў Вільні, палітоляг Томас Янялюнас лічыць, што дзеяньні некаторых супрацоўнікаў Міністэрства юстыцыі яго краіны, найхутчэй, трэба разглядаць як хібу чыноўнікаў сярэдняга зьвяна. Яны павінны былі зьвярнуць увагу на матывы, дзеля якіх гэтую інфармацыю патрабавалі беларускія ўлады, кажа палітоляг:

«Ці гэта звычайная працэдура, калі ідзе справа пра адмываньне грошай, ці гэта палітычныя матывы? Яны павінны былі думаць пра тое, што стаіць за гэтымі запытамі. Я думаю, гэты скандал паўплывае на некаторыя кар'еры чыноўнікаў Міністэрства юстыцыі».

Спадар Янялюнас прагназуе, што рашэньне Міністэрства юстыцыі атрымае ў Літве шырокі розгалас:

«Я думаю, што на гэты скандал, які як бы раптоўна ўсплыў сёньня, ужо зьвярнулі ўвагу самыя высокія літоўскія палітыкі. І ў палітычнай

сфэры можна чакаць даволі маштабнай рэакцыі на тое, што адбылося».

Сябра Камітэту міжнародных і эўрапейскіх справаў у літоўскім парлямэнце Эгідзіюс Варэйкіс сказаў Свабодзе, што да азнаямленьня з дакумэнтамі мусіць устрымацца ад камэнтароў:

«Калі гэта сапраўдны факт, то гэта факт, варты жалю. Я не знаходжуся сёньня ў Вільні. Таму мне патрэбна сабраць інфармацыю».

Пра бюракратычную сыстэму кажа і літоўскі палітоляг Лаўрус Бялініс. Аднак ён лічыць, што ў пэўнай ступені адказнасьць за дадзеную акцыю павінны ўзяць на сябе, разам з чыноўнікамі, і некаторыя кіраўнікі краіны:

«Мы павінны таксама разумець, што і літоўская палітычная эліта цяпер асаблівым чынам глядзіць на Беларусь і на рэжым у ёй. З аднаго боку, мы прадстаўляем Эўразьвяз зь ягонымі пазыцыямі. З другога боку, фліртуем з рэжымам. І, найхутчэй, гэта і стала штуршком да таго, каб не зьвяртаць увагі на тое, хто такія гэтыя людзі, пра якіх запытвае афіцыйны Менск. І таму мы маем сёньня такі вынік».

# «Без дапамогі Літвы арышту Бяляцкага не было б»

5 жніўня 2011

*На прэсавай канфэрэнцыі ў Доме правоў чалавека Валянцін Стэфановіч, адзін з кіраўнікоў Праваабарончага цэнтру «Вясна», заявіў, што праваабаронцы маюць доказы выдачы інфармацыі беларускаму боку і сувязі Міністэрства юстыцыі Літвы з гэтай сытуацыяй. У позвах, якія атрымалі ад беларускіх праваахоўных органаў Стэфановіч і Алесь Бяляцкі, былі спасылкі на дадзеныя, дасланыя Міністэрствам юстыцыі Літвы.*

Стэфановіч таксама заявіў, што беларускія праваабаронцы цэняць тую дапамогу, якая ўсе гэтыя гады давалася Літвой для Беларусі, сьведчаньне гэтага — наяўнасьць Дому правоў чалавека, які дзейнічае ў Вільні. Але тым ня менш праваабаронцы глыбока абураныя тым, што менавіта з дапамогай Літвы адбыўся арышт Алеся Бяляцкага.

Без дапамогі Літвы гэтага палітычна матываванага арышту не было б.

Таксама праваабаронцы заявілі, што будуць дамагацца ўсімі сродкамі, каб з боку Літвы была ясная і канкрэтная рэакцыя пратэсту і патрабаваньне вызваліць Бяляцкага.

На пачатку ліпеня Стэфановіч і Бяляцкі былі выкліканы ў падатковую інспэкцыю, якая

прад'явіла праваабаронцам акт і раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў у банках SEB і NORD.

Паколькі ў акце не былі пазначаныя крыніцы атрыманьня інфармацыі пра рахункі, Стэфановіч і Бяляцкі зьвярнуліся да падаткоўцаў з патрабаваньнем удакладніць, адкуль была атрыманая інфармацыя.

«Нядаўна мы гэтыя дакумэнты атрымалі, дзе напісана, што яны атрыманыя зь Міністэрства юстыцыі Літоўскай Рэспублікі ў рамках Пагадненьня аб аказаньні прававой дапамогі па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах паміж Беларусьсю і Літоўскай Рэспублікай», — расказаў Стэфановіч.

Беларускія падатковыя органы палічылі ўсе сумы на гэтых рахунках як асабістыя даходы праваабаронцаў і абвінавацілі іх ва ўхіленьні ад падаткаў: Стэфановіча — па адміністрацыйным артыкуле, а Бяляцкага — па крымінальным.

Згодна з актам беларускай падатковай службы, сума Бяляцкага ў 4,5 тысячы разоў перавышала базавую норму даходу без абкладаньня падаткам, што па беларускіх законах зьяўляецца буйным памерам, а ў выпадку са Стэфановічам «сума не дацягвала да крымінальнага злачынства».

«Гэтыя грашовыя сродкі, якія пералічваліся замежнымі фондамі, ніякім чынам не зьяўляюцца нашымі асабістымі сродкамі, а пералічваліся яны на дзейнасьць Праваабарончага цэнтру „Вясна“. На гэтыя мэты яны і расходаваліся. У тым ліку і на аказаньне дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў», — падкрэсьліў Стэфановіч.

# У Беларусі і ў сьвеце асуджаюць арышт Бяляцкага

5 жніўня 2011

## Прэзыдэнт Эўрапейскага парлямэнту Ежы Бузэк асудзіў арышт Алеся Бяляцкага

У заяве Ежы Бузэка сказана: «З глыбокай занепакоенасьцю я даведаўся, што беларускія ўлады працягваюць перасьлед людзей, якія змагаюцца за свае асноўныя правы. Захоп людзей на вуліцах вяртае нас у цёмнае камуністычнае мінулае, якое мы ня хочам паўтарацьзноў. Гэта недапушчальна на нашым кантынэнце ў XXI стагодзьдзі.

Я заклікаю беларускія ўлады вызваліць Алеся Бяляцкага і іншых несправядліва затрыманых палітычных вязьняў. Такія рэпрэсіўныя дзеяньні будуць толькі збліжаць людзей, аб'ядноўваючы іх дзеля канчатковай мэты — свабоды. Зьмены ў канчатковым выніку прыйдуць у Беларусь, як яны прыйшлі да берагоў Паўночнай Афрыкі. Эўрапейскі парлямэнт заўсёды стаіць на баку беларускага народу».

## Міжнародная фэдэрацыя правоў чалавека заклікае вызваліць Бяляцкага

«З красавіка 2011 году Алесь Бяляцкі быў прадметам паклёпніцкай кампаніі на дзяржаўных каналах радыё і тэлебачаньня, у ходзе якой ён быў прадстаўлены як „вораг народу нумар 1". Яго

арышт зьяўляецца працягам хвалі рэпрэсіяў, якія пачаліся пасьля прэзыдэнцкіх выбараў і вядуць да рэзкага пагаршэньня ў галіне правоў чалавека і грамадзянскіх і палітычных свабодаў у Беларусі. МФПЧ заклікае да неадкладнага і безумоўнага вызваленьня яе віцэ-прэзыдэнта Алеся Бяляцкага».

### «Наш Дом» патрабуе спыніць перасьлед Бяляцкага

Міжнародны цэнтар грамадзянскіх ініцыятываў «Наш Дом» выказаў «рашучы пратэст супраць затрыманьня Алеся Бяляцкага і асудзіў любое выкарыстаньне дзяржаўных інстытуцый у якасьці палітычнай паліцы».

### МЗС Літвы пратэстуе з нагоды арышту Бяляцкага

«Літва разам з партнэрамі ў Эўразьвязе будзе прадпрымаць далейшыя дзеяньні дзеля вызваленьня палітычных зьняволеных у Беларусі», — гаворыцца ў заяве МЗС Літвы.

Міністэрства замежных справаў Літвы ня брала ўдзелу ў рассакрэчваньні банкаўскіх рахункаў кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага. Пра гэта Радыё Рацыя заявіў прэсавы сакратар літоўскага МЗС Міндаўгас Лашас.

Паводле ягоных словаў, з нагоды затрыманьня Бяляцкага зьнешнепалітычнае ведамства Літвы

выступіць з афіцыйным камэнтаром: «МЗС ня браў у гэтым удзелу, а наш камэнтар рыхтуецца».

## Human Rights Watch таксама заступілася за Бяляцкага

«Я ўпэўненая, што лёс Алеся Бяляцкага нікога не пакіне абыякавым — ні міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, ні міжурадавыя арганізацыі. Яго затрыманьне — гэта бязладзьдзе», — сказала Інтэрфаксу намесьніца кіраўніка маскоўскага бюро Human Rights Watch Тацьцяна Лакшына.

«Мы не сумняваемся, што гэтыператрус і далейшае разьвіцьцё сюжэту — палітычна матываваныя дзеяньні. Якія б ні былі абвінавачаньні, што будуць высунутыя супраць Бяляцкага, матывацыя тут — палітычнага толку. Гэта палітычны перасьлед», — сказала прадстаўніца Human Rights Watch.

Яна зазначыла, што ўзімку гэтага году Бяляцкі атрымаў афіцыйнае папярэджаньне ад Генпракуратуры Беларусі аб тым, што яго праваабарончая актыўнасьць ідзе насуперак беларускаму заканадаўству.

## Лябедзька: Затрыманьне Бяляцкага — чыста палітычная справа

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька, камэнтуючы затрыманьне лідэра Праваабарончага цэнтру «Вясна», віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага, адзначыў,

што «справу загортваюць у фінансавую абгортку, але насамрэч пад ёй чыста палітычная справа».

«„Вясна“ — як костка ў горле для ўладаў. Бо яна дапамагае людзям, якія супраць гэтай улады і якія цярпяць ад гэтага рэжыму. Я думаю, што ёсьць спакуса зрабіць такую паказальную справу, магчыма, нават з паказальным судовым працэсам. Гэта ж паўсядзённая практыка ў Беларусі — рабіць такія працэсы, якія зьяўляюцца пасланьнем нейкай групе. Праваабарончы рух у Беларусі ёсьць, гэта рэальнасьць. І гэта праблема для ўлады. Таму трэба стварыць як мінімум нейкі калідор, па якім праваабаронцы хадзілі б, не выходзячы за яго».

Лябедзька адзначае, што «Вясна» вядомая ня толькі ў Беларусі. Яна робіць маніторынг сытуацыі ў краіне, і яе высновы кладуцца ў аснову заяваў розных міжнародных арганізацыяў. І на гэтым грунтуюцца дзеяньні адносна афіцыйнага Менску.

### Літвіна: Бяляцкі — бясстрашны і прынцыповы чалавек

Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна пракамэнтавала затрыманьне сябра арганізацыі, праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

«Тое, што праваабаронцы, сьледам за палітыкамі і журналістамі, сёньня апынуліся ў эпіцэнтры рэпрэсіяў, выглядае абсалютна лягічным. Менавіта яны ўзялі на сябе клопат пра сотні бела-

рускіх палітрэпрэсаваных і іх сваякоў, ня даўшы людзям застацца сам-насам зь бядой, разгубленасьцю, бездапаможнасьцю... Гэта самаахвярная праца, якая вымагае высокага прафэсіяналізму, і нашы праваабаронцы выдатна зь ёй спраўляюцца.

Праваабарончы цэнтар „Вясна“ — гэта арганізацыя, якую добра ведаюць ва ўсім сьвеце. З 2004 году яна ўваходзіць у Міжнародную фэдэрацыю правоў чалавека, а кіраўнік „Вясны“ Алесь Бяляцкі зьяўляецца віцэ-прэзыдэнтам МФПЧ.

Алесь — бясстрашны і прынцыповы чалавек. Ні ён, ні яго калегі ніколі не баяліся публічна адстойваць свае перакананьні, за што ня раз былі прыцягнутыя да адказнасьці. Гэтыя адкрытасьць і цьвёрдасьць даюць надзею, што Алесь дастойна справіцца і з гэтым чарговым выпрабаваньнем.

Мы заклікаем улады неадкладна вызваліць Алеся Бяляцкага і спыніць перасьлед беларускіх праваабаронцаў. Сёньня ўся праваабарончая супольнасьць павінна кансалідавацца вакол гэтых патрабаваньняў», — цытуе прэсавая служба БАЖ Жанну Літвіну.

## Някляеў: Улады спадзяюцца зрушыць зь мёртвай кропкі гандаль палітвязьнямі

Экс-кандыдат у прэзыдэнты, лідэр кампаніі «Гавары праўду» Ўладзімер Някляеў лічыць: арыштоўваючы вядомага праваабаронцу Алеся Бяляцкага, улады спадзяюцца «зрушыць зь мёртвай кропкі гандаль палітвязьнямі».

«Улада бачыць нязломнасьць палітвязьняў, іх сваякоў. За гэты час — што ёсьць, можа, найбольшым дасягненьнем Плошчы і таго, што адбывалася пасьля яе, — ніхто не папрасіўся ў гэтай улады, ня стаў на калені. Усе стаяць мужна, цьвёрда, патрабуючы аднаго — зьменаў палітычнага рэжыму на Беларусі. Як падламаць гэтых людзей? Пазбавіць іх дапамогі. Людзі баяцца найперш за сваіх родных і блізкіх, а потым ужо за сябе. Гэта першая мэта. Але праз яе дасягаецца мэта больш істотная, дзеля чаго гэта і робіцца. Трэба зрушыць зь мёртвай кропкі гандаль палітвязьнямі. Вось чакалі, што за іх будуць грошы. У шмат разоў больш, чым за Казуліна, бо іх у шмат разоў больш цяпер сядзіць у турмах. Грошай няма, значыць, трэба да гэтага зрабіць нейкі крок. Які? Ну вось давайце арыштуем лідэра той арганізацыі, якая найбольш зрабіла дзеля дапамогі палітвязьням, і пакажам, што тут, маўляў, няма ніякай палітыкі».

Уладзімер Някляеў заклікаў усіх дапамагчы «Вясьне», якая дапамагала ўсім, бо «інакш мы будзем жыць ва ўмовах доўгай — такой, як палярная — зімы».

## Мілінкевіч: Гэта відавочны тэрор супраць грамадзянскай супольнасьці

Лідэр руху «За свабоду» Аляксандар Мілінкевіч назваў «сымптаматычным» крымінальны перасьлед кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага.

«Пасьля зачысткі палітычнага поля ўлады ўзяліся за грамадзянскую супольнасьць, якая апошнім часам на тле рэпрэсіяў, наадварот, мацнее. Гэта відавочны тэрор супраць грамадзянскай супольнасьці. Праваабарончы цэнтар „Вясна“ быў адным з самых важных пасярэднікаў салідарнасьці — арганізоўваў збор дапамогі рэпрэсаваным. Калі новых людзей, якія бяруць удзел у пратэстах, рэпрэсіўная машына імкнецца запужаць звыкла арыштамі на суткі і штрафамі, то каб застрашыць „пужаных“, выкарыстоўваюцца карныя мэтады, закамуфляваныя пад барацьбу з эканамічнымі злачынствамі».

## Вячорка: Аўтарытэт Бяляцкага непахісны

Былы лідэр Партыі БНФ Вінцук Вячорка, камэнтуючы затрыманьне Алеся Бяляцкага, адзначыў, што ўлада спрабуе разбурыць «моцную, дзеяздольную сыстэму абароны правоў тых, хто цярпіць ад рэпрэсіяў».

«Алесь муляе гэтым уладам сваёй дзейнасьцю, сваёй адвагай, сваёй прынцыповай пастават ад самага пачатку прыходу гэтай улады. Ягоны велізарны аўтарытэт як у Беларусі, так і, дзякуючы гэтаму ўнутрыбеларускаму, аўтарытэт на міжнароднай арэне абсалютна непахісны. І яны, безумоўна, да яго даўно падбіраюцца. І вось яны, відавочна, вырашылі зрабіць такую атаку на яго. Паспрабаваць разбурыць створаную ягоным дбаньнем моцную, дзеяздольную сыстэму абароны правоў усіх тых, хто мае сваю ўласную

думку, хто цярпіць ад рэпрэсіяў. І яны вырашылі паралельна, відаць, ударыць па ягонай рэпутацыі і па рэпутацыі „Вясны“ вось такім подлым чынам.

Гэта сьведчыць, з аднаго боку, пра рэальную вагу Алеся Бяляцкага як аднаго з найбольш аўтарытэтных грамадзкіх лідэраў цяперашняй Беларусі. З другога боку, гэта сьведчыць пра поўную адвязанасьць цяперашняй улады, бо тут яна наткнецца на вельмі вострую, у тым ліку і міжнародную, рэакцыю. Гэта мала сумяшчальна будзе зь іх спробамі дэмагагічна выпрошваць розныя крэдыты і ўспамажэньні з боку дэмакратычнага сьвету».

## Грыбаўскайце нічога ня ведала

Адміністрацыя прэзыдэнта Літвы пра перадачу дадзеных беларускім праваахоўным органам не была праінфармаваная.

Паведамленьне пра перадачу інфармацыі аб рахунках «Вясны» сталася нечаканым і для Далі Грыбаўскайце, паведаміла Свабодзе прэс-служба канцылярыі прэзыдэнта Літвы. «Прэзыдэнт асуджае арышты людзей паводле палітычных матываў у Беларусі і наяўнасьць у Беларусі палітвязьняў», — сьцьвярджае прэс-служба прэзыдэнта.

## ЗША занепакоеныя арыштам Бяляцкага

Затрыманьне вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага выклікае «вялікую занепакоенасьць» у ЗША. Як гаворыцца ў камэнтары амбасады ЗША ў Беларусі, «затрыманьне

кіраўніка Праваабарончага цэнтру „Вясна“ Алеся Бяляцкага выклікае велізарную занепакоенасьць і зьяўляецца яшчэ адной вартай жалю прыкметай самаізаляцыі Беларусі і яе далейшага адыходу ад эўрапейскіх нормаў і прынцыпаў».

«У дэмакратычным грамадзтве няўрадавыя арганізацыі, такія як „Вясна“ (якой улады надалей адмаўляюць у рэгістрацыі), граюць ключавую ролю ў сыстэме стрыманьняў і проціваг. Прызнаючы гэтую ролю, дзяржавы заканадаўча забясьпечваюць умовы, неабходныя для працы і квітненьня трэцяга сэктару, а не імкнуцца маргіналізаваць грамадзянскую супольнасьць, адмаўляючы ў рэгістрацыі, перасьледуючы і затрымліваючы актывістаў няўрадавых арганізацыяў», — цытуе БелаПАН заяву амбасады ЗША ў Беларусі.

**БНФ патрабуе вызваленьня Бяляцкага**

Партыя БНФ назвала крымінальны перасьлед праваабаронцы Алеся Бяляцкага «палітычнай расправай».

«Усе акалічнасьці справы не даюць магчымасьці ўсумніцца, што матывы перасьледу Алеся Бяляцкага маюць палітычны характар. Праваабарончы цэнтар «Вясна», старшынёй і заснавальнікам якога ёсьць спадар Бяляцкі, даўно назаляў вочы рэпрэсіўнаму апарату дыктатуры. Ня здолеўшы спыніць працу гэтай арганізацыі шляхам незаконнага пазбаўленьня рэгістрацыі і пагрозамі ўжываньня антыканстытуцыйнага

артыкула 193 Крымінальнага кодэксу, рэжым вырашыў «прышыць» падатковы артыкул, у спадзяваньні схаваць у такі спосаб ад міжнароднай супольнасьці рэальную сутнасьць справы.

Партыя БНФ прыкладзе ўсе намаганьні і задзейнічае свае міжнародныя кантакты, каб ува ўсім сьвеце дазналіся пра палітычны характар гэтых падзеяў, бо міжнародны ціск можа стаць фактарам абароны для нашых праваабаронцаў. Партыя БНФ патрабуе неадкладнага вызваленьня Алеся Бяляцкага», — заявіў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

**Паганяйла: Улады хочуць застрашыць праваабаронцаў**

Намесьнік старшыні БХК Гары Паганяйла адзначае, што арышт Бяляцкага для яго — непрымальны факт. Ён ня можа пагадзіцца з тым, што праваабаронцу могуць узяць пад варту.

«Улады так жорстка робяць, бо Бяляцкі — вядомы праваабаронца ў Беларусі, які карыстаецца вялізным міжнародным аўтарытэтам. Гэта легендарная асоба, якая вельмі даўно займаецца абаронай правоў.

Ва ўмовах нагнятаньня абстаноўкі страху, перасьледу іншадумцаў улады хочуць застрашыць праваабаронцаў, магчыма, паралізаваць дзейнасьць Праваабарончага цэнтру „Вясна“, зачыненага ўладамі».

## Шушкевіч лічыць, што Бяляцкі быў небясьпечны для ўлады

Былы старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч пракамэнтаваў арышт кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага.

*Шушкевіч*: Думаю, што ён стаў папярок горла нашай уладзе. Як чалавек, які выводзіць на чыстую ваду тых махінатараў, якія робяць выгляд, што ў нас гэта робіцца па законе, а насамрэч гэта робіцца насуперак прынцыпам, якія запісаны ў нас у Канстытуцыі. А ў нас у Канстытуцыі запісана і дэмакратыя. Бяляцкі рабіў маніторынг, натаваў гэта. І быў небясьпечны для ўлады. Таму яны адшукалі спосаб забраць яго ў няволю. Я ў вялікай роспачы ад гэтага.

# У Літве ствараюць міжведамасную камісію ў справе Бяляцкага

9 жніўня 2011

*У сэйме Літвы на пазачарговым пасяджэньні Камітэту па замежных справах абмяркоўваліся дзеяньні Літвы ў сувязі зь перадачай афіцыйнаму Менску інфармацыі пра рахункі беларускіх апазыцыянэраў.*

Вырашана стварыць міжведамасную камісію і распрацаваць мэханізм, які дапаможа пазьбегнуць такой сытуацыі ў будучыні.

Міністар юстыцыі Літвы Рэмігіюс Шымашус выказаў шкадаваньне з прычыны раскрыцьця фінансавай інфармацыі адносна Алеся Бяляцкага і паабяцаў дапамагаць беларускім апазыцыянэрам, якія цярпяць перасьлед. Пасьля пасяджэньня камісіі Шымашус заявіў, што афіцыйны Менск зламысна скарыстаўся інструмэнтам прававой дапамогі для палітычнай расправы. У выніку гэтага, адзначыў міністар, неабходна карэктаваць як сам мэханізм аказаньня прававой дапамогі, так і супрацоўніцтва ўстаноў Літвы ў гэтай галіне.

# Польшча таксама здала Бяляцкага

11 жніўня 2011

*Польская пракуратура перадала беларускаму боку інфармацыю, датычную Алеся Бяляцкага, паведамляе польскае прэс-агенцтва ПАП.*

Польскі канал TVN24 паведамляе, што Беларусі прадастаўлены выпіскі з рахунку Алеся Бяляцкага ў польскім банку ING.

Польскаму агенцтву друку ПАП у Генпракуратуры Польшчы пацьвердзілі, што ведамства «задаволіла запыт аб прававой дапамозе, які тычыцца Алеся Бяляцкага». «Аднак у запыце ня ўтрымлівалася ніякай інфармацыі, якая магла б указваць на тое, што ён тычыцца апазыцыйнага дзеяча ці апазыцыйнай дзейнасьці», — паведаміў у адказе на запыт ПАП прадстаўнік Генпракуратуры Мацей Куяўскі.

ПАП цытуе меркаваньне дзеяча польскай няўрадавай арганізацыі, які сьцьвярджае, што польская пракуратура перадала Менску інфармацыю пра банкаўскія рахункі Бяляцкага і іншых беларускіх апазыцыянэраў.

## Сікорскі папрасіў прабачэньня праз Twitter

12 жніўня 2011

*«Выбачаюся ад імя Рэчы Паспалітай», — напісаў міністар замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі ў Twitter з прычыны раскрыцьця Польшчай менскім уладам рахункаў беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.*

Міністар назваў гэта «заганнай памылкай, зробленай нягледзячы на засьцярогі МЗС».

«Мы падвоім свае намаганьні дзеля дэмакратыі ў Беларусі», — напісаў Сікорскі.

11 жніўня афіцыйны прадстаўнік МЗС Польшчы Марцін Басацкі прызнаў, што раскрыцьцё рахункаў Бяляцкага — няўдалы крок, які супярэчыць польскай палітыцы ў адносінах да Беларусі.

## «Бяляцкі ёсьць ідэолягам беларушчыны»

6 сакавіка 2013

*У Менску адбылася прэзэнтацыя кнігі праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя беларушчынай».*

Гэтую кнігу Алесь рыхтаваў да свайго 50-годзьдзя, але так атрымалася, што юбілей ён сустрэў у турме, і кніга выйшла пазьней. Затое ў кнізе зьявіліся эсэ і літаратуразнаўчыя артыкулы, у тым ліку напісаныя ўжо за кратамі.

У офісе Партыі БНФ сабралася шмат літаратараў, палітыкаў, праваабаронцаў. Яны адзначалі, што Алесь Бяляцкі — вельмі мужны і таленавіты чалавек. І ён гэта даказаў ня толькі тым, што змагаўся за правы людзей і трапіў праз гэта ў турму, але і тым, што піша выдатныя эсэ і літаратурныя творы.

Уладзімер Някляеў прачытаў верш, прысьвечаны Бяляцкаму. Ён адзначыў глыбіню артыкулаў, асабліва тых, якія тычацца так званай «турэмнай літаратуры». Уладзімер Някляеў лічыць, што дзякуючы менавіта свайму турэмнаму досьведу Алесь Бяляцкі можа так глыбока разьбірацца ў тых рэчах, якія тычацца зьняволеньня.

Генадзь Бураўкін прывёў цытату зь вершаў Валянціна Таўлая — беларускага літаратара 1930-х гадоў — які казаў, што ён вершамі рэжа краты. Гэтую цытату можна прымяніць і да творчасьці

Бяляцкага, лічыць паэт. Ён вітаў вяртаньне Алеся Бяляцкага ў літаратуру, бо той па сваёй адукацыі філёляг, а таксама выказаў пажаданьне, каб Бяляцкі найхутчэй выйшаў на волю.

Літаратар Сяргей Дубавец лічыць, што Алесь Бяляцкі ёсьць ідэолягам беларушчыны — прычым ідэолягам, які заклікае да беларушчыны адкрытай для ўсіх, а не сэктанцкай. Такіх людзей, як Бяляцкі, на думку Сяргея Дубаўца, зараз вельмі не хапае, бо яны дапамагаюць аб'ядноўвацца, ісьці наперад.

Выступалі многія іншыя прамоўцы — вітаючы новую кнігу Алеся Бяляцкага і жадаючы яму хутчэйшага вызваленьня.

Укладаньне кнігі Алесь Бяляцкі пачаў у 2011 годзе на волі, а пасьля арышту працягнуў працу за кратамі — у турмах Менску, Жодзіна, Бабруйску. Гэтую кнігу Бяляцкі меркаваў выдаць да свайго 50-годзьдзя як пэўнае падсумаваньне. Аднак юбілей ён сустрэў у турме.

У кнігу, апроч ранейшых літаратуразнаўчых тэкстаў, увайшлі чатыры эсэ, якія Алесь Бяляцкі напісаў за кратамі. Гэта «Подзьвіг Хвядоса Шынклера» пра малавядомага пісьменьніка 20-х гадоў, які загінуў у Другую ўсясьветную вайну, і рэцэнзія на кнігу паэзіі Сержука Сыса «Стрэмка», а таксама рэцэнзіі на кнігі турэмных вершаў Уладзімера Някляева і Аляксандра Фядуты.

Упершыню ў сучасным літаратуразнаўстве Алесь Бяляцкі ўводзіць тэрмін «беларуская турэмная літаратура».

Уклала кнігу Паліна Сьцепаненка, якой Алесь у лістах з турмы дасылаў свае тэксты. У турме ж Алесь рабіў карэктуру. Афармляў кнігу вядомы графік Уладзімер Вішнеўскі.

Раней Алесь Бяляцкі выдаў свае кнігі «Літаратура і нацыя» (1991) і «Прабежкі па беразе Жэнэўскага возера» (2006).

# «Пераход на беларускую мову быў для мяне працэсам вяртаньня да свайго»

26 сакавіка 2013

*Праваабарончы цэнтар «Вясна» пачынае публікацыю лістоў палітвязьня Алеся Бяляцкага з бабруйскай калёніі, у якіх ён распавядае пра свой шлях да беларушчыны.*

У першым лісьце Алесь Бяляцкі піша, з чаго пачалася ягоная беларускасьць:

«Захапленьне беларушчынай у савецкія часы непазьбежна і аб'ектыўна падводзіла людзей да крытычнага асэнсаваньня рэчаіснасьці. Крыўда за беларускую мову, культуру, гісторыю, якія ў СССР былі прысуджаныя да падзеньня і ліпеньня і ўрэшце да зьнікненьня, выклікала нязгоду і пратэст, расплюшчвала вочы на несправядлівасьць, несвабоду ўсёй савецкай сыстэмы. А нязгода і пратэст штурхалі да дзеяньня. Гэтым шляхам прайшоў багата хто з актывістаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху ў 80-я гады.

Добра памятаю пашыраную зборку моладзевых актывістаў у 1983 годзе, дзе мы, прадстаўляючыся, казалі колькі слоў, як мы прыйшлі да беларушчыны, мелася на ўвазе — да ўсьведамленьня сваёй беларускасьці і жаданьня дзейнічаць. Амаль усе назвалі: крыўда за беларускае.

А з чаго пачалася мая беларускасьць? Згадваючы пра пачаткі свайго нацыянальнага ўсьведамленьня, я назаву некалькі адпраўных пунктаў. І першы — гэта беларуская мова. Аўтэнтычная, чыстая, беларуская моўная стыхія, у якую я акунаўся з галавой, бавячы штогод летнія вакацыі ў бабулі, мамінай маці, у вёсцы Двор (Будніцкі Двор) на Нараўляншчыне. Там ня проста гаварылі па-беларуску, там гаварылі танальна, павышаючы ці паніжаючы тон голасу ў канцы ці пачатку фразаў. Атрымліваліся размовы-сьпевы.

Памятаю, мы з маім старэйшым родным братам Валодзем стаім на двары, паглядаем на дзяўчат, якія ідуць паўз нашую хату зь лесу з кашалямі, поўнымі чарніцаў, і слухаем. Дзяўчаты голасна размаўляюць міжсобку. Валодзя сьмяецца: «Ничего не понятно, о чем они говорят». Мне гадоў дзевяць. Я слухаю пералівы моўнай інтанацыі дзяўчатаў, гэта моўны сьпеў. І ён зачароўвае мяне. І для мяне зусім ня важна, пра што яны гавораць, галоўнае ж — як прыгожа!

Гэта было чыста эстэтычнае захапленьне ад гучаньня беларускай мовы. Пазьней я ніколі не ўспрымаў тое, што чуў часам пра беларускую мову: грубая, немілагучная, неразьвітая. Ды поўная лухта! Беларуская мова, якую я чуў ад простых вясковых людзей, была прыгожая, разьвітая, мэтафарычная, значна багацейшая за квадратныя бедныя, нежывыя канструкцыі рускай мовы, на якой размаўлялі ў горадзе перавучаныя беларусы.

Таму, хоць я і размаўляў зь дзяцінства да 19 гадоў па-руску, пераход на беларускую мову быў для

мяне працэсам вяртаньня да свайго. Таго, што заўсёды прысутнічала ў маёй падсьвядомасьці. Гэта быў салодкі і пакутлівы працэс успамінаў, калі словы, чутыя некалі ў дзяцінстве, узьнікалі ў галаве і самі прасіліся на язык.

Два першыя гады навучаньня ў гомельскім унівэрсытэце я засвойваў беларускую мову, вядома ж, адказваў на іспытах, багата чытаў па-беларуску, часам не ўсур'ёз размаўляў па-беларуску зь сябрамі. А ў 19 гадоў, пасьля сустрэчы зь Вінцуком і Арынай Вячоркамі, Сяргеем Запрудзкім, Міколам Купавам у Менску, я загаварыў у адзін дзень і назаўсёды».

## З кватэры Бяляцкага забіраюць маёмасьць

30 сакавіка 2013

*З кватэры палітвязьня Алеся Бяляцкага судовыя выканаўцы пачалі забіраць рэчы, якія былі раней апісаныя.*

Жонка палітвязьня Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук паведаміла Свабодзе, што напярэдадні зь іх кватэры судовы выканаўца забраў тэлевізар, які быў апісаны яшчэ перад судом над Алесем. «Запомніўся камэнтар судовага выканаўцы. Калі ён выносіў тэлевізар з дому, то казаў: „Не маглі нешта больш каштоўнае апісаць!“». Паводле Натальлі Пінчук — гэта першая маёмасьць Бяляцкага, якую забіраюць з кватэры.

Тым часам сам Алесь Бяляцкі з бабруйскай калёніі працягвае дасылаць калегам лісты, у якіх апісвае свой шлях да беларушчыны. Гэтыя лісты вывешвае на сваім сайце Праваабарончы цэнтар «Вясна», якім кіраваў да арышту Алесь Бяляцкі. Як палітвязень знаходзіць час на пісаньне ўспамінаў? Натальля Пінчук адзначае наступную якасьць свайго мужа.

«Мяркую, на гэта ў яго ідзе ўвесь вольны час, якога ў яго вельмі мала. Гэта праявы такой якасьці, якую ён дэманстраваў і да калёніі. Вялікай працаздольнасьці, якой ён валодае. Ён можа рабіць некалькі справаў адначасова. Бачна, што і зараз, нягледзячы на вялікую загружа-

насьць, бо ён жа і працуе там на вытворчасьці, ён таксама знаходзіць хаця б некалькі хвілін, каб напісаць. Каб усё, што ў ім ёсьць, гэта каб вылілася на паперу. Прычым ня толькі сам піша, а яшчэ ініцыюе, просіць сваіх былых калегаў па музэі пісаць успаміны, каб гэта ўсё потым склалася ў кніжку».

## На паўгода Бяляцкага пазбавілі прадуктовых перадач

16 траўня 2013

*16 траўня жонка палітвязьня Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук наведала бабруйскую калёнію, дзе трымаюць яе мужа.*

Натальля Пінчук перадала Алесю Бяляцкаму рэчавую перадачу і даведалася, што ў сакавіку да жніўня мужа пазбавілі права на харчовыя перадачы.

«За якое парушэньне яго пакаралі, мне невядома, ды я і не цікавілася. Гэта рытарычнае пытаньне — за што? Прычыну знойдуць».

Паводле Натальлі Пінчук, Алесь Бяляцкі тэлефанаваў дамоў на пачатку траўня. У лістах, якія ад яго даходзяць, ён звычайна ні на што ня скардзіцца.

Натальля Пінчук перадала мужу ў калёнію спартовы строй, пасьцельную бялізну ды іншыя рэчы. Гэта была адзіная дазволеная вязьню ў год рэчавая перадача.

## Навошта Алесю Бяляцкаму трэці гадзіньнік?

1 чэрвеня 2013

*Палітвязень Алесь Бяляцкі ў апошнім лісьце паведаміў жонцы, што атрымаў рэчавую перадачу, і асабліва дзякаваў за перададзены ручны гадзіньнік.*

«Гэта ўжо трэці гадзіньнік, які ў яго будзе за час знаходжаньня ў калёніі. Першы зламаўся, другі сарваўся з рукі і разьбіўся. Хай бы з гэтым больш пашанцавала!» — пракамэнтавала навіну Натальля Пінчук.

Чаму гэтак патрэбны гадзіньнік вязьню ў калёніі, дзе, здаецца, усё адбываецца па раскладзе? Натальля Пінчук адказала на гэтае пытаньне:

«Дакладна ня ведаю, але магу меркаваць, што якраз жорсткі расклад і патрабуе ад вязьняў звышпільнасьці і дакладнасьці. Калі я наведвала тую калёнію, то назірала, як праходзіць у іх пастраеньне. Там хвіліна замаруджваньня можа каштаваць вязьню спагнаньня. А гэта можа прывесьці і да абмежаваньня ў пасылках, у званках ці нават у сустрэчах са сваякамі. Яшчэ Алесю, магчыма, проста патрэбна паглядзець на гадзіньнік падчас працоўнага дня. Калі зьмена заканчваецца, павялічваецца стомленасьць, і трэба ведаць, колькі часу засталося. Падобныя рэчы вельмі важныя псыхалягічна. Мы на волі ня

можам і ўявіць, ад якой нібыта драбязы залежыць стан чалавека ў няволі».

Алесь Бяляцкі ў Бабруйскай калёніі працуе на ўпакоўцы вырабаў, якія шыюць іншыя вязьні. У лістах Алесь паведамляў, што працаваць даводзіцца шмат.

# «Беларусы маюць свайго Апостала — Васіля Быкава»

21 чэрвеня 2013

*Палітвязень Алесь Бяляцкі даслаў з бабруйскай калёніі ліст з нагоды дня нараджэньня Васіля Быкава.*

«19 чэрвеня — 89-я ўгодкі з дня нараджэньня Васіля Быкава. Нагадаў пра гэта журналіст і пісьменьнік Аляксандар Лукашук, даслаўшы сваю новую кніжку „Зкімбы-зымбы", палова якой прысьвечаная Васілю Быкаву: інтэрвію зь ім, перапіска, успаміны пра Васіля Быкава. Вельмі важна, што тэксты гэтых інтэрвію захаваліся. Пытаньні Аляксандра Лукашука цікавыя і нетрывіяльныя, зь ясным усьведамленьнем — каму яны задаюцца. І прыцягваюць увагу адказы Васіля Быкава, нясьпешныя, грунтоўныя развагі, насычаныя магутным зьместам.

Чытаючы гэтыя адказы-развагі, я яшчэ раз адчуў і ўсьвядоміў сабе — што значыць для беларусаў Васіль Быкаў. Вялікі чалавек, адзін з бацькоў беларускай нацыі, геніяльны пісьменьнік, які ўзьняў пытаньні быцьця і існаваньня беларускага народу на пазазямны, усяленскі ўзровень. Можа, ня столькі дзеля значнасьці беларусаў, якіх ён і пакутліва любіў, і шкадаваў, лічыў „самым занядбаным народам у Эўропе, да якога мы маем гонар ці няшчасьце належаць".

Васіль Быкаў аб'ектыўна абесьсьмяротніў беларусаў, незалежна ад стаўленьня да гэтага іншых народаў і, урэшце, асабліва не зьвяртаючы ўвагі на жаданьні саміх беларусаў. Ён стварыў узор беларускага характару, архетып беларуса, па якім мы яшчэ доўга будзем вымяраць і свой народ, і саміх сябе.

Літаратурная праца была для Васіля Быкава і мэтаю, і сродкам самавыяўленьня, магчымасьцю адказаць на надзвычай важныя жыцьцёвыя пытаньні. Вырашэньне звышзадачы праз літаратуру робіць творчасьць Васіля Быкава насычанай магутным зарадам энэргіі, што характэрна для сапраўды вялікіх пісьменьнікаў.

У беларускай літаратуры яшчэ адзін пісьменьнік мае талент такога ж прыроднага маштабу. Гэта — Янка Купала. Недарэмна Васіль Быкаў на пытаньне, хто ваш любімы паэт, называе Янку Купалу, а больш дакладна — „творчасьць дасавецкага пэрыяду". І ён адказвае чаму: „Таму што там вельмі шмат, безумоўна, і паэтычных вартасьцяў, гэта само сабой. Апроч таго, нейкая душэўная блізкасьць у ім мне адчуваецца. Блізкасьць характару, ці што. Гэта нейкая шчырасьць, гэта нейкая шчымлівасьць, гэта нейкае вельмі гуманістычнае стаўленьне яго да жыцьця і да чалавека".

Гэтая блізкасьць, пра якую піша Васіль Быкаў, бачыцца мне і ў аднолькавым разуменьні творцамі сваёй ролі ў жыцьці беларускага народу.

Чытаючы вышэйзгаданыя інтэрвію, зьдзіўляесься, зь якой дакладнасьцю Васіль Быкаў вызначаў тыя балючыя праблемы, якія стаялі

перад беларусамі ў канцы XX ст., як ён аналізаваў рэчаіснасьць, як ён не ўхіляўся ад вострых пытаньняў і называў рэчы сваімі імёнамі. Ён асуджаў камунізм: „На практыцы клясычнае ўвасабленьне камунізму — гэта гвалт, кроў, татальны чэкізм, хіба часам прыкрытыя стракатым камуфляжам“. Ён вызначаў ролю Расеі: „Роля Расеі ў нашай гісторыі добра вядомая. Тут усё амаль на паверхні. Каб тое зразумець, вялікіх намаганьняў ня трэба“. Ён называў хібы беларусаў: „Падлегласьць, несамастойнасьць сталі другой натурай пэўнай часткі беларускага народу, якая цяпер у новых сацыяльна-палітычных умовах выявіла сваю поўную няздольнасьць ня толькі да разьвіцьця, але і да існаваньня без апекі «старэйшага брата»“. Ён аддаваў даніну павагі беларускім адраджэнцам: „трагічнасьці лёсу гэтых людзей, безагляднасьці іх гераізму ў барацьбе за растаптаную ідэю беларушчыны“. Ён усьведамляў ролю беларускай інтэлігенцыі на сучасным этапе: „Перад беларускай інтэлігенцыяй, яе творчым цэхам стаіць усё тая ж ранейшая мэта, вышэй за якую няма і, мабыць, ня будзе, пакуль ідэя адраджэнцаў ня будзе ажыцьцёўленая“. Ён рэальна ацэньваў грамадзкую сытуацыю ў краіне: „Пры цяперашняй палітычнай апатыі грамадзтва вельмі нават магчыма, што да салодкага пірага ўлады пралезуць ня самыя лепшыя, а як і раней — самыя нахабныя, бессаромныя, хцівыя, усё тыя ж камуністы, хіба што адаптаваныя да новых умоваў, але з ранейшымі мэтамі. Ну, але што рабіць — чаго вартыя, тое і маем“.

Гэта выказваньні і ацэнкі Васіля Быкава толькі з аднаго інтэрвію, дадзенага ім у жніўні 1993 году.

У выказваньнях і развагах Васіля Быкава, выкладзеных у інтэрвію, можна знайсьці адказы на многія жыцьцёвыя пытаньні.

Значная роля Васіля Быкава ў абароне маладзевага нефармальнага руху другой паловы 80-х гадоў, у арганізацыі шырокага дэмакратычнага руху ў Беларусі, у асуджэньні таталітарызму, у адраджэньні слушных нацыянальных арыенціраў у жыцьці беларускага народу.

Вялікае значэньне для беларускага праваабарончага руху мае тое, што Васіль Быкаў быў адным з ідэйных натхняльнікаў і заснавальнікаў першых беларускіх праваабарончых арганізацыяў: „Мартыралёг Беларусі“, „Беларускі ПЭН-цэнтар“, „Беларускі Хэльсынскі камітэт“.

Вялікая творчая спадчына Васіля Быкава, ягоныя мастацкія і грамадзкія погляды могуць і павінны быць узорам для нас і для наступных пакаленьняў. Беларусы маюць свайго Апостала. Нам ёсьць у каго вучыцца, як нам належыць жыць.

*Бабруйск, 11 чэрвеня 2013».*

# «Ацэнкі Бяляцкага — безапэляцыйныя і гранічна суб’ектыўныя»

20 ліпеня 2013

*Кніга Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя беларушчынай» вылучаная на прэмію імя Францішка Аляхновіча, заснаваную Беларускім ПЭН-цэнтрам і Радыё Свабода за творы, напісаныя ў турме. Пра кнігу разважае літаратурны крытык Ціхан Чарнякевіч.*

«Розныя людзі, розныя кнігі, і толькі адна на ўсіх — турма. Яна аб’ядноае каго хочаш, нават самых баявітых апанэнтаў, ня толькі пісьменьнікаў. Але ў тым і справа, што ўспрымаеш іх, хто пабываў там, як нешта цэлае. Мажліва, так яно і трэба. Вось толькі кнігі паказваюць, што ў аднолькавай сытуацыі, нават такой памежна-«быкаўскай», як турэмная, людзі застаюцца самімі сабой — адметнымі ў сваіх адрозьненьнях.

…У кнізе каталіка Бяляцкага няма ніякай няпэўнасьці і дэтэрмінізму. Ён сам, паводле свабоднай волі, вызначае шлях і сваю мэту. Тое, што спасьцігае яго на гэтым шляху, прадугледжваецца ім загадзя, ён заўсёды гатовы несьці за гэта адказнасьць. Бяляцкі сам — творца свайго жыцьця, таму і ацэнкі яго — безапэляцыйныя і гранічна суб’ектыўныя. Мэтафізычнае, няўлоўнае адштурхоўвае яго…

Кнігу Бяляцкага адрозьнівае яснасьць пазыцыі і яснасьць стылю: не захапляючыся літаратурнасьцю, ён тым ня менш застаецца вытанчаным стылістам, мова яго натуральная і празрыстая. Як і мэта — незалежная нацыянальная прававаая дзяржава, дзеля якой ён можа дараваць усё сваім сябрам і ў якой аб’ядноўваюцца ўсе ягоныя рэфлексіі з нагоды беларускай літаратуры».

## ЗША заклікаюць вызваліць Бяляцкага

3 жніўня 2013

*З адмысловай заявай з нагоды чарговай гадавіны арышту праваабаронцы выступіла прадстаўніца ДзяржДэпартамэнту Мары Гарф.*

4 жніўня — другая гадавіна арышту кіраўніка вядучай беларускай праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага.

«Мы шануем намаганьні Бяляцкага па абароне слабых і падтрымку самых высокіх стандартаў у галіне правоў чалавека, нягледзячы на перасьлед беларускіх уладаў. Мы зноў заклікаем урад Беларусі неадкладна вызваліць Бяляцкага і ўсіх палітычных зьняволеных і аднавіць іх грамадзянскія і палітычныя правы. Мы зь нецярплівасьцю чакаем дня, калі большая павага да дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі дазволіць нам палепшыць двухбаковыя адносіны», — гаворыцца ў заяве.

У 2011 годзе ДзяржДэпартамэнт ЗША прысудзіў Алесю Бяляцкаму сваю штогадовую прэмію ў галіне правоў чалавека.

# У Магілёве актывістку затрымалі за паштоўкі пра Бяляцкага

4 жніўня 2013

*У цэнтры Магілёва супрацоўнікі АМАПу затрымалі моладзевую актывістку Дзіяну Якаўлеву, якая раздавала мінакам паштоўкі з інфармацыяй пра Алеся Бяляцкага.*

Двое супрацоўнікаў міліцыі адвялі дзяўчыну ў пастарунак і сказалі, што яна затрымліваецца для высьвятленьня асобы.

Дзіяна Якаўлева брала ўдзел у акцыі з нагоды Міжнароднага дня салідарнасьці з грамадзянскай супольнасьцю і праваабаронцамі Беларусі. Пасьля апытаньня актывістку выпусьцілі з пастарунку.

Як паведаміла Свабодзе Дзіяна, яна ўпершыню брала ўдзел у публічнай акцыі інфармаваньня грамадзкасьці пра сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі і, нягледзячы на затрыманьне, не шкадуе пра гэта.

«Яны выпытвалі ў мяне, дзе я ўзяла паштоўкі, хто мне кажа пра апазыцыйныя ідэі, дзе знаходзіцца ў Магілёве офіс «Вясны». Яны так называлі яго. Я сказала, што сёньня дзень салідарнасьці зь Бяляцкім і я раздавала паштоўкі. Віны я за сабой ніякай не адчуваю. Я хацела паінфармаваць людзей, што ў нас ёсьць чалавек, які займаўся абаронай людзей, і цяпер ён у турме», — заявіла Дзіяна Якаўлева.

Калі дзяўчыну апытвалі, у пастарунак зайшоў магілёўскі праваабаронца Аляксей Колчын і заявіў, што гэта ён даў Дзіяне паштоўкі. На пытаньні міліцыянтаў актывіст адмовіўся адказваць. Назваў толькі сваё імя і месца жыхарства. Пасьля фармальнасьцяў, зьвязаных з апытаньнем, Аляксея Колчына таксама адпусьцілі.

Ні Якаўлевай, ні Колчыну міліцыянты не сказалі, што іх чакае далей.

## 6 мільёнаў штрафу — за паштоўкі з выявай Алеся Бяляцкага

6 жніўня 2013

*6 жніўня ў судзе Савецкага раёну Менску разгледжаны адміністрацыйныя справы сяброў Праваабарончага цэнтру «Вясна» Тацяны Равякі і Ўладзімера Лабковіча. Іх пакаралі штрафам па 30 базавых велічыняў кожнага — то бок па 3 мільёны рублёў.*

Тацяну Равяку і Ўладзімера Лабковіча зьбіраліся асудзіць яшчэ 5 жніўня за тое, што праваабаронцы каля сталічнага ЦУМу раздавалі мінакам паштоўкі салідарнасьці з кіраўніком «Вясны», палітвязьнем Алесем Бяляцкім. Іх даставілі ў пастарунак, склалі пратаколы за парушэньне парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў і адвезьлі ў суд. Але пратаколы былі складзеныя з памылкамі, і суд вярнуў іх на дапрацоўку. Міліцыянты пратаколы хуценька дапрацавалі.

Раніцай у Савецкім РУУСе праваабаронцы азнаёміліся з новымі пратаколамі, і адразу іх зноў даставілі ў суд. Справу Ўладзімера Лабковіча разглядаў судзьдзя Дзьмітрый Паўлючэнка. Юрыст па адукацыі Лабковіч віны сваёй не прызнаў, прачытаў дакладную фармулёўку закону і абгрунтавана давёў, што пікетаваньня не было: не было плякатаў і транспарантаў, не было папярэдне сабранага народу і гэтак далей. А прыватная мэта праваабаронцаў — праінфармаваць грамадзтва,

а не праводзіць масавае мерапрыемства. Судзьдзя ўсё ўважліва выслухаў і праз 20 хвілін вынес рашэньне: штраф 30 базавых велічыняў. Вось як гэтае рашэньне пракамэнтаваў сам Уладзімер Лабковіч:

«Я катэгарычна адмоўна стаўлюся да прысуду, лічу яго абсалютна незаконным. Нашы дзеяньні — і мае, і Тацяны — не падпадаюць пад Закон аб масавых мерапрыемствах, таму што раздача паштовак, улётак грамадзянам не ўяўляе сабой прыкмету масавага мерапрыемства. Безумоўна, я буду абскарджваць гэты прысуд самым бліжэйшым часам».

Цікава, што калі судзьдзя Дзьмітрый Паўлючэнка выйшаў у дарадчы пакой, пачаўся працэс над Тацянай Равякай. І якраз калі адвакатка абгрунтоўвала сваю лінію абароны, прыйшла ўжо СМС-ка, што Лабковіча аштрафавалі. Усе прысутныя ўздыхнулі з палёгкай, бо Тацяна прыйшла ў суд з усімі неабходнымі на Акрэсьціна рэчамі — не выключала, што пасадзяць на «суткі». Судзьдзя Марына Фёдарава даволі хутка вынесла прысуд — таксама 30 базавых. Вось як ацэньвае яго сама Тацяна Равяка:

«Мае дзеяньні не зьяўляюцца пікетаваньнем і не падпадаюць пад тое азначэньне, якое дадзена ў законе. І гэта была асноўная мая лінія абароны, і майго адваката таксама. Аднак суд палічыў, што раздача паштовак зьяўляецца пікетаваньнем. Я думаю, што гэта вельмі адвольнае трактаваньне закону і вельмі адвольнае трактаваньне самога

паняцьця „пікетаваньне“. Зразумела, што мы з адвакатам будзем абскарджваць рашэньне».

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч сказаў, што тэндэнцыя трывожная: зараз любы выхад на вуліцу з мэтай распаўсюду друкаваных матэрыялаў можна будзе кваліфікаваць як несанкцыянаваны пікет.

# У калёніі ня хочуць здымаць спагнаньні зь Бяляцкага

19 жніўня 2013

*Адміністрацыя бабруйскай калёніі № 2 не знайшла падстаў для адмены спагнаньняў у дачыненьні да Алеся Бяляцкага.*

Адміністрацыя папраўчай калёніі № 2 гораду Бабруйску, дзе адбывае пакараньне праваабаронца Алесь Бяляцкі, не знайшла падстаў, каб скасаваць накладзеныя на палітвязьня спагнаньні.

Пра гэта сказана ў лісьце часовага выканаўцы абавязкаў начальніка калёніі Талкачова ў адказ на зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў, сябрам якой зьяўляецца Бяляцкі.

Афіцыйны зварот арганізацыі быў накіраваны ў калёнію 4 жніўня. Прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) паведамлялі, што валодаюць інфармацыяй аб прымяненьні да Бяляцкага «неабгрунтаваных мер пакараньня», у прыватнасьці, пазбаўленьня запланаванага на ліпень спатканьня з жонкай і магчымасьці атрымаць чарговую прадуктовую перадачу. Журналісты прасілі адмяніць гэтыя пакараньні і ў бліжэйшы час дазволіць праваабаронцу сустрэчу з жонкай.

Як вынікае з адказу з калёніі, асуджаны Бяляцкі пакараны ў адпаведнасьці з Правіламі ўнутранага распарадку, пакараньне адпавядае цяжкасьці дапушчаных ім парушэньняў.

Варта адзначыць, што 7 жніўня, праз некалькі дзён пасьля таго, як БАЖ адправіла ў калёнію зварот, Бяляцкаму ўсё ж дазволілі перадаць прадукты — гэта была першая з пачатку году харчовая перадача.

## Lidové noviny: Бяляцкі — найбліжэйшы да асобы Вацлава Гавэла

28 жніўня 2013

*Чэская прэса лічыць, што найбольшыя шанцы атрымаць прэмію Вацлава Гавэла — у Алеся Бяляцкага.*

Што пераважыць пры прысуджэньні прэміі Вацлава Гавэла: арыгінальнасьць намінанта, яго сусьветная вядомасьць альбо эфэкт падтрымкі, разважае чэская газэта Lidové noviny.

Яшчэ калі засноўвалася праваабарончая прэмія імя Вацлава Гавэла, чэскія праваабаронцы і журналісты адзначалі, што яна сутыкнецца з канкурэнцыяй. Бо ўзнагарода мае амбіцыі стаць прэміяй эўрапейскага маштабу, супастаўнай з Сахараўскай прэміяй за свабоду думкі. Стаяла задача знайсьці намінантаў, якія мелі б «гавэлаўскае» рэнамэ. Было адабрана трое прэтэндэнтаў: Алесь Бяляцкі, грузінская Асацыяцыя маладых адвакатаў і кітайская Суполка ў абарону правоў чалавека.

«Выбар будзе нялёгкі, — пішуць Lidové noviny. — Калі весьці размову пра арыгінальнасьць, то варта было б аддаць узнагароду прэтэндэнту з Грузіі, бо яшчэ ніхто з Грузіі не атрымліваў прэстыжнай праваабарончай прэміі. Калі мець на ўвазе маштабнасьць — тут на першае месца выходзіць Кітай. Але што да эфэкту

падтрымкі — узнагароды найбольш заслугоўвае Алесь Бяляцкі».

Газэта адзначае, што ў гэтым выпадку, вядома, прападае арыгінальнасьць, бо беларускую апазыцыю ўжо ўзнагароджвалі прэміяй Сахарава ў 2004 і 2006 гадах, больш за тое — самому Алесю Бяляцкаму ў 2005 годзе арганізацыя «Чалавек у нядолі» прысуджала прэмію Homo Homini. «Але таму, хто пры Лукашэнкавым рэжыме асуджаны за ўхіленьне ад выплаты падаткаў — за тое, што на ягоны рахунак прыходзілі грошы з-за мяжы — гэтая прэмія была б да месца. Бо была б вельмі добра зразумелай у краіне Вацлава Гавэла, дзе дысыдэнты ў свой час самі сутыкаліся з «валютнымі парушэньнямі».

Прэмія Гавэла — міжнародная, і вырашаць яе лёс будзе міжнароднае журы, але калі разважаць, хто самы блізкі да асобы Вацлава Гавэла, то гэта менавіта Алесь Бяляцкі, падсумоўваюць Lidové noviny.

# «Званок таксама як момант сустрэчы»

7 верасьня 2013

*Алесь Бяляцкі, якога трымаюць у Бабруйскай калёніі, працягвае ліставаньне з домам і сябрамі, а часам мае магчымасьць патэлефанаваць, паведаміла жонка палітвязьня Натальля Пінчук.*

«Раз на тыдзень, бывае — раз на два тыдні ад яго прыходзяць лісты. Калі нейкі час я не атрымліваю, то пытаюся ў сяброў ды знаёмых і даведваюся, што ім таксама піша. Таму бачу, што ліставаньне ідзе, зь ім нібыта ўсё нармальна, больш-менш. Часам, бывае, і звоніць. Настрой у званках заўсёды добры, бадзёры. Вось як і ў апошнім спатканьні быў бадзёры, гэтак і падчас тэлефонных размоў. Званок — гэта заўсёды як момант сустрэчы, і голас таму радасны. А так у яго тое ж самае — праца, праца. Рэжым у яго вызначаны на ўвесь тэрмін і не мяняецца, хіба толькі з пагаршэньнем і вяртаньнем да вызначанага парадку».

Паводле Натальлі Пінчук, яе муж можа патраціць у турэмнай краме толькі 100 тысяч рублёў штомесяц. «Гэта вельмі малыя грошы, і, безумоўна, „атаваркі“ яму не хапае», — мяркуе жонка Алеся Бяляцкага.

## Пазьняк і Бяляцкі падтрымалі зварот сяброў аргкамітэту БНФ

11 верасьня 2013

*Група сяброў аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, утворанага 19 кастрычніка 1988 году, прыняла зварот да 25-годзьдзя БНФ.*

«Неўзабаве, 19 кастрычніка сёлета, спаўняецца чвэрць стагодзьдзя ад моманту, калі на гістарычным паседжаньні ў будынку касьцёла Сьв. Сымона і Алены (тагачаснага Дому кіно) на прапанову Зянона Пазьняка, падтрыманую Васілём Быкавым, быў утвораны Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне», гонар працаваць у складзе якога выпаў і на нашую долю», — гаворыцца ў звароце.

Падпісанты нагадваюць, што «ўжо ў першай сваёй заяве Аргкамітэт выступіў за „перабудову грамадзтва на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму“, за „сувэрэнітэт Беларусі“, за „падпарадкаваньне эканомікі інтарэсам чалавека“, за „сацыяльную справядлівасьць“, за „прававую дзяржаву“, за „экалягічна чыстую Беларусь“, за „адраджэньне і дзяржаўнасьць беларускай мовы“». А ў першай праграме была абвешчаная галоўная мэта БНФ — „свабодны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі“. Бо ня можа захаваць незалежнасьць несвабодны народ.

Дзякуючы актыўнасьці жывога беларускага грамадзтва, намаганьням тых франтаўцаў, якія

былі дэпутатамі Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня і мясцовых саветаў, і тых, што ў розных гарадах ачолілі барацьбу народу за будучыню сваёй краіны, беларусам удалося вырашыць галоўную гістарычную задачу — 25 жніўня 1991 году заканадаўча замацаваць незалежнасьць Беларусі і дамагчыся яе міжнароднага прызнаньня».

У звароце адзначаецца, што «інтэлектуальны патэнцыял сяброў БНФ, іх актыўная і самаахвярная праца дапамаглі нашай краіне, асабліва ў пачатку 90-х гадоў, пачаць увасабленьне ідэяў і праграмных мэтаў Беларускага Народнага Фронту. Менавіта Беларускі Народны Фронт на пачатку 90-х гадоў заклаў падмурак дэмакратычнай шматпартыйнасьці і парлямэнтарызму ў Беларусі. А гераічная Вясна 1996 году прадэманстравала нашую рашучасьць і волю ў абароне Незалежнасьці і Свабоды ад замахаў антыбеларускіх сілаў».

Разам з тым, пішуць аўтары звароту, «далейшае ўнутрыпалітычнае разьвіцьцё Рэспублікі Беларусі, неспрыяльная геапалітычная сытуацыя пакуль не дазволілі належна зьдзейсьніцца ўсяму, пра што мы марылі чвэрць стагодзьдзя таму. У дзяржаве вядуць рэй тыя, хто топча свабоды, хто нішчыць падмурак незалежнасьці — нацыянальныя каштоўнасьці ды беларускую мову, хто цягне нашу краіну ў новаімпэрскія цянёты. Але ж мы маем сотні тысяч аднадумцаў, франтаўцаў паводле сваіх перакананьняў. Мы ўпэўненыя, што ўсіх нас не пакіне абыякавымі 25-годзьдзе заснаваньня Беларускага Народнага Фронту —

руху за незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны і свабоду яе народу».

Былыя сябры аргкамітэту БНФ заклікаюць «усіх грамадзян Беларусі, усіх беларусаў, якія падзяляюць фронтаўскія каштоўнасьці ды не зьбіраюцца мірыцца з таптаньнем або дыскрэдытацыяй фронтаўскіх ідэалаў, ушанаваць юбілей заснаваньня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“, вярнуць духоўнае і інтэлектуальнае лідэрства тым колам грамадзтва, якія адстойваюць незалежнасьць, свабоду і нацыянальна-культурнае Адраджэньне як непарыўныя ідэалы. Няхай у гэтай справе нас яднаюць спрадвечныя нашыя герб „Пагоня“ і бел-чырвона-белы сьцяг».

Зварот падпісалі сябры аргкамітэту БНФ народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, сябра Саюзу мастакоў Аляксей Марачкін, дацэнт, старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны» Алег Трусаў, сябра Саюзу мастакоў Мікола Купава, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, прафэсар Анатоль Грыцкевіч, дацэнт, Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Рэспублікі Беларусь Пётра Садоўскі, намесьнік рэдактара часопіса «Спадчына» Вінцук Вячорка, пэдагог-мэтадыст, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Генадзь Тумаш, журналіст, прадпрымальнік Алесь Суша, музэйны работнік Анатоль Варава, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Павал Зьмітрук.

Радыё Свабода таксама атрымала лісты ад двух іншых членаў Аргкамітэту БНФ.

«Віншую сяброў Аргкамітэту БНФ „Адраджэньне“ з надыходзячай датай 25-годзьдзя ўтварэньня БНФ у кастрычніку гэтага году, — піша Зянон Пазьняк. — Ухваляю зварот сяброў Аргкамітэту да грамадзянаў Беларусі з заклікам падтрымліваць ідэалы БНФ, дэкляраваныя 25 гадоў таму, якія прывялі наш народ да дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і перамогі над камунізмам. Далучаюся да зьместу Звароту. Вітаю сяброў Аргкамітэту».

«Лічу, што адзначыць 25-я ўгодкі паседжаньня ў Чырвоным касьцёле — гэта вельмі слушная задума. Зварот падтрымліваю. Алесь Бяляцкі, Бабруйск, калёнія № 2».

Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» быў створаны 19 кастрычніка 1988 году. Устаноўчы зьезд адбыўся ў Вільні 24–25 чэрвеня 1989 году.

## Мытня не аддае кнігі Алеся Бяляцкага

13 верасьня 2013

*Афіцыйныя экспэрты прызналі, што кніга Алеся Бяляцкага можа нанесьці шкоду іміджу Рэспублікі Беларусь.*

Беларускія мытнікі забралі ў праваабаронцы Тацяны Равякі 40 асобнікаў кнігі зьняволенага старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай». Кнігі забралі 3 ліпеня, калі Равяка везла іх зь Літвы, дзе яны былі надрукаваныя, у Беларусь для сяброў Алеся Бяляцкага. Дагэтуль кнігі мытнікі не вярнулі.

Адзін асобнік мытнікі даслалі экспэртам з Горадзенскага ўнівэрсытэту, якія прыйшлі да высновы:

«Вытрыманы аўтарам стыль выкладу і рыторыка могуць падштурхнуць чытача да ілжывых высноў і меркаваньняў, у далейшым могуць быць няправільна вытлумачаныя і зразуметыя ў грамадзтве і справакаваць дзейнасьць, зьвязаную з распальваньнем нацыянальнай варожасьці, палітычнай ці ідэалягічнай варожасьці».

«Што рабіць далей — незразумела. У гэтым выпадку ня дзейнічае палажэньне аб экстрэмісцкай літаратуры, якую зьнішчаюць, — экстрэмісцкай кнігу Алеся не прызналі. Мне прапануюць увезьці кнігі назад на тэрыторыю Літвы альбо заплаціць мыта, як на тавар для камэрцыйнага

выкарыстаньня. Я з гэтым не пагаджаюся і буду далей абскарджваць у мытных органах», — заявіла Свабодзе Тацяна Равяка.

Сёньня яна накіравала дзьве чарговыя скаргі, каб вызваліць кнігі палітвязьня.

Сам Алесь Бяляцкі змог патрымаць сваю кнігу ў руках — яму пераслалі яе ў бабруйскую турму. Прэзэнтацыя кнігі «Асьвечаныя Беларушчынай» прайшла 6 сакавіка ў Менску.

## Алесь Бяляцкі атрымаў прэмію Вацлава Гавэла

30 верасьня 2013

*Прэзыдэнт Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы абвясьціў Алеся Бяляцкага ляўрэатам прэміі імя Вацлава Гавэла на восеньскай сэсіі ў Страсбуры.*

Жонка Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук, якая прысутнічае на цырымоніі ў Страсбуры, у сваёй прамове сказала: Бяляцкі ад самага пачатку свайго шляху змагаўся за незалежную і дэмакратычную Беларусь. Натальля Пінчук нагадала пра іншых беларускіх палітзьняволеных і падкрэсьліла, што іх вызваленьне павінна быць умовай кантактаў з уладамі Беларусі.

Вось кароткі пераказ яе прамовы:

«Барацьба за абарону правоў людзей стала асновай для стварэньня Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў 1996 годзе. Алесю нялёгка, ён у больш жорсткіх умовах, чым іншыя вязьні, яго абмяжоўваюць у кантактах з блізкімі ды іншымі вязьнямі, ён зазнае моцны ціск адміністрацыі. Улады ўсялякімі спосабамі дамагаюцца, каб Алесь напісаў пакаяньне на імя Лукашэнкі. У турмах Беларусі яшчэ 10 палітвязьняў, якія зрабілі свой выбар на карысьць дэмакратыі і свабоды. Тым часам сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пагаршаецца... Я спадзяюся, што эўрапейскія структуры як гаранты і абаронцы дэмакратыі і свабоды не адступяцца ад сваёй прынцыповай

пазыцыі... Прэмія, якую атрымаў Алесь, — гэта знак салідарнасьці ня толькі зь ім, але і з усёй беларускай дэмакратычнай супольнасьцю. Сымбалічна, што гэтая прэмія мае імя Вацлава Гавэла. Гавэл — гэта сымбалічная постаць для дэмакратаў Беларусі. Алесь ня раз казаў, што Гавэл — гэта прыклад для яго. Незадоўга да сваёй сьмерці Гавэл накіраваў Алесю ў турму ліст падтрымкі. Алесь піша, што для яго гэты ліст стаў праменем надзеі і салідарнасьці. Я таксама спадзяюся, што гэты прамень салідарнасьці дапаможа Алесю і яго паплечнікам выйсьці пераможцамі ў іх барацьбе за справядлівасьць...»

Мэта прэміі Вацлава Гавэла — заахвочваньне выбітных дзеячоў грамадзянскай супольнасьці ў абароне правоў чалавека ў Эўропе і за яе межамі.

## Памылка Бяляцкага

30 верасьня 2013

Аляксандар Лукашук

*Гэта ўжо другая прэмія Алеся Бяляцкага, зьвязаная з Вацлавам Гавэлам. У 2006 ён атрымаў зь яго рук узнагароду Homo Homini. Сёньня Алесю была прысуджана прэмія імя вялікага эўрапейскага дысыдэнта.*

Прэмія імя Вацлава Гавэла, якую Парлямэнцкая асамблея Рады Эўропы прысудзіла Алесю Бяляцкаму, мае, апроч ляўрэата, тры адрасаты.

Першы — гэта сям'я, калегі, сябры, знаёмыя Алеся, усе, хто падзяляе яго каштоўнасьці, яго барацьбу.

Другі — гэта ўсе палітвязьні ў Беларусі. Вас памятаюць, пра вас не забыліся, Ігар Аліневіч, Мікалай Аўтуховіч, Алесь Бяляцкі, Яўген Васьковіч, Мікалай Дзядок, Эдуард Лобаў, Арцём Пракапенка, Павал Севярынец, Мікола Статкевіч.

Трэці — сама эўрапейская супольнасьць. Гэта сьведчаньне, што маральныя каштоўнасьці могуць і павінны вызначаць палітычныя паводзіны ў Эўропе ў XXI стагодзьдзі. Гэта напамінак Беларусі, што яна — эўрапейская краіна, частка эўрапейскай сям'і, неадрыўная ад каштоўнасьцяў дэмакратыі, свабоды і правоў чалавека.

Натальля Пінчук, якая прымала прэмію ад імя зьняволенага мужа, згадала ліст Вацлава Гавэла,

які на просьбу Радыё Свабода ў канцы 2011 году Гавэл напісаў беларускім палітвязьням. Яна працытавала словы Алеся з турмы:

«Пісьмо Гавэла — самае каштоўнае, што я маю тут».

Падтрымка Гавэла сёньня зноў дасягнула вязьня ў бабруйскай турме.

Калі Алесь Бяляцкі сядзеў яшчэ ў Жодзінскай турме, ён пісаў адтуль пра Гавэла:

«За што я яго паважаў і паважаю — за сапраўдную, не каньюнктурную салідарнасьць з дэмакратычнымі сіламі, зь беларускім народам. Я проста на духоўным узроўні пры сустрэчы адчуваў, што мы зь ім адной крыві. Нягледзячы на тое, што ён быў два тэрміны прэзыдэнтам Чэхіі, улада не сапсавала яго. Я, вядома, паважаў яго за інтэлігентнасьць, за тое, што ён быў сусьветна вядомым пісьменьнікам. І за той стаіцызм, зь якім ён пераносіў рэпрэсіі ў дачыненьні да яго. Ён выступаў за правы чалавека і перасьледаваўся ў значна больш жорсткія часы. Але ў яго была высокая непахісная вера ў тое, што ён мае рацыю і што чэскі народ варты лепшага. На жаль, зь ягонай сьмерцю ў беларусаў, у дэмакратычна настроеных грамадзянаў, на аднаго сябра ў сьвеце стала меней».

Алесь памыліўся. Вацлаў Гавэл застаецца сябрам і павялічвае колькасьць сяброў дэмакратычнай Беларусі ў сьвеце.

Сёньня ад імя Алеся будзе запалена сьвечка на магіле Вацлава Гавэла ў Празе.

## Навадворская: Гэтай прэміяй Эўропа ў пэўнай ступені выкупляе сваю віну

30 верасьня 2013

*Уганараваньне Алеся Бяляцкага прэміяй Вацлава Гавэла мы папрасілі пракамэнтаваць расейскую публіцыстку, грамадзкую дзеячку і былую палітзьняволеную Валерыю Навадворскую.*

Навадворская: «Гэта справядлівая ўзнагарода. Бяляцкі выконваў тую працу, якую ў нас рабіў Аляксандар Гінзбург, які кіраваў Фондам Салжаніцына. А калі яго саджалі, нязручна было сказаць, што за Фонд, дык абвінавацілі ў захаваньні нелегальнай літаратуры і ў „антысавецкай дзейнасьці". Потым Фондам стала кіраваць яго жонка Арына Гінзбург, потым Тацяна Хадаровіч. Усе, хто кіраваў расейскім Фондам Салжаніцына для дапамогі палітвязьням, — усе селі ў турму. І зараз гэта працягваецца ў Беларусі, нібыта не было жніўня 1991 году, не было ніякай незалежнасьці, і мы яшчэ жывем у Савецкім Саюзе. Беларусь і сапраўды жыве ў Савецкім Саюзе. Толькі абвінавачваньні зараз адрозьніваюцца, зараз няма чыста палітычных артыкулаў, даводзіцца саджаць за нясплату падаткаў, што ёсьць чысты абсурд, бо з дабрачыннай дзейнасьці ня трэба плаціць падаткі, гэта былі не яго грошы.

Гэтай прэміяй Рада Эўропы ў пэўным сэнсе выкупляе сваю віну. Гавэл сказаў бы тое самае. Я ўяўляю сабе, што б зрабіў Гавэл з тымі прад-

стаўнікамі Польшчы і Літвы, якія выдалі рахункі Бяляцкага. Эўропа разам з прысуджэньнем гэтай прэміі павінна была б пазбавіць грамадзянства тых, хто гэта зрабіў. Бо гэта памагатыя Лукашэнкі, гэта здраднікі.

Калі людзі спрыяюць арышту годнага чалавека, які змагаецца за свабоду сваёй краіны, яны павінны быць пазбаўленыя гонару быць эўрапейцамі.

Алеся Бяляцкага можна павіншаваць з такой узнагародай, якая каштуе даражэй, чым Нобэлеўская прэмія міру, якую прысуджаюць немаведама каму — Арафату прысуджалі, зараз Пуціна спрабуюць вылучыць.

А прэмія Гавэла — гэта чыстая, высакародная ўзнагарода. Добра яму б яшчэ на свабодзе апынуцца. І я мяркую, што ён апынуўся б на свабодзе, калі б Расея ня ўтрымлівала лукашэнкаў».

## Гершман: Гавэл захапляўся Бяляцкім

30 верасьня 2013

*Прэзыдэнт амэрыканскага Нацыянальнага фонду дэмакратыі Карл Гершман пракамэнтаваў узнагароджаньне зьняволенага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага прэміяй імя Вацлава Гавэла.*

«Ніхто больш за Алеся Бяляцкага ня варты ўзнагароды, якая носіць імя Вацлава Гавэла, бо менавіта Гавэл падтрымліваў змаганьне Бяляцкага, падзяляў ягоную філязофію негвалтоўнага супраціву і захапляўся ягонай асабістай адвагай і адданасьцю праўдзе. Самым гарачым жаданьнем Гавэла было б, каб гэтая ўзнагарода натхняла Алеся Бяляцкага і яго паплечнікаў надалей ісьці наперад з новай надзеяй у іх змаганьні за дэмакратыю ў Беларусі».

# За Бяляцкага прагаласавалі аднагалосна

30 верасьня 2013

Алена Радкевіч

*Прафэсар Францішак Янаўх, чэскі і швэдзкі ядзерны фізык, колішні дысыдэнт, заснавальнік і старшыня Фундацыі Хартыі-77, доўгія гады сябраваў з Вацлавам Гавэлам. Менавіта яму належала ідэя заснаваць прэмію імя Вацлава Гавэла. Сам Францішак Янаўх, сябра журы, якое прысуджае прэмію, галасаваў за Алеся Бяляцкага. Мы зьвязаліся зь ім у Страсбуры.*

*Радкевіч:* Чаму перавага паміж грузінскімі і кітайскімі прэтэндэнтамі была аддадзена менавіта Алесю Бяляцкаму?

*Янаўх:* Усе сябры журы сышліся на думцы, што ён будзе найлепшым кандыдатам для першай прэміі Вацлава Гавэла. Па-першае, Вацлаў Гавэл вельмі цікавіўся становішчам у Беларусі, дзе перасьледуюць іншадумцаў. Па-другое, гэта канкрэтны выпадак чалавека, які сядзіць у турме, і, магчыма, гэта можа яму дапамагчы. Таму журы аднагалосна вырашыла прысудзіць першую прэмію Алесю Бяляцкаму.

Асоба Алеся Бяляцкага адыгрывала вялікую ролю, і ў першым туры галасаваньня ён атрымаў самую вялікую колькасьць галасоў у сваю падтрымку: розных арганізацыяў і асобных лю-

дзей з многіх краін Эўропы і былога СССР. Усе сябры журы не сумняваліся, што ён будзе самым дастойным кандыдатам.

*Радкевіч:* А хто быў асабіста вашым фаварытам?

*Янаўх:* Алесь Бяляцкі і быў. Я шмат чым зьвязаны зь Беларусьсю: я быў сябрам Рады міжнароднага Сахараўскага ўнівэрсытэту ў Менску, часта езьдзіў туды і бачыў, што сабой уяўляе рэжым Лукашэнкі. Таму я таксама не сумняваўся, што гэта будзе найлепшы кандыдат.

*Радкевіч:* Алесь Бяляцкі быў асуджаны нібыта за нясплату падаткаў. Чэскім дысыдэнтам камуністычных часоў знаёмыя такія абвінавачаньні?

*Янаўх:* Знаёмыя, вядома. Я быў на чале фонду Хартыіі-77, які падтрымліваў з Стакгольму дысыдэнтаў, і мы выкарыстоўвалі для пасылкі матэрыяльнай падтрымкі чэскім дысыдэнтам афіцыйныя банкаўскія каналы — накшталт былой расейскай «Бярозкі», легальна дапамагалі. Нашых стараліся часам прыціснуць, але ніколі не даходзіла да суду, нават да абвінавачаньня, за тое, што гэтыя людзі атрымлівалі грошы ад фонду Хартыі з Швэцыі. У Вацлава Гавэла, які таксама атрымліваў грошы, якія ён выкарыстоўваў для розных праектаў самвыдату і тэхнічнага забесьпячэньня джазавай сэкцыі, ніколі на допытах гэтая тэма не прысутнічала. Часам казалі: так, мы ведаем, што вы атрымліваеце грошы. Але гэта было толькі вуснае застрашваньне, а ніколі не на паперы.

*Радкевіч:* Расейскі палітык Валерыя Навадворская выказала сёньня ў якасьці камэнтара і такую думку: што гэтай прэміяй Эўропа нібыта выкупляе сваю віну перад Бяляцкім, бо менавіта з прычыны інфармацыі, якую перадалі Літва і Польшча, ён і трапіў у турму.

*Янаўх:* Я так не лічу, бо гэтае рашэньне было прынятае членамі журы, якія ніколі ў часе нашых абмеркаваньняў і перапіскі гэтага аргумэнту не выказвалі.

## Нобэль-2013: фаварыт — Малала. У Бяляцкага шанцы невысокія

6 кастрычніка 2013

*У панядзелак у Стакгольме пачнуць абвяшчаць ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі. Адным з галоўных кандыдатаў на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі міру зьяўляецца юная актывістка з Пакістану Малала Юсафзай.*

Дырэктар Інстытуту дасьледаваньняў міру Крыстыян Бэрг Гарпвікен заявіў, што Малала — фаварыт на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі міру, адзначыўшы, што прысуджэньне ў 2012 годзе гэтай прэміі Эўразьвязу было ўспрынята неадназначна.

16-гадовая Малала ўжо атрымала шэраг прэстыжных міжнародных прэмій за дзейнасьць у падтрымку адукацыі для дзяўчат. У кастрычніку 2012 году яна была цяжка параненая талібамі, пасьля чаго праходзіла лекаваньне ў Вялікай Брытаніі.

Беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі таксама намінаваны на Нобэлеўскую прэмію міру сёлета, але яго шанцы букмэкеры расцэньваюць досыць нізка — як 1 да 69.

# Марына Адамовіч: Мы дачакаемся ўганараваньня Алеся

11 кастрычніка 2013

*Жонка палітвязьня Міколы Статкевіча Марына Адамовіч пракамэнтавала для Радыё Свабода рашэньне Нобэлеўскага камітэту даць сёлетнюю прэмію міру Арганізацыі па забароне хімічнай зброі.*

Сярод іншых прэтэндэнтаў быў і зьняволены беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Марына Адамовіч: «Я не сумняваюся, што Нобэлеўскі камітэт, прымаючы свае рашэньні, мае высакародныя памкненьні і жаданьне адзначыць найбольш важныя ініцыятывы. Але сапраўды вельмі хацелася б, каб у гэтай каньюнктуры былі адзначаныя і беларусы. Прычым тыя, хто цяпер працуе ня толькі на карысьць Беларусі, але дзеля ўмацаваньня міру паміж народамі. Канечне, у гэтым выпадку я маю на ўвазе Алеся Бяляцкага. Гэта трэцяя, здаецца, была намінацыя Алеся, і я спадзяюся, што мы дачакаемся сур’ёзнага ўганараваньня для вартых людзей зь Беларусі».

## Эўразьвяз пакараў начальнікаў Бабруйскай турмы, дзе сядзіць Бяляцкі

30 кастрычніка 2013

*Сваякі і калегі зьняволенага праваабаронцы пабойваюцца, што рэжым утрыманьня Алеся Бяляцкага можа быць пагоршаны, паколькі кіраўніцтва калёніі можа яму помсьціць за рашэньне Эўразьвязу.*

У сьпіс беларускіх грамадзянаў, якія трапілі пад санкцыі Эўразьвязу, унесеныя начальнік Бабруйскай папраўчай калёніі № 2 Аляксандар Какунін і ягоны намесьнік Юры Трутко. Менавіта ў гэтай калёніі адбывае пакараньне зьняволены праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Праваабаронца зь «Вясны» Тацяна Равяка зазначыла Свабодзе, што нічога ня ведала пра тое, што Эўразьвяз зьбіраецца пакараць візавымі санкцыямі кіраўнікоў Бабруйскай турмы, дзе знаходзіцца яе паплечнік Алесь Бяляцкі:

«Ці сапраўды іх пакаралі праз Алеся, можна толькі меркаваць. Але пагаджуся, што, хутчэй за ўсё, гэта зьвязана з тымі ўмовамі, у якіх вымушаны адбываць пакараньне Алесь Бяляцкі. Мяне вельмі насьцярожвае гэты крок, таму што на працягу ўсяго адбыцьця пакараньня Алесь практычна нічога не пісаў пра ўмовы ўтрыманьня. Відаць, праз турэмную цэнзуру, бо гэта закрытая тэма. Але ня выключана, што і таму,

што нейкія нашыя неабдуманыя крокі могуць прывесьці да пагаршэньня гэтых умоваў. Нават калі мы штосьці даведваліся, то стараліся не рабіць гучных заяваў, каб не нашкодзіць».

Тацяна Равяка кажа, што рашэньне Эўразьвязу можна назваць «пэўнай ацэнкай дзеяньняў начальнікаў турмы»:

«Але, з другога боку, я баюся, каб гэта не нашкодзіла, таму што Алесь зараз знаходзіцца цалкам у руках адміністрацыі калёніі. Тое, што цяпер адбываецца, можа выклікаць вялікія апасеньні, зыходзячы з таго, як цяжка Алесю даводзілася ўвесь гэты час».

# Жонка Бяляцкага заклікала не ісьці на саступкі рэжыму без рэабілітацыі палітвязьняў

27 кастрычніка 2013

*На III праваабарончым форуме, які праходзіць у Вільні, жонка Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук у сваім выступе заклікала не здымаць пытаньня рэабілітацыі, не зьніжаць ціску на ўлады ў Менску і не ісьці зь імі на дыялёг, пакуль ня будуць вызваленыя ўсе палітвязьні. У размове з карэспандэнтам Свабоды Пінчук пацьвердзіла свае заявы.*

«У некаторых артыкулах і выступах праваабаронцаў Беларусі пачала гучаць нібыта міралюбная прапанова зьняць патрабаваньне поўнай рэабілітацыі палітычных вязьняў. Маўляў, рэжым на гэта ўсё роўна ня пойдзе. Мне ўсё ж здаецца, што, па-першае, трэба быць пасьлядоўнымі і, сказаўшы пра рэабілітацыю напачатку, не адступаць ад гэтай пазыцыі. Па-другое, сапраўды без рэабілітацыі людзі абмежаваныя ў правах, яны маюць толькі „паўсвабоду“», — заявіла Пінчук у сваім выступе.

Таксама Натальля Пінчук пацьвердзіла свой заклік да ЗША і Эўразьвязу, каб іх пазыцыя адносна беларускага рэжыму была цьвёрдай і ўзгодненай.

«Афіцыйны Менск разумее толькі сілу, цьвёрдасьць, пасьлядоўнасьць. Хістаньні, кампрамісы

для яго — сьведчаньне слабасьці апанэнта. Цьвёрдасьці, выкарыстаньня ўсіх інструмэнтаў мы, родныя вязьняў, чакаем ад аб’яднанай Эўропы і ЗША. Таксама вельмі важна, каб амэрыканскія і эўрапейскія падыходы былі скаардынаваныя».

Ці падзяляе гэтую ж пазыцыю Алесь Бяляцкі? Натальля Пінчук адзначыла ў інтэрвію Свабодзе:

«Вядома, агучыць мне гэтую пазыцыю зараз ён ня мог, але, зыходзячы зь ягоных ранейшых выказваньняў, зь ягонай дзейнасьці, добра ведаючы яго, мяркую, што гэта ёсьць і ягоная пазыцыя».

## За два гады — ніводнага дазволенага пікету ў абарону Бяляцкага

26 лістапада 2013

*Два гады таму суд Першамайскага раёну Менску асудзіў кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» на 4,5 года зьняволеньня нібыта за ўтойваньне вялікіх прыбыткаў з-за мяжы. Чаму не ўдалося абскардзіць гэты прысуд? Якія навіны даходзяць з калёніі, дзе трымаюць палітвязьня?*

Праваабаронцы «Вясны» працягваюць настойваць на невінаватасьці свайго калегі Алеся Бяляцкага і даказваць, што прысуд яму ў канцы лістапада 2011 году быў вынесены насуперак закону.

Трымаюць Алеся Бяляцкага ў бабруйскай калёніі. Ён працуе на ўпакоўцы вырабаў швейнай вытворчасьці і піша, што з-за працы мае мала вольнага часу. На палітвязьня Бяляцкага за час адбыцьця пакараньня наклалі некалькі спагнаньняў нібыта за парушэньні ўнутранага распарадку: ён быў пакараны скарачэньнем колькасьці спатканьняў і перадач. Паводле жонкі праваабаронцы Натальлі Пінчук, зьвесткі пра ўмовы ўтрыманьня і ўвогуле навіны пра турэмнае жыцьцё мужа ў прэсе ўплываюць на стаўленьне да яго з боку адміністрацыі. На пачатку лістапада Алесь Бяляцкі адбыў палову прызначанага яму судом тэрміну. Натальля Пінчук працытавала ліст, які атрымала ў лістападзе ад Алеся.

«Надыходзіць лістапад — самы цёмны і сумны месяц. Такі ж сумны, як і люты, але той — самы халодны. Адзінае, што ў ім, — гэта 4-га, палова тэрміну».

Паводле зьвестак з бабруйскай калёніі, адбыцьцё паловы тэрміну не дадало Алесю Бяляцкаму пэрспэктыў на ўмоўна-датэрміновае вызваленьне.

Цягам больш як двух гадоў імя Алеся Бяляцкага знаходзіцца ў сьпісе тых, каго патрабуюць вызваліць Эўразьвяз і ЗША. Кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка на гэта адказвае: хай напішуць прашэньні аб памілаваньні, тады я іх разгледжу і вырашу. Між тым палітвязьні, у тым ліку Алесь Бяляцкі, адмаўляюцца падпісваць прашэньне аб памілаваньні, бо ня лічаць сябе вінаватымі.

Ці ўдаецца пашырыць кампанію салідарнасьці з палітвязьнямі, у тым ліку з Алесем Бяляцкім, унутры краіны? За два гады праваабаронча арганізацыі «Вясна», «Салідарнасьць» ды іншыя зладзілі некалькі кампаніяў дасыланьня паштовак салідарнасьці з палітвязьнямі ў беларускія вязьніцы. Асобныя грамадзкія актывісты вывешвалі на вуліцах гарадоў банэры, наносілі на дамы графіці з патрабаваньнямі вызваліць тых, хто пакараны за грамадзкую і палітычную дзейнасьць, як Алесь Бяляцкі. Шмат каго з гэтых актывістаў, як Паўла Вінаградава ці Ўладзя Яроменка, затрымлівалі міліцыянты, а суды давалі ім розныя пакараньні.

На думку грамадзкага актывіста з Гомля Леаніда Судаленкі, улады робяць усё магчымае, каб

зьменшыць розгалас справы Алеся Бяляцкага і іншых палітвязьняў. Прыкладам, у Гомлі заяўкі мясцовых актывістаў на пікеты салідарнасьці з Алесем Бяляцкім не былі задаволеныя: «Нават калі з былым мэрам Гомля Сьвятланай Гальдадзэ мы рабілі такія спробы — зладзіць у Гомлі пікет, ці вулічнае шэсьце замаўлялі — з нагоды арышту праваабаронцы Алеся Бяляцкага, нам заўсёды адмаўлялі. Адна са скаргаў нават ужо зарэгістраваная ў камітэце ААН па правах чалавека».

Паводле Праваабарончага цэнтру «Вясна», за два гады ў Беларусі не было дазволена ніводнага пікету салідарнасьці з Алесем Бяляцкім, а ўсяго такіх заяваў падавалася больш за 30.

## Чаму ў канвэрце ад Бяляцкага ані слова ад яго?

07 сьнежня 2013

*Праваабаронцы зь «Вясны» не выключаюць, што ліст ад Алеся Бяляцкага невыпадкова прыйшоў без пасланьня ад яго самога.*

Паводле жонкі праваабаронцы Алеся Бяляцкага Натальлі Пінчук, ад мужа ўжо больш за два тыдні няма лістоў і званкоў, што яе вельмі непакоіць. Натальля Пінчук, аднак, ня стала камэнтаваць гэта, сказаўшы, што яшчэ пачакае.

А вось у Праваабарончым цэнтры «Вясна» атрымалі ліст ад Алеся Бяляцкага. Канвэрт з бабруйскай калёніі з подпісам Бяляцкага прыйшоў намесьніку старшыні «Вясны» Валянціну Стэфановічу. Пры гэтым праваабаронца са зьдзіўленьнем адзначае, што ўнутры канвэрта ліста ад самога Бяляцкага не аказалася: толькі паштоўка «Міжнароднай амністыі», якая прыйшла палітвязьню з Бэльгіі, ды выразка зь беларускай газэты.

Валянцін Стэфановіч ня ведае, што гэта можа азначаць: «Чамусьці самога, уласна кажучы, ліста там не было. Ці яго выдалілі, ці ён туды і ня быў пакладзены — гэтага я ня ведаю. Дарэчы, мне ён ужо даўно не пісаў».

Валянцін Стэфановіч не выключае і такой магчымасьці, што Алесь Бяляцкі зь нейкіх прычын ня змог напісаць уласны ліст і таму абмежаваўся

дасланай яму раней паштоўкай, каб паказаць, што такія пасланьні яму даходзяць.

Праваабаронца згадвае, што мова сыгналаў у іх ліставаньні ўжо ўжывалася. Гэтак, сёлета ў адным зь лістоў Алесь Бяляцкі намякнуў яму, што яго рыхтуюць да зьмяшчэньня ў ШЫЗА — карцар у калёніі. Пазьней Валянцін Стэфановіч пэўна даведаўся, што Бяляцкага зьбіраліся на некалькі дзён пасадзіць у ШЫЗА і нават ужо правялі мэдычнае абсьледаваньне, але мусілі адмяніць загад, бо стала вядома, што калёнію наведае папскі нунцый Кляўдыё Гуджэроцьці.

Пасьля атрыманьня ад Алеся Бяляцкага «ліста безь ліста» Валянцін Стэфановіч напісаў свайму сябру ў калёнію. «Пагляджу, якім будзе адказ: паўнавартасным ці зноў умоўным», — сказаў Валянцін Стэфановіч.

# Бяляцкі — сярод першых ляўрэатаў прэміі імя Францішка Аляхновіча

10 сьнежня 2013

*Цырымонія ганараваньня першых ляўрэатаў прэміі імя Францішка Аляхновіча адбылася на сядзібе БНФ у Менску.*

Прэмія заснаваная Радыё Свабода і Беларускім ПЭН-цэнтрам, яна будзе ўручацца за найлепшыя творы, напісаныя ў турме.

Першымі ляўрэатамі сталі Анатоль Лябедзька, Алесь Бяляцкі, Юры Бандажэўскі, Павал Севярынец, Алесь Кіркевіч. Галоўная ўзнагарода — Ігару Аліневічу.

Прэмію Алеся Бяляцкага прыняла ягоная жонка Натальля Пінчук.

«Значная частка ўдзельнікаў гэтага конкурсу яшчэ знаходзіцца за кратамі. У тым ліку і Алесь. На волі ў яго не было часу займацца літаратуразнаўствам. За кратамі ён працягвае пісаць, і зараз рыхтуецца яшчэ адна кніга. Хачу верыць, што сваёй творчай дзейнасьцю Алесь будзе займацца на свабодзе», — кажа Натальля.

## Натальля Пінчук: У беларусаў жаночая псыхалёгія

14 сьнежня 2013

*Яна хацела быць доктарам ці мастаком, але бацькі выбралі ёй прафэсію выкладчыка гісторыі, улада краіны выракла яе на долю жонкі палітвязьня, а ўласнае сумленьне зрабіла яе праваабаронцам. Дасьледчыца сярэднявечнай культуры Беларусі, каханая зьняволенага кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага, грамадзкая дзяячка Натальля Пінчук — герой чарговага выпуску праграмы «Сталкеры Свабоды».*

«Я скончыла Гомельскі ўнівэрсытэт і, як выйшла замуж, пачала працаваць паводле прафэсіі. Палюбіла гэтую прафэсію, адчула асалоду ад яе. Мне падабаецца працаваць з вучнямі, студэнтамі. Гэта якраз тое асяродзьдзе, у якім я адчуваю сябе вельмі камфортна.

Я чалавек увогуле замкнёны. Я ня маю шмат знаёмых, у мяне нешырокае кола сяброў, але новая сытуацыя абсалютна перайначыла маё жыцьцё. Людзі ў стрэсавай сытуацыі здольныя рабіць тое, да чаго не былі прызвычаеныя. І, думаю, я не выключэньне.

Не скажу, што сёньня я адчуваю сябе камфортна. Не. Мне хацелася б вярнуць тое мінулае спакойнае, аднаасобнае жыцьцё, таму што мне непамысна адчуваць сябе ў віры гэтых падзеяў.

Але пры ўсім пры тым я дзесьці і ўдзячная абставінам вось такога актыўнага жыцьця, таму што гэта дапамагло мне перажыць сам стрэс, выкліканы арыштам Алеся. І вось гэтая мая занятасьць не дала мне магчымасьці ўпасьці ў поўную роспач.

Мне часам даводзіцца прадстаўляць мужа і на праваабарончых форумах, і атрымліваць прэміі за Алеся, і трымаць ад яго імя слова. І воляй лёсу я мушу ўздымаць тыя праблемы, якія тычацца ня толькі сытуацыі з Алесем, але і ўсяго кола праваабарончых праблемаў, якія існуюць у нашым грамадзтве.

Тое, што ў нас ёсьць палітзьняволеныя, гаворыць пра хваробу грамадзтва. Мяне як грамадзянку гэтай краіны ня могуць не закранаць такія праблемы. Я ня проста размаўляю пра іх са знаёмымі, я мушу несьці адказнасьць за тое, што я кажу, таму што маё слова чуе ўжо вялікая аўдыторыя.

Апошнім часам я пачала заўважаць, як збоку спрабуюць уплываць на мяне, як, раячы тое ці іншае, жадаюць, каб я гэта агучыла з трыбуны. Я ўжо разумею гэта і асэнсоўваю: тое гэта, што неабходна грамадзтву, ці гэта пэўны каньюнктурны пасыл таго ці іншага чалавека, які хоча агучыць свае ўласныя ідэі. Ідэі, якія не стасуюцца з маім разуменьнем сучаснай сытуацыі ў Беларусі ці зусім ідуць насуперак маім уяўленьням.

Мы ўвогуле маем тое, што заслугоўваем. Гэта зьвязана і з нашай мэнтальнасьцю, з нашым нацыянальным характарам. Але нацыянальны

характар складаецца таксама зь людзей, і кожны чалавек ведае, што ён можа сябе зрабіць. Так і нацыя кожная можа сябе зрабіць.

Нашы праблемы вырашыць толькі беларускі народ — ні Захад, ні Амэрыка, хаця мы спадзяемся на іх падтрымку. Але толькі тады, калі беларусы ўсьвядомяць, што толькі яны самі мусяць рабіць перамены, — толькі тады гэтыя перамены прыйдуць. І мне здаецца, што якраз гэтага ўсьведамленьня ў беларусаў няма.

Часам я, мабыць, выказваю крыўдныя фармулёўкі, што ў беларусаў, на жаль, жаночая псыхалёгія. Яны шукаюць, на каго б абаперціся: ці на Ўсход, ці на Захад. Дык вось у мяне жаданьне, каб беларусы адчулі, што яны самастойныя, і адчулі, што яны могуць, — а яны могуць! І тады ўсё пераменіцца.

Мне здаецца, гэта проста праблема самаадчуваньня беларусаў. Адбудуцца зьмены ў гэтым — адбудуцца зьмены ўвогуле ў дзяржаве».

# «Надзея, пэўна, ня тое самае, што аптымізм»

18 сьнежня 2013

*Два гады таму памёр Вацлаў Гавэл, першы посткамуністычны прэзыдэнт Чэхаславаччыны, а пасьля — незалежнай Чэхіі. Вацлаў Гавэл вельмі пільна сачыў за сытуацыяй у Беларусі. Ён ня раз выказваў падтрымку дэмакратычным сілам, асабіста пісаў лісты палітзьняволеным.*

Жонка палітвязьня Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук сказала Свабодзе, што яе муж двойчы атрымліваў прэміі, зьвязаныя з Вацлавам Гавэлам. Яна таксама згадала ліст, які на просьбу Радыё Свабода ў канцы 2011 году Гавэл напісаў беларускім палітвязьням, у тым ліку і Алесю Бяляцкаму:

«Гэта было літаральна за некалькі дзён да сьмерці Гавэла. У свой час Алесю ўручалі прэмію Гавэла. І неяк, згадваючы гэтага вялікага чалавека, Алесь прыслаў паштоўку са словамі Гавэла, якія яго найбольш уразілі. Гэтая паштоўка зараз у мяне перад вачыма. Я толькі знайду акуляры і яе зачытаю:

«Надзея, пэўна, ня тое самае, што аптымізм. Гэта не перакананасьць, што ўсё будзе добра, а ўпэўненасьць у тым, што ўсё, што ты робіш, мае сэнс. Незалежна ад таго, як яно атрымліваецца».

## У Польшчы зноў вылучаюць Бяляцкага на Нобэля

17 студзеня 2014

*Польскія дэпутаты вылучаюць зьняволенага праваабаронцу Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру 2014 году.*

Подпісы за вылучэньне супольна зьбіраюць дэпутаты ад дзьвюх парлямэнцкіх партый — «Права і справядлівасьць» і «Грамадзянская плятформа». Пра гэта паведамляе Gazeta Wyborcza.

Паводле Gazety Wyborczej, подпісы за вылучэньне Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру ўжо паставілі 160 дэпутатаў Сэйма Польшчы.

«Так, як некалі „Салідарнасьць“ была ўзнагароджана Нобэлеўскай прэміяй у асобе Леха Валэнсы, так і абаронцы правоў чалавека ў Беларусі павінны быць узнагароджаныя Нобэлеўскай прэміяй міру ў асобе Алеся Бяляцкага», — перакананы дэпутат Адам Ліпінскі з партыі «Права і справядлівасьць».

Дэпутаты ад абедзьвюх партый падкрэсьліваюць, што ў справе вылучэньня кандыдатуры Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру ў іх існуе поўная згода.

Кандыдатаў на Нобэлеўскую прэмію міру можна вылучаць да 1 лютага.

Дэпутаты Сэйма вылучалі Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру і ў 2012 годзе.

## «Лукашэнка дае адмашку для амністыі Бяляцкага»

21 студзеня 2014

*Праваабаронца Тацяна Равяка ня верыць, што Аляксандар Лукашэнка ня ведае пра справу Алеся Бяляцкага. Так яна камэнтуе даручэньне прэзыдэнта праверыць інфармацыю пра тое, што Алесь Бяляцкі кампэнсаваў матэрыяльную шкоду, якую паставіў яму ў віну суд.*

Тацяна Равяка: «Шкода была кампэнсаваная. Больш за 800 чалавек зьбіралі гэтыя грошы. Быў адкрыты адмысловы рахунак, туды людзі пералічалі грошы. І перад разглядам касацыйнай скаргі, які быў 25 студзеня два гады таму, гэтая сума была кампэнсаваная. Я ня веру, што кіраўнік дзяржавы пра гэта ня ведае. Ён неаднаразова камэнтаваў справу Алеся Бяляцкага.

Думаю, што гэта, хутчэй за ўсё, нейкі адмысловы ход з боку кіраўніка дзяржавы, што вось паглядзіце, калі грошы пералічаныя, то прэтэнзій няма і можа быць прыменены закон аб амністыі. Калі гэта не піяр-ход, то нейкая адмашка.

Я б хацела адзначыць, што сама па сабе кампэнсацыя шкоды не зьяўляецца падставай для прымяненьня закону аб амністыі. Наўпрост гэта не ўплывае. Калі ў 2012 годзе абвяшчаўся закон аб амністыі, то было ўказана, што ён не распаўсюджваецца на злосных парушальнікаў рэжыму. Алесь да гэтага часу лічыцца злосным парушальнікам

рэжыму. І калі новы закон аб амністыі будзе ўтрымліваць гэтае палажэньне, то гэтыя словы прэзыдэнта пра кампэнсацыю ня будуць мець аніякага сэнсу».

«Калі трэба будзе, то прававыя падставы для амністыі знойдуцца, — мяркуе праваабаронца. — Такія справы заўжды вырашаюцца ў палітычным ключы».

Аляксандар Лукашэнка даручыў Аляксандру Радзькову, першаму намесьніку кіраўніка сваёй адміністрацыі, праверыць інфармацыю пра кампэнсацыю Алесем Бяляцкім грашовай шкоды, у нанясеньні якой яго вінаваціць беларускі суд. Інфармацыю пра тое, што Алесь Бяляцкі кампэнсаваў шкоду, на сустрэчы з прэзыдэнтам агучыў дырэктар БелаПАН Алесь Ліпай.

«Гэта сур'ёзны аргумэнт. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазыцыі самога Бяляцкага. Прысягаю вам, я яго ня ведаў і ня ведаю», — цытуе БелаПАН словы Аляксандра Лукашэнкі.

# У турме Алесь Бяляцкі піша эсэ пра рэпрэсаванага пісьменьніка Барыса Мікуліча

8 лютага 2014

*Вязень бабруйскай калёніі, праваабаронца Алесь Бяляцкі ў лісьце дамоў паведаміў, што «ўвесь вольны час у студзені працаваў над эсэ пра пісьменьніка Барыса Мікуліча».*

Пра гэта карэспандэнту Свабоды паведаміла жонка палітвязьня Натальля Пінчук. Ёй вядома, што Алесь пачаў зьбіраць матэрыял пра Барыса Мікуліча з восені 2013 году і ўжо актыўна працуе над эсэ. Чаму менавіта творчасьцю Барыса Мікуліча захапіўся палітвязень, літаратуразнаўца паводле прафэсіі Алесь Бяляцкі?

Праваабаронца Алена Лапцёнак, якая дапамагае Алесю Бяляцкаму ў ягонай літаратурнай працы, паведаміла, што атрымала ўжо дзьве часткі эсэ пра Барыса Мікуліча. Творчасьцю гэтага пісьменьніка Алесь Бяляцкі, паводле Алены Лапцёнак, зацікавіўся невыпадкова.

«Барыс Мікуліч друкаваўся ў даваенным часопісе „Маладняк“, які выходзіў у Бабруйску, дзе зараз адбывае пакараньне Алесь. Другое, ён двойчы рэпрэсаваны пісьменьнік, які памёр пасьля вайны, некалькі месяцаў не дачакаўшыся рэабілітацыі. Мінулай восеньню я даслала Алесю Бяляцкаму дзёньнік Барыса Мікуліча, які называецца „Аповесьць пра сябе“. Алесь захапіўся гэтым

пісьменьнікам, папрасіў яшчэ матэрыял пра яго і пачаў пісаць эсэ. Мяркую, гэтае эсэ ў будучыні ўбачыць сьвет, як і іншыя творы Алеся Бяляцкага», — паведаміла Алена Лапцёнак.

## Судзьдзя ў Ашмянах пастанавіла: кнігі Бяляцкага рээкспартаваць у Літву

11 лютага 2014

*Судзьдзя Ашмянскага раённага суду Тацяна Емельяновіч вынесла рашэньне пра рээкспарт кнігі Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай» на падставе свайго ўласнага адчуваньня.*

На падставе заключэньня экспэртаў мытнікі зрабілі выснову аб утрыманьні ў кнізе «Асьвечаныя Беларушчынай» матэрыялаў, якія могуць нанесьці шкоду эканамічным і палітычным інтарэсам краіны.

Экспэртызу рабілі юрыст Вадзім Хілюта і гісторык Уладзімер Ягорычаў. Але, паводле судзьдзі Тацяны Емельяновіч, гэтыя адмыслоўцы ня мелі права рабіць экспэртызу, таму што ашмянская мытня прызначыла іншага экспэрта — кіраўніка аддзелу ідэалёгіі Гарадзенскага аблвыканкаму, які, паводле судзьдзі, ня меў права перадаручаць правядзеньне экспэртызы сваім падначаленым.

«Судзьдзя патлумачыла, што экспэртыза непрымальная, таму што яна і прызначаная, і праведзеная з парушэньнем закону. Таму яе вынікі ня могуць быць прызнаныя ў якасьці экспэртызы па дадзенай справе. Судзьдзя толькі прыняла да ўвагі гэтыя вынікі як меркаваньні спэцыялістаў. Судзьдзя сказала, што яна прымала рашэньне пра рээкспарт кніг, зыходзячы не з высноваў

экспэртаў, а з свайго ўнутранага меркаваньня. Як яна адзначыла, закон дае такое права судзьдзі. У выніку прынятае рашэньне пра тое, што кнігі павінны быць рээкспартаваныя ў Літву, калі ня будзе прынятае іншае рашэньне пра іх лёс — напрыклад, пра іх зьнішчэньне», — пракамэнтавала пастанову суду праваабаронца Тацяна Равяка.

«Тут вельмі важны ня толькі для гэтай справы момант, што падобнага кшталту экспэртызы не зьяўляюцца правамоцнымі і прымальнымі. І гэта прызнала нават судзьдзя. Экспэртыза непрымальная з прычыны таго, што выкананая ня тымі людзьмі, якіх прызначыла мытня, а таксама таму, што так званыя экспэрты не былі папярэджаныя пра адказнасьць, якую цягне за сабой даваньне заведама ілжывых заключэньняў. Таму судзьдзя была вымушаная прызнаць паперкі, якія лічыліся вынікамі экспэртызы, непрымальнымі і неправамоцнымі», — дадала Тацяна Равяка.

# Бяляцкі, Бураўкін, Галубовіч і Казько атрымалі «Залатыя апострафы»

25 лютага 2014

*Часопіс «Дзеяслоў» абвясьціў ляўрэатаў прэміі «Залаты апостраф».*

Прэмію за ўнёсак у беларускую літаратуру атрымаў Генадзь Бураўкін. У намінацыі «non-fiction» уганаравалі палітвязьня Алеся Бяляцкага за артыкул «Дзяды былі з намі».

«Зьняволеньне ў Бабруйску не перашкаджае ягонай працы. Алесь заслужыў гэтую ўзнагароду. Гэта адзначэньне ягонай працы ў тых няпростых умовах, у якіх ён знаходзіцца», — заявіў Барыс Пятровіч, рэдактар «Дзеяслова». Узнагароду атрымала жонка Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук.

У намінацыі «проза» найлепшым прызнаны Віктар Казько за два апавяданьні пад агульным загалоўкам «Вечны покліч вады». За нізку вершаў-зацемак «Залаты апостраф» атрымаў Леанід Галубовіч.

## «Такога хамства раней ня бачыла, як сёньня ў горадзенскім судзе»

31 сакавіка 2014

*Рашэньне Ашмянскага раённага суду аб рээкспарце кнігі Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай» у Літву засталося ў сіле. Тацяна Равяка нязгодная з гэтым рашэньнем і мае намер яго абскардзіць.*

Сябра «Вясны» Тацяна Равяка і юрыст Павал Сапелка, які прадстаўляў яе інтарэсы ў судзе, расцэньвалі рашэньне Ашмянскага суду як цэнзуру і будавалі сваю пазыцыю на тым, што было парушана права на свабоду выказваньня і меркаваньня аўтара, што суд не заслухаў усе зацікаўленыя бакі, у дадзеным выпадку — аўтара кнігі.

Паводле Равякі, судзьдзі абласнога суду пры разглядзе справы ўхіліліся ад асноўнай сэнсавай ацэнкі абвінавачаньня, паводле якога кніга Бяляцкага прызнаная выданьнем, якое наносіць шкоду палітычным інтарэсам РБ, дзяржаўнай бясьпецы і маральнасьці грамадзянаў. Галоўнае, на чым засяродзілі ўвагу судзьдзі, — гэта ці была кніга ўвезена для асабістага, ці для камэрцыйнага карыстаньня, а затрымана было 40 асобнікаў.

Равяка кажа, што адпачатку не спадзявалася выйграць, бо разумела, што справа гучная і датычыць кнігі палітвязьня, праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Але яе вельмі ўразіла тое, як паводзіў сябе падчас разгляду справы намесьнік стар-

шыні Горадзенскага абласнога суду Аляксандар Калесьнік.

*Равяка:* «Судзьдзя папросту перабіваў мяне, не даваў выказацца, даваць нармальна тлумачэньні, як гэтага патрабуе працэдура суду. Ён сыпаў абвінавачаньнямі, уласнымі меркаваньнямі, якія ня маюць адносінаў да сутнасьці справы. Вось такога хамства, шчыра сказаць, я раней ня бачыла, як сёньня ў горадзенскім судзе. Мяне сёньня ўразіў нават ня столькі працэс па сутнасьці, колькі па форме — якім чынам ён адбываўся».

Летась 3 ліпеня мытнікі на мяжы канфіскавалі ў праваабаронцы Тацяны Равякі 40 асобнікаў кнігі Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай», якую надрукавалі ў Літве. Тацяна Равяка везла асобнікі для сяброў Бяляцкага. Судзьдзя Ашмянскага раённага суду Тацяна Емельяновіч вынесла рашэньне аб рээкспарце кнігі.

# Алесь Бяляцкі ўганараваны прэміяй «Абаронца грамадзянскіх правоў году»

4 красавіка 2014

*Швэдзкая праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders прызнала Алеся Бяляцкага «Абаронцам грамадзянскіх правоў году».*

4 красавіка ў 19:00 па менскім часе ў Стакгольме ўзнагароду за Алеся Бяляцкага атрымае ягоная жонка Натальля Пінчук. У інтэрвію для Радыё Свабода Натальля Пінчук адзначыла, што вельмі ганарыцца гэтай узнагародай і ўдзячная праваабаронцам Швэцыі за ўвагу да лёсу яе мужа, палітвязьня Алеся Бяляцкага:

«Спадзяюся, гэта дапаможа ягонаму найхутчэйшаму вызваленьню», — сказала Натальля Пінчук.

Грашовай прэміяй арганізацыі Civil Rights Defenders памерам 50 тысяч эўра ўзнагароджаная таксама беларуская праваабарончая арганізацыя «Вясна», якая з 1996 году аказвае прававую дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў у Беларусі, змагаецца за выкананьне ўладамі Беларусі сваіх абавязкаў у галіне правоў чалавека, у тым ліку за адмену сьмяротнага пакараньня.

Узнагарода Civil Rights Defenders «Абаронца грамадзянскіх правоў году» ўручаецца 4 красавіка, у дзень забойства доктара Марціна Лютэра Кінга. Прэмія прысуджаецца падчас штогадовай

канфэрэнцыі Civil Rights Defenders «Дні праваабаронцаў» у Стакгольме. Гэтым разам у канфэрэнцыі бяруць удзел калега Алеся Бяляцкага па працы ў «Вясьне» Тацяна Равяка і яго жонка Натальля Пінчук.

## Бяляцкі напісаў новую кнігу за кратамі

14 траўня 2014

*Выйшла новая кніга зьняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Іртутнае срэбра жыцьця».*

Кніга цалкам напісаная Алесем Бяляцкім за кратамі і прысьвечаная падзеям 2010–2011 гадоў у Беларусі.

«Кніга адлюстроўвае два гады жыцьця Алеся і Праваабарончага цэнтру „Вясна“. Алесь пачаў яе пісаць у верасьні 2012 і скончыў у чэрвені 2013 году. Кніга складаецца з разьдзелаў, і кожны зь іх — гэта фактычна ліст Алеся, успамін пра нейкія падзеі гэтага пэрыяду. Я вельмі рада, што яна выйшла, і Алесь яе чакае. Фактычна гэта гісторыя жыцьця Алеся гэтага пэрыяду, гісторыя „Вясны“ і ўсяго праваабарончага сэктару і нават гісторыя ўсёй Беларусі ў гэтыя цяжкія гады»,— апавяла Свабодзе сябра «Вясны» Тацяна Равяка.

## Алесь Бяляцкі на волі

21 чэрвеня 2014

*Алесь Бяляцкі патэлефанаваў жонцы Натальлі Пінчук, што ён вызвалены і едзе ў Менск на электрычцы з Бабруйску. Паводле раскладу, цягнік прыбывае на станцыю «Інстытут культуры» ў 15:05.*

Лідэр грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Ўладзімер Някляеў кажа, што галоўнай умовай Эўразьвязу, каб адносіны разьвіваліся, пастаўлена вызваленьне палітвязьняў. І ўмова пастаўлена жорстка: без вырашэньня гэтага пытаньня далей ніякіх рухаў ня будзе. Таму беларускія ўлады і зрабілі такі крок:

«Узважыўшы, відаць, усе наступствы ў зьвязку з падзеямі ва Ўкраіне, з рэакцыяй Расеі, з магчымым разьвіцьцём гэтых наступстваў, прынята рашэньне ўсё ж такі кантакты пашыраць, паглыбляць, і пад гэта вызвалены Алесь Бяляцкі. Так што дзіва тут няма, ёсьць абставіны, якія змусілі беларускія ўлады пайсьці на гэты крок».

## У Менску сустракаюць Бяляцкага

21 чэрвеня 2014

*Журналісты Свабоды вядуць жывы рэпартаж з станцыі «Інстытут культуры».*

15:02 На станцыі «Інстытут культуры» зьбіраюцца калегі, сябры Алеся Бяляцкага, якога спадзяюцца сустрэць з электрычкі ў 15:05. На плятформе жонка Алеся Натальля Пінчук, калегі Валянцін Стэфановіч, Уладзімер Лабковіч, палітыкі Вінцук Вячорка і Павал Севярынец, праваабаронца Валер Шчукін, журналісты — усяго чалавек 30. Ёсьць міліцыянты ў форме і людзі ў цывільным з навушнікамі, якія паўтараюць адну фразу: «А 15-й гадзіне».

15:08 Алесь Бяляцкі выйшаў зь цягніка пад воплескі грамады і воклічы «Жыве Беларусь!».

15:12 Алесю Бяляцкаму падарылі вялізны букет кветак.

15:15 Алесь Бяляцкі сказаў, што пэўны ціск быў увесь час з тым, каб ён напісаў прашэньне аб памілаваньні. Але ён адмаўляўся.

15:17 «Бывала так, што ноччу прачынаесься і думаеш пра падзеі ва Ўкраіне», — у размове з журналістамі.

15:19 Бяляцкі адказаў на пытаньні журналістаў, усім падзякаваў і скіраваўся дадому: «Бо тры гады дому ня бачыў і не адышоў яшчэ ад зоны».

15:21 Прысутныя праводзяць Бяляцкага воплескамі.

# Дынэр: Гульня паміж Беларусьсю і Эўразьвязам пачалася

21 чэрвеня 2014

Юры Дракахруст

*Магчымую рэакцыю Захаду на вызваленьне Алеся Бяляцкага мы папрасілі пракамэнтаваць аналітыка Польскага інстытуту міжнародных справаў Ганну Марыю Дынэр.*

*Дракахруст:* Ганна, на ваш погляд, якіх крокаў Захаду можна чакаць у адказ на вызваленьне Бяляцкага?

*Дынэр:* Я ня думаю, што гэта стане пачаткам пацяпленьня адносін. Але гэта будзе ўспрынята як добры крок у правільным кірунку, у кірунку дыялёгу. Я нагадаю, што апошнім часам прайшлі кансультацыі паміж МЗС Польшчы і Беларусі ў Менску і ў Варшаве. Палітвязьні былі адным зь сюжэтаў гэтых перамоваў, і польскі бок, як заўжды, настойваў на тым, што беларускія ўлады павінны вызваліць гэтых людзей. Алесь Бяляцкі быў самым яскравым прыкладам палітвязьня, акрамя, можа, Міколы Статкевіча.

*Дракахруст:* Калі я правільна вас зразумеў, за вызваленьне Бяляцкага Лукашэнку паляпаюць па плячы і скажуць, што ён малайчына. Ніякіх іншых зьменаў не адбудзецца.

*Дынэр:* Мне здаецца, што пакуль не. Я спадзяюся, што Бяляцкі ня будзе апошнім, што з-за

кратаў выйдуць і іншыя палітвязьні. Я ня ведаю дакладна пра ходу перамоваў, можа, беларускі прэзыдэнт нешта і атрымае ад свайго кроку. Але вядома, што пазыцыя ЭЗ палягае ў тым, што вызваленыя павінны быць усе палітвязьні, каб у адносінах наступіла адліга.

*Дракахруст:* Як вы тлумачыце лёгіку паводзінаў бакоў? Лукашэнка ведае, што ўмовай паляпшэньня адносінаў зьяўляецца вызваленьне ўсіх палітвязьняў. Ён вызваляе аднаго, што не набліжае яго да дасягненьня гэтай мэты. Магчыма, ён кіруецца лёгікай «так за так»: ён робіць «так», вызваляючы Бяляцкага, і чакае сустрэчнага «так» ад ЭЗ. Зь іншага боку, ЭЗ можа меркаваць, што вызваленьне праваабаронцы стала дэманстрацыяй эфэктыўнасьці санкцыяў, таго, што яны працуюць. Не ад дабрыні душэўнай Лукашэнка Бяляцкага вызваліў. Дык нашто тады рабіць сустрэчны «так», аслабляць санкцыі, а не чакаць, пакуль яны не спрацуюць напоўніцу?

*Дынэр:* Я ня ведаю ўсіх дэталяў перамоваў паміж Беларусьсю і Польшчай і іншымі эўрапейскімі краінамі. Але мне здаецца, што калі рэакцыя будзе добрая, калі ўсе яго ўхваляць, то можна чакаць, што Лукашэнка вызваліць і астатніх палітвязьняў. Усе ўжо ведаюць, што выйсьце ёсьць. Я ня думаю, што Статкевіч падпіша прашэньне аб памілаваньні. Але можна вызваліць яго па амністыі. Мы чакалі, што вызваленьне адбудзецца напярэдадні чэмпіянату па хакеі.

У любым выпадку нейкая гульня паміж Беларусьсю і Эўразьвязам пачалася. Канкрэтную

формулу пагадненьня мы, на жаль ці на шчасьце, ня ведаем, бо гэта пытаньне дыпляматычных перамоваў.

# «Калі сядзіць хоць адзін чалавек, паўторыцца сцэнар 2010 году»

23 чэрвеня 2014

*Алесь Бяляцкі пасьля вызваленьня з турмы даў прэсавую канфэрэнцыю.*

«Скажу, што сядзець за Беларусь, за дэмакратычную Беларусь, незалежную — гэта нармальна, гэта можна, — заявіў Алесь Бяляцкі. — Я не ўпадаў ні ў якія стрэсавыя сытуацыі, не знаходзіўся ва ўнутраным нейкім заламаньні, таму што мэта, дзеля якой і актывісты грамадзянскай супольнасьці, і дэмакратычна настроеныя беларусы дамагаюцца зьмены сытуацыі ў лепшы бок у сваёй краіне, — гэта мэта высокая. І гэтая мэта патрабуе пэўных намаганьняў, а калі трэба, і пэўных такіх ахвяраў. Проста так нічога не даецца, і проста так у нас нічога ня будзе. Калі мы хочам, каб наша жыцьцё было лепшым, каб мы выбраліся з таго балота, у якім знаходзіцца Беларусь вось ужо 20 год, то мы павінны быць актыўнымі і не баяцца тых рэпрэсіяў і ціску, які аказваецца на грамадзянскую супольнасьць і канкрэтна на кожнага чалавека. Вось з гэтым пачуваньнем, за што я сяджу, мне сядзелася, трэба сказаць, вельмі лёгка — унутрана. І, безумоўна, другі момант — гэта вялізная падтрымка, ваша падтрымка. Я вельмі ўдзячны тысячам людзей, дзясяткам тысяч, якія падтрымлівалі мяне ў гэтай сытуацыі. Гэта была магутная абарона, браня, якую не маглі прабіць

ніякія правакацыі, ніякі ўціск. Я адчуваў сябе вельмі ўпэўнена дзякуючы вашай падтрымцы і актыўнасьці беларускіх журналістаў. Я ўдзячны і Алегу Груздзіловічу, і Алесю Ліпаю, і Жаньне Літвіной, ды шмат каму яшчэ, усіх пералічыць немагчыма, хто не забываўся пра нас».

Алесь Бяляцкі паведаміў, што вызвалілі яго паводле амністыі, якая пачала дзейнічаць з 21 чэрвеня. Такім чынам, да заканчэньня свайго тэрміну ён не дабыў год і 7 месяцаў. Пры гэтым сам ён на амністыю не разьлічваў, бо меў шмат пакараньняў і лічыўся злосным парушальнікам рэжыму. У калёніі пакараньне можна атрымаць вельмі проста, і гэта шырока выкарыстоўваецца, каб ціснуць на вязьняў, сказаў Бяляцкі і прывёў прыклады: за незашпілены гузік, за хвіліну спазьненьня ці проста нізавошта. Алесь Бяляцкі згадаў, як на яго склалі пратакол нават за тое, што меў у торбе больш пачак печыва, чым нібыта вызначае інструкцыя.

Свой арышт і вялікі тэрмін Алесь Бяляцкі назваў «цалкам палітычным рашэньнем». Паводле Алеся Бяляцкага, дзейнасьць Праваабарончага цэнтру «Вясна» заўсёды цікавіла КДБ, і ў 2011 годзе яго асабіста паставілі перад выбарам: альбо ён зьедзе, альбо сядзе:

«Гэты выбар я зрабіў, застаўся і цягам гэтых гадоў спрабаваў даказаць, што не зьмяніў сваю пазыцыю. Мне здаецца, улады ставілі мэту дэзарганізаваць і запалохаць грамадзянскую супольнасьць у Беларусі. Усё гэта трэба глядзець у кантэксьце тых арыштаў, якія былі зробленыя

падчас сьнежня 2010 году. У якой ступені яны дасягнулі сваёй мэты? Магчыма, у пэўнай ступені, але далёка не ўсяго, чаго хацелі. А сёньняшняе вызваленьне — ня вынік зьменаў у маёй пазыцыі, а вынік пэўнага ціску на беларускія ўлады. Што яны вымушаныя пайсьці на нейкія саступкі, каб, магчыма, на іх погляд, нармалізаваць сытуацыю. Хоць, па вялікім рахунку, маё вызваленьне нічога не вырашае. У краіне як быў, гэтак і застаецца татальны кантроль над грамадзтвам.

«Я спадзяюся, што маё вызваленьне — толькі пачатак, і іншыя палітвязьні будуць таксама на волі. Я зьвяртаюся да ўладаў з патрабаваньнем не спыняцца на вызваленьні толькі Бяляцкага. Бо з маім вызваленьнем сытуацыя не паляпшаецца. Мы павінны быць краінай без палітвязьняў. І мы знаходзімся ад гэтага дастаткова блізка. Дастаткова выпусьціць гэтых 7 чалавек і абвясьціць мараторый, добрую волю адносна грамадзянскай супольнасьці, людзей зь іншымі поглядамі».

«Мы знаходзімся ў несвабодным грамадзтве, і ў мяне няма вялікага задавальненьня, што я выйшаў на волю. Прайшлі тры гады — і вяртаюся туды, адкуль я выйшаў. І што будзе заўтра, незразумела. Мэты праваабарончых арганізацыяў застаюцца. Нявырашанасьць сытуацыі пакідае пачуцьцё незадавальненьня ад таго, што робіцца ў краіне».

На пытаньне пра пацяпленьне стасункаў паміж афіцыйным Менскам і Эўразьвязам Алесь Бяляцкі сказаў:

«Першае, чаго трэба дамагацца, — гэта вызваленьне палітвязьняў. Усялякія размовы пра пацяпленьне могуць ісьці толькі пасьля гэтага. Пакуль ёсьць палітвязьні, мы не павінны дапускаць такой сытуацыі падвойных стандартаў, як, напрыклад, у Азэрбайджане, дзе ёсьць палітвязьні — і таварыш Аліеў катае па Эўропах, і зь ім усе вітаюцца. Такога ў нас не павінна быць. І мы павінны рабіць тое, што і рабілі да маёй пасадкі, што было надзвычай важна — гэта стварэньне сытуацыі, накшталт таго, як бывае „бязьядзерная зона», то ў нас павінна быць зона без палітвязьняў. І калі мы даб'емся гэтага, і калі ўлады зразумеюць, што для іх гэта выгадна ў палітычным і эканамічным пляне — ня мець палітвязьняў у Беларусі, тады могуць ісьці і іншыя размовы і перамовы пра паляпшэньне іншай сытуацыі. Пакуль гэтага няма, гаварыць пра паляпшэньне сытуацыі не выпадае. Калі сядзіць хоць адзін чалавек, гэта азначае, што паўторыцца сцэнар, які быў у 2010 годзе. Зноў нейкі зрыў — і ў нас не адзін, а сто чалавек у турме. Зноў у нас чарговы чэмпіянат — і пачынаюцца незразумелыя затрыманьні, дэбільныя пратаколы за лаянку матам. Мы не павінны скочвацца да сытуацыі бясправўя і беззаконьня, якое фактычна прыкрываецца ўладай. Калі мы спрабуем пабудаваць нешта на законных падставах, дык давайце гуляць больш-менш шчыра ў гэтай сытуацыі. Каб з боку ўладаў не было незразумелай гульні».

На пытаньне, ці зьбіраецца Алесь Бяляцкі зьяжджаць зь Беларусі, ён сказаў:

«Зьяжджаць я не зьбіраюся. Мне тут вельмі камфортна. Я нават на зоне, і пісаў пра гэта ў лістах, адчуваў сябе вельмі камфортна, бо вакол мяне свае людзі. Для мяне важная атмасфэра беларускага грамадзтва — такога, якое яно ёсьць».

Адказаў Бяляцкі і на пытаньне, ці магчымы Майдан у Беларусі:

«У нас магчыма ўсё. Іншая справа — наколькі грамадзтва гатовае да тых зьменаў, якія патрэбныя. Вельмі шмат залежыць ад таго, наколькі ўлады гатовыя ісьці на зьмены. Каб трансфармаваць сытуацыю і грамадзтва і пасьпяваць за сьветам, які вакол нас. Мы не жывем на асобнай ізаляванай высьпе. Сьвет мяняецца, і мусім мяняцца мы. Мы ня можам жыць закансэрваванымі ў слоіку 20–30 гадоў. Хацелася б, каб гэтыя зьмены адбываліся павольным і эвалюцыйным чынам. Бо рэзкія зьмены і пераломы прыводзяць да вялікіх выдаткаў. Як праваабаронца я прынцыпова выступаю за тое, што нам патрэбна масавая грамадзянская пазыцыя, грамадзянскі мірны супраціў, які прывёў бы да нармальных зьменаў у грамадзтве. І гэта той шлях, які робіць гэтыя зьмены незваротнымі. Тады не адбываецца адкату назад. А дзеля гэтага трэба працаваць усім нам, і працаваць не адзін год і багата».

Алесь Бяляцкі расказаў пра ўмовы ўтрыманьня ў турме:

«Умовы гэтыя ў палітвязьняў былі асобныя. Гэта тычыцца ня толькі мяне, але і ўсіх. Гэта ізаляцыя ад іншых асуджаных. Калі ты ў атрадзе, дзе больш за сто чалавек, ты жывеш у сэкцыі з

15 чалавек, але з табой ніхто ня мае кантактаў. Цябе абыходзяць за тры мэтры. Бо калі чалавек павітаецца, пагутарыць з табой пра надвор’е ці футбол, назаўтра яго ў атрадзе ўжо няма. Наогул, маё зьяўленьне ў Бабруйскай зоне пачалося з таго, што атрад ачысьцілі ад тых, хто падпісаны на „Народную Волю“. Гэтая сытуацыя вакууму, ізаляцыі ад іншых вязьняў працягвалася да самай апошняй хвіліны».

Алесь Бяляцкі падзяліўся сваімі далейшымі плянамі:

«Безумоўна, я буду займацца і далей па меры сваіх невялікіх магчымасьцяў праваабарончай дзейнасьцю. У беларускіх праваабаронцаў магчымасьці абмежаваныя, мы знаходзімся ў пэўнай ізаляцыі, якую стварылі беларускія ўлады для праваабаронцаў і, у прыватнасьці, для „Вясны“, бо дагэтуль мы не зарэгістраваныя і пытаньне легальнай працы для нас вельмі вострае. Я зьяўляюся віцэ-прэзыдэнтам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, я буду працаваць таксама і на міжнародным узроўні і па беларускім пытаньні, і па тых, якія ёсьць у рэгіёне. Тым больш што сытуацыя тут вельмі напружаная. Апошнія гады і месяцы наогул узарвалі сытуацыю ў рэгіёне. І трэба нам не забывацца на тое, што адбываецца побач з намі, бо гэта ўплывае на сытуацыю ў Беларусі. Гэта будзе мая асноўная праца. І буду працягваць сваё пісаньне».

## Кіраўнік амбасады ЗША: вызваленьня аднаго Бяляцкага замала

23 чэрвеня 2014

*«Пазыцыя Злучаных Штатаў — вызваленьне ўсіх палітычных зьняволеных. І толькі ў гэтым выпадку можна чакаць зьмякчэньня санкцыяў», — заявіў часовы павераны ў справах ЗША ў Беларусі Ітан Голдрыч.*

Гэтак Голдрыч адказаў на пытаньне журналіста, ці можна чакаць пасьля вызваленьня праваабаронцы Алеся Бяляцкага зьмякчэньня санкцыяў ЗША супраць кіраўніцтва Беларусі.

# Чаму вызвалілі Алеся Бяляцкага

25 чэрвеня 2014

Валер Карбалевіч

Адзін са знакавых палітвязьняў Алесь Бяляцкі выпушчаны з-за кратаў датэрмінова. Тут важны ня толькі сам факт, але і спосаб вызваленьня. Дагэтуль Аляксандар Лукашэнка ўвесь час паўтараў, што ўсе палітзьняволеныя могуць выйсьці на волю толькі пасьля напісаньня імі прашэньня аб памілаваньні. Бяляцкі ж нічога не пісаў. Згодна з законам амністыя на яго не распаўсюджвалася, бо ён лічыўся «злосным парушальнікам рэжыму». Яшчэ раніцай у дзень вызваленьня ён зьбіраўся на працу. Але нечакана ўсё зьмянілася, яму абвясьцілі пра амністыю, сьпешна вызвалілі і адвезьлі на электрычку да Менску на машыне хуткай дапамогі.

Важна зьвярнуць увагу і на постаць палітвязьня. Алесь Бяляцкі — вядомы дзеяч сусьветнага праваабарончага руху. І беларускія ўлады, несумненна, улічвалі міжнародны рэзананс ад яго вызваленьня. То бок гэта відавочны палітычны жэст у бок Захаду. У чым яго сэнс?

Апошнім часам мы назіраем прыкметны рост дыпляматычнай актыўнасьці афіцыйнага Менску на заходнім кірунку. Узровень кантактаў быццам бы невысокі, яны носяць больш рутынны дыпляматычны характар. Але зьвяртае на сябе ўвагу, па-першае, іх інтэнсіўнасьць.

А па-другое, і гэта самае галоўнае, яны праходзяць на новым міжнародным фоне, які ўзьнік у выніку падзеяў ва Ўкраіне, якія, паводле ацэнак беларускага кіраўніцтва, ствараюць іншы, больш спрыяльны кантэкст для размарожваньня стасункаў з ЭЗ і ЗША.

Ранейшы досьвед паказвае, што падчас вострага геапалітычнага супрацьстаяньня, міжнароднага крызісу, абвастрэньня адносін паміж Захадам і Расеяй на першы плян у міжнароднай палітыцы выходзяць пытаньні геапалітыкі, а пытаньні каштоўнасьцяў (правоў чалавека, дэмакратыі, палітзьняволеных) адсоўваюцца крыху ўбок. Таму Менск лічыць, што з геапалітычных меркаваньняў ЗША і ЭЗ цяпер у большай ступені гатовыя да размарожваньня адносін зь беларускім рэжымам.

Вайна ва Ўкраіне стала галаўным болем для Захаду. Узьнікае пагроза транзыту газу ў краіны ЭЗ праз украінскую тэрыторыю. І на гэтым фоне беларуская стабільнасьць падвышаецца ў цане ня толькі для саміх беларусаў, але і для эўрапейскіх суседзяў.

Яшчэ адзін момант. На тле агрэсіўных дзеяньняў Расеі, штодзённых ахвяраў вайны ва Ўкраіне беларускі палітычны рэжым стаў выглядаць у вачах эўрапейцаў не такім адыёзным, як раней. Апошнія 15 гадоў тут палітычных апанэнтаў не забівалі. Пуцін пачаў лічыцца «горшым хлопцам», чым Лукашэнка. Усё пазнаецца ў параўнаньні.

Акрамя таго, пазыцыя афіцыйнага Менску па ўкраінскім крызісе істотна адрозьніваецца ад палітычнага курсу Расеі. У 2008 годзе, пасьля расейска-грузінскай вайны, адмовы Беларусі прызнаць незалежнасьць Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі пачаўся дыялёг паміж Менскам і ЭЗ. І беларускае кіраўніцтва небеспадстаўна спадзяецца, што Захад аддзячыць Аляксандру Лукашэнку за асобую пазыцыю па ўкраінскім пытаньні.

Навошта гэтае размарожваньне адносін з Захадам патрэбнае цяпер афіцыйнаму Менску? Па-першае, агрэсія Расеі супраць Украіны напужала Лукашэнку, ён ня хоча быць заціснуты паміж двума моцнымі геапалітычнымі цэнтрамі, імкнецца мець трошкі большую свабоду манэўру. Па-другое, трэба крышачку пашантажаваць Маскву, каб тая хутчэй дала абяцаны крэдыт. Па-трэцяе, Менск хацеў бы атрымаць на Захадзе пазыкі і інвэстыцыі, бо расейскіх грошай ужо не хапае. Па-чацьвёртае, Лукашэнку псыхалягічна важна мець магчымасьць езьдзіць у Эўропу, сустракацца з эўрапейскімі палітыкамі. Усе зьвярнулі ўвагу, зь якой асалодай ён браў удзел у інаўгурацыі прэзыдэнта Ўкраіны Пятра Парашэнкі ў Кіеве, седзячы ў адным шэрагу з кіраўнікамі іншых дзяржаў. А калі яго атачыў натоўп журналістаў, ён адчуў сябе ў сваёй стыхіі (дарэчы, даўно забытай). Як пастар Шлаг, ён захмялеў ад паветра свабоды. І візыт у Сэрбію Аляксандар Лукашэнка ўспрыняў падобным чынам, быццам прасек акно ў Эўропу.

Аднак пакуль што разьлікі афіцыйнага Менску не апраўдаліся. Захад па-ранейшаму ўвязвае размарожваньне адносін з пытаньнем вызваленьня палітвязьняў. І тады Лукашэнка вырашыў згуляць казырнай картай — вызваліў Алеся Бяляцкага.

Цяпер беларускае кіраўніцтва чакае крокаў у адказ з боку Захаду. І ў залежнасьці ад іх будзе вырашаць пытаньне аб вызваленьні астатніх палітвязьняў.

Што можа цяпер зрабіць Захад, каб працэс размарожваньня адносін працягваўся, не спыняўся? Адных заяваў афіцыйных асобаў, якія віталі вызваленьне Бяляцкага, мала. Патрэбныя нейкія дзеяньні. Калі Брусэль здыме візавыя санкцыі з шэрагу беларускіх чыноўнікаў, гэта наўрад ці дапаможа. Бо яны не закрануць самога Лукашэнку.

Узгадваецца, як Лукашэнка наведаў Літву ў верасьні 2009 году. Той візыт ня быў ні афіцыйным, ні нават працоўным. Фактычна гэта была паездка на адкрыцьцё беларуска-літоўскага эканамічнага форуму і выставы, а з гэтай нагоды адбылася і сустрэча двух кіраўнікоў дзяржаў.

Можа, нешта падобнае арганізаваць і цяпер у якой-небудзь краіне ЭЗ? Ці проста запрасіць пакатацца на лыжах, хоць і не сэзон. Ці пагуляць у хакей. І на час такога мерапрыемства ўвесьці мараторый на візавыя санкцыі адносна беларускага лідэра. Такі жэст, верагодна, быў бы ацэнены Лукашэнкам. Глядзіш, і астатніх палітвязьняў павыпускае.

## Рада БНР вітае вызваленьне Бяляцкага

27 чэрвеня 2014

*У сваёй заяве, зьмешчанай на старонцы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў фэйсбуку, Рада дала ацэнку апошнім падзеям у Беларусі і сьвеце.*

Рада прывітала падпісаньне Ўкраінай, Малдовай і Грузіяй пагадненьняў аб асацыяцыі з Эўрапейскім Зьвязам.

«Рада віншуе кіраўніцтва і народы гэтых блізкіх Беларусі краінаў з важным крокам на шляху эўрапейскае інтэграцыі, які адчыняе для іх новыя магчымасьці для эканамічнага і гуманітарнага разьвіцьця, а таксама зьяўляецца важным этапам у вызваленьні ад спадчыны таталітарнага мінулага», — гаворыцца ў заяве.

Рада БНР падкрэсьліла, што выступае за актыўнае зьбліжэньне Беларусі і Эўрапейскага Зьвязу. Датэрміновае вызваленьне ўладамі Алеся Бяляцкага Рада расцэньвае як пазытыўны, але ні ў якім разе не дастатковы крок для пачатку працэсу нармалізацыі стасункаў паміж Рэспублікай Беларусь і міжнароднай супольнасьцю.

«Рада заклікае кіраўніцтва Эўрапейскага Зьвязу актыўна ўзьдзейнічаць на ўлады Рэспублікі Беларусь з мэтай спрыяньня паўнавартаснай дэмакратызацыі Беларусі».

## Бяляцкага вітаюць у Парыжы, Страсбуры і Брусэлі

2 ліпеня 2014

*Алесь Бяляцкі, кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» і віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай Фэдэрацыі за правы чалавека, наведвае Францыю і Бэльгію.*

Алесь ужо сустрэўся з прадстаўнікамі Эўрапейскага Зьвязу, каб падзякаваць за «нястомныя намаганьні па яго вызваленьні і заклікаць да барацьбы за вызваленьне ўсіх палітычных вязьняў Беларусі і сыстэмныя зьмены ў сытуацыі з правамі чалавека і асноўнымі свабодамі», — паведамляе сайт «Вясны».

Таксама праваабаронца заклікаў падтрымліваць грамадзянскую супольнасьць Беларусі ў справе барацьбы за дэмакратыю і правы чалавека.

Эўрапейскія дыпляматы і журналісты распыталі Алеся пра ўмовы яго ўтрыманьня ў турме і вызваленьня.

Алесь Бяляцкі таксама сустрэўся з спэцыяльным прадстаўніком ЭЗ па правах чалавека Стаўрасам Ламбрынідзісам, прадстаўнікамі Эўрапейскай Камісіі і шэрагам амбасадараў краін ЭЗ.

2 ліпеня паездка Алеся Бяляцкага працягнецца сустрэчай у Страсбуры зь пераабраным прэзыдэнтам Эўрапейскага парлямэнту Мартынам Шульцам, а таксама з эўракамісарам у пытаньнях пашырэньня і палітыкі добрасуседз-

тва Штэфанам Фюле, генэральным сакратаром Рады Эўропы Турб'ёрнам Ягландам, прэзыдэнтам Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы Ан Брасэр і офісам Камісара па правах чалавека Рады Эўропы.

Завершыць паездку праваабаронцы сустрэча ў Парыжы з мэрам гораду, які ўзьвёў Алеся Бяляцкага ў ранг ганаровага грамадзяніна Парыжу яшчэ падчас яго зьняволеньня.

## «Успаміны пра турму я буду пісаць на волі, а ў турме пісаў пра волю»

22 ліпеня 2014

*У Менску прэзэнтавалі кнігу Алеся Бяляцкага «Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы».*

На прэзэнтацыі сярод іншых прысутнічалі колішнія палітвязьні, грамадзкія дзеячы і літаратары Ўладзімер Някляеў, Павал Севярынец і Зьміцер Дашкевіч.

Алесь Бяляцкі прызнаўся: ён узрушаны, бо за тыя гады, пакуль быў за кратамі, іншыя палітвязьні напісалі выдатныя кнігі.

Бяляцкі пажартаваў, што трэба пасадзіць увесь Саюз пісьменьнікаў, каб у беларускай літаратуры зьявіліся новыя цікавыя творы.

У аснову кнігі «Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы» пакладзеныя лісты, якія праваабаронца дасылаў на волю сваім сябрам і калегам. Бяляцкі апісвае ня ўласныя турэмныя прыгоды, а тыя падзеі, якія папярэднічалі ягонаму арышту.

Рэдактары і ўкладальнікі кнігі Алена Лапцёнак і Ірына Пракопчык расказалі, што праца над ёй адбывалася дыстанцыйна і ў рэжыме ліставаньня.

Аўтару і ўкладальніцам даводзілася абыходзіць турэмную цэнзуру. Бяляцкі нават згадаў, як цэнзары вярталі яму лісты і як ён перапісваў тэксты.

«Успаміны пра турму я буду пісаць на волі, а ў турме пісаў пра волю, пра апошнія паўгода свайго вольнага жыцьця. Кніжка цалкам рабілася безь мяне, і яна зьяўляецца такім калектыўным дзіцём. Некалькі чалавек расшыфроўвалі мае лісты, бо маю паганы почырк, таксама была асобная эпапэя з выданьнем кніжкі: яна крыху затрымалася. І вось я выйшаў нечакана перад самай прэзэнтацыяй, якая плянавалася безь мяне, таму тут усё вельмі жыва. І сама назва кніжкі „Іртутнае срэбра жыцьця“, мабыць, перадае і небясьпеку, і прыцягальнасьць, і жывасьць нашага жыцьця, якое зьмяняецца кожную хвіліну», — сказаў Бяляцкі ў інтэрвію Радыё Свабода.

На заднім форзацы кнігі «Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы» напісана, што на момант яе выхаду аўтар адбывае пакараньне ў бабруйскай папраўчай калёніі.

## «Ад падзеяў ва Ўкраіне залежыць лёс усяго рэгіёну»

11 ліпеня 2014

*Ад таго, што будзе ва Ўкраіне на працягу бліжэйшых гадоў, залежыць будучыня ўсяго рэгіёну, у тым ліку і Беларусі. У гэтым перакананы праваабаронца Алесь Бяляцкі.*

Тры тыдні таму яго амніставалі, вызваліўшы на паўтара года раней за канец тэрміну зьняволеньня.

Цяпер Бяляцкі падарожнічае па эўрапейскіх сталіцах, дзе сустракаецца з палітыкамі і грамадзкімі дзеячамі. Ён, у прыватнасьці, пабываў у Варшаве, дзе нямала гаварыў пра Ўкраіну.

Алесь Бяляцкі кажа, што яго першыя дні на волі — гэта пастаянныя размовы пра сытуацыю ва Ўкраіне і пра тое, як яна паўплывае на лёс Беларусі. Падчас размовы з польскімі палітыкамі і экспэртамі гучалі здагадкі, што датэрміновае вызваленьне Бяляцкага з турмы зьвязана з анэксіяй Крыму і падзеямі ва ўсходнеўкраінскіх абласьцях. Маўляў, Лукашэнка баіцца агрэсіўнай Расеі, таму вырашыў паказаць Захаду, што гатовы ісьці на нейкія саступкі, у прыватнасьці вызваліць некаторых палітвязьняў.

У Варшаве Бяляцкі камэнтаваў рост падтрымкі сярод беларусаў Аляксандра Лукашэнкі. Сацыёлягі зьвязваюць гэта менавіта з падзеямі ва Ўкраіне. Праваабаронца мяркуе:

«Для гэтага ёсьць пэўныя прычыны. Ніхто ня хоча вайны, гэта асноўная прычына стаўленьня беларусаў да таго, што адбываецца ва Ўкраіне, яны не гатовыя да пераменаў да лепшага рэвалюцыйным шляхам, калі гэта зьвязана з пралiцьцём крыві і вайной».

Разам з тым Бяляцкі кажа і пра іншае вымярэньне ўкраінскіх уплываў на беларусаў. Ён кажа:

«На сёньня Беларусь знаходзіцца на цывілізацыйным раздарожжы. Куды яна пойдзе? Гэтае пытаньне абвастрылася ў сувязі з падзеямі ва Ўкраіне. Праз 20 гадоў гэта будзе або 6 губэрняў Расейскай імпэрыі, або нейкая шэрая зона накшталт Абхазіі ці Прыднястроўя, або нармальная эўрапейская краіна? Такое самавызначэньне адбываецца менавіта цяпер».

Паводле беларускага праваабаронцы, сёньня ва Ўкраіне вырашаецца лёс ня толькі ўкраінскага народу.

«Вельмі важна, як будзе разьвівацца сытуацыя ва Ўкраіне. Калі будзе расьці ўзровень жыцьця, людзі будуць адчуваць сябе бясьпечна, то гэта будзе стратэгічны прыклад для беларусаў. У нас сотні кілямэтраў агульнай мяжы, сотні тысяч беларусаў і ўкраінцаў, якія жывуць у гэтых дзьвюх краінах, у нас вельмі цесныя разнастайныя сувязі, таму надзвычай важна тое, што ва Ўкраіне будзе адбывацца на працягу бліжэйшых 5–7 гадоў, гэта вельмі важна для ўсяго рэгіёну, у тым ліку і для Беларусі», — сказаў Алесь Бяляцкі.

# «Я сябе ня бачу як палітычнага лідэра. Я ўсё ж грамадзкі дзеяч, праваабаронца»

5 жніўня 2014

*Праваабаронца і палітвязень Алесь Бяляцкі — госьць тэлеперадачы «Свабода бяз гальштукаў».*

*Соўсь*: Сёньня ў нас доўгачаканы госьць. Тры гады амаль кожны тыдзень у гэтай студыі гучала ягонае імя, на сайце Свабоды, я не памылюся, амаль кожны дзень. У Празе ў нашай студыі старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна», былы палітзьняволены, літаратуразнаўца, намінант на Нобэлеўскую прэмію міру Алесь Бяляцкі.

І якраз сёньня, 4 жніўня, калі запісваецца наша перадача, тры гады таму вы былі арыштаваныя, Алесь. Вы памятаеце гэты дзень?

*Бяляцкі:* Так, гэта такі сумны юбілей. Трэба сказаць, што сёньня яшчэ адна дата — Міжнародны дзень салідарнасьці зь беларускай грамадзянскай супольнасьцю. Гэты дзень будзе адзначацца ў многіх краінах сьвету ў падтрымку беларускай грамадзкасьці.

*Соўсь:* Алесь Бяляцкі быў асуджаны на чатыры з паловай гады турмы, яго пакаралі за нясплату падаткаў, ён сваёй віны не прызнаў, ён заяўляў пра тое, што грошы на яго рахункі ў Польшчы і Літве ішлі на праваабарончую дзейнасьць. Міжнародная супольнасьць, Эўразьвяз, Злучаныя Штаты лічылі гэты прысуд палітычна матыва-

ваным, лічылі Бяляцкага палітычным зьняволеным. І вось паўтара месяца ўжо Алесь Бяляцкі на свабодзе.

Алесь, я хацела вас запытацца. Вось тры гады гэтыя ў турме, вы выйшлі іншы. Ці выйшлі вы ў іншую краіну, вярнуліся ў іншую Беларусь? Зьмяніліся вы ці зьмянілася тая Беларусь, у якой вы цяпер? Якое вашае ўражаньне?

*Бяляцкі:* У любым выпадку людзі мяняюцца натуральным чынам за тры гады, нават калі жывуць у нейкіх спакойных умовах і звычайным жыцьцём. А калі ты трапляеш у такую экстрэмальную, у пэўным сэнсе стрэсавую сытуацыю, якая працягваецца даволі працяглы час, то, безумоўна, яна мяняе чалавека. Ну, шчыра скажу, што адна з задачаў, якую я ставіў там перад сабою, — гэта пастарацца зьмяніцца як мага менш. Я спрабаваў закрыцца ад таго ўзьдзеяньня, якое аказвае турма на чалавека. Бо сапраўды, як бы там ні было, і характары, і паводзіны, і сам чалавек там можа зьмяніцца як у лепшы, так і ў горшы бок.

## «Я адчуваў нябачную падтрымку ці ледзь улоўную ляяльнасьць з боку зьняволеных»

*Соўсь:* Сяргей, вы ведаеце Алеся шмат год. Як вы думаеце, зьмяніўся ён?

*Дубавец:* Я думаю, што не зьмяніўся. Мне вось цікавая іншая рэч, наколькі турма і зона, настрой у іх, адлюстроўваюць настрой грамадзтва? І ў прынцыпе якія там настроі? Нас, відаць, цікавіць палітычны аспэкт найперш.

*Бяляцкі:* Цікавае пытаньне, на якое я не змагу, можа, адказаць цалкам поўна, бо я быў ізаляваны ад зьняволеных, у тым сэнсе, што ім забаранялася размаўляць са мною. Апроч таго, мне заўсёды згадвалася, згадваецца і яшчэ будзе згадвацца гэтае вядомае, банальнае, здавалася б, выслоўе, што турма — гэта зьлепак дзяржавы, маленькая такая копія дзяржавы. Я гэта ўпершыню, дарэчы, прачытаў у турме, чытаючы кніжку пра Салаўкі, калі Салаўкі называлі копіяй Савецкага Саюзу. І потым я не аднойчы пераконваўся, седзячы ў калёніі Бабруйскай, што гэта сапраўды такая маленькая дзяржава ў дзяржаве.

Што датычыцца настрояў людзей, якія там сядзяць. Па-першае, трэба разумець, што склад людзей, якія сядзяць у турме, ён трохі адрозьніваецца ад тых, якія на свабодзе, можа быць ніжэйшы ўзровень адукацыі, у сярэднім калі браць. Напрыклад, у маім атрадзе, дзе сядзела больш за 100 чалавек, вышэйшую адукацыю мелі дзесьці чалавек пяць. А так гэта звычайныя хлопцы, звычайныя дзядзькі зь вёсак, зь мястэчак, з гарадоў, якія працуюць на такіх простых працах, скажам так. А вось вышэйшы ці сярэдні ўзровень, напрыклад, інтэлігенцыя, інжынэры, напрыклад, — іх значна менш, канечне, чым у звычайным грамадзтве. Адукацыйны ўзровень накладае адбітак на ўзровень і кантактаў, і разуменьня сытуацыі. Тым ня менш людзі багата чытаюць, чытаюць газэты, калі трапляецца «Народная Воля», «Наша Ніва», «Новости плюс», «Рэ-

гіянальная газета», яны прачытваюцца ўважліва ад коркі да коркі звычайна.

*Соўсь:* А Радыё Свабода магчымае там? Можна яго паслухаць? Рознымі спосабамі? Бо ў некаторых калёніях можна.

*Бяляцкі:* Не. Там толькі можна паслухаць «FM-1 Магілёў». Вось яно круціцца з ранку да вечара па гэтай сеткавай лініі. Свабоды там не паслухаеш. Ну, і тэлеканалы, натуральна, глядзяць расейскія, гэтыя РТР, бо беларускія мала карыстаюцца папулярнасьцю.

І чаму? Бо ня любяць беларускія ўлады. Вось гэта ёсьць агульная, я сказаў бы, рыса для любых калёній, тое, што людзі з розных прычын ня любяць беларускія ўлады і даволі крытычна ставіцца асноўная маса да Аляксандра Рыгоравіча. Гэта ёсьць, і таму, можа, палітычныя зьняволеныя, вось я, напрыклад, там адчуваў нябачную падтрымку ці ледзь улоўную ляяльнасьць, якая была з боку зьняволеных у адносінах да мяне. Бо яны разумелі, што гэты чалавек сеў за нейкія ідэалы, за ідэю, што ён змагаўся супраць рэжыму. Для іх гэта сапраўды штосьці важыць, і ў гэтым пляне мне там сядзелася дастаткова камфортна.

## «Нейкая частка мяне яшчэ знаходзіцца ў калёніі, і працэс унутранай рэабілітацыі праходзіць далей»

*Соўсь:* Вядомыя прыклады, калі былы палітычны вязень станавіўся палітычным лідэрам — Мандэла, Гавэл. У найноўшай гісторыі

Беларусі нямала прыкладаў, калі на палітвязьня ўскладаліся вялікія надзеі. Пакуль ён сядзеў, да яго была прыцягнутая ўвага сьвету. Па вызваленьні кароткі час была эўфарыя ад вызваленьня, некалькі гучных заяваў, былых палітвязьняў запрашалі вышэйшыя заходнія лідэры. А пасьля гэтага збольшага не адбывалася нічога. Былыя палітвязьні альбо пакідалі краіну, альбо канцэнтраваліся на сям'і, рэлігіі і станавіліся менш актыўнымі ў сілу розных прычын. Чаму так адбываецца? Гэта настолькі эфэктыўная беларуская турма?

*Бяляцкі:* Па-першае, турма, сапраўды, гэта цяжкае выпрабаваньне для нашых палітычных вязьняў, бо там аказваецца рознымі сродкамі ўплыў, ціск на кожнага індывідуальна, на тых людзей, якія сядзяць за палітычныя перакананьні. Там ідзе сапраўдная барацьба, калі ты змагаесься з сыстэмай калёніі, Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў МУС, якія, натуральна, атрымліваюць інструкцыі з больш высокіх кабінэтаў.

Я не зьдзіўляюся і абсалютна разумею тых людзей, якія пасьля такой «пражаркі» выходзяць, і патрабуецца пэўны час, каб чалавек прыйшоў у сябе. У пэўнай ступені я яшчэ ня цалкам на волі. Нейкая частка мяне яшчэ знаходзіцца ў калёніі, і працэс унутранай рэабілітацыі праходзіць і далей. Як сказаў мне Аляксандар Казулін пры сустрэчы, мяне яшчэ недзе паўгода будзе каўбасіць, а потым стану больш-менш нармальным. Такі ў яго быў вопыт адаптацыі.

Што датычыцца асаблівых спадзяваньняў грамадзтва на палітычных вязьняў, якія адседзелі ў турме, — у пэўнай ступені, думаю, яны спраўдзяцца. Насамрэч людзі не адышлі так масава ад нейкай грамадзкай дзейнасьці і палітыкі. Дастаткова паглядзець на цяперашніх грамадзкіх і палітычных актывістаў, каб убачыць, што значная частка зь іх прайшла праз турмы. Іншая справа — што мы хочам? Мы думаем, што адтуль чалавек выходзіць як нейкі аракул ці ён становіцца безумоўным аўтарытэтам? Гэтыя спадзяваньні, мне падаецца, завышаныя, бо хоць турма і мяняе людзей, з другога боку, чалавек усё ж, як мне падаецца, такі, які ён быў у сваёй аснове, такім і застаецца пасьля турмы.

Таму я ня думаю, што мы можам чакаць нейкіх якасных прарываў ад людзей, якія адседзелі ў турме. Можа, я і памыляюся. Але, з другога боку, тое, што палітычныя лідэры сядзелі і сядзяць, і той жа Мікола Статкевіч застаецца за кратамі, — гэта, безумоўна, іхні моцны капітал у грамадзкай дзейнасьці, бо калі чалавек прайшоў праз гэтыя выпрабаваньні, то да такога чалавека ёсьць і давер у грамадзтве. Я сябе ня бачу як палітычнага лідэра. Я ўсё ж грамадзкі дзеяч, праваабаронца. Як я займаўся праваабарончай працай, спрабуючы дапамагаць і нейкім чынам абʼядноўваць грамадзянскую супольнасьць у Беларусі, і сваім словам, і сваім аўтарытэтам, і сваімі дзеяньнямі, тым самым буду займацца і далей.

## «Маладыя людзі ня бачаць вялікіх пэрспэктываў у палітычнай дзейнасьці»

*Дубавец:* Наколькі я разумею, Алесь ня можа балятавацца ў прэзыдэнты Беларусі, бо нарадзіўся па-за межамі Беларусі. А вось Мікалай Аўтуховіч нядаўна заявіў, што яму намякнулі, што калі ён ня зьедзе за мяжу, то яго зноў пасадзяць. Гэта значыць, тэма эміграцыі прысутнічае для былых палітвязьняў, асабліва для тых, хто не спыніў сваю актыўнасьць. А ў вас гэтая тэма прысутнічае якім-небудзь чынам?

*Бяляцкі:* Пакуль ёсьць магчымасьць працаваць у Беларусі і пакуль гэта ў мяне будзе атрымлівацца, пакуль я буду бачыць, што з гэтага ёсьць нейкая карысьць, то, безумоўна, я буду заставацца ў Беларусі. І ў прынцыпе я не хачу нікуды зьяжджаць, мне дастаткова камфортна і ўтульна. Скажу шчыра, што вось гэтае пэўнае адчуваньне, што я на сваім месцы, у мяне было і ў калёніі нават, нягледзячы на такія ненармальныя ўмовы для існаваньня. Але гэта Бабруйск, свае людзі там, і беларуская мова ёсьць там, і нейкія размовы такія мэнтальныя ідуць на тым узроўні, на якім я сябе адчуваю сярод сваіх, гэта вельмі важна для мяне. І я думаю, што нікуды я ўсё ж такі зьяжджаць не зьбіраюся і ня буду.

*Дубавец:* Калі зноў жа тэму будучыні працягваць, але ў больш глябальным сэнсе, ёсьць такая думка, што палітыка ў Беларусі памерла, прынамсі, калі ўдакладніць, што апазыцыйная палітыка маргіналізавалася да такой ступені, што

яе проста не відаць, не чуваць, і аўтарытэт у яе нуль, калі ня мінус. Вы ў свой час узначальвалі музэй Багдановіча, пасьля Праваабарончы цэнтар «Вясна». Калі ўлічыць гэтую маргіналізацыю палітыкі, то сёньня абсалютна прагрэсуе сфэра нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Гэта ўсё ідзе зь нізоў, бо дзяржава на ўсё махнула рукой. Але нібы ў тыя 80-я гады, калі ствараліся «Майстроўня», «Талака» і іншыя нефармальныя арганізацыі моладзі, менавіта ў нацыянальна-культурнай сфэры адбывалася мабілізацыя новых людзей.

Мы сёньня бачым і гэтыя фэстывалі на вольным паветры, і моўныя курсы, якія зьбіраюць сотні ўдзельнікаў, вялікая ўвага і да маладой літаратуры і музыкі. Можа, сытуацыя паўтараецца? Ізноў адбываецца нефармальная мабілізацыя, якая сёньня да палітыкі ня мае дачыненьня, прынамсі, стараецца ў сваіх вышыванках далей не ісьці, але калі набярэцца крытычная маса гэтага народу, можа, адбудзецца так, як у канцы 80-х? Гэта ўсё ў нейкай ступені палітызуецца і ператворыцца ў сілу пераменаў? І, можа, варта сёньня ня столькі аддаваць час маргінальнай палітыцы, колькі нефармальнай культуры і новым ініцыятывам?

*Бяляцкі:* Сапраўды, гэта тое новае, за гэтыя тры гады, што я заўважыў, калі выйшаў з турмы, — зьяўленьне шматлікіх культурніцкіх, экалягічных, праваабарончых моладзевых ініцыятываў, якія працуюць дастаткова пасьпяхова, якія ня ставяць перад сабой адкрытыя палітычныя за-

дачы і якія шукаюць шляхі малых, але пасьпяховых крокаў, і гэта цікава. Гэта мне падаецца пэрспэктыўным, і мы са свайго боку будзем гэта падтрымліваць.

Хоць я б ня ставіў канчатковы крыж на палітычнай частцы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Трэба разумець, у якіх цяжкіх умовах там адбываецца праца. Мы працуем шчыльна з палітычнымі актывістамі ў пляне дапамогі і бачым, што кожны зь іх пэрсанальна (і маладзевыя актывісты, і больш старэйшае пакаленьне) знаходзіцца пад прэсінгам дзяржавы і атрымлівае пакараньні, іншыя жыцьцёвыя цяжкасьці. І гэта трэба разумець, што яны ня маюць вялікага патэнцыялу для пашырэньня, але тое, што гэты палітычны сэктар ёсьць, гэта надзвычай важна для агульнай грамадзянскай сытуацыі.

Тое, што зараз бурліва пачала разьвівацца сфэра непалітычнай, грамадзкай актыўнасьці, гэта таксама паказвае тое, што маладыя людзі ня бачаць вялікіх пэрспэктываў у палітычнай дзейнасьці. Бо калі ты ілбом б'есься ў сьценку 20 гадоў і за гэта атрымліваеш толькі гузакі і ніякай перамогі маральнай, то, натуральна, наступае расчараваньне і пошукі іншых шляхоў. Мне падаецца гэта надзвычай важным, асабліва з улікам таго, што на сёньняшні дзень нацыянальныя культурныя ініцыятывы зьяўляюцца рэальным супрацьстаяньнем той расейскай ідэалягічнай навале, якая валіць на сёньняшні дзень у Беларусі.

Парадаксальная сытуацыя, але беларуская культура на сёньняшні дзень адназначна атаясамліваецца з эўрапейскай культурай, і гэта надзвычай важны момант, які яе адрозьнівае ад таго, што было гадоў трыццаць таму. Сёньня чалавек, які гаворыць па-беларуску, сьпявае па-беларуску, вучыць сваіх дзетак па-беларуску, — гэта адназначна праэўрапейскі чалавек, гэта эўрапеец. І мы павінны таксама разумець вось гэта і прыкладаць усе намаганьні для падтрымкі разьвіцьця любых беларускіх ініцыятываў у Беларусі на сёньняшні дзень. Сапраўды, можа, яны ня маюць такой актуальнасьці палітычнай, але тое, што яны закладаюць падмурак для існаваньня незалежнай Беларусі, беларусаў як народу, на будучыню, на пэрспэктыву, — гэта безумоўна.

## «Калі ты разумееш, што радкі „Мой родны кут, як ты мне мілы!“ напісаныя за кратамі „Валадаркі“, па-іншаму пачынаеш успрымаць сум, настальгію па роднай зямлі»

*Соўсь:* Вы напісалі за кратамі дзьве кнігі — «Асьвечаныя беларушчынай» і «Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы». «Асьвечаныя беларушчынай» стала ляўрэатам конкурсу турэмнай літаратуры імя Францішка Аляхновіча, які летась праводзіла Радыё Свабода і Беларускі ПЭН-цэнтар. А я хацела вас запытаць як літаратуразнаўцу. Вы зрабілі вельмі грунтоўны аналіз беларускай турэмнай літаратуры. Калі б была

такая магчымасьць — у праграму па беларускай літаратуры ў школе ўключыць творы беларускай турэмнай літаратуры, то якія б вы абавязкова ўключылі? Якія абавязкова трэба было б прачытаць беларускім школьнікам?

*Бяляцкі:* Насамрэч гэта эсэ, гэта не грунтоўнае дасьледаваньне, яно далёка ня поўнае і проста пазначыла нейкія вехі, якія падаліся важнымі і блізкімі мне. Але насамрэч гэты жанр, а яго можна назваць жанрам беларускай літаратуры, ён вельмі аб'ёмны, вельмі вялікі, бо гісторыя беларускіх літаратараў вельмі шчыльна зьвязаная з гісторыяй нашай краіны, з гісторыяй беларускага адраджэнскага руху, і гэтыя пакуты, якія выпалі на долю беларускіх адраджэнцаў, — яны, безумоўна, выпалі і на долю беларускіх літаратараў.

У каго мы, так бы мовіць, пальцам ні ткнем, абавязкова мы ўбачым, што гэта трагічныя лёсы, трагічныя нейкія сытуацыі, якія праходзілі праз турму. Калі казаць пра творы, то гледзячы якое стагодзьдзе, бо мы можам браць пачынаючы ад дзёньніка Апанаса Філіповіча якога-небудзь, які сядзеў у турме ў Варшаве за свае рэлігійныя перакананьні, яшчэ штосьці падобнае маглі б знайсьці. XIX стагодзьдзе для мяне — гэта творы Кастуся Каліноўскага, тыя, якія ён напісаў перад сьмерцю, гэта проста найвыдатнейшыя радкі, гэта клясыка беларускай літаратуры.

Пачатак XX стагодзьдзя — гэта «Новая зямля» Якуба Коласа, якую ён пісаў, седзячы ў турме, і калі ты разумееш, што гэтыя радкі «Мой родны кут, як ты мне мілы!» напісаныя за кратамі, за

сьцяной «Валадаркі», то ты па-іншаму пачынаеш успрымаць гэтыя радкі і вось гэты сум, настальгію па роднай зямлі, якую ён адчуваў, тры гады адседзеўшы за кратамі.

Што тычыцца сёньняшняга часу, то гэта, безумоўна, «Лісты да Волі», якую напісаў беларускі паэт Уладзімер Някляеў. Яна надзвычай цэльная, надзвычай высокамастацкая і ў літаратурным пляне адна з найлепшых кніжак, якая была напісаная ўвогуле за апошні час.

*Соўсь:* Аляхновіча?

*Бяляцкі:* Безумоўна, гэтыя прозьвішчы можна працягваць і працягваць...

*Соўсь:* І гэтая бібліятэка, на жаль, папаўняецца.

*Бяляцкі:* Яна папаўняецца, на жаль і дзякуй Богу! Таму што апошнія кніжкі, якія выходзілі, Паўла Севярынца, Зьмітра Дашкевіча, Уладзімера Някляева, Аляксандра Фядуты, у нейкай ступені і мае кніжкі — гэта сапраўды такая значная частка беларускай літаратуры, якая зьвязаная з жыцьцём, з барацьбой, з тым, каб беларусамі звацца.

*Дубавец:* Алесь, а чаму ў турме так пішацца?

*Бяляцкі:* Спэцыфіка нейкая пэўная. Я сапраўды яшчэ нават сам да канца гэта для сябе не адзначыў. Можа, таму, што ты знаходзісься там больш сам з сабой, ты размаўляеш сам з сабой, у цябе няма ні знаёмых, сям’я таксама далёка, ты толькі сам з сабой. У цябе ёсьць ты, папера, асадка.

Прычым вяртаньне да асадкі, да паперы, яно дало мне, напрыклад, зусім такія нейкія забытыя эмоцыі, якія я перажываў яшчэ ў 90-х гадах, бо

кампутары ўсё ж такі абесчалавечваюць гэтую літаратурную працу. Пішучы ад рукі, атрымліваеш зусім іншае нейкае адчуваньне.

І я, працуючы там на працы фізычнай, упакоўшчыкам у швейным цэху, выконваючы там абавязковыя мерапрыемствы ўсіх пералікаў, пад'ёмаў, паходаў у клюб, у сталовую і іншае, кожны дзень усё ж такі стараўся знайсьці гадзіну, паўтары гадзіны, каб напісаць гэтую старонку-паўтары тэксту, ня больш. Але ўлічваючы, што гэта адбывалася пэрыядычна з дня ў дзень, то сапраўды атрымалася дастаткова багата тэкстаў. Калі параўнаць тое, што напісалася мною за папярэдні час, то, можа, прыкладна столькі, колькі за 25 гадоў я напісаў, я напісаў за апошнія тры гады ў турме.

## «Нобэлеўская прэмія не даецца аднаму чалавеку, а даецца ўсё ж такі народу»

*Соўсь:* Вось у гэтай студыі «Свабоды бяз гальштукаў» за апошнія некалькі гадоў двойчы мы абмяркоўвалі вашыя шанцы атрымаць Нобэлеўскую прэмію міру, вы былі вылучаныя на яе. Цяпер, можа, гучыць цынічна, але калі вы на свабодзе, вы маеце меней шанцаў яе атрымаць. А што значыла б Нобэлеўская прэмія міру для Беларусі? Наколькі б яна была істотная для дэмакратычнага руху? Каб хтосьці з палітзьняволеных, вы, магчыма б хтосьці іншы, атрымалі яе? Штосьці б гэта зьмяніла ў сытуацыі ў краіне, як вы мяркуеце?

*Бяляцкі:* Усе міжнародныя прэміі я расцэньваю як ясныя і дастаткова зразумелыя сыгналы, якія накіроўвае міжнародная супольнасьць у Беларусь. Прычым сыгналы на розных узроўнях. І беларускаму народу — што міжнародная супольнасьць бачыць беларускі народ, падтрымлівае ягонае змаганьне за дэмакратыю, за правы чалавека. І беларускім уладам — пэўная такая нота грамадзкай увагі, што мы не задаволеныя тым, што вы робіце з правамі чалавека, што вы не даяце людзям спакойна жыць. І дзесьці там ужо знаходзіцца сам ляўрэат, адной зь пятых задач. Ну, і таму вось гэтая дыпляматычная, палітычная і грамадзкая роля такіх прэмій значна большая, чым сама асоба ляўрэата. Я разумею гэта так.

І, безумоўна, для беларусаў было б важна атрымаць Нобэлеўскую прэмію, бо, мне падаецца, гэта б узмацніла беларусаў як народ, які змагаецца за пэўныя ідэалы, бо Нобэлеўская прэмія не даецца аднаму чалавеку, а даецца ўсё ж такі народу. Калі паглядзець на прэміі міру, як яны даваліся, то іх атрымлівалі народы за нейкія дасягненьні, скажам, у дэмакратыі, у правах чалавека, у змаганьні з дыскрымінацыяй ці яшчэ ў чым. І таму ў дадзеным выпадку ці будзе гэтая Нобэлеўская прэмія — гэта залежыць ад усіх беларусаў, а ня толькі канкрэтна ад нейкай асобы.

*Дубавец:* Ну, адным словам, Нобэлеўская прэмія для народу вельмі пажаданая, як нейкі знак.

*Бяляцкі:* Як знак якасьці. Тое, што гэты народ ставіць нейкія мэты і дабіваецца, прычым не ад-

зін чалавек, а сотні тысяч, мільёны людзей. Так, як было з той жа Нобэлеўскай прэміяй у Польшчы, якую атрымаў Лех Валэнса. Ці з Нобэлеўскай прэміяй у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, якую атрымаў Нэльсан Мандэла. Там увесь народ змагаўся за дасягненьне нейкіх мэтаў, а яны толькі сымбалізавалі гэтыя перамогі, якія атрымаў народ.

*Дубавец:* А ці даводзілася пісьменьніку зь яго багатай фантазіяй уяўляць сабе, што далі Нобэлеўскую прэмію Алесю Бяляцкаму і што адбываецца: ён сядзіць у турме, круціць гэты магілёўскі FM, чакаючы, ці паведамяць...

*Соўсь:* Працягваючы Сяргея пытаньне, я калісьці блог пісала, дзе цытавала прамову Аўнг Сан Су Чы, яе Нобэлеўскую спозьненую прамову, і мой апошні сказ быў: «Вось цікава было б пачуць, што скажа ў гэтай залі Алесь Бяляцкі, калі прыедзе атрымліваць сваю прэмію». Вось такое ў мяне было дапушчэньне. Што б вы сказалі? Як вы бачылі б?

*Дубавец:* І якая рэакцыя была б у грамадзтве?

*Бяляцкі:* Я думаю, што для Нобэлеўскай прэміі нам трэба яшчэ ўсім добра і добра папрацаваць. І сёньня не надышоў яшчэ той час, каб мы маглі сур’ёзна пра гэта гаварыць.

*Дубавец:* І пафантазіраваць...

*Бяляцкі:* Ну які сэнс фантазіраваць пра тое, што яшчэ ня высьпела.

*Дубавец:* Фантазіі вельмі часта ўвасабляюцца ў жыцьцё.

*Бяляцкі:* Ну, дажывем. Будзе час, будзе і музыка. Так што пакуль я ня бачу такой сытуацыі, каб беларусы дабіліся вось такой увагі да сябе і дасягнулі таго, чаго мы мусім урэшце дасягнуць.

## «У калёніі напісаў болей, чым за папярэднія дваццаць гадоў»

17 верасьня 2014

*У Горадні пры перапоўненай залі адбылася прэзэнтацыя кнігі «Іртутнае срэбра жыцьця» Алеся Бяляцкага, былога палітвязьня, праваабаронцы. Бяляцкага віталі стоячы, аплядысмэнтамі.*

На сустрэчы Алесь Бяляцкі расказаў, як задумаў і пісаў свае нататкі.

Першыя лісты пра ўмовы ўтрыманьня не дайшлі да адрасата, бо «асабісты» адразу папярэдзілі, што пра гэта пісаць нельга. Гэтыя 6 лістоў Бяляцкаму, аднак, удалося захаваць і прынесьці пасьля вызваленьня дадому.

Бяляцкі: «Напісаць кнігу мяне натхніла паездка ў Кіргізстан, калі там адбываліся падзеі ў Ошы, пра якія я пісаў падрабязную праваабарончую справаздачу. І вось, апынуўшыся ў калёніі, я вырашыў, што мушу напісаць і пра беларускія падзеі, якія адбываліся на маіх вачах і ўдзельнікам якіх я, па сутнасьці, быў.

Яшчэ праз гэтыя лісты, якія потым друкаваліся ў маім блогу, я хацеў даслаць сыгнал усім сваім сябрам, родным, проста беларусам, што і ў вязьніцы застаюся чалавекам і не мяняю сваіх перакананьняў. Я хацеў, каб пра гэта ведалі на волі, і мне ад гэтага было таксама лягчэй.

Часу на пісьмо было няшмат, бо 8 гадзін я працаваў фізычна, але ў калёніі напісаў болей, чым за папярэднія дваццаць гадоў. Пісаў то прыткнуўшыся ў камэры да тумбачкі, то падчас перапынку на працы... Потым, каб адаслаць, усё гэта перапісваў болей разборліва».

Укладальніца кнігі Алена Лапцёнак: «Мне як чалавеку, які ў свой час вучыўся ў асьпірантуры Інстытуту літаратуры і займаўся менавіта мэмуарным жанрам, было цікава працаваць з тэкстамі Бяляцкага. Цікавасьць была ў тым, што я сама часта была сьведкай тых падзеяў, пра якія піша Бяляцкі. І відавочным было тое, наколькі ў нас у кожнага свой погляд на адну і тую ж сытуацыю. Для мяне былі больш яскравымі адны моманты, а Алесь выдзяляў іншыя. І вось падчас рэдагаваньня мне часам хацелася яго падправіць, нешта дадаць ад сябе — настолькі я жыла гэтай працай. А складанага, бадай, нічога не было, хіба часам нечытэльны почырк Алеся, але і гэта мне паддавалася».

## «Абсалютна падтрымліваю Малалу і Сат’яртхі»

10 кастрычніка 2014

*Беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі пракамэнтаваў Свабодзе вынікі прысуджэньня Нобэлеўскай прэміі міру, якой у гэтым годзе ўганараваныя пакістанская дзяўчынка 17-гадовая Малала Юсафзай і індыйскі абаронца правоў дзяцей Кайлаш Сат’яртхі.*

«Я абсалютна падтрымліваю выбар сёлетняга пераможцы Нобэлеўскай прэміі міру. Справа ў тым, што апошнім часам прэмія міру займела праваабарончы кантэкст, а дзяўчынка Малала і індыйскі праваабаронца закранаюць вельмі важную тэму, актуальную для многіх рэгіёнаў у сьвеце. Ёсьць шмат краін, дзе дзеці фактычна выжываюць, пад пытаньнем знаходзіцца само іх жыцьцё, ня кажучы ўжо пра адукацыю. Малала — сымбаль дзіцяці, якое імкнулася да інфармацыі, да свабоды атрыманьня інфармацыі. Разам з тым і праваабаронцы, якія займаюцца праблемамі дзяцей, робяць вельмі важную справу — змагаюцца за права на жыцьцё, за права на адукацыю, за права быць выхаваным і разьвіцца як усебаковы вольны чалавек. Вельмі добра, што яны атрымалі прэмію, і я за іх вельмі рады».

# «Лукашэнку нельга лічыць „трэцім бокам“ ва ўкраінска-расейскай вайне»

13 кастрычніка 2014

*Ілюзіяй зьяўляецца ўспрыняцьце Аляксандра Лукашэнкі як трэцяга, нэўтральнага боку ў цяперашнім расейска-ўкраінскім канфлікце. Такое меркаваньне выказаў на міжнароднай канфэрэнцыі «Форум 2000» у Празе кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна», былы палітвязень Алесь Бяляцкі.*

«Расейскія вайсковыя базы, агульная паветраная абарона, велічэзная эканамічная залежнасьць, культурная і моўная русыфікацыя, асыміляцыя беларусаў — вось адказ, на чыім баку Лукашэнка», — патлумачыў Алесь Бяляцкі. Паводле яго, улады Беларусі зьяўляюцца незалежнымі толькі ў той ступені, у якой ім дазваляе Пуцін.

Кіраўнік «Вясны» папярэдзіў пра небясьпеку «азэрбайджанізацыі» Беларусі — сытуацыі накшталт той, калі Азэрбайджан, дзе ёсьць палітвязьні і няма свабоднай прэсы і выбараў, старшыные ў Радзе Эўропы, арганізацыі, створанай для абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў. «Дыктатары заўсёды знаходзяць, чым гандляваць: рэсурсы, нафта, транзыт, геапалітычнае месцазнаходжаньне краіны», — сказаў беларускі праваабаронца ў сваім выступе, нагадаўшы, што

ў Беларусі па-ранейшаму знаходзяцца за кратамі палітвязьні.

Алесь Бяляцкі падкрэсьліў: прычыны расейскага ўварваньня ва Ўкраіну ў тым, што расейскае кіраўніцтва адчула небясьпеку пасьля таго, як украінскі народ скінуў карумпаваную ўладу. «Я дакладна ведаю, якая Ўкраіна задавальняла б Расею і Пуціна — такая, як сёньняшняя Беларусь, не самастойная ні палітычна, ні эканамічна дыктатура. Такая, як Беларусь, дзе не чуваць голас прыдушанага народу і незалежнасьць якой прывідная і слабая».

У канцы сваёй прамовы Алесь Бяляцкі заклікаў да аб'яднаньня людзей, якія разважаюць у катэгорыях дэмакратыі, свабоды і правоў чалавека — бо недэмакратычныя рэжымы актыўна дапамагаюць адзін аднаму, і таму трэба змагацца супраць «інтэрнацыяналу дыктатур».

# «Улады ўжываюць тактыку „кропкавых рэпрэсіяў“»

29 кастрычніка 2014

*Камэнтуючы даклад аб сытуацыі ў Беларусі спэцыяльнага дакладчыка ААН Міклаша Харасьці, старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» і віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі пагадзіўся зь ягонай галоўнай высновай — што за апошні год сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі істотна не зьмянілася.*

«Я таксама падзяляю гэтую думку. Мы проста бачым, што сапраўды нічога за гэты час у нас не памянялася ў лепшы бок. Усё стабільна кепска. Улада цалкам кантралюе ўсе сфэры грамадзкага жыцьця, і калі праяўляецца нейкая актыўнасьць ці з боку моладзі, ці з боку незалежных прафсаюзаў, ці з боку незалежных журналістаў, то яна адразу гасіцца», — адзначае праваабаронца.

Бяляцкі зьвяртае ўвагу на распачатую ўладамі кампанію адміністрацыйнага перасьледу маладзевых актывістаў і журналістаў-фрылансэраў, што, на ягоную думку, зьвязана з падрыхтоўкай праваахоўных органаў да прэзыдэнцкай кампаніі ў Беларусі.

«Можна меркаваць, што тыя мэтады ціску на грамадзтва, якія выпрабоўваліся за апошні год (я маю на ўвазе і перасьлед незалежных журналістаў, і прэвэнтыўныя затрыманьні грама-

дзкіх актывістаў), — яны будуць актыўна ўжывацца і падчас выбарчай кампаніі. Таму тактыка такіх кропкавых рэпрэсіяў і кантролю за сытуацыяй, якая выгадная беларускім уладам, будзе захоўвацца», — лічыць старшыня ПЦ «Вясна».

# Выйшла з друку новая кніга Алеся Бяляцкага

04 лістапада 2014

*«Халоднае крыло Радзімы», пятая кніга былога палітвязьня, праваабаронцы Алеся Бяляцкага, выйшла ў сьвет, калі ён ужо вызваліўся па амністыі.*

«Назва шматзначная. Чаму крыло „халоднае“ — зразумела. І Радзіма тут выглядае птушкай — зязюляй? чайкай? І зязюляй, бо не глядзіць сваіх дзяцей, і чайкай, бо ў іх, калі яны ляцяць, крылы срэбныя спадыспаду, калі глядзець на яе, і адліваюць на сонцы холадам. І такое крыло пакуль ня грэе сваіх птушанятаў, пад якімі можна разумець усіх, хто ходзіць і жыве пад яе крылом», — патлумачыў аўтар назву новай кнігі.

«Кніга цалкам падрыхтаваная, калі Алесь Бяляцкі быў за кратамі. Пасьля яго вызваленьня ў кнігу новых тэкстаў не дадавалася, — расказвае ўкладальніца кнігі Паліна Сьцепаненка. — Выданьне будзе цікавае тым, што там вельмі шмат распавядаецца пра нацыянальны рух 80-х гадоў».

Мастацкае афармленьне кнігі зрабіў вядомы беларускі графік Уладзімер Вішнеўскі, які афармляў папярэднюю кнігу Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай», што выйшла падчас зьняволеньня праваабаронцы.

## «Тры новыя гады я сустрэў у няволі»

29 сьнежня 2014

Міхась Скобла

*Нядаўна ў Менску прайшла прэзэнтацыя кнігі Алеся Бяляцкага «Халоднае крыло Радзімы». Напісаная пераважна ў турме, яна сёлета была ўганараваная прэміяй імя Францішка Аляхновіча, якую заснавалі Радыё Свабода і беларускі ПЭН-цэнтар.*

Як сустракаюць Новы год у беларускіх турмах? Ці ёсьць хоць мінімальныя ўмовы для творчасьці ў месцах пазбаўленьня волі? Аўтар кнігі — госьцем перадачы «Вольная студыя».

*Скобла:* Алесь, да Новага году засталося ўсяго некалькі дзён. А як гэтае сьвята табе даводзілася сустракаць у няволі?

*Бяляцкі:* У няволі я сустрэў тры новыя гады: 2012, 2013 і 2014. Першы — у Жодзінскім СІЗА, у камэры на двух чалавек. Адбілі нас па раскладзе — а дзясятай гадзіне вечара, разэткі былі выключаныя, так што і гарбаты не згатаваць. Кантралёры хадзілі і штохвілінна заглядалі ў вочкі, каб зэкі не гатавалі чыфір на падпаленых газэтах. А ў дванаццаць гадзінаў пайшоў па камэрах гул — зэкі білі шлёмкамі (міскамі) і зэчкамі (алюмініевымі кубкамі) па бэтонным доле і па сьценах. Насіліся па калідоры кантралёры, цяжка тупацелі ботамі, крычалі: «Адставіць!». Але ніхто

іх ня слухаў. Вось так Новы 2012-ы і адзначылі. Наступныя новыя гады я быў ужо ў бабруйскай калёніі, дзе размаўляць са мной, піць гарбату зэкам забаранялася. Таму сьвята сустракаў сам-адзін. Раскладаў на тумбачцы розныя прысмакі, што жонка перадавала, і піў сам з сабой гарбату. Употайкі хто-ніхто з прыхільных зьняволеных паціскаў руку ці віншаваў, і ўзаемна я віншаваў іх. Рабілі гэта хутка, з асьцярогаю, так, як быццам кралі штосьці. Але я не сумаваў. У душы быў унутраны супакой — так было трэба. І толькі не ўдавалася пазбыцца шкадаваньня, што яшчэ адзін год твайго жыцьця праляцеў незваротна, яшчэ адзін...

## «Лепш сядзі ты ў швейным цэху і будзь пад кантролем»

*Скобла:* Ты за сваё жыцьцё стварыў нямала розных арганізацыяў: Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», музэй Максіма Багдановіча, Беларускую каталіцкую грамаду, Праваабарончы цэнтар «Вясна»... Можа, і ў калёніі які гурток запачаткаваў? Ці там кожны сам за сябе?

*Бяляцкі:* Самай галоўнай задачай спэцаддзелу ў калёніі было не дазволіць мне што-небудзь стварыць. Нават гурток аматараў моцнай гарбаты... Неяк у гутарцы з кіраўніцтвам калёніі я сказаў: «Што вы мяне не па спэцыяльнасьці выкарыстоўваеце? У вас жа ёсьць бібліятэка, пусьціце мяне туды, я буду весьці літаратурны гурток для зьняволеных». А іх у калёніі больш за дзьве

з паловай тысячы, і нямала нешта пісалі. Вершы, прозу — людзі стараюцца неяк заняць сябе. На маю просьбу мне далі зразумець: не, лепш сядзі ты ў швейным цэху і будзь пад кантролем. Канешне, турэмная адміністрацыя абмяжоўвала мае кантакты. Таму зьняволеным было забаронена ня толькі размаўляць са мною, але і перадаць мне газэту, кавалак мыла ці нейкую рэч. Забаронена было неафіцыйна, але хто з гэтым не лічыўся, адразу пераводзіўся ў іншы атрад. Гэта стварала пэўную пустку вакол мяне, але ў нейкай ступені спрыяла пісьменьніцтву.

*Скобла:* Трыццаць гадоў таму, у 1994-м, пішучы прадмову да першага ў Беларусі выданьня «Ў капцюрох ГПУ», ты мог дапусьціць, што пісьменьнікі будуць сядзець, што зьявіцца такая прэмія?

*Бяляцкі:* Не, ня думаў. На той час я працаваў у музэі Максіма Багдановіча, быў дэпутатам Менскага гарадзкога савету, актыўна займаўся грамадзкай дзейнасьцю. Але Францішак Аляхновіч ужо тады быў мне блізкі. У канцы 80-х у спэцфондзе Акадэміі навук я змог прачытаць ягоныя творы, і яны мяне дастаткова моцна ўразілі. Яшчэ больш уразіў трагічны лёс пісьменьніка, які шэсьць гадоў адседзеў на Салаўках, пасьля вызваленьня працаваў па меры магчымасьці. Урэшце жыцьцё яго скончылася трагічна — ён быў забіты з-за сваёй беларускай пазыцыі, грамадзкай пазыцыі. Аляхновіч быў выкрасьлены зь беларускай літаратуры больш чым на паўстагодзьдзя, фактычна на тры пакаленьні. Самая вядомая

яго кніга — «У капцюрох ГПУ». У ёй пісьменьнік нічога ня выдумаў. І тады, і цяпер інфармацыя пра жыцьцё вязьняў закрытая, і сёньня нашы турмы закрытыя для грамадзтва. Кніга Аляхновіча стала шокам і адкрыцьцём для Эўропы, бо небагата сьведчаньняў з таго, што адбывалася ў Гулагу, даходзіла да эўрапейскай супольнасьці. Тое, што зрабіў Аляхновіч, павінен быў зрабіць кожны сапраўдны пісьменьнік.

## «Мне хочацца выпускаць штогод па новай кніжцы»

*Скобла:* Максім Танк, знаходзячыся на вяршыні сваёй савецкай славы, прызнаваўся, што найлепш яму пісалася ў польскай турме. Ты таксама ў няволі напісаў нямала — перад «Халодным крылом Радзімы» выйшла кніга «Асьвечаныя Беларушчынай». Значыць, нейкія ўмовы для творчасьці там усё ж былі?

*Бяляцкі:* Максім Танк успамінаў пра сваю турэмную творчасьць праз колькі дзясяткаў гадоў. Я ўсяго некалькі месяцаў пасьля калёніі, таму мне яшчэ цяжка рабіць нейкія ясныя і катэгарычныя падсумаваньні. Але магу сказаць пэўна: у беларускай турме ніякіх умоваў для творчасьці няма. Ты там маеш даволі багата розных праблемаў, якія трэба вырашаць кожны дзень, кожную гадзіну. Да таго ж я працаваў упакоўшчыкам у швейным цэху — восем гадзінаў штодня мусіў хадзіць на працу. Пакаваў вопратку для зьняволеных, прасьціны нейкія, навалачкі, рукавіцы

для заводаў, і гэта займала значную частку дня. А калі сюды дадаць яшчэ і абавязковыя праверкі, перападлікі, дык вольнага часу на пісаньне заставалася ня так і багата. Я проста ледзь пасьпяваў запісваць тое, што мне хацелася сказаць. У «Халодным крыле радзімы» атрымалася даволі багата літаратуразнаўчых тэкстаў, а таксама ўспаміны з 80–90-х гадоў. Жыцьцё грамадзка-палітычнае тады бурліла, а мы з табой, пачынаючы з «Тутэйшых», фактычна знаходзіліся ў гушчы таго жыцьця. Таму нейкія свае ўспаміны, ня маючы ніякіх дакумэнтаў пад рукамі, я ўсё ж пастараўся занатаваць. Гэта было важна рабіць зь дзьвюх прычынаў. Па-першае, мне важна было пасылаць пазытыўныя сыгналы з зоны, каб яны ішлі ў інтэрнэт, у часопісы і газэты, каб людзі бачылі, што я знаходжуся ў нармальнай псыхалягічнай і маральнай форме і сваёй актыўнасьцю выклікаю адваротную актыўнасьць. Нельга нам сядзець склаўшы рукі. Гэта была асноўная прычына. І другая прычына — пачуцьцё самарэалізацыі, бо гады мінаюць, і трэба пісаць. Мне хочацца выпускаць штогод па новай кніжцы.

*Скобла:* Не ўяўляю, як можна пісаць успаміны без архіваў, абапіраючыся выключна на ўласную памяць.

*Бяляцкі:* Бывала па-рознаму, пераважна — так, без архіваў. Часам мае калегі прысылалі ксэракопіі ці патрэбную кніжку. У калёніі я распачаў даволі вялікае эсэ пра лёс бабруйскага пісьменьніка мінулага стагодзьдзя Барыса Мікуліча, які быў рэпрэсаваны ў 1936-м, адседзеў 10 гадоў,

вярнуўся, потым быў сасланы ў Сібір, дзе і памёр. Я напісаў 50 старонак з 250 заплянаваных і быў выпушчаны. Трэба дапісваць — ужо на волі.

## «У турме зьяўляецца больш рэзкі погляд на тэкст, больш сфакусаваны»

*Скобла:* Тыя, хто пасьля Плошчы-2010 трапіў у СІЗА КДБ, скардзіліся на адсутнасьць добрых кніг у тамтэйшай бібліятэцы. Скажам, Ірына Халіп прызнавалася, што яе ў дадатак да ўсяго «каталі» любоўнымі раманамі. А ў тваёй сытуацыі як было?

*Бяляцкі:* У менскім СІЗА я перачытаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

*Скобла:* Там быў Караткевіч?

*Бяляцкі:* Быў. Прычым я перачытваў яго новымі вачыма, бо апошні раз чытаў гадоў дваццаць таму. А ў калёніі мне можна было атрымліваць кніжкі праз заказную пошту. Даволі багата кніжак мне прысылалі з тых, якія я прасіў, дый бібліятэка там была немалая. Там упершыню я прачытаў раман «Жыцьцё і лёс» Васілія Гросмана, да якога ў мяне рукі на волі не даходзілі. Вось што я там заўважыў. У няволі ў цябе нібы новыя вочы адкрываюцца на літаратуру. У турме зьяўляецца больш рэзкі погляд на тэкст, больш сфакусаваны. Гэта зьвязана з тым, што цябе не адцягваюць ні побытавыя, ні іншыя праблемы, хоць яны там таксама ёсьць. Але тут, на волі, шмат якія дробязі проста разьбіваюць тваю засяроджанасьць. А там ты застаесься сам-насам з кніжкай, якая

зьяўляецца і крыніцай інфармацыі, і крыніцай моцы, якой там таксама не хапае. І «Вайну і мір» я там перачытаў. Не магу сказаць, што там не было добрай літаратуры. Проста — што каму падабаецца. Каму Дар'я Данцова, а каму Леў Талстой і Ўладзімер Караткевіч.

*Скобла:* Па абедзьвюх тваіх «турэмных» кнігах відно, што ты сапраўды ўважлівы чытач. А якія першыя кнігі, прачытаныя табой на волі?

*Бяляцкі:* З апошніх кніжак назаву «Хвілінку» Ігара Бабкова, якая атрымала прэмію Гедройця. На маю думку, гэта сапраўдная літаратура высокай якасьці. Таксама прачытаў том вершаў Віславы Шымборскай у перакладзе на беларускую. А цяпер чытаю публіцыстыку Вацлава Гавэла. Ну, і некалькі кніжак успамінаў савецкіх дысыдэнтаў ляжаць на стале. Усё ж тэма турэмнай літаратуры мяне не пакідае.

*Скобла:* Якім табе бачыцца 2015 год?

*Бяляцкі:* Мне падаецца, ён будзе дастаткова важным для Беларусі, цікавым, магчыма, драматычным, нават небясьпечным. Мы павінны зразумець, што наша актыўнасьць, наша грамадзянская пазыцыя багата што могуць вызначыць у наступным годзе і ў лёсе нашай краіны, і ў лёсе нашых дзяцей, і ў лёсе наступных пакаленьняў беларусаў. Мы не павінны страціць тое, што маем, я маю на ўвазе ў першую чаргу незалежную Беларусь. Але мы мусім набыць тое, чаго ў нас няма, — дэмакратыю і свабоду для ўсяго беларускага народу. Віншую ўсіх суайчыньнікаў з Навагодзьдзем! Жыве Беларусь!

# «Турэмная сыстэма прагніла наскрозь, а рэфармаваць яе няма палітычнай волі»

16 лютага 2015

Алег Грузьдзіловіч

*Лідэр праваабарончай арганізацыі «Вясна», былы палітвязень Алесь Бяляцкі крытычна паставіўся да высноваў сваіх калегаў з арганізацыі «Плятформа інавэйшн», якія апошнія месяцы «інспэктавалі» беларускія калёніі і сьледчыя ізалятары.*

Алесь Бяляцкі амаль тры гады адбыў у бабруйскай калёніі, а падчас сьледзтва ўтрымліваўся ў менскім сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Паводле яго, назіраньні і высновы, зробленыя цягам ягоных «турэмных унівэрсытэтаў», кардынальна разыходзяцца з тым, што ўбачылі праваабаронцы «Плятформы інавэйшн», наведваючы беларускія калёніі з канца мінулага году, калі Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў МУС Беларусі даў ім такі дазвол.

*Бяляцкі:* Агульны камэнтар у мяне такі, што з асноўнымі высновамі, якія робіць спадарыня Алена Красоўская-Касьпяровіч, якая сьцьвярджае, што ўтрыманьне ў беларускіх турмах палепшылася, я адназначна ня згодны. Ня бачу ніякіх паляпшэньняў, каб можна было сьцьвярджаць, што палепшылі ўмовы ўтрыманьня і ўвогуле ўсю пэнітэнцыярную сыстэму.

Па-першае, згадаю, што праваабаронцаў туды раней ніколі не пускалі. Усе спробы праваабаронцаў наладзіць наведваньне гэтых месцаў за 20 гадоў мы добра памятаем. Гэта было ў 90-я гады, але ў 2000-я гады гэта рэзка скарацілася, і ў выніку мэханізм кантролю грамадзкасьці за пэнітэнцыярнай сыстэмай у Беларусі не працуе. Ёсьць гэтыя абласныя камісіі, у якія часткова ўваходзяць прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў. Але амаль нідзе, апроч магілёўскай камісіі, там няма прадстаўнікоў праваабарончых арганізацыяў, і рэальна амаль нідзе гэтыя камісіі не працуюць. Сыстэма вельмі замкнутая. Калі МУС дае дазвол нейкай арганізацыі наведваць гэтыя месцы, прычым гэта адбываецца без прызнаньня праблемаў, без таго, што такое наведваньне — частка нейкага адказу грамадзянскай супольнасьці, то ў мяне, прыкладам, узьнікаюць пытаньні. А чаму такі дазвол атрымала гэтая арганізацыя, а не другая, трэцяя ці іншая, якія таксама прасілі даць ім такую магчымасьць? Прыкладам, я ўжо не кажу пра «Вясну», якая не зарэгістраваная ўладамі, але той жа Беларускі Хэльсынскі камітэт так і не атрымаў такога дазволу.

*Грузьдзіловіч:* А без дазволу — ніяк?

*Бяляцкі:* У нашай краіне — не. У шмат якіх постсавецкіх краінах інакш. У Грузіі, Армэніі, Украіне ці Малдове праваабаронцы маюць права наведваць такія месцы ў любы час, найперш каб рабіць маніторынг гэтай сыстэмы. Які, дарэчы, базуецца на падрыхтаванай тэарэтычнай базе. Бо проста наведваць калёнію — гэта сьмешна.

Я адбыў тры гады на зоне і ведаю, што ніякі начальнік турмы ці калёніі не гатовы, ня хоча і ня будзе паказваць тое, што насамрэч адбываецца ў зоне. І ніякая камісія, хай яна будзе з Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў ці яшчэ адкуль зьверху, нічога з рэальнага жыцьця там ня ўхопіць. Бо ім нічога не пакажуць.

## «Людзей, якія спрабавалі пісаць скаргі, жорстка каралі»

Я памятаю гэтыя камісіі, якія прыяжджалі да нас у бабруйскую калёнію, прыкладам, з дэпартамэнту. Як нас папярэджвалі: так, сёньня будзе камісія адтуль — пайшла брудная лаянка — навесьці там і там парадак, папрыбіраць тое і тое. Усіх зэкаў замыкаюць у пакоі для адпачынку, дзе тэлевізары стаяць, чакаюць, пакуль камісія пройдзе. Усе мусяць сядзець па атрадах, ня дай бог нехта дзе будзе прабягаць, ён можа быць імгненна пакараны.

Я ўжо не кажу пра нейкія нармальныя кантакты з прадстаўнікамі гэтых камісіяў. Любы вязень, які б захацеў мець такі кантакт, потым безумоўна будзе мець непрыемнасьці з боку адміністрацыі калёніі. Бо правіла «не выносіць сьмецьце са сваёй хаты» і на сёньня — жалезнае. Людзей, якія спрабавалі пісаць скаргі ў дэпартамэнт ці нават званіць туды, жорстка каралі.

Пры мне адзін чалавек на маіх вачах і некалькі, пра якіх мне распавялі, былі пасаджаныя ў ШЫЗА на шмат сутак проста за тое, што спра-

бавалі перадаць скаргу на ўмовы ўтрыманьня ў калёніі. Пры гэтым ведаю, што бабруйская калёнія — ня самая жахлівая ў Беларусі.

Паўсюль скаргі рэзка спыняюцца адміністрацыяй, таму гэтыя наведваньні без мэтадалёгіі дасьледаваньня, прыкладам, без ананімнага анкетаваньня вязьняў, — гэта ў лепшым выпадку такія «пацёмкінскія вёскі». Калі наведнікам паказваюць, што хочуць паказаць, а калі ня хочуць, дык увогуле не паказваюць.

*Грузьдзіловіч:* А вязень у статусе «злодзея ў законе» безь перашкод можа паскардзіцца на ўмовы ўтрыманьня сябрам правяраючай камісіі?

*Бяляцкі:* Ну які злодзей у законе будзе зь імі размаўляць? І ўвогуле, якому зэку дазволяць размаўляць спакойна з правяраючымі, тым больш без прысутных ці не праслухоўваючы?

Са мной сустрэчы ў няволі адбываліся двойчы.

Першы раз — калі прыехала абласная грамадзкая камісія па скарзе. Мая калега паскардзілася, што не дайшоў ліст да мяне, і прадстаўнік камісіі прыехаў, каб выслухаць мяне і атрымаць адказ. Наша сустрэча адбывалася ў прысутнасьці намесьніка начальніка калёніі.

А другая сустрэча была з папскім нунцыем Гуджэроцьці, яна адбывалася ў прысутнасьці прадстаўніка дэпартамэнту зь Менску. Мы зь біскупам размаўлялі, а палкоўнік слухаў.

Таму казаць пра тое, што вязьні па-сур'ёзнаму ставяцца да гэтых камісіяў, не выпадае. Мяркую, што дэпартамэнт і МУС цалкам не гатовыя дапу-

скаць нейкі кантроль і маніторынг пэнітэнцыярнай сыстэмы.

А дзеля чаго гэта робіцца? Каб рэабілітаваць яе ў вачах беларускай і міжнароднай грамадзкасьці.

## «Тое, што нам давалі, есьці было немагчыма»

*Грузьдзіловіч:* Чаму вы скептычна ставіцеся да пэўных прыкладаў паляпшэньня ўмоў утрыманьня, якія адзначаюць наведнікі? Вось зьявіліся тыя ж сучасныя тэлевізары з плязмавым экранам, хіба гэта дрэнна?

*Бяляцкі:* Так, паказалі ім гэтыя «плязмы». Але ці задавалі наведнікі пытаньне, на якія грошы былі купленыя гэтыя тэлевізары? Гэта былі грошы, сабраныя ў зэкаў? У добраахвотным ці прымусовым парадку?

Між тым тэлевізары, як і лядоўні, купляюцца ў асноўным на грошы саміх зьняволеных, і можна гаварыць толькі пра тое, дазволяць ці не.

Магу прывесьці сотні прыкладаў бязглуздых абмежаваньняў, якія ня маюць ніякага тлумачэньня.

Прыкладам, у СІЗА на «Валадарцы» мы мусілі варыць сабе ежу, бо тое, што нам давалі, есьці было немагчыма. Хлеб і то можна было есьці выбарачна, макарону — не, суп — не. Кашу — толькі калі заправіш нечым сваім, а проста — немагчыма, бо гэта сьвіней кормяць такой кашай, як яны кормяць людзей. Кармілі і кормяць цяпер.

Дык мы варылі суп у плястмасавым вядзерцы, бо мэталічны посуд забаронены. А чаму? А таму

што ты, магчыма, з гэтага мэталу сабе нешта пашкодзіш. У выніку варылі ў плястмасавым вядзерцы, і можна ўявіць, якая там якасьць той вады атрымліваецца.

Я ўжо ня буду гаварыць пра жахлівую перанаселенасьць на «Валадарцы». Там побач з намі былі камэры, дзе на 10 ложкаў было больш за 20 чалавек, людзі спалі па чарзе, а з-за гэтага хваробы скуры, выпадкі сухотаў.

У маім атрадзе ў Бабруйску аднаго хлопчыка, які сядзеў ужо 5 гадоў, забралі з сухотамі ў шпіталь, у атрадзе ўвялі карантын.

Гэта ж усё ад перанаселенасьці. Прыкладам, у нашай сэкцыі было 15 чалавек — гэта нармальна? Магчыма, што так, калі ёсьць сьвежае паветра, калі ёсьць вітаміны. А калі яўны недахоп вітамінаў і людзі, як у нас бывала, працуюць па дзьве зьмены, каб зарабіць свае капейкі? І хіба камісія наведнікаў гэта ўбачыць? Вядома, не.

## «Рамонты адбываюцца ў асноўным на сродкі зьняволеных»

*Грузьдзіловіч:* Вы кажаце, працуюць па дзьве зьмены? Ёсьць зьвесткі, што ў калёніях ня ўсім хапае працы. Як гэта суадносіцца?

*Бяляцкі:* Фактычна там прымусовая праца, бо ты ня маеш права адмовіцца і мусіш працаваць. Мне паўтара-два даляры ў месяц пералічалі на рахунак з маіх 7–8 даляраў заробку. Астатнія ішлі на плату за ежу. І як за гэтыя грошы набыць сабе вітаміны, тыя ж яблыкі, ці цыбулю, ці грэчку? А

калі ты з волі не атрымліваеш дапамогі ў выглядзе перадач? Як за паўтара-два даляры палепшыць сабе рацыён? Гэта ж немагчыма.

Але ня толькі матэрыяльныя праблемы прыніжаюць тваю годнасьць. А як быць з тымі кучамі дз..., якія ёсьць у прыбіральнях? Калі на 116 чалавек у атрадзе ўсяго чатыры дзіркі ў прыбіральні. Можаце ўявіць, якія горы дз... там ляжаць, у той прыбіральні, і як пасьля гэтага чалавек сябе можа пачуваць?

*Грузьдзіловіч:* А наведнік можа гэта ўбачыць на свае вочы?

*Бяляцкі:* Вядома, не. Усё прыбіраецца, чысьціцца, а назаўтра, калі камісія сыходзіць, усё паўтараецца. Бо ўсё напаказ.

*Грузьдзіловіч:* І рамонты — таксама напаказ?

*Бяляцкі:* Рамонты адбываюцца ў асноўным на сродкі зьняволеных. Вось мяне вызвалілі летам 2014-га, а за год перад гэтым мы рабілі рамонт сваёй сэкцыі. Толькі вядро фарбы нам дала калёнія, астатняе зэкі мусілі даставаць самі. Ці купляць нейкім чынам, ці выменьваць.

Мы проста скінуліся па блёку цыгарэт, і я ў тым ліку. Хоць мне пра гэта не сказалі, бо са мной жа кантакты былі забароненыя, але скідваліся ўсе, і я гэта ціха зрабіў. Перадаў і папярэдзіў, каб нікому не казалі. Вось мы скінуліся па блёку, гэта прыкладна па 10 баксаў, а цыгарэты на зоне — як валюта. І за тую валюту нам на прамзоне зрабілі дошкі для шафы, стол адрамантавалі і гэтак далей.

# «Безь беларускай літаратуры не існавала б пісьменьніцы Алексіевіч»

13 кастрычніка 2016

Сяргей Навумчык

*Кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі ўзяў удзел у міжнароднай канфэрэнцыі ў Празе «Платы, муры і равы: свабода перасоўваньня як права чалавека». Яе ў межах праваабарончай Прэміі імя Вацлава Гавэла праводзіла Парлямэнцкая асамблея Рады Эўропы сумесна зь Бібліятэкай імя Вацлава Гавэла і фондам «Хартыя-77». Сёньня Алесь Бяляцкі — госьць Радыё Свабода.*

## «Расея выступае як правакатар і разбуральнік эўрапейскіх каштоўнасьцяў»

*Бяляцкі:* Канфэрэнцыя была прысьвечаная міграцыйнаму крызісу, які накрыў ня толькі Эўразьвяз, але, хай і ўскосна, і суседнія краіны, у тым ліку і Беларусь. Мы гэта таксама адчуваем. За апошнія два гады гэта 160 тысяч уцекачоў з Украіны, з данбаскага рэгіёну пераважна, якія прынесьлі адтуль пэўныя погляды, пэўную ідэалёгію. Гэта сур’ёзны выклік для ўсяго беларускага грамадзтва, які мы яшчэ да канца не асэнсавалі.

Што кажуць гэтыя людзі беларусам? Зь якімі думкамі яны прыехалі? Што яны прынесьлі беларускаму грамадзтву? Гэта патрабуе дасьле-

даваньня і пэўнай рэакцыі з боку беларускага грамадзтва. Беларусь як транзытная краіна сутыкнулася з хваляй чачэнскіх уцекачоў (інакш іх цяжка назваць). Яны цяпер атакуюць мяжу з Польшчай. У Берасьці, па падліках маіх калегаў-праваабаронцаў, знаходзіцца да трох тысячаў чалавек. Гэта таксама пра штосьці гаворыць. Для мяне асабіста гэта гаворыць пра катастрафічную сытуацыю ў Чачні, якая зьяўляецца такой «чорнай дзіркай», палігонам выпрабаваньня паўвайсковага таталітарнага рэжыму, які сёньня існуе ў Чачні, дзе няма ні правоў, ні свабодаў, дзе насельніцтва знаходзіцца ў абсалютна «забітым», падпарадкаваным стане. Нават вынікі галасаваньня — больш за 90 працэнтаў падтрымкі — сьведчаць, што сытуацыя страшная. І вось гэтыя некалькі тысяч уцекачоў з Чачні зьяўляюцца, мне падаецца, баромэтрам таго, што там адбываецца.

І мы глядзім, якая рэакцыя на ўцекачоў у Беларусі, і, канечне, гэта патрабуе вывучэньня і агучваньня. І, адпаведна, пазыцыя Эўразьвязу, бо, што тут хаваць, міграцыйны крызіс быў выкліканы іншымі праблемамі, палітычнымі і геапалітычнымі, войнамі і пэўнай млявасьцю замежнай міжнароднай палітыкі ЭЗ, які не рэагуе адэкватна на выклікі, якія прыводзяць вось да такіх нечаканых наступстваў. І, мне падаецца, гэта вельмі сур'ёзны выклік для Эўразьвязу. Мы абмяркоўвалі таксама выхад Вялікай Брытаніі з Эўразьвязу, які вельмі моцна аслабляе ЭЗ, казалі пра правыя і левыя рухі ў Эўропе, якія фінансава падтрымліваюцца Расеяй.

Расея выступае як правакатар і разбуральнік эўрапейскіх каштоўнасьцяў, Эўрапейскага Зьвязу. І, канечне ж, гэта ўсё адбіваецца на грамадзянскіх супольнасьцях у постсавецкіх краінах. Аўтарытарныя рэжымы ўмацоўваюцца на слабасьці Эўразьвязу. Гэта выклік і беларускаму грамадзтву, таму што мы зараз знаходзімся ня ў «чорна-белым» стане, які быў гадоў 5–7 таму і ўсё было выразна зразумела. Калі тады Лукашэнка праводзіў выразна рэпрэсіўную палітыку ў адносінах да грамадзкіх актывістаў, да грамадзянскай супольнасьці, дык зараз гэты ціск мае іншыя формы. Ён робіцца больш мяккім. Прэсінг застаецца, але формы гэтага прэсінгу мяняюцца, і мы бачым, што яны робяцца больш хітрымі, больш вычварнымі, але ў той жа час улады працягваюць стратэгію падаўленьня свабодаў і правоў чалавека ў Беларусі.

## «Уцекачы з Данбасу — не прыхільнікі беларускай незалежнасьці»

*Навумчык:* Вы лічыце, што Беларусь апынулася ў кантэксьце міграцыйнай праблемы. Як краіна, якая далучылася да пэўных пагадненьняў, Беларусь абавязаная даваць прытулак тым, хто ў бядзе, хто ўцякае ад вайны, ад палітычнага перасьледу, тут няма ніякіх сумневаў. З другога боку, 160 тысяч чалавек з Данбасу, якіх вы прыгадалі, калі яны празь некалькі гадоў атрымаюць беларускае грамадзянства і, адпаведна, права галасаваць і быць абранымі, — гэта ўжо электа-

ральны фактар. Калі ўявіць, што Беларусь была б дэмакратычнай краінай і што выбары праводзіліся б па прапарцыйнай сыстэме (па партыйных сьпісах) — дык гэтая колькасьць эквівалентная 2–3 працэнтам галасуючых. Іншымі словамі, іх можа быць дастаткова, каб нейкая партыя не пераадолела традыцыйны 4- ці 5-працэнтны бар'ер і ня трапіла ў парлямэнт. Альбо, наадварот, трапіла ў яго. Ці існуюць нейкія дадзеныя пра настроі гэтых людзей?

*Бяляцкі:* Рабіць нейкія абагульняючыя высновы не даводзіцца, бо, падкрэсьліваю, нармальных дасьледаваньняў у гэтай групе ўцекачоў ніхто не праводзіў. Але па тых кантактах, якія маюць нашыя праваабаронцы ў рэгіёнах (а гэтыя людзі рассыпаныя па ўсёй Беларусі), дык калі казаць пра настроі, якія прыносяць гэтыя людзі, яны нават больш істотныя, чым іхняя колькасьць.

Дык вось, настроі там для дэмакратычнай Беларусі, для незалежнай Беларусі — не станоўчыя. Бо людзі прыехалі з «саўковай» псыхалёгіяй, пэўным постваенным шокам, і многія зь іх вінавацяць Украіну і тыя падзеі, якія адбыліся ў Кіеве два гады таму. Антыўкраінскія настроі яны з сабой прынесьлі. І тое, што яны кантактуюць зь іншымі беларусамі, якія ня маюць аб'ектыўнай інфармацыі, — гэта зьяўляецца адмоўным фактарам. І ніхто зь імі ў гэтым кірунку не працуе.

*Навумчык:* Мы бачым, што праваабарончы рух ва ўсім сьвеце закранае ўсё больш і больш шырокія сфэры жыцьця — а ў якой ступені ідэі

праваабаронцаў улічваюць палітыкі, тыя, хто прымае рашэньні?

*Бяляцкі:* Моцна залежыць уплыў грамадзянскай супольнасьці, у тым ліку і праваабаронцаў, ад таго ладу, які існуе ў краіне. Калі гэта дэмакратычная краіна, роля праваабаронцаў высокая, як у Заходняй Эўропе, дзе праваабаронцы зьяўляюцца і крытыкамі ўлады, і партнэрамі ўлады, бо ніхто іх не ўспрымае як ворагаў. У краінах з таталітарнымі рэжымамі адносіны да праваабаронцаў варожыя — як у Казахстане ці Беларусі, дзе дзесяцігодзьдзямі кіруюць адны і тыя ж людзі і дзе выбудаваныя схемы постсавецкіх таталітарных рэжымаў. Да праваабаронцаў прымяняюць рэпрэсіўныя мэтады — праз суды, праз пракуратуру, праз падатковыя органы. Мы знаходзімся ў стане пастаяннай барацьбы і пэрманэнтнага недаверу з боку ўлады.

Але ёсьць і яшчэ горшыя варыянты — Узбэкістан, Туркмэністан, краіны з абсалютысцкімі рэжымамі, дзе праваабаронцам не даюць магчымасьці працаваць, іх выціскаюць з краіны. Таму мы знаходзімся недзе пасярэдзіне паміж вельмі дрэнным і нармальным.

Тым ня менш дзеяньнямі беларускіх праваабаронцаў я задаволены, таму што, нават ня маючы прамых кантактаў з уладамі, мы аказваем уплыў на нейкія грубыя парушэньні правоў у Беларусі, ці наўпрост, ці праз міжнародныя арганізацыі даводзім сваю думку да ўладаў і часам дамагаемся някепскіх вынікаў.

## У адносінах Захаду зь Беларусьсю на першы плян выходзіць бізнэс

*Навумчык:* І паколькі мы закранулі ўнутрыпалітычную сытуацыю ў Беларусі — як вашыя партнэры-праваабаронцы, увогуле заходнія палітыкі, зь якімі вы сутыкаецеся, рэагуюць на зьмякчэньне стаўленьня ўладаў да палітычных апанэнтаў, да грамадзянскай супольнасьці? Успрымаюць гэта як бутафорыю ці як нейкія рэальныя крокі?

*Бяляцкі:* Па-рознаму ацэньваюць. Часам бывае, што сябры, якія падтрымлівалі дэмакратычны рух яшчэ некалькі гадоў таму, сёньня выбіраюць іншую тактыку, кажучы, што імкнуцца дасягнуць ранейшай мэты — дэмакратызацыі Беларусі, але цяпер пачынаюць актыўна супрацоўнічаць з рэжымам, зь нелегітымнымі органамі. Тым часам як выбары ў цяперашнюю «палату» фактычна нічым не адрозьніваліся ад папярэдніх выбараў, і гаварыць пра яе легітымнасьць не выпадае.

Мяне насьцярожвае, што інтэнсыфікацыя кантактаў паміж кіраўніцтвам як ЭЗ, так і асобных эўрапейскіх краін з рэжымам у Беларусі прыводзіць да таго, што каштоўнасныя праблемы, праблемы дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі сыходзяць на трэці плян. На першы плян выходзяць бізнэс, эканамічныя адносіны, тактыка «дробных крокаў», якая можа цягнуцца бясконца і ў рэшце рэшт прыводзіць да таго, што ўсё ідзе па коле: крок наперад, два крокі назад,

потым ізноў тое самае, а па вялікім рахунку — нічога не мяняецца.

І мяне насьцярожвае, што ацэнка падзеяў у Беларусі, ацэнка рэжыму, ацэнка ўзроўню падаўленьня свабодаў у Беларусі робіцца іншай. І гаворыцца пра гэта адкрытым тэкстам, нядаўна пра гэта ў час візыту заявіла нямецкая дэпутатка — маўляў, ну а мы ж кантактуем з парлямэнтам Азэрбайджану ці Кітаю, чым Беларусь адрозьніваецца ад Азэрбайджану і Кітаю, чаму мы не павінны зь імі мець афіцыйныя кантакты?

Такім чынам нас, упершыню за дваццаць гадоў, адсоўваюць у шэраг краін, якія ці зусім ня маюць ніякага дачыненьня да Эўропы, ці маюць меншае дачыненьне да яе, чым Беларусь.

Вельмі важна для нас было, што Беларусь ацэньвалі як эўрапейскую краіну і мералі тымі самымі меркамі, як любую іншую эўрапейскую краіну: так, з праблемамі, так, зь вялізнымі праблемамі, як, напрыклад, балканскія краіны зь іх вялізнымі праблемамі, але, тым ня менш, да нас ставіліся як да эўрапейскай краіны. Зараз нас адсоўваюць у гэты «другі гатунак», нас адсоўваюць у краіны «трэцяга сьвету», і Беларусь фактычна выкрэсьліваецца мэнтальна з разуменьня, што гэта эўрапейская краіна. І гэта, мабыць, самае небясьпечнае, што адбываецца ў выніку гэтага «паляпшэньня» адносінаў паміж Беларусьсю і Захадам.

## «Сыс рупліва працаваў над словам ужо ў маладыя гады»

*Навумчык:* Алесь, звычайна мы з вамі гутарым як з праваабаронцам, але ж вы і пісьменьнік, літаратуразнаўца. Цяпер вось прывезьлі ў Прагу кнігу Анатоля Сыса «Берагі майго юнацтва» — што гэта за выданьне?

*Бяляцкі:* Гэта кніга ягоных юнацкіх, студэнцкіх у асноўным, вершаў, якія не выдаваліся ніколі, якія перадалі нам ягоныя сёстры. Яны ляжалі трыццаць гадоў у чарнавіках, у машынапісах. У гэтым годзе для мяне гэта найбольшы літаратурны сюрпрыз, бо вершы Анатоля Сыса заўсёды выклікалі вялікую цікавасьць і вельмі высока цэняцца аматарамі беларускай паэзіі. І мы далі больш за сто вершаў Анатоля Сыса, напісаных ім у студэнцкія часы.

Прычым вельмі важна, што ён пазначаў дату і месца напісаньня, гэта дае магчымасьць зразумець, што вершы былі напісаныя ў Гомлі, у Гарошкаве, у будатрадзе ў Бабчыне, дзе мы разам былі на пачатку 80-х гадоў. І гэта такі рамантычны пэрыяд ягонай творчасьці, пра які фактычна ніхто нічога ня ведаў.

*Навумчык:* Па аб’ёме выглядае, што гэта прыблізна палова тых тэкстаў Сыса, якія мы да гэтага мелі?

*Бяляцкі:* Траціна.

*Навумчык:* Разумею, што, паколькі вы былі сябрам Сыса зь юначых гадоў, вам цяжка быць аб’ектыўным — але тым ня менш: гэтыя вершы

маюць толькі літаратуразнаўчую каштоўнасьць, гэткі важны матэрыял для філёлягаў і біёграфаў паэта, ці гэта — ужо тая высокая паэзія, за якую палюбілі Сыса?

*Бяляцкі:* Розны ўзровень гэтых вершаў. Ёсьць вучнёўскія, ёсьць дастаткова прафэсійныя, дзе ўжо бачна, адкуль пачынаўся талент Анатоля Сыса, якім мы ўсе захапляемся. Гэта ёсьць і ў асобных радках, і ў асобных слупках, і ў асобных вершах, якія ў гэтым зборніку. Вершы напісаныя, калі яму было 18, 19, 20 гадоў, і ў такія гады пісаць дасканалыя вершы мала каму ўдаецца, але ён якраз належыць да тых, хто рупна працаваў са словам яшчэ ў такія маладыя гады. Таму, я думаю, для аматараў паэзіі там багата што можна знайсьці новага і сапраўднага.

## «Мы яшчэ да канца не ўсьведамляем, наколькі сур’ёзны „знак якасьці“ паставіла Сьвятлана Алексіевіч на нашую літаратуру»

*Навумчык:* Абвешчаны новы ляўрэат Нобэлеўскай прэміі па літаратуры, і такім чынам завяршыўся «нобэлеўскі год» Сьвятланы Алексіевіч. Калі яна атрымала прэмію, былі розныя ацэнкі. Адны казалі, што гэта вялікае дасягненьне для беларускай літаратуры і мае вялікае палітычнае значэньне, таму што беларуская пісьменьніца, хоць і піша па-расейску, атрымала магчымасьць гаварыць пра Беларусь на вялізную аўдыторыю. Другія казалі, што вось якраз паколькі яна піша па-расейску, дык пісьменьніца яна не беларуская,

а ейныя некаторыя ранейшыя ацэнкі нацыянальнага руху нясуць Беларусі больш мінусаў ад гэтай прэміі, чым плюсаў. Вашае меркаваньне: які вынік гэтага «нобэлеўскага году» Алексіевіч для Беларусі?

*Бяляцкі:* Наданьне Алексіевіч Нобэлеўскай прэміі я ацэньваю як адназначны прарыў і адназначнае ўваходжаньне Беларусі ў кола элітных літаратураў сьвету, якія маюць сваіх нобэлеўскіх ляўрэатаў. Па-іншаму ацаніць гэта вельмі цяжка.

Натуральна, што Сьвятлана Аляксандраўна — чалавек няпросты, чалавек складаны, урэшце, як і кожны пісьменьнік. І можна ў нечым зь ёй пагаджацца, а ў нечым не пагаджацца, але тое, што яна зьяўляецца беларускай пісьменьніцай, тое, што праз яе багата хто ў сьвеце сапраўды даведаўся пра існаваньне беларускай літаратуры, у якой мы жывем і выгадаваліся — але сьвет вялікі, і мы зьяўляемся маленькай часьцінкай гэтага сьвету, — і дзякуючы Сьвятлане Аляксандраўне ў нас адбыўся выхад у эліту сусьветных літаратураў. Дастаткова зараз паглядзець кнігарні эўрапейскія, усяго сьвету, ці ўбачыць, як мае калегі ў фэйсбуку выстаўляюць фота яе кніг з Італіі, з Францыі, зь Нямеччыны, зь вітрынаў кнігарняў.

Гэта сапраўды быў год беларускай літаратуры. Мы яшчэ, магчыма, да канца не ўсьведамляем, наколькі гэта сур’ёзны крок нашай сталасьці, крок у сталеньні беларускай літаратуры, гэткі «знак якасьці», які паставіла Сьвятлана Алексіевіч на ўсю нашую літаратуру.

Што тычыцца мовы, дык пра гэта багата што гаварылася, але хачу падкрэсьліць, што яна зьяўляецца беларускай пісьменьніцай, дастаткова паглядзець на першую яе кніжку — «У вайны не жаночы твар» — гэта ж цытата з Алеся Адамовіча. І тым, што яна называе ў сваіх настаўніках Адамовіча і Быкава, яна сама падкрэсьлівае гэтую ўзаемасувязь свайго космасу, свайго сьвету зь беларускай літаратурай. Гэты год сапраўды быў прарывам для беларускай літаратуры, бо безь беларускай літаратуры не існавала б такой пісьменьніцы, як Сьвятлана Алексіевіч.

## «Пост-постмадэрнізм зводзіць літаратуру ў штукарства і неабавязковасьць»

*Навумчык:* А што ў будучыні? Тут я не магу абысьці нядаўнюю падзею — чарговую прэмію Гедройця. Першую прэмію атрымаў Макс Шчур, які жыве тут, у Чэхіі, другую — Альгерд Бахарэвіч, трэцюю — Андрэй Адамовіч. Па-featurename рознаму да гэтай прэміі ставяцца, хтосьці кажа, што гэта прэмія «тусовачная» і закранае вельмі вузкае кола, хтосьці з такой ацэнкай ня згодны, ну, але, тым ня менш, у дадзеным выпадку можна казаць пра пакаленьне саракагадовых у літаратуры. Што яно з сабой нясе? Ці здольныя яны ўзяць на сябе, я нават выкажуся так, той грамадзянскі цяжар адказнасьці за духоўнае існаваньне нацыі, які з годнасьцю несьлі Васіль Быкаў, Янка Брыль, Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін? Магу гэты сьпіс доўжыць, і адразу аспрэчваю

тых, хто кажа — «Пакіньце мастакоў іх „вежы са слановай косьці“, хай яны ствараюць, і ня справа літаратуры ўмешвацца ў нейкія грамадзкія працэсы». У нас іншая традыцыя. У нас літаратура стварала нацыю, калі прыгадаць Купалу. Зрэшты, нават у чыста мастацкім сэнсе: хто ідзе на зьмену вялікім?

*Бяляцкі:* Насамрэч працэсы ідуць і ў эўрапейскім рэчышчы, дзе значэньне літаратуры ў жыцьці грамадзтва зьмяншаецца. І ў нас адбываецца тое ж самае. Тым больш яно яшчэ падмацавана нелюбоўю і нежаданьнем дзяржавы дапамагаць беларускай літаратуры, у тым ліку беларускім пісьменьнікам, якія фактычна выжываюць, бо аказаліся выключаныя з грамадзкага працэсу, з працэсу натуральнага існаваньня беларускай мовы ў дзяржаве. Гэта такі сур'ёзны клін паміж беларускай інтэлігенцыяй, у прыватнасьці сумленнымі пісьменьнікамі, і беларускай уладай.

Іншая справа, што дзесяць гадоў таму зусім забаранялі выступаць беларускім пісьменьнікам, гэта быў пік такой антыбеларушчыны, цяжка было ім выступаць нават у школах, ня кажучы пра ўнівэрсытэцкія аўдыторыі ці бібліятэкі. Зараз гэтая сытуацыя трошкі зьмякчылася ў сувязі зь не зусім добрымі стасункамі з Расеяй і з большым разуменьнем, што ўсё ж нацыянальная культура пры існаваньні незалежнай дзяржавы павінна быць, у тым ліку і беларуская літаратура, і зараз няма такога вострага супрацьстаяньня — але, тым ня менш, беларускія пісьменьнікі голыя і босыя. Яны рэальна не падтрымліваюцца нічым.

Я кажу ў першую чаргу пра незалежныя арганізацыі беларускіх пісьменьнікаў, такія як Саюз беларускіх пісьменьнікаў і ПЭН-цэнтар, але нават і залежны саюз «чаргінцоўскі» яны трымаюць на вельмі малым «пайку», за кожную капейку ім даводзіцца вельмі моцна кланяцца і дзякаваць. Ідзе суцэльнае прыніжэньне беларускіх літаратараў.

Вось такая няпростая сытуацыя зь літаратурай у кантэксьце грамадзкім і дзяржаўным.

І ў той жа час адбываюцца працэсы пост-постмадэрнізацыі ўсёй культуры, у тым ліку і літаратуры. У тым ліку і беларускай літаратуры. Калі літаратура са сьцяга на беларускіх барыкадах, якой яна ў нас доўгі час была (як пісаў у свой час Піліп Пестрак, «Сустрэнемся на барыкадах»), — сыходзіць у штукарства, сыходзіць у неабавязковасьць, няважнасьць, і ня хоча быць абавязковай, важнай. Такая эпоха пост-постмадэрну рэальна зацягнулася. І калі ў Эўропе ўсё гэта было сто гадоў таму, росквіт постмадэрнізму, дык толькі зараз гэта зрабілася рэальным чыньнікам у беларускай літаратуры.

Вось пакаленьне 30–40-гадовых, багата хто зь іх, зьяўляюцца носьбітамі гэтага пост-постмадэрну. А гэта зусім іншыя адносіны да літаратуры, гэта ўжо пайшла гульня ў пэрліны, калі перафразоўваць.

Але, мне падаецца, гэта натуральныя працэсы, бо ў той жа час існуе клясычная беларуская літаратура, і клясычная ў добрым сэнсе, якая зьяўляецца сучаснай. Уладзя Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Барыс

Пятровіч — сучасныя «гарадзкія» пісьменьнікі, якія пішуць у нармальных беларускіх традыцыях, якія, я лічу, важныя для нашай беларускай літаратуры. Ну, урэшце, сярод празаікаў — Уладзімер Някляеў. Гэта сучасны беларускі празаік. І, нягледзячы на ягоныя гады, ягоная проза вельмі маладая. Гэта сучасная маладая проза.

Цяперашні гедройцеўскі ляўрэат — пакаленьне маладзейшае, тым больш вельмі цікава, што ён не жыве ў Беларусі, гэта падкрэсьлівае пэўную ўнівэрсальнасьць беларускай літаратуры. Сёньня можна быць беларускім пісьменьнікам і ня жыць у Беларусі, можна жыць хоць у Аўстраліі — абы ты жыў Беларусьсю, пісаў пра Беларусь, пісаў па-беларуску, урэшце, неяк імкнуўся быць у кантэксьце беларускага літаратурнага працэсу. І Макс Шчур зьяўляецца такім чалавекам. Таму што ён дастаткова актыўны, з году ў год зьяўляюцца ягоныя празаічныя творы. Ну, а калі паэты пішуць па начах і «між іншым» вельмі часта, дык празаік піша заўсёды доўга, што ў мяне заўсёды выклікала павагу. Выбар журы Гедройця цікавы, і я мяркую, што заслужаны.

І ўвогуле прэмія Гедройця, як бы яна ні ацэньвалася, але ляўрэаты гэтай прэміі штогод, мне падаецца, вывераныя і падкрэсьліваюць тое, што беларуская літаратура не спынілася, што беларуская літаратура не знаходзіцца ў нейкім экзыстэнцыйным крызісе, яна разьвіваецца, і ўвесь час шэрагі маладых беларускіх літаратараў, якія прыходзяць на зьмену клясыкам, паказваюць, што беларуская літаратура — гэта жывы арганізм.

## Сшыткі свабоды зэка Бяляцкага

16 кастрычніка 2018

Аляксандар Лукашук

*Новая кніга Алеся Бяляцкага «Турэмныя сшыткі» (Менск, 2018, «Вясна») нагадвае трыптых «Страшны суд» Ераніма Босха — толькі выкананы мазаікай, і аўтар там не судзьдзя.*

«Шаноўны суд! Шкада, што я не радзіўся птушкаю! — Чаму? — А тады я б нас…ў на вас згары!»

Гэта ўжо пятая і, бадай, самая незвычайная кніга ў сэрыі «Беларуская турэмная літаратура». Хоць пачынаецца падкрэсьлена традыцыйна:

«І звонкі бразгат ключа аб жалеза парэнчаў, і гучны крык наглядчыка „Тры-сем“, што азначае, што нас ідзе трое ў прагулачны дворык № 7»... — пачатак празрыста салжаніцынскі, з «Аднаго дня». У першым сказе — ключ: гэтая кніга перш за ўсё пачутая, а потым ужо апавядальная, асэнсавальная, мэмуарная.

«Чую крыкі: „Скласьці на гэтага ўрода акт!“ Зэк карміў птушак хлебам, а тут „хазяйка“ ішоў». У сталінскім гулагу птушак хлебам не кармілі. У беларускім карміць не дазваляецца. Што саву аб пянёк, што пяньком аб саву, як кажуць у такіх выпадках.

«Турэмныя сшыткі» склалі дзёньнікавыя запісы, зробленыя падчас 1052 дзён і начэй у зьняволеньні. Яшчэ адна адметнасьць кнігі — у асобе

аўтара, але ня ў тым, што ён сусьветна вядомы праваабаронца, а ў тым, што ён прафэсійны літаратар, крытык, літаратуразнаўца. І таму асоба зэка Бяляцкага А. В. таксама зьяўляецца прадметам тэксту, нават вынесена ў асобны разьдзел — «Унутранае я»:

«Стаў лепшым, чысьцейшым... Уменьне марыць — гэта № 1. Адсутнасьць сьпіртнога ачысьціла мозг. Прымітыўны быт узьняў дух. Абвастрыліся пачуцьці — менш бачыш разнастайнага, затое лепш чуеш. Усё заўважаеш. І ты таксама як на далоні. Пачуцьці становяцца больш складанымі, больш яркімі і шматфарбнымі... Значна менш размаўляю, больш думаю, перажываю. У душы я памаладзеў».

Быццам трохі наіўна, але турма заўсёды дзейнічае як узмацняльнік, яна можа зьмяніць слоўнік, фокус, стыль, задаць маштаб, герархію.

«Тэрміны даюць такія, быццам мы чарапашкі».

У турме ў Бяляцкага больш за ўсё філёзафаў — на гэтае званьне прэтэндуюць і турэмшчыкі, і зьняволеныя. Першыя вывешваюць на слупе ў лягернай сталоўцы цытату Сакрата «Найлепшая прыправа да ежы — голад». Да гітлераўскай знаходкі на браме канцлягера Дахаў пра працу, якая робіць свабодным, засталося паўкрока.

Зэкі адказваюць экзыстэнцыйна і нават эпічна: «Што тут тваё? Толькі г..., ды і тое толькі калі ляціць».

Бяляцкі не ўхіляецца ад моўнай масы турмы — лаянкі, нізкай лексыкі, пахабнага гумару — але кніга надзіва чыстая, аўтар ня грэбуе, не пагар-

джае, а назірае. Галоўнае нават не шматкроп'і пасьля безьлічы назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў на сакральную славянскую літару «Х», а імкненьне аўтара не хлусіць, не прыгладжваць, не замоўчваць, і не судзіць — пісаць праўду як яна гучыць.

«Хавайся! — Нах... мне хавацца, я сам убійца».

Турма ў Бяляцкага, бадай, самая беларуская пасьля «Кіпцюроў» Аляхновіча — ня столькі таму, што аўтар сам заўсёды гаворыць з усімі па-беларуску, а таму, што натуральна, пасьлядоўна, сьведама й нясьведама ўспрымае навакольле па-беларуску. Хоць турма гаворыць па-расейску, гэта не пераклад.

«Піцень, піцень, Куста, ёй! Цуркайка, а-а-а!»

Так салавей сьпявае, тлумачыць зэк, або хлопец зь дзяўчынаю кахаюцца. А так начальства з аўтарам размаўляе:

«— Вопросы есть? — Пытаньняў няма, грамадзянін начальнік. — А вопросы?»

А ў самога аж сэрца заныла, як пачуў ад цыгана з Давыд-Гарадка: «скавародка», «уюны несалоныя» — так яго баба з Нароўлі казала.

У турме Алесь Бяляцкі атрымаў прэмію імя Вацлава Гавэла, прэмію ад Леха Валэнсы, у Галяндыі ў яго гонар выбілі мэдаль, у Швэцыі паставілі спэктакль, у Парыжы далі ганаровае грамадзянства, у Літве прэмію свабоды, намінавалі на Нобэлеўскую прэмію міру, у ААН заклікалі вызваліць, часопіс «Дзеяслоў» адзначыў «Залатым апострафам», і адзіны камэнтар, які ён сабе дазваляе, — не заслужыў.

Чытаньне «Турэмных сшыткаў» — як бокс з завязанымі вачыма, ніколі ня ведаеш, што і адкуль цябе ўразіць. Вось два абзацы са студзеня 2013 году — з аднаго даведваемся, што ён атрымліваў 200–500 (!) лістоў, паштовак, тэлеграмаў штодзень на працягу тыдняў, з другога — што ў Менску была прэзэнтацыя кнігі Валера Каліноўскага «Справа Бяляцкага», якая выйшла ў сэрыі «Бібліятэка Свабоды».

А паміж імі яшчэ адзін запіс: «Пытаньне тазіка — зараз адное з істотных для мяне».

Больш пра тазік нічога, але гэты сказ паміж абзацамі — як слой бэтоннага раствору, які замацуе іх назаўсёды. (Ня ведаю, ці пра гэта, але ў «Сшытках» ёсьць эпізод, калі адзін з зэкаў, які нападае час ад часу на Бяляцкага за беларускую мову, просіць пакінуць ваду ў тазіку, каб далей прыбіраць — аднак ляўрэат прэміі Вацлава Гавэла ваду вылівае. Чысьцей будзе, дадам я як чытач.)

У турме Бяляцкі застаецца літкрытыкам: піша прадмовы, артыкулы, рэцэнзіі на кнігі паэзіі і прозы, зьдзіўляецца непрыемнай здольнасьці знаёмага літаратара ў сьціслай форме «аба...ць» адразу кучу людзей, не разумее, што робяць у газэце КДБ, як ён называе «СБ», быццам прыстойныя пісьменьнік і пісьменьніца... Але дастае яго іншая літаратура: ён плача над «Вайной і мірам», цытуе Барадуліна, Някляева, Бураўкіна, Ірыну Багдановіч, нейкім чынам яму патрапляе нават «Майстроўня», кніга зь «Бібліятэкі Свабоды», у якой Сяргей Дубавец з Тацянай Сапач аднавілі легендарны моладзевы рух 1980-х:

«Чытаю „Гісторыю аднаго цуду“ Дубаўца, яна мне проста душу выварочвае».

Выварочваньне — асноўная праца на прамзоне. Зэкі рвуць зацьвілыя брызэнтавыя падсумкі на латкі, зь якіх потым шыюць рукавіцы, іх трэба выварочваць. Выварочваюць пагоны, бялізну. Бяляцкі вывернуў напаказ сваё, а аказалася — турэмнае жыцьцё. Дзёньнікавая прырода кнігі, вымушаная сьцісласьць запісаў, іх сюжэтная свабода ствараюць надзвычай канкрэтную прастору для рэчаў, пахаў, рухаў, тактыльных адчуваньняў, смаку, холаду, голаду, бруду.

У энцыкляпэдыі сучаснай беларускай турмы, якая выйшла сёлета ў «Бібліятэцы Свабоды» («Турма, мужчына і жанчына» Алены Панкратавай), адзін зэк згадвае пра адседку зь Бяляцкім:

«Нармальны мужчына, усе казалі. Размаўляў па-беларуску, успрымалася гэта цалкам нармальна. Іншая справа, што тыя, хто зь ім пагаварыў, адразу атрымлівалі дзесяць сутак у ШЫЗА. Так і выходзіла, што ён фактычна быў у ізаляцыі».

Ізаляцыя пісьменьніка — гэта насамрэч вываратка, бо чуюць і бачаць ня тыя, хто мае вушы і вочы, а тыя, хто хоча і ўмее. Ня ведаю, да якой літаратурнай катэгорыі аднесьці дакумэнты, апублікаваныя ў дадатку, асабліва ліст зь Літвы пра банкаўскі рахунак «Вясны», зарэгістраваны на Бяляцкага:

«Министерство юстиции Литовской Республики выражает свидетельство глубокого уважения Министерству юстиции Республики Беларусь...»

Рэзкі пах мачы і г…, як апісвае зэк Бяляцкі паход у прыбіральню.

«Сшыткі» не былі задуманыя як адзін наратыў, але кніга аказалася прадуманай — падзел на рознакаляровыя сшыткі дасьціпны і лягічны, камэнтары дарэчныя, хоць некаторыя варта б павялічыць, а некаторыя цытаты скараціць (апошні разьдзел, «Лісты, не прапушчаныя цэнзурай», выбіваецца са стылю і належыць да нейкай іншай кнігі).

Пасьля сустрэчы з папскім нунцыем начальнік калёніі задае Бяляцкаму адвечнае пытаньне беларускіх уладаў, застраглых паміж Усходам і Захадам, як зэк на ачку падчас шмону, — калі ж той нарэшце напіша просьбу аб памілаваньні.

«Ды я лепей здохну, чым напішу».

У «Страшным судзе» Босха ёсьць тыя, хто загінуў, і тыя, хто ўратуецца. У Бяляцкага можна навучыцца, як ратавацца.

**Год пачынаецца з пратэстаў супраць падпісаньня з Масквой чарговых інтэграцыйных праектаў, але COVID-19 ахоплівае плянэту. Лукашэнка заяўляе, што ніякага каранавірусу не існуе, улады хаваюць сапраўдную статыстыку захворваньняў і сьмерцяў.**

**Абураныя людзі выстройваюцца ў чэргі, каб паставіць подпісы за прэтэндэнтаў на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах. Улады імкнуцца зьбіць актыўнасьць, арыштоўваюць Віктара Бабарыку і Сяргея Ціханоўскага, кідаюць за краты Паўла Севярынца і Мікалая Статкевіча, стваральніка папулярных тэлеграм-каналаў Ігара Лосіка.**

**Цэнтравыбаркам рэгіструе кандыдаткай у прэзыдэнты Сьвятлану Ціханоўскую, якая нечакана і для ўладаў, і для апазыцыйных палітыкаў набірае ўсё большую папулярнасьць і зьбірае дзясяткі тысяч людзей на сустрэчах у розных месцах Беларусі.**

**Увечары 9 жніўня людзі прыходзяць да выбарчых участкаў, каб даведацца папярэднія вынікі, аднак іх разганяе міліцыя. Інфармацыя пра татальныя фальсыфікацыі выводзіць на вуліцы Менску ды іншых гарадоў дзясяткі тысяч людзей — і ўлада прымяняе супраць мірных пратэстантаў зброю. Падчас пратэстаў гінуць Аляксандар Тарайкоўскі, Аляксандар Віхор, Генадзь Шутаў, Аляксандар Будніцкі, Мікіта Крыўцоў.**

# Кантэкст. 2020

**У сярэдзіне жніўня ў знак пратэсту супраць фальсыфікацыяў і гвалту сілавікоў на вуліцы беларускіх гарадоў і вёсак выходзяць сотні тысяч.**

**Такой колькасьці людзей пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, як у 2020-м, Беларусь ня бачыла ніколі раней. Але і маштабы рэпрэсій параўнальныя толькі са сталінскімі часамі.**

**Праваабаронцы «Вясны» фіксуюць вялікую колькасьць кінутых за краты і арыштаваных ды скаргаў на дзеяньні сілавікоў, якія па ўсіх прыкметах падпадаюць пад вызначэньне злачынстваў супраць чалавечнасьці. Дзясяткі тысяч беларусаў вымушаныя ратавацца ад перасьледу па-за межамі Беларусі.**

**Наступны год адзначаны спалучэньнем рэпрэсіяў з наступам «русского мира» і ліквідацыяй усіх нацыянальных незалежных беларускіх суполак. Забараняюцца ўсе незалежныя СМІ. Разгромлена бюро Радыё Свабода ў Менску. Арыштоўваюцца Алесь Бяляцкі і ягоныя паплечнікі зь «Вясны».**

# «Мы маем права ведаць, што адбываецца ў краіне»

31 сакавіка 2020

*Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі ў заяве на сайце цэнтру піша, што моцна ўстрывожаны тым, як улады ўтойваюць рэальны стан рэчаў пры эпідэміі каранавірусу ў Віцебску.*

Падобная сытуацыя яму нагадвае 2009 год, калі «такім жа самым чынам хавалася ад грамадзтва інфармацыя пра птушыны грып». Бяляцкі ў той час перахварэў на яго — і на двухбаковае запаленьне лёгкіх. Хоць дыягназ птушынага грыпу яму так і ня быў афіцыйна пастаўлены.

У сувязі з распаўсюдам у краіне каранавірусу «Вясна» цалкам далучаецца да патрабаваньня Беларускай асацыяцыі журналістаў аб прадстаўленьні рэгулярнай, поўнай і дакладнай інфармацыі аб сытуацыі з COVID-19. Адпаведна артыкулу 34 Канстытуцыі ўлада павінна інфармаваць людзей аб дзейнасьці дзяржаўных органаў і тым, што тычыцца нашых правоў і законных інтарэсаў.

«Мы маем права ведаць, што адбываецца ў краіне і што робіць у гэтым выпадку дзяржава, — піша Бяляцкі. — Наш народ заслугоўвае ведаць праўду. Прасьцей тады вырашаць праблемы, калі ўсе мы ведаем сапраўдны стан рэчаў».

Улады ўтойваюць інфармацыю пра рэальную колькасьць захворваньняў на каранавірус.

# «Турму на Акрэсьціна ператварылі ў канцлягер»

12 жніўня 2020

*Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі ў размове са Свабодай параўнаў дзеяньні сілавых органаў у дачыненьні да грамадзянаў Беларусі з генацыдам, а месцы ўтрыманьня арыштаваных — з канцлягерам.*

*Бяляцкі:* «Несумненна, сілавікі атрымалі карт-бляншь. Ідуць проста нечуваныя зьдзекі, катаваньні — асабліва ў месцах зьняволеньня на Акрэсьціна, у цэнтрах ізаляцыі правапарушальнікаў, ізалятарах часовага ўтрыманьня. Б'юць, трымаюць у перапоўненых камэрах. Пры паступленьні ці вось цяпер, калі паступова пачалі выпускаць, зьбіваюць да страты прытомнасьці. Гэтым займаюцца спэцпадразьдзяленьні — АМАП, унутраныя войскі. Ім далі прамы загад катаваць».

Алесь Бяляцкі дадае, што на сайце Праваабарончага цэнтру «Вясна» надрукавалі інструкцыю, што рабіць у выпадку атакі сілавікоў, затрыманьня, катаваньняў, якія прававыя мэханізмы задзейнічаць. Самае галоўнае — не замоўчваць інфармацыю, максымальна яе распаўсюджваць у СМІ ці сацыяльных сетках.

*Бяляцкі:* «Падключаць журналістаў, праваабаронцаў, здымаць пабоі, каб была дакумэнтальная фіксацыя злачынстваў, — працягвае Алесь Бяляцкі. — Сумнеўна, што можна дабіцца

справядлівасьці пры гэтай сыстэме, але трэба, каб пра гэта даведаўся ўвесь сьвет. І калі такія сьведчаньні будуць на руках, надыдзе час, і ўсе вінаватыя паўстануць перад адказнасьцю. Бо зразумела, што адмашка дадзеная з найвышэйшых колаў. Наша задача — высьветліць, хто арганізатар і выканаўца. Гэта ўжо ня проста парушэньне службовых інструкцыяў, а злачынства зусім іншага парадку».

Пад міліцэйскі гвалт падпадаюць ня толькі ўдзельнікі пратэстаў, сілавікі мэтанакіравана палююць на выпадковых людзей. А пасьля па некалькі дзён не даюць ніякіх зьвестак пра зьніклых, фактычна выкрадзеных у мірны час грамадзян.

*Бяляцкі:* «Найгорш, што на гэтым пакуты і прыніжэньні не канчаюцца. Самае пекла пачынаецца ў месцах часовага ўтрыманьня. Людзей беспадстаўна б'юць, разьдзяваюць дагала, у камэры на 4–6 чалавек запіхваюць паўсотні, прычым разам як мужчын, так і жанчын. Заліваюць у камэры хлёрку, не даюць спаць, піць. Што гэта, як не рэальнае катаваньне? Турму на Акрэсьціна сёньня ператварылі ў самы сапраўдны канцлягер, гэта не перабольшаньне».

За тры дні пратэстаў у розных гарадах Беларусі затрымалі тысячы чалавек. 9 жніўня, паводле МУС, гэтая лічба перавысіла 3000, на наступны дзень прыкладна 2000, яшчэ больш за 1000 затрымалі ў ноч на 12 жніўня.

# «Такога не было ў гісторыі Беларусі ніколі — ужо 12 тысяч затрыманых»

20 верасьня 2020

*Кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі расказаў вядоўцу «Настоящего времени» Ягору Максімаву пра рэпрэсіі ў Беларусі і працу праваабаронцаў у гэтых умовах.*

*НВ:* Калі казаць пра пратэст ад самага пачатку, ад прэзыдэнцкіх выбараў, колькі людзей застаюцца ў сьледчых ізалятарах? Ці дагэтуль яны перапоўненыя, як гэта было ў першыя дні?

*Бяляцкі:* Пад адміністрацыйным арыштам знаходзяцца некалькі соцень чалавек. Зразумела, што гэтая лічба ўвесь час мяняецца, таму што даюць розныя тэрміны — каму 5, каму 8, каму 15 сутак. І некалькі соцень чалавек цяпер знаходзяцца як у Менску, так і ў іншых гарадах Беларусі, таму што ідзе вельмі моцны прэсінг на мясцовых актывістаў, на тых людзей, якія ўдзельнічалі ў акцыях, якіх вылічалі па фатаздымках і асудзілі за апошні тыдзень.

Таксама вялікая колькасьць людзей была выпушчаная з пратаколамі на руках, таксама некалькі соцень чалавек будуць яшчэ судзіць. Таму і прыёмнік-разьмеркавальнік у Менску, і турма ў Жодзіне, дзе таксама ўтрымліваюць адміністрацыйна арыштаваных, даволі моцна напоўненыя. Калі ня будзе хапаць месцаў, то зноў жа, напэўна,

частку людзей будуць выпускаць з пратаколамі на руках.

Наогул колькасьць людзей, якія прайшлі праз адміністрацыйныя затрыманьні альбо проста затрыманьні, цяпер зашкальвае. Такога, на самой справе, не было ў гісторыі Беларусі ніколі. Перад днём выбараў прайшлі прыкладна 1700 чалавек праз затрыманьні. Пасьля 9 жніўня — ужо пад 12 тысяч. Мы проста маем нейкія калясальныя лічбы людзей, але людзі не здаюцца, людзі працягваюць супраціўляцца, і гэтая лічба не канчатковая.

*НВ:* Гэта звыклы маштаб для Беларусі ці гэта нешта небывалае ў гісторыі краіны?

*Бяляцкі:* Гэта неверагодны маштаб. Звычайна нават у гады прэзыдэнцкіх выбараў, у 2006 годзе ці ў 2010-м, у нас за год было да 3 тысяч людзей, якія цярпелі рэпрэсіі. Але цяпер зразумела, што тут пайшлі лічбы зусім іншага парадку. І што самае непрыемнае і самае небясьпечнае — гэта крымінальныя справы. Цяпер каля 300 чалавек з палітычных матываў сядзяць у СІЗА або знаходзяцца пад падпіскай. Гэта значыць, што людзі знаходзяцца ў крымінальнай справе, але ў той жа час знаходзяцца дома.

На мінулым тыдні і наша калега з Праваабарончага цэнтру «Вясна» Марыя Рабкова таксама была арыштаваная, яе абвінавачваюць у фінансаваньні масавых беспарадкаў. Гэта поўны абсурд. Яна каардынатарка валянтэрскай службы «Вясны». Гэта абсалютна чыстая, 100% праваба-

рончая праца. Але, тым ня менш, гэтыя рэпрэсіі закранулі ўжо і праваабаронцаў.

*НВ:* Гэта розныя крымінальныя справы — ці, як у Расеі, ёсьць адна вялікая справа, і па ёй дзясяткі чалавек арыштаваныя?

*Бяляцкі:* Тут розныя справы будуць. Некаторыя групавыя, некаторыя адзіночныя. Але ўжо зразумела, што гэта сотні асобных справаў. Дарэчы, у Маладэчне адна такая крымінальная справа ўжо пачалася на мінулым тыдні, там судзяць двух чалавек, якіх абвінавачваюць у тым, што яны аказалі супраціў АМАПу ў той час, калі амапавец выхапіў баявы пісталет. Такі выпадак быў вядомы ў чэрвені, падчас выбарчай кампаніі. Цяпер час прыйшоў да суду. З гэтых двух абвінавачаных аднаго ўзялі пад варту проста падчас суду, другі пакуль на волі. Сам працэс ідзе. Але нас чакаюць бліжэйшыя месяцы дзясяткі такіх працэсаў, калі ўлады ня зьменяць свайго стаўленьня да акцыяў і да актывістаў, якія ўдзельнічалі ў гэтых акцыях.

# Праваабарончы цэнтар «Вясна» і яго старшыня Алесь Бяляцкі сталі ляўрэатамі «альтэрнатыўнай Нобэлеўскай прэміі»

01 кастрычнік 2020

*Беларускі Праваабарончы цэнтар «Вясна» і яго старшыня Алесь Бяляцкі сталі ляўрэатамі швэдзкай прэміі «За правільны лад жыцьця», якую таксама называюць альтэрнатыўнай Нобэлеўскай.*

1 кастрычніка швэдзкі фонд *Right Livelihood Award Foundation* абвясьціў імёны ляўрэатаў прэміі «За правільны лад жыцьця». Адным зь ляўрэатаў прэміі стаў беларускі праваабаронца, віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі і заснаваны ім у 1996 годзе Праваабарончы цэнтар «Вясна» — «за рашучую барацьбу за рэалізацыю дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі».

Акрамя Бяляцкага, ганаровыя ўзнагароды атрымалі актывістка зь Нікарагуа Лоці Канінгэм Рэн, амэрыканскі юрыст Браян Стывэнсан і іранская абаронца правоў жанчын Насрын Сатудэ.

## «Тысячы нашых суайчыньнікаў катавалі, ім ламалі рукі, ногі, іх гвалтавалі, зь іх зьдзекаваліся»

2 лістапада 2020

*У панядзелак 2 лістапада Сьледчы камітэт Беларусі паведаміў, што пасьля нядзельнай акцыі ў Менску «Дзяды» пачаў крымінальную справу за арганізацыю дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак (артыкул 342 КК РБ).*

І падазраванымі па гэтай справе адразу прызнаныя ажно 231 чалавек. Сьледчыя дзеяньні і апэратыўна-вышуковыя мерапрыемствы працягваюцца, паведамляе СК.

Алесь Бяляцкі выказаўся з нагоды новай маштабнай крымінальнай справы.

«За апошнія тры месяцы 2020 году ў Беларусі за ўдзел у мірных акцыях пратэсту былі арыштаваныя каля 17 000 чалавек, каля 1000 асобаў падазраюцца ці абвінавачваюцца ў крымінальных злачынствах па палітычных матывах. Супрацоўнікі міліцыі падчас масавых маніфэстацыяў у жніўні гэтага году забілі Аляксандра Тарайкоўскага і Генадзя Шутава, Аляксандар Віхор памёр пасьля затрыманьня ў аўтазаку, Мікіта Крыўцоў загінуў пры нявысьветленых абставінах. Больш за тысячу мірных дэманстрантаў былі параненыя і зьвярнуліся ў шпіталі па мэдычную дапамогу. Тысячы нашых суайчыньнікаў катавалі, ім ламалі рукі, ногі, іх гвалтавалі,

зь іх зьдзекаваліся. Сьледчы камітэт не распачаў ніводнай крымінальнай справы па сотнях і сотнях заяваў, пададзеных нашымі грамадзянамі.

Адначасова 2 лістапада Сьледчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па крымінальным артыкуле 342, які стаў вельмі папулярным ва ўладаў з гэтага лета, за як быццам бы арганізацыю і падрыхтоўку дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак. Беспрэцэдэнтная колькасьць падазраваных па гэтай справе — 231 чалавек з тых, што былі затрыманыя падчас маршу на Курапаты. Улады перакрочылі межы лёгікі і сэнсу.

Масавыя злачынствы супраць беларускага народу працягваюцца. Упершыню з 1988 году было разагнанае народнае шэсьце ў дзень памяці продкаў Дзяды. Былі груба парушаны, затаптаны ў бруд народныя традыцыі, этыка і звычайная чалавечая прыстойнасьць. Супраць мірных дэманстрантаў выкарыстоўваліся спэцсродкі, іх абстрэльвалі гумовымі кулямі, у іх кідалі сьвятлашумавыя гранаты, іх беспадстаўна зьбівалі пры затрыманьні, зь іх зьдзекаваліся падчас транспартаваньня ў аддзелы міліцыі.

Відавочна, што загад на гвалт і на распачынаньне гэтай мэгакрымінальнай справы быў аддадзены з самага верху.

Парушэньні правоў чалавека ў краіне дасягнулі нябачаных дагэтуль маштабаў. Такога ў гісторыі Беларусі не было са сталінскіх часоў. Супраць народу ўлады разьвязалі сапраўдны тэрор. Беларусь хутка скочваецца ў сьвірэпы таталітарызм», — лічыць Алесь Бяляцкі.

# «Адказнасьць за сьмерць Рамана Бандарэнкі ляжыць на МУС»

12 лістапад 2020

*Праваабарончы цэнтар «Вясна» патрабуе завесьці крымінальную справу, правесьці расьследаваньне і пакараць вінаватых у сьмерці Рамана Бандарэнкі, паведамляецца на сайце цэнтру.*

Увечары 12 лістапада стала вядома, што ў бальніцы хуткай мэдычнай дапамогі памёр 31-гадовы Раман Бандарэнка, якога 11 лістапада даставіла хуткая дапамога з Цэнтральнага РУУС Менску. Бандарэнку скралі невядомыя (як мяркуецца, сілавікі) на «плошчы Перамен».

«Відавочна, што адказнасьць за сьмерць Рамана Бандарэнкі ляжыць на Міністэрстве ўнутраных справаў і тых, хто аддаваў міліцыі загад „закруціць гайкі". Улады правакуюць яшчэ большую напружанасьць паміж імі і народам», — падкрэсьліў старшыня цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі ў інтэрвію агенцтву БелаПАН.

«Мы, праваабаронцы, патрабуем узбуджэньня крымінальнай справы, правядзеньня расьследаваньня і пакараньня вінаватых. Хоць я разумею, што Сьледчы камітэт гатовы закрываць вочы на любое беззаконьне і гвалт, зьдзейсьненае сілавікамі. Але я веру, што ніводнае злачынства, зьдзейсьненае супраць людзей, ня будзе даравана. Я заклікаю людзей не ўпадаць у адчай і

далей адстойваць свае правы чалавека. Бо мы ня быдла!» — падкрэсьліў Бяляцкі.

Тым часам сотні людзей сабраліся вечарам 12 лістапада на сымбалічнай «плошчы Перамен» у Менску, каб ушанаваць памяць Рамана Бандарэнкі. Людзі, якія сабраліся, нясуць кветкі і запальваюць сьвечкі, скандуюць «Трыбунал!». Відавочцы ў сацсетках таксама паведамляюць, што на прылеглых вуліцах людзі не даюць магчымасьці пад'ехаць да «плошчы Перамен» мікрааўтобусам, у якіх, як мяркуецца, знаходзяцца сілавікі.

# «Гэта тое, што фашысты рабілі падчас вайны, калі захоплівалі закладнікаў без разбору з вуліцы»

3 лютага 2021

*Днямі стала вядома пра пераўтварэньне лячэбна-працоўнага прафілякторыю (ЛПП) № 3 пад Слуцкам у нешта падобнае да канцэнтрацыйнага лягера для ўдзельнікаў пратэстаў у жніўні 2020 году.*

Кіраўнік незарэгістраванага цэнтру «Вясна» **Алесь Бяляцкі** расказаў Свабодзе, ці можна лічыць лягер у Слуцкім ЛПП лягерам, колькі ў Беларусі можа быць палітзьняволеных і чаму рэпрэсіі ня могуць працягвацца доўга.

## «Гэта быў ня проста пункт для ўтрыманьня „сутачнікаў“»

«Інфармацыя пра тое, што людзей трымалі ў ЛПП пад Слуцкам, зьявілася ў нас тады, калі затрыманых пачалі масава выпускаць, — кажа Алесь Бяляцкі. — Былі сьведкі, былі зьбітыя людзі, якія прыходзілі і расказвалі, што іх вывозілі ў Слуцак. Яны казалі, што правялі там некалькі дзён. Але ўсе казалі пра тое, што былі ў ЛПП, якое прыстасавалі пад утрыманьне „сутачнікаў“. Таму мы гэта зразумелі як недахоп месцаў у ІЧУ. А тое, што стала вядома пасьля запісу размовы (аўдыё з запісам голасу, падобнага да голасу намесьніка

міністра ўнутраных справаў Мікалая Карпянкова. — РС), даказвае, што гэта быў ня проста часовы пункт для ўтрыманьня „сутачнікаў“. А сапраўды месца для ўтрыманьня апанэнтаў улады, разьлічанае на доўгі пэрыяд».

Па словах Алеся Бяляцкага, такое месца насамрэч можна назваць лягерам. Там былі ўсе яго прыкметы — узброеная ахова, калючы дрот па пэрымэтры, вышкі з аўтаматчыкамі. Важная дэталь, што лягер фактычна быў арганізаваны за некалькі дзён.

Праваабаронца кажа, што ўлады разгарнулі сапраўдны лягер, і няважна, што ён існаваў некалькі дзён. Ён мог існаваць значна больш. Аднак было прынятае палітычнае рашэньне выпусьціць затрыманых удзельнікаў пратэстаў, а створаны для іх утрыманьня лягер зьнішчыць.

Верагоднай прычынай зьнішчэньня лягера пад Слуцкам усяго праз некалькі дзён пасьля яго стварэньня Бяляцкі лічыць магчымы міжнародны розгалас. Улады палічылі, што ім ён пакуль не патрэбны.

## «СК распачаў 2000 „палітычных“ справаў»

«Мы ня ведаем дагэтуль, чаму людзей тады выпусьцілі, — кажа праваабаронца. — Мая здагадка, што месцы ўтрыманьня арыштаваных пачалі захлынацца. А лягер усё ж быў пераборам нават для ўладаў. У цяперашні час гэта пераходзіць усе магчымыя межы. Магчыма, былі яшчэ іншыя прычыны, пра якія мы даведаемся пазьней. Але

тэма не закрытая. Аўдыё з запісам нас падштурхнула зьвярнуцца да тых успамінаў. Што да словаў пра тое, што прынята рашэньне стварыць зону для палітычных зьняволеных, то, мне здаецца, гэта вельмі рэальна».

Па зьвестках «Вясны», за апошнія месяцы 2020 году ў Беларусі прайшло каля 100 судоў па «палітычных» артыкулах. За першы месяц 2021-га — ужо больш за 50 такіх працэсаў.

Бяляцкі сьцьвярджае, што большасьць працэсаў канчаецца прысудамі, зьвязанымі з пазбаўленьнем волі. Частка асуджаных атрымлівае так званую «хатнюю хімію», невялікая частка нават штрафы (*вядома пра 1–2 выпадкі.* — РС). Але большая частка «палітычных» працэсаў канчаюцца для абвінавачаных рэальнымі тэрмінамі «хіміі» альбо калёніі.

«Суды ідуць пастаянна. Па інфармацыі СК, яны распачалі каля 2000 крымінальных справаў, зьвязаных з удзелам людзей у масавых акцыях, актыўнасьцю альбо іншымі рэчамі, — кажа Алесь Бяляцкі. — Там самыя розныя артыкулы КК. Гэта і масавыя беспарадкі, і дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак — самыя папулярныя „палітычныя“ артыкулы. Ёсьць артыкулы за супраціў дзеяньням супрацоўнікаў міліцыі, нанясеньне ім нейкай шкоды. І гаспадарчыя артыкулы, і хуліганства. Вельмі шырокі набор».

## «Мы ня ведаем дакладнай колькасьці людзей, якіх абвінавачваюць па „палітычных“ справах»

Бяляцкі зьвяртае ўвагу, што грамадзкая актыўнасьць не спыняецца і нішто ня ўказвае на тое, што людзі будуць цярпець зьдзек з думкі грамадзтва, прыцясьненьні правоў чалавека. Адпаведна, колькасьць «палітычных» крымінальных справаў будзе павялічвацца. Як і колькасьць палітвязьняў. І іх усіх трэба будзе недзе ўтрымліваць.

«Гавораць пра „Воўчыя норы“ (калёнія ля Івацэвічаў. — РС). Там цяпер у асноўным утрымліваюць людзей, якія трапілі туды па артыкуле 328 за наркатычныя злачынствы. Яна можа быць перапрафіляваная пад утрыманьне палітычных зьняволеных. Гэта вельмі рэальна. Такая практыка была ў СССР, там існавалі калёніі, дзе трымалі „палітычных“. Нашыя землякі там таксама сядзелі. Міхась Кукабака, у прыватнасьці. Такая зона існавала ў Пермскім краі, на Паўночным Урале. Таму — так, такая зона можа быць створаная ў Беларусі».

«Мы цяпер, на жаль, нават ня ведаем колькасьці людзей, якія праходзяць абвінавачанымі па „палітычных“ справах. Ёсьць справы, дзе па некалькі абвінавачаных. У Берасьці зараз судзяць адначасова 10 чалавек па адной „карагоднай справе“. Рыхтуецца таксама ў Пінску справа, дзе будзе больш за 10 абвінавачаных. Але ёсьць справы, дзе ўлады не знайшлі абвінавачаных.

Ёсьць справа Каардынацыйнай рады, дзе 2 чалавекі за кратамі, а яе склад значна большы, і мы ня ведаем, што там будзе».

## «Такое ў Беларусі было толькі ў 30-я гады»

Па словах праваабаронцы, можна меркаваць, што колькасьць абвінавачаных па «палітычных» артыкулах у Беларусі цяпер ня меншая за 2000 чалавек. Палітычнымі зьняволенымі на сёньняшні момант прызналі 220. Вельмі верагодна, што гэтая лічба будзе толькі расьці.

«Ёсьць пэўныя крытэры, па якіх чалавека прызнаюць палітычным зьняволеным. Багата па якіх справах нам не хапае інфармацыі. Пра нейкія працэсы мы даведваемся ўжо тады, калі яны скончыліся. Сваякі і знаёмыя абвінавачаных не даюць інфармацыі, баяцца. Гэта вельмі кепска, мы заклікаем людзей расказваць пра любыя справы, зьвязаныя з палітычным перасьледам. Гэта ні ў якім выпадку не нашкодзіць самім падазраваным і абвінавачаным. Наадварот, да іх вызваленьня можа прывесьці толькі прыцягненьне ўвагі».

Алесь Бяляцкі кажа, што колькасьць палітычных зьняволеных у Беларусі павялічваецца кожны тыдзень. У найноўшай гісторыі Беларусі такога яшчэ не было. Параўнаць сытуацыю можна толькі з часамі Сталіна, калі таксама праходзілі калектыўныя «палітычныя» працэсы.

«Але нават тады не было такіх маштабных справаў. Напрыклад, у нас пасьля шэсьця ў Курапаты на Дзяды ўзбуджаная справа, па якой

праходзіць 260 зь нечым чалавек у якасьці падазраваных. Першы суд адбыўся ўжо (абвінавачаны атрымаў „хатнюю хімію“. — РС), але ці будуць усе гэтыя 260 чалавек прыцягнутыя да адказнасьці, цяжка сказаць. Тым ня менш маштабы нябачаныя. Утрыманьне зьняволеных у гэтых лягерах, месцах накшталт Слуцкага ЛПП, — гэта нябачаныя ў Беларусі мэтады. Такое было толькі ў 30-х гадах».

## «Улады пераацэньваюць уласныя сілы»

Разам з тым праваабаронца мяркуе, што ўлады пераацэньваюць уласныя сілы. Утрымаць рэпрэсіі на такім узроўні будзе немагчыма, а грамадзтва на гэта не пагодзіцца. Трымаць напаўваеннае становішча доўга не атрымаецца.

«Вось тое, што адбылося ў мінулую нядзелю (31 студзеня. — РС), калі людзей затрымлівалі проста па візуальных нейкіх прыкметах, па вызначэньні саміх АМАПаўцаў. Гэта ўвогуле нябачаная раней сытуацыя. За краты трапіла шмат абсалютна выпадковых людзей. Экскурсія, сям’я, якая выйшла пасьля дня нараджэньня. Людзі ніякім чынам не выказвалі актыўнасьці. Гэта звычайная пацыфікацыя. Тое, што фашысты рабілі падчас вайны, калі захоплівалі закладнікаў без разбору з вуліцы».

Алесь Бяляцкі кажа, што нават падтрымка Расеі не дазволіць уладам працягваць такую рэпрэсіўную палітыку доўгі час. Пакуль жа праваабаронцы не зафіксавалі ніводнага апраўдальнага прысуду па «палітычных» працэсах.

## Дома ў Алеся Бяляцкага правялі ператрус. Ён на волі

16 лютага 2021

*Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі пасьля ператрусу ў ягонай кватэры ў Менску паведаміў Свабодзе, што пастанова на ператрус была падпісаная 1 лютага па артыкуле 342 КК (масавыя беспарадкі).*

Ператрусы прайшлі ў офісе «Вясны» і ў яго дома. Забралі дакумэнты і аргтэхніку. Самога Алеся на допыт не забралі, ён на волі.

Сёньня з раніцы сьледчыя прыйшлі ў кватэры і офісы дзясяткаў праваабаронцаў, журналістаў, прадстаўнікоў незалежных прафсаюзаў па ўсёй краіне. Шукаюць матэрыялы аб фінансаваньні пратэстаў.

# Сьледчы камітэт завёў крымінальную справу за дзейнасьць Праваабарончага цэнтру «Вясна»

5 сакавіка 2021

*Галоўнае ўпраўленьне па расьсьледаваньні злачынстваў у сфэры арганізаванай злачыннасьці і карупцыі Сьледчага камітэту расьсьледуе крымінальную справу, заведзеную па факце дзейнасьці Праваабарончага цэнтру «Вясна».*

Крымінальная справа заведзеная паводле арт. 342 КК (арганізацыя і актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак). На гэты момант у яе межах адбываюцца ператрусы ў офісах рэгіянальных аддзяленьняў і ў кватэрах сяброў арганізацыі, выклікі на допыты і іншыя працэсуальныя дзеяньні.

На думку органаў сьледзтва, «Вясна» нібыта ажыцьцяўляе фінансаваньне ды іншае матэрыяльнае забесьпячэньне незаконных масавых мерапрыемстваў. Раней праз падобныя абвінавачаньні былі ўзятыя пад варту праваабаронцы і валянтэры «Вясны» Марфа Рабкова, Андрэй Чапюк, Леанід Судаленка і Тацяна Ласіца.

## Рэакцыя «Вясны»: «Мы ніколі ня спынім сваёй законнай праваабарончай дзейнасьці»

«На працягу ўсіх 25 гадоў наша арганізацыя рэгулярна сутыкаецца з актамі ціску, запалохваньня і перасьледу сяброў арганізацыі за ажыцьцяўленьне праваабарончай дзейнасьці. У 2001 годзе арганізацыя была незаконна пазбаўленая дзяржаўнай рэгістрацыі і вымушаная апошнія 18 гадоў абараняць правы чалавека ў краіне без рэгістрацыі Міністэрства юстыцыі. У 2011 годзе старшыня аб'яднаньня Алесь Бяляцкі быў асуджаны на чатыры з паловай гады пазбаўленьня волі за атрыманьне замежнай дапамогі на праваабарончую дзейнасьць арганізацыі. ПЦ „Вясна“ ніколі не зьяўляўся арганізатарам якіх бы там ні было гвалтоўных дзеяньняў і заўсёды падтрымліваў мірную рэалізацыю грамадзянскіх і палітычных свабод», — заявілі ў арганізацыі.

«У сытуацыі вострага крызісу з правамі чалавека ў краіне дзейнасьць ПЦ „Вясна“ скіраваная на дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў і масавых парушэньняў правоў чалавека. У гэтых мэтах мы актыўна ўзаемадзейнічаем зь міжнароднымі мэханізмамі абароны правоў чалавека, у тым ліку ў межах такіх міжнародных арганізацыяў, як АБСЭ і ААН. Мы расцэньваем пачатак крымінальнага перасьледу па факце дзейнасьці ПЦ „Вясна“ як чарговы перасьлед у сувязі з нашай актыўнай праваабарончай дзейнасьцю з боку існага аўтарытарнага палітычнага рэжыму

А. Лукашэнкі, які адбываецца на фоне беспрэцэдэнтных рэпрэсіяў у краіне.

Гэтыя дзеяньні ўладаў Беларусі груба парушаюць шэраг міжнародных пагадненьняў, удзельнікам якіх зьяўляецца і Рэспубліка Беларусь, у прыватнасьці Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, Дэклярацыю аб правах і абавязках асобных асоб, груп і органаў грамадзтва заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды».

ПЦ «Вясна» выказвае пратэст у сувязі з чарговымі рэпрэсіямі ў дачыненьні да арганізацыі і яе сяброў і заяўляе:

«Мы ніколі ня спынім сваёй законнай праваабарончай дзейнасьці на карысьць усяго беларускага грамадзтва, скіраваную на прасоўваньне ідэй і каштоўнасьцяў правоў чалавека і дэмакратыі. Мы патрабуем ад уладаў Беларусі:

неадкладна спыніць крымінальны перасьлед у дачыненьні да ПЦ „Вясна“ і перасьлед сяброў нашай арганізацыі;

неадкладна вызваліць з-пад варты праваабаронцаў і валянтэраў ПЦ „Вясна“ Марфу Рабкову, Андрэя Чапюка, Леаніда Судаленку і Тацяну Ласіцу, нашых калег з Офісу правоў людзей з інваліднасьцю Сяргея Драздоўскага і Алега Граблеўскага, а таксама сотні іншых палітычных зьняволеных;

спыніць практыку арыштаў і судовага перасьледу праваабаронцаў у Беларусі;

гарантаваць магчымасьць усім праваабаронцам у Беларусі ажыцьцяўляць сваю законную

праваабарончую дзейнасьць у любых абставінах без абмежаваньняў і бяз страху помсты, у тым ліку бяз рызыкі судовага перасьледу».

# Грамадзянская супольнасьць выступіла з заявай у падтрымку «Вясны»

6 сакавіка 2021

*Арганізацыі грамадзянскай супольнасьці Беларусі выступілі з заявай у сувязі з крымінальным перасьледам пазбаўленага дзяржрэгістрацыі Праваабарончага цэнтру «Вясна» і яго актывістаў.*

Праваабарончыя і іншыя арганізацыі грамадзянскай супольнасьці Беларусі выказваюць салідарнасьць зь «Вясной» і яе працай і расцэньваюць крымінальны перасьлед «выключна як перасьлед за актыўную праваабарончую дзейнасьць».

«Мы заклікаем міжнародныя арганізацыі і інстытуцыі публічна выказаць сваю ацэнку з нагоды перасьледу беларускіх праваабаронцаў, у прыватнасьці ПЦ „Вясна“, а таксама выкарыстоўваць разнастайныя спосабы для аказаньня ўплыву, каб зьмяніць сытуацыю. Мы таксама заклікаем міжнародныя праваабарончыя арганізацыі да салідарных дзеяньняў у адносінах да перасьледаваных беларускіх калегаў», — гаворыцца ў заяве.

Заяву падпісалі сем арганізацыяў: Цэнтар прававой трансфармацыі (Lawtrend), Беларускі Хэльсынскі камітэт, Беларуская асацыяцыя жур-

налістаў, Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў, арганізацыя «Прававая ініцыятыва», таварыства «Ініцыятыва FORB» і кансультацыйны цэнтар Human Constanta.

# Звыш 50 беларускіх і замежных арганізацыяў выступілі ў падтрымку Праваабарончага цэнтру «Вясна»

9 сакавіка 2021

*Галоўнае ўпраўленьне па расьсьледаваньні злачынстваў у сфэры арганізаванай злачыннасьці і карупцыі Цэнтральнага апарату Сьледчага камітэту Беларусі завяло крымінальную справу аб дзейнасьці цэнтру «Вясна». Праваабаронцы з усяго сьвету лічаць перасьлед палітычна матываваным.*

Цяпер праводзяццаператрусы ў офісах рэгіянальных аддзяленьняў і кватэрах сяброў арганізацыі, выклікі на допыты і іншыя працэсуальныя дзеяньні.

«Лічым гэта абсалютна надуманым і галаслоўным абвінавачаньнем, а саму атаку на Праваабарончы цэнтар „Вясна“ — палітычна матываваным перасьледам, які мае на мэце спыніць дзейнасьць арганізацыі, запалохаць грамадзянскую супольнасьць, працягнуць нагнятаньне атмасфэры страху ў грамадстве. Мы выказваем сваю салідарнасьць зь „Вясной“ і расцэньваем сытуацыю як помсту за актыўную праваабарончую дзейнасьць», — гаворыцца ў калектыўнай заяве, якую падпісалі 52 беларускія і замежныя праваабарончыя арганізацыі.

# «Такіх рэпрэсіяў у Беларусі не было з часоў Сталіна»

21 сакавіка 2021

*Алесь Бяляцкі, кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна», заявіў, што ўлады Беларусі размаўляюць з народам на мове гвалту.*

Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі, камэнтуючы сытуацыю з крымінальным перасьледам удзельнікаў акцыяў пратэсту ў Беларусі, заявіў у інтэрвію DW, што ўзровень рэпрэсіяў у краіне зашкальвае. Закранулі яны і сам цэнтар. Бяляцкі раней сам быў палітвязьнем, ён правёў амаль тры гады ў СІЗА і ў калёніі.

Генпракуратура Беларусі накіравала ў суды 468 крымінальных справаў у дачыненьні да ўдзельнікаў акцыяў пратэсту. Алесь Бяляцкі мяркуе, што насамрэч колькасьць гэтых справаў ніхто дакладна не палічыў.

«Думаю, што іх нашмат больш, таму што заведзена было прыкладна дзьве з паловай тысячы крымінальных справаў. Частка іх яшчэ не дайшла да завяршэньня. Ёсьць справы, па якіх праходзіць адразу па 10–12 чалавек, ёсьць — па адным.

З нашага цэнтру чатыры чалавекі знаходзяцца ў СІЗА. Крымінальная справа супраць „Вясны“ раскручваецца. Маіх калегаў выклікалі цяпер у Сьледчы камітэт на допыт па гэтай справе — нас абвінавачваюць у фінансаваньні дзеяньняў, якія

груба парушаюць грамадзкі парадак. Гэта за тое, што мы дапамагаем людзям пісаць скаргі, даем парады, як сябе паводзіць падчас мірных акцыяў.

Па гэтым артыкуле КК пакараньне — да двух гадоў калёніі. Акрамя таго, могуць і яшчэ нейкія артыкулы ўсплыць. У нас часта так бывае — пачынаюць з аднаго, потым другі і трэці выскокваюць. Я сам праходжу пакуль што сьведкам па дзьвюх крымінальных справах, але мой статус таксама ў любы момант можа зьмяніцца.

Наогул у студзені і лютым праходзіла прыкладна па 100 судоў. Маштаб рэпрэсіяў у краіне незвычайна высокі, такога не было з часоў Сталіна. Гэта нават нельга ні з чым параўнаць. Калі ўзгадаць гісторыю Беларусі часоў СССР, то ў нас па антысавецкіх артыкулах у 1960–80-я гады судзілі звычайна ад аднаго да трох чалавек штогод. Цяпер сотні людзей штомесяц адпраўляюць за краты, сотні сядзяць, і літаральна кожны дзень заводзяцца новыя крымінальныя справы. Узровень рэпрэсіяў проста зашкальвае.

Улады размаўляюць з народам на мове гвалту. Так званая судовая ўлада абсалютна залежная, яе выкарыстоўваюць на поўную моц супраць палітычных апанэнтаў, якія прадстаўляюць самыя розныя слаі грамадзтва — гэта і студэнты, і журналісты, і палітычныя актывісты, і прадстаўнікі выбарчых штабоў кандыдатаў у прэзыдэнты, і шараговыя рабочыя. Усе яны летам і восеньню 2020 году выказвалі як маглі пратэст супраць парушэньняў падчас выбараў. І вось зараз ідзе сапраўдны вал судоў».

## Допыт у Сьледчым камітэце старшыні «Вясны» Бяляцкага не адбыўся, бо сьледчыя не валодаюць беларускай мовай

7 красавіка 2021

*Працягваюцца допыты ў Сьледчым камітэце сяброў Праваабарончага цэнтру «Вясна», валянтэраў і грамадзкіх актывістаў па ўсёй Беларусі.*

На 10 гадзін раніцы на допыт у Цэнтральны апарат Сьледчага камітэту выклікалі ў якасьці сьведкі старшыню Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага.

Але допыт не адбыўся. Як паведаміла «Вясна», Алесь Бяляцкі запатрабаваў весьці допыт і пратакол допыту па-беларуску. У выніку сьледчыя дзеяньні былі перанесеныя на пятніцу, 9 красавіка.

Выклікаюць на допыты таксама праваабаронцаў у Сьветлагорску і Мазыры. Фактычна за сакавік — красавік праз допыты і затрыманьні ў справе «Вясны» прайшлі некалькі дзясяткаў праваабаронцаў, валянтэраў і журналістаў у многіх гарадах Беларусі.

## Бяляцкага дапыталі ў Сьледчым камітэце з другой спробы, гэтым разам усё было па-беларуску

9 красавіка 2021

*Старшыню Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага 9 красавіка выклікалі на допыт у Цэнтральны апарат Сьледчага камітэту ў якасьці сьведкі па крымінальнай справе.*

Сьледчыя дзеяньні праводзяцца ў рамках крымінальнай справы, заведзенай паводле часткі 2 артыкула 342 Крымінальнага кодэксу — навучаньне ці іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак.

Як паведаміла «Вясна», сьледчая Кананава прызначыла допыт паўторна, на 10 гадзіну раніцы, пасьля таго як праваабаронца 7 красавіка заявіў згодна з арт. 21 Кодэксу патрабаваньне весьці допыт і пратакол па-беларуску.

Пасьля допыту Алесь Бяляцкі заявіў: «На жаль, беларуская мова допыту ня можа выправіць найвялікшай несправядлівасьці — завядзеньня крымінальнай справы супраць сяброў Праваабарончага цэнтру „Вясна“ і правядзеньня дзясяткаўператрусаў і допытаў па гэтай справе. Мае сябры-праваабаронцы ўжо месяцы як незаконна ўтрымліваюцца ў турме. А сама крымінальная справа мае яўны палітычны падтэкст».

# «Сталінская рэакцыя правіць баль. Але беларускае грамадзтва гатовае ахвяравацца за каштоўнасьці»

26 красавіка 2021

*Праваабарончы цэнтар «Вясна» сёньня сьвяткуе 25-годзьдзе. Кіраўнік цэнтру Алесь Бяляцкі выказаў веру ў дэмакратычныя зьмены ў Беларусі.*

Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі лічыць, што існаваньне арганізацыі ва ўмовах рэпрэсіяў, гвалту і татальнай непавагі да правоў чалавека цягам чвэрці стагодзьдзя — унікальны выпадак. Вясноўцы ня думалі, што, уваходзячы ў другую чвэрць, будуць зноў гаварыць пра крызіс дэмакратыі і самых базавых правоў грамадзян.

І ўсё ж Бяляцкі мае аптымізм адносна будучыні. Ён мяркуе, што адсутнасьць рэформаў, да якіх рэжым Лукашэнкі заклікалі шмат гадоў, стане адным з чыньнікаў. Акрамя таго, народ у Беларусі ўжо жыве іншымі каштоўнасьцямі: «Улады не заўважылі, што за апошнія гады ў Беларусі вырасла новае пакаленьне, для якога правы чалавека не пусты гук».

*Бяляцкі:* «Няхай тыя людзі, якія гвалтоўна парушаюць правы чалавека цяпер, не спадзяюцца, што ім удасца дамагчыся сваіх мэтаў. Махровая, фактычна сталінская рэакцыя сёньня правіць баль. Новае беларускае грамадзтва мае каштоўнасьці і гатовае за іх ахвяравацца».

## Ахоўнік ударыў Адама Бяляцкага падчас суду, судзьдзя гэтага не заўважыла

14 траўня 2021

*Адама Бяляцкага затрымалі ўвечары 13 траўня ля мэтро «Каменная Горка» за адзіночны пікет у падтрымку палітзьняволеных журналістак Дар'і Чульцовай і Кацярыны Андрэевай, а таксама шматдзетнай маці Вольгі Залатар.*

14 траўня яго справу накіравалі ў суд Фрунзэнскага раёну. Падчас суду, які праходзіў онлайн, узьніклі праблемы з сувязьзю. Адам Бяляцкі не пачуў пытаньня судзьдзі і маўчаў у адказ. У гэты момант ахоўнік ударыў яго так, каб не было відаць на відэа.

Назіральнік, які ў гэты час быў у судовай залі, пачуў, як Адам сказаў ахоўніку: «Біць нельга!», а потым заявіў пра гэта судзьдзі. Судзьдзя Марыя Ярохіна ніякім чынам не адрэагавала на заяву арыштаванага. У выніку разгляду справы яна пакарала Адама Бяляцкага 15-суткавым арыштам.

# «Любая просьба аб памілаваньні — гэта прызнаньне віны, свайго „злачынства“»

9 чэрвеня 2021

Віталь Цыганкоў

*Праваабаронца Алесь Бяляцкі разважае, ці варта палітычным вязьням падпісваць просьбу аб памілаваньні, заяўляе, што пагроза санкцыяў эфэктыўна працуе, і кажа, якім павінен быць адказ Захаду на магчымае вызваленьне палітвязьняў.*

*Цыганкоў:* Паступае ўсё больш інфармацыі з самых розных калёній, што палітычным зьняволеным прапануюць падпісаць просьбу аб памілаваньні, і пасьля гэтага іх вызваляць. Грамадзтва цяпер вельмі актыўна гэта абмяркоўвае, і, бадай, агульны настрой пераважна такі: «звычайным» людзям варта прасіць памілаваньня, але ня тым, хто прэтэндуе быць палітычным лідэрам.

*Бяляцкі:* Традыцыя напісаньня просьбаў аб памілаваньні вельмі даўняя, яшчэ з савецкіх часоў дысыдэнтаў прымушалі пісаць гэтыя «памілаванкі». Хто пісаў, хто не пісаў, сытуацыя паўтараецца. У нас у Беларусі ўсё гэта было 10 гадоў таму, у 2011-м, калі вызвалялі палітвязьняў, прапаноўваючы ім пісаць просьбы аб памілаваньні.

Што тычыцца мяне асабіста, то я не пісаў прашэньняў, хаця такія сыгналы пачалі паступаць, калі я сядзеў яшчэ ў СІЗА, і потым паўтараліся ў розных формах, і на пачатку 2014 году начальнік Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў прыяжджаў у калёнію і прапаноўваў падпісаць просьбу аб памілаваньні. Я ўвесь час адмаўляўся, для мяне гэта было прынцыпова, бо я быў перакананы, што асуджаны несправядліва. А любая просьба аб памілаваньні — гэтым самым ты прызнаеш сваю віну, што ты зрабіў «злачынства».

Таму зьняволеныя з палітычных матываў мусяць самі прымаць такое рашэньне, самі вызначаць сваю сытуацыю. Бо іх могуць вызваліць і па амністыі, такія выпадкі таксама былі: мяне, у прыватнасьці, вызвалілі па амністыі ў чэрвені 2014 году.

У мяне тут няма рэцэпту, і я ніколі не асуджаю тых, хто зьбіраецца падпісваць просьбу аб памілаваньні. Цяпер сапраўды паступае шмат інфармацыі, што палітзьняволеным прапануюць падпісаць такія просьбы. Прапаноўваюць нават яшчэ не асуджаным, а тым, хто знаходзіцца ў СІЗА.

Таму гэта маральна-палітычны выбар, кожны палітзьняволены павінен вырашаць гэта сам. Тут комплекс рэчаў, якія чалавек мусіць улічваць — стан здароўя, ці хопіць у цябе сілаў, ці падтрымліваюць цябе сябры і знаёмыя.

*Цыганкоў:* У свой час, калі Беларусь вызваліла палітзьняволеных у 2011–2015 гадах, сярод патрабаваньняў Захаду было ня толькі вызваленьне,

але і поўная рэабілітацыя палітзьняволеных. Потым на гэтае патрабаваньне фактычна забыліся. А што азначае гэтая рэабілітацыя?

*Бяляцкі:* Калі ў 2015 годзе пайшоў працэс аднаўленьня стасункаў Менску з Захадам, то звычайна не бывае, каб у працэсе нейкіх перамоваў былі цалкам задаволеныя ўсе патрабаваньні. Улады ж саджалі нас не для такога, каб вызваліць адразу: каб у іх была свабода дзеяньняў, яны б яшчэ трымалі нас там колькі заўгодна. Тое самае з патрабаваньнем рэабілітацыі — яно было справядлівае, але не было выкананае, адышло на трэці плян.

Рэабілітацыя — гэта комплекс кампэнсацыі стратаў несправядліва асуджаным, уключаючы прызнаньне прысуду несправядлівым, і матэрыяльная кампэнсацыя.

## «Вызваленьне палітвязьняў, якія прызналі сваю віну, — гэта ёсьць акт праявы ўладай сваёй сілы»

*Цыганкоў:* Зараз гісторыя паўтараецца, і ўлады зноў пачынаюць торг з Захадам, «гандаль палітвязьнямі». Як на гэта павінны рэагаваць Захад і беларускае грамадзтва? Прымаць гэты крок уладаў, бо гэта лёс людзей, ці захоўваць пазыцыю, што «з гэтымі ўладамі няма пра што размаўляць, а значыць, і адказваць на любыя іхныя крокі ня варта»?

*Бяляцкі:* Вядома, я ніяк ня веру ў гуманнасьць цяперашняй улады. Была б іхная воля і магчы-

масьці, яны б у 5 разоў больш людзей «закрылі» і трымалі б у канцлягерах. Але яны вымушаныя на гэта пайсьці, і тут некалькі прычынаў.

Адна з галоўных — замежнапалітычная. Да канца месяца рыхтуецца новы пакет эканамічных санкцыяў, і гэта прымушае ўлады рабіць крокі, якія могуць спыніць далейшае паглыбленьне санкцыяў. У 2011 годзе, пасьля таго як увялі санкцыі, большасьць палітзьняволеных вызвалілі.

Другі чыньнік унутрыпалітычны. Вызваленьне палітвязьняў, якія прызналі сваю віну, — гэта ёсьць пэўны акт праявы ўладай сваёй сілы. Маўляў, сытуацыя пад кантролем, мы вызваляем тых, хто пакаяўся, а тыя, хто пакаяўся, адпаведна, ня маюць палітычнага аўтарытэту, бо яны прызналі сваю віну, прызналі сваё «злачынства». У гэтым ідэалягічны сэнс напісаньня просьбаў аб памілаваньні.

Трэці момант, пра які я гавару ўвесь час, — гэта надзвычай вялікая колькасьць палітзьняволеных у турмах, якой у нас ніколі не было. І сама сыстэма выкананьня пакараньняў не разьлічаная на тое, што там ёсьць шмат палітзэкаў. Гэта выбівае яе з рытму закрытай сыстэмы, дзе парушаюцца правы чалавека і дзе гэта ўведзена ў норму. А палітычныя — гэта асаблівая ўвага да зонаў, гэта ўцечка інфармацыі, гэта значыць, што там бурацца шматлікія «традыцыі» ўтрыманьня зьняволеных. Бо палітвязьні найбольш арганізаваныя, матываваныя, гатовыя да адстойваньня сваіх правоў, а калёніі не разьлічаныя на гэта.

Я даўно казаў, што ў іх выйсьце — пачаць выпускаць палітзьняволеных. Сёньня ў калёніях сотні палітычных, раней такога не было, я ў свой час быў адзіны на ўсю калёнію. Таму яны падштурхоўваюць да разгрузкі сыстэмы пакараньня, бо іначай трэба ствараць асобную калёнію для палітычных — такія пляны, дарэчы, былі.

Гісторыя з захопам самалёта вельмі паскорыла тэму з эканамічнымі санкцыямі, таму ўлады вымушаныя хутка пачаць працэс частковага вызваленьня палітвязьняў.

## «Рэпрэсіўная машына не зьніжае абаротаў»

*Цыганкоў:* І якім павінен быць адказ таго ж Захаду? Вось рыхтуюцца санкцыі, а Менск кажа: «Глядзіце, мы зьмяніліся, мы вызваляем палітвязьняў». Як на гэта рэагаваць? Зрабіць нейкі крок у адказ ці сказаць: «Не, з вамі, афіцыйны Менск, гаварыць няма пра што, пакуль ня зьменіцца ўлада»?

*Бяляцкі:* Размаўляюць нават з тымі, хто захоплівае закладнікаў. Асацыятыўна наша беларуская сытуацыя ў нечым падобная. Павінна заставацца на парадку дня патрабаваньне вызваліць усіх палітвязьняў, без выключэньняў. Бо сотні палітзьняволеных адмовяцца пісаць просьбы аб памілаваньні, я гэта дакладна ведаю. Прытым ня толькі вядомыя палітычныя фігуры, але і звычайныя людзі, якія ўдзельнічалі ў пратэстах і былі несправядліва затрыманыя, і ў іх адзіная магчымасьць даказаць сваю невінаватасьць — не

пісаць гэтага памілаваньня. І я ведаю, кантактуючы з сваякамі палітвязьняў, што такое абмеркаваньне ідзе ў сем'ях, і шмат хто, маладыя людзі, адмаўляюцца пісаць гэтыя прашэньні.

Колькасьць палітвязьняў можа зьменшыцца, але ўсё роўна іх застануцца сотні. Таму праблема нікуды ня дзенецца. Эканамічныя санкцыі ўводзяцца ў першую чаргу для спыненьня гвалту, для вызваленьня палітзьняволеных, правядзеньня справядлівых выбараў. Таму зразумела, што размаўляць з уладамі трэба, каб дабівацца найбольшага. Улады павінны вызваліць непаўналетніх, якія былі асуджаныя паводле гэтых артыкулаў, мусяць вызваліць усіх жанчын — групы, якія найбольш неабароненыя і не павінны быць у турме. Мы, напрыклад, чакаем гэтага кроку ад уладаў.

Улады нібыта рыхтуюцца вызваляць палітзьняволеных, але рэпрэсіўная машына не зьніжае абаротаў. Ідуць затрыманьні новых людзей, пастаянныя палітычныя працэсы. Адбылося пагаршэньне заканадаўства аб грамадзка значных дзеяньнях. Адной рукой яны пагаршаюць заканадаўства і працягваюць рэпрэсаваць людзей. Біць затрыманых.

Таму мы лічым, што трэба патрабаваць спыніць усялякі палітычны перасьлед. Бо інакш вызваленьне палітзьняволеных ня мае ніякага сэнсу — адных вызваляць, а праз пару месяцаў дабавяць новых.

## «Арышты рэдактараў „Нашай Нівы“ — удар па беларускім сувэрэнітэце»

9 ліпеня 2021

*Арышт журналістаў і былых рэдактараў «Нашай Нівы» Андрэя Дынько і Андрэя Скурко, а таксама дзейнага рэдактара Ягора Марціновіча — чарговы ўдар уладаў па незалежных СМІ, лічыць кіраўнік незарэгістраванага Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі.*

У сваім блогу на сайце «Вясны» Бяляцкі піша, што «легендарная „Наша Ніва“, адроджаная 30 гадоў таму, зьяўляецца ня толькі грамадзкай, але й культурнай зьявай у Беларусі, бо пасьлядоўна трымаецца і прапагандуе беларускую мову і культуру насуперак русыфікатарскай палітыцы ўладаў».

Алесь Бяляцкі зьвяртае ўвагу на тое, што «Андрэй Дынько зьяўляецца таксама галоўным рэдактарам часопіса „Наша гісторыя“ і дзіцячых часопісаў „Дуду“ і „Асьцярожна, дзеці“. Гэтыя сьвежыя культурніцкія беларускамоўныя праекты таксама вельмі важныя для беларусаў. Таму гэтыя арышты — удар ня толькі па вольным слове, але й па беларускай культуры і сувэрэнітэце. Бо нацыянальная культура зьяўляецца неад'емнай часткай дзяржаўнага сувэрэнітэту».

На думку Алеся Бяляцкага, «тыя, хто беспадстаўна кідаюць за краты пісьменьнікаў, актораў,

дзеячоў культуры, парушаюць правы чалавека, разбураюць беларускі народ і дзяржаўны сувэрэнітэт».

Будзем спадзявацца, — піша праваабаронца, — што журналісты «Нашай Нівы», якія засталіся на волі, нягледзячы ні на што, працягнуць працу за сябе і за сваіх зьняволеных калег.

Мінімум 14 прадстаўнікоў мэдыясфэры і грамадзкіх актывістаў затрымалі 8 ліпеня па ўсёй Беларусі. Пра гэта сьведчаць дадзеныя праваабаронцаў. Сёньня затрыманьні і ператрусы працягваюцца.

# Кіраўніка «Вясны» Бяляцкага затрымалі ў крымінальнай справе

14 ліпеня 2021

*Кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага затрымалі ў рамках крымінальнай справы. Ёю займаецца цэнтральны апарат Сьледчага камітэту, паведаміў тэлеграм-канал «Вясны».*

Сувязь зь Бяляцкім зьнікла з раніцы 14 ліпеня.

## Ператрусы ў праваабаронцаў «Вясны»

Ператрусы ў праваабаронцаў праходзяць у рамках крымінальнай справы № 21128310008, распачатай паводле ч. 1 і 2 арт. 342 (арганізацыя і фінансаваньне групавых дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак) і ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэксу (ухіленьне ад выплаты падаткаў).

## Пасьля ператрусаў затрыманыя сябры ПЦ «Вясна»:

сябра Рады арганізацыі, віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі за правы чалавека (FIDH) Валянцін Стэфановіч,

Уладзімер Лабковіч і ягоная жонка Ніна Лабковіч (абое ў рамках крымінальнай справы),

Сяргей Сыс,
Віктар Сазонаў,
Алег Мацкевіч,
Алена Лапцёнак,
Ігар Казьмерчак,
каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня» Андрэй Палуда,
а таксама праваабаронца Яўгенія Бабаева.

**Апрача праваабаронцаў, затрымалі:**

старшыню суполкі Беларускага свабоднага прафсаюзу Міколу Шараха з Полацку,
жыхара Менску Аляксандра Харытона.

**14 ліпеня адбылісяператрусы мінімум у 19 арганізацыях:**

1. Праваабарончы цэнтар «Вясна»;
2. Праваабарончая арганізацыя Lawtrend;
3. Беларускі Хэльсынскі камітэт;
4. Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»;
5. Дабрачынны праект «Имена»;
6. Праваабарончая пляцоўка «Тэрыторыя правоў»;
7. Праваабарончая арганізацыя «Гендэрныя пэрспэктывы»;
8. Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ);
9. Саюз беларускіх пісьменьнікаў;
10. Партыя БНФ;
11. Рух «За свабоду»;

12. Цэнтар эканамічных дасьледаваньняў BEROC;

13. Офіс эўрапейскай экспэртызы і камунікацый;

14. ГА «Цэнтар „Трэці сэктар“» з Горадні;

15. Цэнтар інфармацыйна-прававой падтрымкі сацыяльна неабароненых груп насельніцтва «Адвакацыя»;

16. Грамадзкае аб’яднаньне «Фонд імя Льва Сапегі»;

17. Адукацыйны цэнтар «ПОСТ»;

18. Менскі офіс сацыялягічнай лябараторыі Novak;

19. Аб’яднаная грамадзянская партыя.

# Праваабаронцы Бяляцкі, Стэфановіч і Лабковіч ня выйшлі на волю пасьля 72 гадзін ад затрыманьня

17 ліпеня 2021

*Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі ня выйшаў на волю пасьля 72 гадзін з моманту затрыманьня. Разам зь ім пад вартай застаюцца Валянцін Стэфановіч і Ўладзімер Лабковіч зь «Вясны».*

Пра гэта паведаміў тэлеграм-канал Праваабарончага цэнтру «Вясна».

Бяляцкі быў затрыманы 14 ліпеня, разам зь сямю іншымі праваабаронцамі «Вясны».

## «Галоўнае — не ўпадаць у дэпрэсію і не журыцца». Што піша зь СІЗА Алесь Бяляцкі, які ўжо 100 дзён за кратамі

22 кастрычніка 2021

*Калегі і родныя старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна», палітвязьня Алеся Бяляцкага вельмі рэдка атрымліваюць ад яго лісты. DW расказала, што праваабаронца піша зь СІЗА-1 на вуліцы Валадарскага ў Менску.*

«Галоўнае — не ўпадаць у дэпрэсію і не журыцца. Я веру, што хутка ўсё будзе добра. А тое, што нас не забівае, робіць мацнейшымі», — піша кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі з турмы. Беларускага праваабаронцу ўжо сто дзён трымаюць у СІЗА на вуліцы Валадарскага ў Менску. Яго затрымалі падчас разгрому «Вясны». Гэтая арганізацыя з пачаткам пратэстаў стала адыгрываць ключавую ролю ў аказаньні дапамогі пацярпелым ад сілавікоў і зборы інфармацыі пра палітвязьняў.

Калегі Алеся Бяляцкага кажуць, што весткі ад яго з турмы — вялікая рэдкасьць, за сто дзён арышту ягоныя блізкія атрымалі толькі пару лістоў і паштовак.

Лістамі і паштоўкамі ад Бяляцкага з DW змагла падзяліцца толькі яго калега Дзіяна.

«На мае каля паўтара дзясятка лістоў я атрымала толькі два адказы. Першай прыйшла паштоўка са словамі, што ў яго „ўсё нармальна“.

Другім я атрымала ліст, дзе ён падрабязна апісаў свой рацыён, мы ў „Вясьне“ зрабілі потым паводле яго інфаграфіку», — расказвае праваабаронца.

Такая ж сытуацыя і ў жонкі Бяляцкага **Натальлі Пінчук.** За тры месяцы яна атрымала толькі некалькі лістоў ад мужа, хоць ён адправіў ёй каля дваццаці.

«Лісты Алесь нумаруе, што дае магчымасьць адсачыць, ці ўсе яны даходзяць. На жаль, далёка ня ўсе. Што тычыцца маіх лістоў, то я з упэўненасьцю магу сказаць, што ён атрымаў толькі два», — кажа жонка Бяляцкага.

У перапісцы з мужам **Натальля Пінчук** стараецца ня згадваць пра затрыманьне або крымінальную справу, каб ліст прайшоў турэмную цэнзуру.

«Тэмы тычацца бытавых пытаньняў: у асноўным пішам пра родных, часам пра нашых агульных знаёмых ці як праходзяць дні і чым занятыя. У лістах я стараюся задаваць яму пытаньні, але адказаў на іх амаль не атрымліваю», — са шкадаваньнем кажа жонка праваабаронцы.

У лістах калегу Алесь апавядае пра свае будні.

«Гляджу тут расейскія сэрыялы, якія ідуць па тэлевізары. Нагледзеўся да канца жыцьця і яшчэ працягваю. Таксама з захапленьнем сачу за спортам і рознымі спаборніцтвамі: футбол, кубак Лігі чэмпіёнаў, чэмпіянат сьвету ў веславаньні, тэніс. Чытаю трохі; менш, чым хацелася б. Прачытаў кнігі Каці Мядзьведзевай, Адама Глобуса, чытаю вершы Максіма Багдановіча. Так што не сумую,

так і праходзяць мае дні», — дзеліцца лістамі Бяляцкага Дзіяна.

У «Валадарцы» мала што адбываецца, таму расказваць Алесю Бяляцкаму асабліва няма чаго.

«Ён працягвае чытаць беларускіх сучасьнікаў, яго вельмі засмуціла сьмерць паэта Алеся Разанава», — дзеліцца Дзіяна.

У лістах Бяляцкага, напісаных ва ўмовах цэнзуры, яна спрабуе знайсьці схаваны сэнс. «Але, як мне сказала жонка Алеся, схаваны сэнс тут адзін: калі пішу, значыць, яшчэ жывы».

25 верасьня ў Алеся Бяляцкага быў дзень нараджэньня, і, наколькі вядома «Вясьне», многія беларусы адправілі яму віншаваньні і лісты салідарнасьці. Некаторыя да яго ўсё ж трапілі, і ён нават даслаў словы падзякі. «Загляне сонца і ў наша рашэцістае акно», — пісаў Алесь у паштоўках.

**24 лютага з тэрыторыі Беларусі ўпершыню ў яе гісторыі зьдзяйсьняецца агрэсія: расейскія войскі праз беларуска-ўкраінскую мяжу ідуць на Кіеў.**

**Лукашэнка праводзіць чарговы рэфэрэндум па зьмене Канстытуцыі, выкрэсьліваючы палажэньне аб нэўтралітэце. Участкі для галасаваньня паўпустыя, Радыё Свабода паведамляе пра судовыя прысуды тым, хто выказаў крытыку праекту, але Канстытуцыя зацьвярджаецца.**

**Звычайнай практыкай робяцца вялізныя турэмныя тэрміны (20 гадоў і болей) прыхільнікам дэмакратыі.**

**Да перасьледу кожнага, хто асьмельваецца публічна выказаць нязгоду з уладай, дадаюцца рэпрэсіі за выступы супраць вайны з Украінай. Партызанаў, якія спрабуюць перашкодзіць транспартаваньню расейскай вайсковай тэхнікі, судзяць за «тэрарызм».**

**Беларускія палітычныя ўцекачы адчуваюць зьмену стаўленьня жыхароў эўрапейскіх краінаў: падтрымка і салідарнасьць саступаюць месца асуджэньню, на іх ускладаюць частку віны за агрэсію супраць Украіны.**

# Кантэкст. 2022

**Здаецца, што памкненьні беларусаў да свабоды, якія ў жніўні 2020-га выклікалі захапленьне ў сьвеце, забытыя назаўсёды.**

**Аднак раніцай 7 кастрычніка прыходзіць навіна з Нобэлеўскага камітэту.**

# У Бяляцкага праблемы са здароўем

14 студзеня 2022

*Старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі, ягоны намесьнік Валянцін Стэфановіч і юрыст арганізацыі Ўладзімер Лабковіч працягваюць знаходзіцца за кратамі за сваю праваабарончую дзейнасьць.*

Асноўная прэтэнзія дзяржавы да праваабаронцаў — тое, што яны не зарэгістравалі Праваабарончы цэнтар «Вясна». З гэтага ўлады зрабілі выснову, што «вясноўцы» ўхіліліся ад прызнаньня арганізацыі падатковым агентам і ад сплаты падаткаў за пэрыяд з 2013 па 2020 год агулам на суму ня менш за 113 428 рублёў, што «прычыніла шкоду дзяржаве ў буйным памеры».

Беларускія ўлады скасавалі рэгістрацыю «Вясны» яшчэ ў 2003 годзе, а летась скасавалі рэгістрацыю яшчэ соцень няўрадавых арганізацыяў.

Як паведамляе Праваабарончы цэнтар «Вясна», на якой стадыі цяпер сьледзтва па справе, ці вядуцца сьледчыя дзеяньні — невядома, бо адвакаты праваабаронцаў — пад падпіскамі аб неразгалошваньні, таму расказаць нічога ня могуць нават родным зьняволеных. «Вясноўцы» пра справу ў лістах таксама ня пішуць, бо інакш іх не прапусьціць цэнзар.

Крымінальную справу супраць «вясноўцаў» вядзе сьледчы па асабліва важных справах Галоў-

нага ўпраўленьня па расьследаваньні злачынстваў у сфэры арганізаванай злачыннасьці і карупцыі Цэнтральнага апарату СК маёр юстыцыі Антон Каляга.

Менскія офісы «Вясны» на вуліцы Мяржынскага і праспэкце Незалежнасьці дасюль апячатаныя.

Жонка Алеся Бяляцкага найбольш хвалюецца за здароўе мужа. Паводле яе, за кратамі ў Бяляцкага абвастрыліся хранічныя хваробы, акрамя гэтага, ён захварэў, меркавана, на ангіну (сам ён напісаў у лісьце, што «прастыў, але ня моцна»). Як адзначае жонка палітвязьня, да суду на спатканьне з Алесем яна нават не спадзяецца, таму меркаваць пра тое, як ён выглядае і адчувае сябе, ня можа.

Па словах жонкі і калегаў старшыні «Вясны», лісты ад яго прыходзяць рэдка. Жонка Алеся спрабуе ўбачыць у ягоных лістах тое, пра што ён ня піша словамі. Так яна адзначыла, што цягам гэтых месяцаў зьмяніўся яго почырк, і тлумачыць гэта тым, што ў яго сапсаваўся зрок.

Па словах родных Алеся, пра навагоднія сьвяты ён нічога не пісаў: «Калі ад яго не прыходзяць віншаваньні, то гэта насьцярожвае». Але ў пераднавагоднім лісьце Алесь напісаў пра свой дзень народзінаў у верасьні, калі яму споўніцца 60 год, і правёў паралель зь мінулым юбілеем:

«У вакне, гляджу, рэдкія і вялікія сьняжынкі сыплюцца, заўтра — Божае нараджэньне, а там — Новы год. Сумны ён будзе ў расстаньні, але — нічога. Пасьля зімы будзе вясна і стане ве-

сялей: засьпяваюць птушкі, засьвеціць сонейка. Наступны год для мяне — юбілейны. Ізноў, мабыць, будзе, як з 50-годзьдзем». (Бяляцкі сустрэў сваё 50-годзьдзе ў 2012-м у бабруйскай калёніі.)

# «Вясноўцам» падоўжылі тэрмін утрыманьня пад вартай

21 ліпеня 2022

*Праваабарончы цэнтар «Вясна» афіцыйна прызнаў палітзьняволенымі ў Беларусі 1259 чалавек. Аднак іншыя ініцыятывы дапамогі палітвязьням паведамляюць, што перасьледаваных у палітычна матываваных справах значна болей.*

Жонка праваабаронцы «Вясны» Валянціна Стэфановіча Аліна паведаміла, што ейнаму мужу, а таксама старшыні «Вясны» Алесю Бяляцкаму і юрысту арганізацыі Ўладзімеру Лабковічу падоўжылі тэрмін утрыманьня пад вартай да 14 кастрычніка.

14 ліпеня споўніўся год, як трох праваабаронцаў «Вясны» зьмясьцілі за краты за іх прафэсійную дзейнасьць.

Сьледзтва працягваецца ўвесь гэты час. З адвакатаў праваабаронцаў узялі падпіскі аб неразгалошваньні, таму справа пакрытая таямніцай і невядома, на якой стадыі цяпер сьледзтва.

# Як Алеся Бяляцкага ў вязьніцы ратавала беларускае слова

25 верасьня 2022

Вінцук Вячорка

*Алесю Бяляцкаму — праваабаронцу, грамадзкаму лідэру, навукоўцу, абаронцу беларускай мовы — 60 гадоў. Пяцідзесяцігадовы юбілей ён таксама сустракаў у лукашэнкаўскай вязьніцы. Там няспынна перасьледавалі знакамітага вязьня, але аднойчы яго ўратавала ад ШЫЗА беларускае слова.*

Алесь Бяляцкі ня толькі ўсясьветна вядомы беларускі праваабаронца. Ён пісьменьнік, літаратуразнаўца і гісторык літаратуры, колішні дырэктар менскага музэю Максіма Багдановіча — і адзіны ў Беларусі, каго на такую пасаду выбралі супрацоўнікі.

Беларускае слова для яго і безумоўная каштоўнасьць, і патоля, і зброя. Яшчэ ў камуністычныя часы ён стаў адным зь лідэраў беларускіх нацыянальных згуртаваньняў, а ў каштоўнасным падмурку нацыянальнага руху бачыць беларускую мову.

Першую сваю манаграфію «*Літаратура і нацыя*» (1991; пра пачатак новай беларускай літаратуры ў яе повязях з нацыянальна-адраджэнцкім і незалежніцкім рухам) Алесь падсумаваў павучальнаю высноваю:

*«Чысьціня задумаў беларускіх паэтаў-адраджэнцаў, іхная прынцыповая пазыцыя ў адносінах да роднае мовы, уласна іхная творчасьць на беларускай мове дапамаглі маладому беларускаму адраджэньню адразу й назаўсёды зьнітаваць сваё разьвіцьцё з разьвіцьцём і ўмацаваньнем становішча роднае мовы.*

*Гэта быў дальнабачны крок, вынікаў якога, мабыць, на той час ня мог прадбачыць ніхто. Пасьля фізычнага гвалтоўнага зьнішчэньня хваляў беларускага адраджэньня гэпэушнікамі ды санацыяй, а затым фашыстоўцамі ды эмгэбэшнікамі менавіта на падвалінах беларускае мовы адбывалася кожнае чарговае адраджэньне нацыянальна сьведамых беларусаў, якія зноў былі гатовыя йсьці на сьмерць... Новаму пакаленьню сьведамых беларусаў ня варта забывацца на каштоўны досьвед сваіх папярэднікаў».*

Алесь ужо быў палітычным вязьнем — у 2011–2014 гадах. Пакараны чатырма з паловай гадамі калёніі ўзмоцненага рэжыму, не прызнаў «віны», у Бабруйскай калёніі № 2 хадзіў у «злосных парушальніках рэжыму».

20 верасьня 2012 году Бяляцкаму вынесьлі былі чарговае спагнаньне. Напярэдадні ён, бывалы палітычны вязень, да працы (шыцьця рукавіцаў) на хвіліну задрамаў, як палічыў прыганяты.

Але, на дзіва, у штрафны ізалятар не пасадзілі, абмежаваліся «нечарговым дзяжурствам». А прычынай нечуванага лібэралізму было... беларускае слова!

Было так. Склалі акт за парушэньне. Да яго вязень мусіць далучыць тлумачальную паперу.

Бяляцкі і патлумачыў, што ня спаў, а знаходзіўся **«ва ўтрапеньні»**. І што гэта такі спэцыфічны стан, характэрны часам для беларусаў,

*«...блізкі да мэдытацыі... Ён дазваляе адцягнуць увагу ад цяжкіх роздумаў. У адрозьненьне ад сну, зь яго можна даволі хутка выйсьці і няма пасьлясонных рэфлексаў (пазяханьня, пацягваньня)»*,

— цытаваў тую сваю паперу Алесь у лісьце да Валянціна Стэфановіча. У тлумачальнай дадаў і пра недасыпаньне, і пра ўзрост.

Акт разглядаў начальнік калёніі.

*«Выклікаў мяне, сядзелі некалькі афіцэраў, ён уголас зачытаў, яны сядзелі з каменнымі тварамі... Паспрабаваў «адчытаць» за беларускую мову. Я адказаў, што гэта не мая праблема, па-іншаму не магу. Атрымаў «парушэньне», мабыць, перадачы пазбавілі»*, — так расказваў Алесь.

Што ж азначае загадкавае **ўтрапеньне** — «*стан, характэрны часам для беларусаў*», як патлумачыў вязень надзорцам? Мо яны нават ліхаманкава капаліся ў слоўніках — да чаго тое беларускае *ўтрапеньне* бліжэйшае і да чаго можа прывесьці? Ці то яно як малайскі шалёны *амок* (мо памятаеце аповесьць Янкі Маўра?), ці, наадварот, як японскі засяроджаны *дзэн*? У кожным разе Алесева тлумачэньне падзейнічала, вязьня не пакаралі папоўніцы.

А слова сапраўды таямнічае. У афіцыйным тлумачальным слоўніку азначае толькі ‘*неўтай-*

*маванае праяўленне якіх-н. пачуццяў; безразважнасць, шаленства*'.

Але прыклады з клясыкаў падказваюць, што слова **ўтрапеньне** мае шырэйшае значэньне. Гэта і **'моцная канцэнтрацыя, засяроджаньне на сваіх пачуцьцях'**. Здольнага на гэта нават у лукашэнкаўскай турме — не зламаць.

# Палітзьняволеным праваабаронцам «Вясны» перакваліфікавалі абвінавачаньні. Ім пагражае да 12 гадоў турмы

26 верасьня 2022

*Старшыня «Вясны» Алесь Бяляцкі, яго намесьнік Валянцін Стэфановіч і каардынатар кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Ўладзімер Лабковіч утрымліваюцца за кратамі ў СІЗА-1 ужо год і два месяцы.*

Стала вядома, што праваабаронцам зьмянілі абвінавачаньні на больш жорсткія.

Цяпер Алесю Бяляцкаму, Валянціну Стэфановічу і Ўладзімеру Лабковічу пагражае ад 7 да 12 гадоў зьняволеньня. Крымінальную справу ў дачыненьні да Стэфановіча і, як мяркуецца, Бяляцкага, Лабковіча і іншых «вясноўцаў» паводле ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэксу (нявыплата падаткаў) спынілі.

Праваабаронцаў абвінавачвалі ў тым, што яны «не зарэгістравалі арганізацыю, якой кіруюць, у вызначаным парадку ў якасьці юрыдычнай асобы, а таксама ў якасьці падаткаплатніка, і не падалі адпаведных зьвестак у падатковыя органы, чым схавалі ад падатковых органаў зьвесткі аб ажыцьцёўленых выплатах, асобах, якія выканалі ад імя арганізацыі працы (якія аказалі паслугі), і ўхіліліся ад прызнаньня арганізацыі падатковым агентам».

## Нобэлеўскую прэмію міру прысудзілі Алесю Бяляцкаму, расейскаму «Мэмарыялу» і ўкраінскаму «Цэнтру грамадзянскіх свабод»

7 кастрычніка 2022

*Нобэлеўскі камітэт прысудзіў Нобэлеўскую прэмію міру зьняволенаму кіраўніку беларускага Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесю Бяляцкаму і прадстаўнікам праваабарончых арганізацыяў Расеі і Ўкраіны.*

Ляўрэатаў прэміі міру назвалі ў Осла 7 кастрычніка. Прызавы фонд за гэтую намінацыю, як і за іншыя, складзе дзесяць мільёнаў швэдзкіх крон (каля $900 тысяч).

Адносна Алеся Бяляцкага Нобэлеўскі камітэт адзначыў:

«Алесь Бяляцкі быў адным з ініцыятараў дэмакратычнага руху, які ўзьнік у Беларусі ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Ён прысьвяціў сваё жыцьцё прасоўваньню дэмакратыі і мірнага разьвіцьця ў сваёй краіне. Сярод іншага, ён заснаваў арганізацыю „Вясна“ ў 1996 годзе ў адказ на спрэчныя канстытуцыйныя папраўкі, якія далі прэзыдэнту дыктатарскія паўнамоцтвы і выклікалі масавыя дэманстрацыі. „Вясна“ аказала падтрымку зьняволеным дэманстрантам і іх сем'ям. У наступныя гады „Вясна“ ператварылася ў праваабарончую арганізацыю шырокага профілю, якая дакумэнтавала ўжываньне ўладамі катаваньняў у дачы-

неньні да палітвязьняў і пратэставала супраць яго.

Улады неаднаразова спрабавалі прымусіць Алеся Бяляцкага замаўчаць. З 2011 па 2014 гады ён знаходзіўся ў зьняволеньні. Пасьля масавых дэманстрацый супраць рэжыму ў 2020 годзе яго зноў арыштавалі. Ён дагэтуль знаходзіцца пад вартай без суду. Нягледзячы на велізарныя асабістыя цяжкасьці, спадар Бяляцкі не саступіў ні на сантымэтар у сваёй барацьбе за правы чалавека і дэмакратыю ў Беларусі».

Заснавальнік і кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі зь ліпеня 2021 году разам з паплечнікамі застаецца за кратамі. Агулам у турме шасьцёра вясноўцаў: Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч, Уладзімер Лабковіч, Леанід Судаленка, Марфа Рабкова, Андрэй Чапюк.

Кіраўніца Нобэлеўскага камітэту ў Осла заявіла, што камітэт гэтай узнагародай зьвяртаецца да ўладаў Беларусі з заклікам вызваліць Алеся Бяляцкага:

«Мы заклікаем улады Беларусі вызваліць спадара Бяляцкага; мы спадзяемся, гэта здарыцца і ён зможа прыехаць у Осла і атрымаць прэмію. Але ў Беларусі тысячы палітычных вязьняў, і я баюся, што маё жаданьне ня вельмі рэалістычнае. Але я заклікаю вызваліць яго».

Было таксама падкрэсьлена, што гэта ўзнагарода для грамадзянскіх супольнасьцяў трох суседніх краін. Дзьве з гэтых краін, Беларусь і Расея, прадстаўленыя рэпрэсіўнымі рэжымамі, а Ўкраіна цяпер зь імі змагаецца.

# «Мы плакалі ад шчасьця і скакалі» — беларускія праваабаронцы пра Нобэлеўскую прэмію для Алеся Бяляцкага

7 кастрычніка 2022, 12:47

*Сёньня а 12-й гадзіне па менскім часе ў Осла было абвешчана, што кіраўніку «Вясны» Алесю Бяляцкаму далі Нобэлеўскую прэмію міру. Ягоныя калегі па арганізацыі спадзяюцца, што гэта зьменіць сытуацыю з палітвязьнямі ў Беларусі.*

## «Нам званілі людзі, віншавалі і таксама плакалі»

*Алена Масьлюкова*, праваабаронца «Вясны»: «Мы плакалі ад шчасьця і скакалі. Нам званілі людзі, віншавалі і таксама плакалі. Уяўляю, як адрэагаваў бы на гэтую навіну Алесь. Ён сказаў бы: „Сябры мае, гэта ваша перамога!“.

Наша праца, усёй „Вясны“, накіраваная на абарону правоў чалавека, абарону ўсіх, хто сёньня мае патрэбу ў гэтым у Беларусі, адзначана на такім узроўні. Мы баронім як палітвязьняў, так і самога Алеся, які за сваю праваабарончую дзейнасьць больш як год за кратамі.

Безумоўна, гэта калектыўная перамога „Вясны“, і яна вартая гэтай перамогі. Вельмі хацелася б, каб усе нашы — Валянцін Стэфановіч, Марфа Рабкова, Андрэй Чапюк, Уладзь Лабковіч, Леанід Судаленка — выйшлі як мага хутчэй

на волю. Каб выйшлі на волю і ўсе нашыя беларускія палітзьняволеныя. Мы, праваабаронцы, прыкладаем да гэтага ўсе намаганьні».

*Натальля Пінчук, жонка палітвязьня Алеся Бяляцкага, некалькі хвілін таму даведалася пра Нобэлеўскую прэмію міру для яе мужа.*

Натальля Пінчук сказала ў інтэрвію Свабодзе:

«Я толькі што, будучы ў дарозе, даведалася пра Нобэлеўскую прэмію для Алеся. Мяне перапаўняюць эмоцыі, трэба сабрацца з думкамі. Але перш за ўсё я выказваю вялізную ўдзячнасьць Нобэлеўскаму камітэту і сусьветнай супольнасьці за прызнаньне працы Алеся, яго паплечнікаў і яго арганізацыі».

Натальля Пінчук сказала, што лісты ад Алеся Бяляцкага зь СІЗА прыходзяць, але ў іх няма дэталяў пра ягонае жыцьцё ў зьняволеньні:

«У лістах да мяне Алесь заўсёды піша, што ўсё ў яго нармальна, ня скардзіцца на здароўе, стараецца мяне не засмучаць. 4 кастрычніка ад яго быў апошні ліст, сярод іншага ён пісаў у ім пра свой 60-гадовы юбілей, які сустрэў за кратамі 25 верасьня: «Дзіўны юбілей, ціхі і спакойны, нешта на юбілеі мне не шанцуе. Ня верыцца, што мне 60 год, здаецца, гэта ня мне, а камусьці іншаму», — напісаў ён. Алесь меў на ўвазе, што і свае 50 год ён сустрэў у турме.

У менскім СІЗА ён ужо больш за год, з чэрвеня 2021-га. На якой стадыі сьледзтва, мне нічога не вядома. Гэта таямніца, адвакаты пад падпіскай

аб неразгалошваньні і нічога мне ня кажуць, спатканьняў мне не давалі».

## «Гэта напамін, што правы чалавека — аснова міру і бясьпекі»

*Алег Гулак,* старшыня Беларускага Хэльсынскага камітэту: «Гэта пацьверджаньне важнасьці праблемы правоў чалавека для міру. Гэта напамін, што правы чалавека ёсьць асноваю міру і бясьпекі. Пра гэта казаў яшчэ ў свой час Сахараў, казалі дысыдэнты. На гэтай лёгіцы была пабудавана АБСЭ. Гэта забывалася і прынесла цяжкую навуку. Для Беларусі гэта асабліва важнае рашэньне, бо прыцягвае ўвагу ўсяго сьвету да таго, што робіцца ў нас. Вельмі своечасовае, патрэбнае і важнае рашэньне».

## «Пра Беларусь не забыліся»

*Андрэй Бастунец,* старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў: «Я ўзрушаны, у мяне сьлёзы на вачах. Ніхто гэтага не чакаў пасьля таго, як летась таксама быў ляўрэат з гэтага рэгіёну.

Гэта другі сябра БАЖ, які робіцца нобэлеўскім ляўрэатам, бо Сьвятлана Алексіевіч таксама ганаровы сябра нашай арганізацыі. Балюча, што гэта чарговы нобэлеўскі ляўрэат, які атрымлівае прэмію, будучы ў турме.

Для мяне тут значныя некалькі момантаў: здавалася б, правы чалавека адышлі ў бок у часы вайны, але мы бачым, што правы чалавека застаюцца на парадку дня. Таксама на парадку

дня застаецца Беларусь, пра нашу краіну не забыліся і памятаюць. Я вельмі рады за Алеся, за ягоных сяброў і калегаў зь „Вясны“, яны таксама спрычыніліся да гэтага».

## Якія арганізацыі атрымалі разам з Алесем Бяляцкім Нобэлеўскую прэмію міру

«Цэнтар грамадзянскіх свабод» быў створаны ва Ўкраіне ў 2007 годзе для прасоўваньня каштоўнасьцяў правоў чалавека. У 2020 годзе цэнтар далучыўся да глябальнай кампаніі #BelarusWatch, у межах якой валянтэры з розных краін зьбіралі і дакумэнтавалі парушэньні правоў чалавека ў Беларусі з пачатку масавых акцыяў пратэсту пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

«Цэнтар грамадзянскіх свабод» у 2020–2021 гадах правёў шэраг супольных зь беларускімі актывістамі акцыяў каля амбасады Беларусі ва Ўкраіне, у тым ліку «Гусь за Беларусь» і «Абаронім беларускіх дзяцей ад рэпрэсіяў».

Прадстаўнікі арганізацыі далучыліся таксама да акцыі, якая праходзіла 26 жніўня 2020 году, калі нацыянальны цэнтар «Украінскі дом» у Кіеве падсьвяцілі бел-чырвона-белым на знак салідарнасьці і падтрымкі мірнага пратэсту ў Беларусі.

Цяпер актывісты арганізацыі ўдзельнічаюць у дакумэнтаваньні ваенных злачынстваў расейскай арміі ў часе акупацыі ёю ўкраінскіх гарадоў і вёсак.

Праваабарончы цэнтар «Мэмарыял» быў створаны ў 1989 годзе. Арганізацыя фіксуе выпадкі

парушэньня правоў чалавека ў Расеі, праводзіць адукацыйныя праграмы і юрыдычныя кансультацыі для бежанцаў і палітвязьняў.

Расейскія ўлады прызналі «Мэмарыял» замежным агентам і ў сьнежні 2021 году ліквідавалі.

Летась Нобэлеўскую прэмію міру атрымаў расейскі журналіст і праваабаронца, галоўны рэдактар «Новой газеты» Дзьмітры Муратаў.

# «Калі рэжым трымае ў вязьніцы ляўрэата Нобэлеўскай прэміі — гэта зусім іншае»

7 кастрычніка 2022

*Праваабаронцы «Вясны» спадзяюцца, што Нобэлеўская прэмія для Алеся Бяляцкага паўплывае на вызваленьне беларускіх палітвязьняў і самога праваабаронцы.*

«Гэтая прэмія — найважнейшая і найвышэйшая адзнака нашай праваабарончай дзейнасьці на сусьветным узроўні, і гэта вельмі важна ў такія няпростыя часы для Беларусі. Але, акрамя гэтага, прэмія дасьць магчымасьць ва ўсіх кутках сьвету даведацца пра беларускіх палітычных зьняволеных, якіх цяпер больш за 1300 чалавек. Атрыманьне прэміі праваабаронцам за кратамі яскрава паказвае, якіх годных людзей беларускі рэжым трымае ў турмах як закладнікаў. Мы спадзяемся, што гэта пацягне за сабой новую хвалю ціску на рэжым з боку міжнароднай супольнасьці, і палітычныя зьняволеныя змогуць выйсьці на волю. І вельмі спадзяемся, што неўзабаве пабачым на волі самога Алеся і іншых нашых калегаў», — сказалі Свабодзе праваабаронцы «Вясны».

«Калі рэжым трымае ў вязьніцы ляўрэата Нобэлеўскай прэміі — гэта зусім іншае», — перакананыя паплечнікі Бяляцкага.

Як расказала праваабаронца цэнтру «Вясна» Дар’я Рублеўская, кандыдатуру Алеся Бяляцкага

падавала не «Вясна», а небеларуская профільная арганізацыя грамадзянскай супольнасьці, якой яна не назвала.

Алеся Бяляцкага дагэтуль пяць разоў намінавалі на Нобэлеўскую прэмію.

*Рублеўская:* «Я першая даслала ў [працоўны] чат гэтую інфармацыю. У нас была паўза, бо мы не маглі паверыць, пачалі пераправяраць, шукаць першакрыніцы. Журналісты з розных краін хутка пачалі пісаць і віншаваць. Для нас гэта было нечакана, бо быў досьвед папярэдняга вылучэньня Алеся на гэтую прэмію. Мы былі вельмі шакаваныя.

Гэта ўнікальны прэцэдэнт у гісторыі Беларусі, бо гэта толькі другая Нобэлеўская прэмія для Беларусі і першая Нобэлеўская прэмія міру. Фігураў такога маштабу, як Алесь Віктаравіч Бяляцкі, у гісторыі новай Беларусі не існуе.

Алесь Бяляцкі заснаваў Праваабарончы цэнтар „Вясна“ ў 1996 годзе. Да гэтага ён быў заснавальнікам дысыдэнцкага руху ў Беларусі — за вызваленьне ад прыгнёту, за канцэпцыю правоў чалавека, за свабоду, незалежнасьць, дэмакратыю.

Ён бясстрашны чалавек, вельмі прафэсійны і прынцыповы. Ягоная дзейнасьць прывяла нас у тыя пункты, зь якіх пачыналіся сацыяльныя трансфармацыі. Ён дапамагае літаратурнай спадчыне Беларусі. Ён адзін з заснавальнікаў сэрыі „турэмнай літаратуры“. Ён адзін з адукатараў у галіне правоў чалавека. І, пэўна, ён адзін з самых гучных галасоў Беларусі на міжнароднай

арэне. Ён быў адным зь першых, хто гаварыў пра небясьпеку рэжыму, які толькі пачынаўся.

Думаю, што Нобэлеўскі камітэт гэтым крокам выказаў падзяку ўсёй грамадзянскай супольнасьці Беларусі за нястомную барацьбу за правы чалавека, годнасьць, дэмакратыю, імкненьне жыць у сапраўды свабоднай краіне.

Калі рэжым трымае дзеячоў грамадзянскай супольнасьці за кратамі — гэта адна гісторыя. Калі рэжым трымае там ляўрэата Нобэлеўскай прэміі — гэта зусім іншае. Але мы памятаем, што для гэтага аўтарытарнага рэжыму не існуе ніякіх аўтарытэтаў, апроч яго самога.

Я думаю, Нобэлеўская прэмія ня можа нашкодзіць самому спадару Алесю, бо няма куды далей. Нядаўна яму зьмянілі абвінавачаньне на іншае, з больш жорсткім пакараньнем. Яго трымаюць у невыносных умовах, ён ня бачыцца з сваякамі, яму блякуюць карэспандэнцыю, забараняюць спатканьні. Думаю, нічога ня зьменіцца крытычна ў горшы бок».

# Сьвятлана Алексіевіч: Алесь Бяляцкі для беларускай барацьбы — міталягічная фігура

7 кастрычніка 2022

Юры Дракахруст

*Уганараваньне Нобэлеўскай прэміяй міру праваабаронцаў зь Беларусі, Расеі і Ўкраіны мы папрасілі пракамэнтаваць пісьменьніцу, ляўрэатку Нобэлеўскай прэміі ў літаратуры Сьвятлану Алексіевіч.*

*Алексіевіч:* Я вельмі рада за Алеся Бяляцкага, бо ён — міталягічная фігура для беларускай барацьбы. Усё, што мы ведаем пра сябе падчас барацьбы, мы ведалі ў асноўным дзякуючы арганізацыі «Вясна», якою кіруе Бяляцкі, дзякуючы тым мужным людзям, якія там працуюць.

Ён здолеў стварыць гэты калектыў аднадумцаў, і яны рабілі гэтую вялікую працу.

Я рада і за «Мэмарыял», які так ненавідзіць расейская ўлада: зараз у яго вельмі шмат складанасьцяў. Гэта таксама важная ўзнагарода сёньня.

А тое, што робяць украінскія праваабаронцы, — пра гэта і гаварыць цяжка. Людзі працуюць у неймаверных умовах.

Учора мы ўручалі прэмію імя Ганны Палітноўскай украінскай акушэрцы Тацяне Сакаловай, якая прымала роды пад бамбаваньнем у Ма-

рыюпалі, і расейскай праваабаронцы Сьвятлане Ганнушкінай.

Я чула ад сваіх украінскіх сяброў, што гэта неадназначна ўспрымаецца ў іх грамадзтве, яны не разумеюць гэтага жаданьня паставіць расейскіх, беларускіх і ўкраінскіх барацьбітоў побач, на адну дошку.

Яны лічаць, што расейскі і беларускі народы вінаватыя ў гэтай вайне, бо яны маўчаць.

Будзе шмат спрэчак, але я вітаю ўсіх уганараваных сёньняшняй прэміяй. Гэтая прэмія кажа пра тое (і хай гэта ведаюць украінскія сябры), што сярод і расейцаў, і беларусаў шмат тых, хто змагаецца, рызыкуючы сваім здароўем і жыцьцём.

Алесь Бяляцкі хворы, ён шмат гадоў праседзеў у турме.

*Дракахруст:* На ваш погляд, як улада Беларусі адрэагуе на гэтую прэмію? Ці можа Лукашэнка вызваліць Бяляцкага? Хаця б яго аднаго?

*Алексіевіч:* Гэта ўладзе варта было б зрабіць, але ня веру, што яна гэта зробіць. Каб гэта зрабіць, трэба паважаць праціўніка, мець іншы сьветапогляд.

*Дракахруст:* А мо проста быць хітрым?

*Алексіевіч:* Якраз хітрасьць Лукашэнка мае. Але я мяркую, што ён занадта ненавідзіць тых, хто супраць яго. А тое, што Бяляцкі застанецца ў турме, — гэта прыніжае народ, прыніжае ўсіх нас.

*Дракахруст:* У 2020 годзе ў грамадзтве быў кансэнсус: пратэсты павінны быць мірнымі. Зараз, скажам вельмі мякка, гучаць і іншыя галасы — што трэба дзейнічаць больш рашуча і ня

толькі мірнымі сродкамі. Бяляцкі заўсёды быў за мірныя сродкі, і ён сам дзейнічаў менавіта так. Тое, што прэмію атрымалі праваабаронцы, а не, напрыклад, палітыкі, — якое значэньне гэта будзе мець, у прыватнасьці, для беларускага грамадзтва?

*Алексіевіч:* Я мяркую, што грамадзтва застанецца расколатым. Застануцца людзі, якія вераць, што, як пісаў Някрасаў, *«дело прочно, когда под ним струится кровь».*

Скажу за сябе — я заўсёды была супраць крыві і застаюся супраць крыві. Мне здаецца, што гонар нашай рэвалюцыі і яе маральная вага ў сьвеце былі менавіта таму, што ніхто ня браў «пошту і тэлеграф» і што не было крыві. Дый як яе было праліць, калі на кожным скрыжаваньні стаяла вайсковая тэхніка і ўвесь Менск быў повен салдатаў?

Калі б беларусы дзейнічалі інакш, было б горш, чым на плошчы Т'яньаньмэнь у Пэкіне ў 1989 годзе. Можа, гэта ідэалізм з майго боку і з боку Бяляцкага. Але дзіўна было б, калі б мастак заклікаў да крыві. Я разумею, што мяне ў адказ спытаюць: а як нам тады перамагчы, прыйсьці да ўлады? Гэтае пытаньне — без адказу ад мяне.

## МЗС Беларусі: Нобэль замучыўся пераварочвацца ў труне

7 кастрычніка 2022

*Менск на пэўным этапе страціў усялякую цікавасьць да рашэньняў Нобэлеўскага камітэту, заявіў афіцыйны прадстаўнік МЗС Беларусі Анатоль Глаз.*

«Вы ведаеце, у апошнія гады шэраг прынцыповых рашэньняў — а мы гаворым аб прэміі міру — Нобэлеўскага камітэту настолькі палітызаваныя, што, прабачце, Альфрэд Нобэль замучыўся пераварочвацца ў труне», — цытуе Глаза расейскае агенцтва РИА Новости.

Беларускі дыплямат адзначыў, што «гэта іх кухня і іх сумленьне, мы ня хочам у гэта ўлазіць і нешта камэнтаваць».

«Мы проста на пэўным этапе страцілі да гэтага ўсякую цікавасьць», — сказаў афіцыйны прадстаўнік беларускага МЗС.

# Як заходнія і беларускія СМІ падалі навіну пра Нобэлеўскую прэмію Алеся Бяляцкага. Параўноўваем

7 кастрычніка 2022

*Афіцыйныя беларускія СМІ пра другую ў гісторыі Нобэлеўскую прэмію для грамадзяніна Беларусі маўчаць.*

Навіна аб прысуджэньні Нобэлеўскай прэміі міру Алесю Бяляцкаму, расейскаму «Мэмарыялу» і ўкраінскаму «Цэнтру грамадзянскіх свабод» знайшла шырокі розгалас ва ўсіх найбуйнейшых СМІ краін Захаду.

Напрыклад, агенцтва AFP напісала ў сваім артыкуле, які разышоўся па многіх сусьветных СМІ: «Бяляцкі — вэтэран абароны правоў чалавека ў аўтарытарнай Беларусі. Ён атрымаў Нобэлеўскую прэмію пасьля гістарычных дэманстрацый і жорсткіх рэпрэсіяў у ягонай краіне».

Афіцыйныя беларускія СМІ пра тое, што грамадзянін Беларусі Алесь Бяляцкі стаў другім у гісторыі краіны нобэлеўскім ляўрэатам, не паведамляюць.

Праз дзьве гадзіны пасьля абвяшчэньня, што беларускаму праваабаронцу і палітвязьню Алесю Бяляцкаму прысуджана Нобэлеўская прэмія ў галіне міру, пра гэтую падзею не напісала ніводнае дзяржаўнае СМІ. У топе навіны — візыт Аляксандра Лукашэнкі ў Санкт-Пецярбург і цэны на грыбы.

## Другі беларускі Нобэль

7 кастрычнік 2022

Валер Карбалевіч

*Яшчэ 10 гадоў таму беларусы пра гэта і марыць не маглі. А сёньня яны маюць ужо другога нобэлеўскага ляўрэата за сем гадоў. Вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі атрымаў Нобэлеўскую прэмію міру. У пэўным сэнсе сьвет даведваецца пра Беларусь дзякуючы Нобэлю.*

Прадстаўнік Міністэрства замежных справаў Беларусі Анатоль Глаз ужо заявіў, што Нобэлеўская прэмія міру палітызаваная. Папрок дзіўнаваты. Бо з усіх Нобэлеўскіх прэміяў прэмія міру — адзіная, якая ў значнай ступені носіць палітычнае адценьне. Бо як можна змагацца за мір па-за палітычнай плашчынёй? Праблемы вайны і міру — галоўныя палітычныя пытаньні ў сьвеце. Таму прэмія міру проста ня можа быць непалітызаванай паводле самой прыроды.

Мяркую, што чыньнік вайны ва Ўкраіне якраз адыграў важную ролю ў выбары сёлетніх ляўрэатаў. Даваць прэмію міру, не зважаючы на першую пасьля 1945 году вялікую вайну ў Эўропе, якая скаланула ўвесь сьвет, не выпадала. Ляўрэаты павінны былі быць неяк зьвязаныя з гэтай падзеяй. Зь іншага боку, знайсьці кандыдатаў на прэмію міру падчас бязьлітаснай вайны — задача нялёгкая.

Нобэлеўскі камітэт ня стаў уганароўваць палітыкаў. Хоць сярод кандыдатаў былі Ўладзімір Зяленскі, Аляксей Навальны, Сьвятлана Ціханоўская. Выйсьце знайшлі, аддаўшы прэмію праваабаронцам трох краін, якія ўдзельнічаюць у вайне. Прычым калі з Расеі і Ўкраіны ўганаравалі праваабарончыя арганізацыі («Мэмарыял», «Цэнтар грамадзянскіх свабод»), то зь Беларусі прэмію прысудзілі пэрсоне — Алесю Бяляцкаму. Хоць маглі і тут выбраць Праваабарончы цэнтар «Вясна».

Думаю, на такое рашэньне паўплывала некалькі чыньнікаў. Найперш, варта нагадаць, што Алесь Бяляцкі вылучаўся на Нобэлеўскую прэмію міру пяць разоў. То бок у яго ў гэтым пляне быў вялікі бэкграўнд.

Другі момант. Важным чыньнікам стала тое, што цяпер Бяляцкі разам з сваімі паплечнікамі па «Вясьне» сядзіць за кратамі. Прычым другі раз у сваім жыцьці. І цяпер яму «сьвеціць» немалы тэрмін у калёніі. Ён прызнаны палітзьняволеным і вязьнем сумленьня.

Таксама варта адзначыць, што цяперашні Нобэль для Беларусі — гэта рэха катаклізму 2020 году. Тыя пратэсты нейкі час былі галоўнай сусьветнай падзеяй. Таму можна лічыць, што гэтую прэмію заваявалі тыя дзясяткі і сотні тысяч беларусаў, якія два гады таму некалькі месяцаў выходзілі на вуліцы.

Уганараваньне Бяляцкага, які сядзіць за кратамі, павінна прыцягнуць увагу сусьветнай

супольнасьці да таго, што ў Беларусі больш за тысячу палітвязьняў.

Што да рэакцыі ўладаў. Шмат меркаваньняў, што гэтым рашэньнем Нобэлеўскі камітэт паставіў беларускі палітычны рэжым у няёмкае становішча. Нібы непрыемна, што нобэлеўскі ляўрэат сядзіць за кратамі. Але і вызваляць ня вельмі выпадае, бо падумаюць, што Лукашэнка спужаўся маральнага ціску сусьветнай супольнасьці.

Можа і так. Але, магчыма, усё значна прасьцей. Лукашэнка займеў вельмі важнага палітзьняволенага. Для яго гэта дарагі тавар, за які можна патрабаваць ад Захаду вялікі выкуп.

## «Вайны б не было, калі б Расея і Беларусь былі дэмакратычнымі»

7 кастрычніка 2022

*Ва Ўкраіне адрэагавалі на Нобэля прадстаўнікам трох краін.*

Экспэрт Цэнтру грамадзянскіх свабод, праваабаронца Ўладзімір Яворскі, якога летась дэпартавалі зь Беларусі, павіншаваў калег з праваабарончых арганізацыяў «Вясна» і «Мэмарыял» з узнагароджаньнем Нобэлеўскай прэміяй міру: «Для мяне стала нечакана, што мой Цэнтар грамадзянскіх свабод стаў адным з трох ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі міру. Я таксама віншую Алеся Бяляцкага і расейскі цэнтар „Мэмарыял“ з узнагародай».

Украінскі праваабаронца падкрэсьліў, што не падтрымлівае меркаваньняў аб тым, што Нобэлеўскі камітэт такім чынам спрабуе аб'яднаць Беларусь, Расею і Ўкраіну ў адзін народ ці памірыць усіх.

«Тут мова зусім аб іншым. Мова аб тым, што калі б Расея і Беларусь былі дэмакратыямі з выкананьнем правоў чалавека, то вайны, хутчэй за ўсё, не было б», — мяркуе Ўладзімір Яворскі.

Уладзіміра Яворскага, грамадзяніна Ўкраіны, на пачатку красавіка 2021-га выслалі зь Беларусі. На зборы яму далі 48 гадзін. Ён выехаў разам з 9-гадовым сынам. Супраць ягонай жонкі, кіраўніцы праваабарончай арганізацыі «Зьвяно»

Тацяны Гацуры-Яворскай, грамадзянкі Беларусі, завялі крымінальную справу. Але пазьней яна выехала ва Ўкраіну.

Народны дэпутат Украіны Аляксей Ганчарэнка, які ачольвае ў парлямэнце дэпутацкую групу «За дэмакратычную Беларусь», напісаў у сваім тэлеграм-канале, што пазнаёміўся з нобэлеўскім ляўрэатам Алесем Бяляцкім яшчэ ў жніўні 2020 году.

«Цяпер Алесь за кратамі, дзе з прычыны надуманых абвінавачаньняў знаходзіцца больш за год. Злачынец Лукашэнка на свабодзе, ляўрэат Бяляцкі — у турме. Вядома, павінна быць наадварот. Таму рэжым Лукашэнкі трэба зносіць пад корань, палітвязьні — на свабоду, а ўсе датычныя да гэтага трэшу — на іх месцах, па камэрах», — перакананы Аляксей Ганчарэнка.

Кіраўніца Цэнтру грамадзянскіх свабод Аляксандра Матвійчук паведаміла, што з радасьцю даведалася аб узнагароджаньні сваёй арганізацыі Нобэлеўскай прэміяй «разам зь сябрамі і партнэрамі з „Мэмарыялу“ і „Вясны“».

Міхайла Падаляк, дарадца Офісу прэзыдэнта Ўкраіны, мяркуе, што «ў Нобэлеўскага камітэту адназначна цікавае разуменьне слова „мір“, прэмію разам атрымліваюць прадстаўнікі дзьвюх краін, якія напалі на трэцюю».

«Ні расейскія, ні беларускія арганізацыі так і не змаглі арганізаваць супраціў гэтай вайне. Нобэль сёлета проста „супэр“», — напісаў Міхайла Падаляк на сваёй старонцы ў Twitter.

# Кіраўніца Нобэлеўскага камітэту патлумачыла, як выбіралі ляўрэатаў прэміі міру

07 кастрычніка 2022

*Бі-Бі-Сі паразмаўляла з старшынёй Нобэлеўскага камітэту Бэрыт Рэйс-Андэрсэн пра тое, чым быў матываваны сёлетні выбар ляўрэата прэміі міру і ці будзе прысуджэньне сёлетняй прэміі мець рэальны ўплыў.*

Паводле Рэйс-Андэрсэн, камітэт выбраў гэтых пераможцаў, каб падкрэсьліць важнасьць грамадзянскай супольнасьці і яе ролю ў любой краіне, асабліва ў супрацьстаяньні аўтарытарнаму кіраваньню.

«Сфэра прэміі міру — гэта не вайна ва Ўкраіне, але, несумненна, вельмі сур'ёзная яе подбіўка», — адзначыла кіраўніца камітэту.

На яе думку, вяршэнства закону, правы чалавека і выбарчае права — за абарону якіх трапіў за краты Алесь Бяляцкі — могуць прадухіліць войны і пакласьці ім канец.

Паводле яе, «грамадзянская супольнасьць была раздушаная ў Расеі і Беларусі, а Ўкраіна не была да канца разьвітай дэмакратыяй і ад гэтага пацярпела».

Яна дадала, што ня верыць, што прысуджэньне прэміі дасьць імгненны эфэкт, бо «ў цяперашняй сытуацыі гэта абсалютна нерэальна». Але яна дадала, што гэтае рашэньне было прынятае «ў ме-

жах волі Альфрэда Нобэля, крытэраў братэрства паміж народамі».

На пытаньне, ці ня лепш было б даць гэтую прэмію Зяленскаму або Навальнаму — людзям з больш шырокім міжнародным прызнаньнем — кіраўніца камітэту адказала: «Сусьветнае прызнаньне — гэта ня тое, што мы бяром пад увагу. І мы ніколі не камэнтуем, хто не атрымаў прэміі. Мы лічым, што тыя, хто ўносіць свой уклад у справу міру — гэта ня людзі, якія вядуць вайну. Мы паказваем на тых, хто можа зьмяніць сытуацыю зараз».

«Войны можна вырашаць ня толькі ваенным шляхам. Народныя паўстаньні, супраціўленьне і пратэсты адыгрывалі важную ролю. І мы верым, што нашы пераможцы будуць гэта рабіць і надалей», — падкрэсьліла Бэрыт Рэйс-Андэрсэн.

# Сьвятлана Ціханоўская: «Я б яго абняла, канечне»

7 кастрычніка 2022

*Сьвятлана Ціханоўская ў інтэрвію Свабодзе заявіла, што лічыць справядлівым рашэньне Нобэлеўскага камітэту аб узнагароджаньні Алеся Бяляцкага прэміяй міру.*

«Я так узрушана гэтай падзеяй, што менавіта гэты чалавек, вядомы праваабаронца ня толькі ў Беларусі, ганаровы рэзыдэнт Парыжу і іншых гарадоў, у якога дзьве місіі ў жыцьці — абарона незалежнасьці Беларусі і абарона правоў чалавека ў Беларусі і ва ўсім сьвеце... Я вельмі ганаруся гэтым», — сказала Сьвятлана Ціханоўская.

Яна спадзяецца, што ўзнагароджаньне прыцягне большую ўвагу да праблемы палітвязьняў і катаваньняў у беларускіх турмах. На пытаньне, што яна хацела б сказаць Бяляцкаму, Ціханоўская адказала: «Я б яго абняла б, канечне. Я памятаю, калі мы зь ім апошні раз сустракаліся, ён казаў: „Сьвятлана, рабіце тое, што вы робіце, бараніце Беларусь на міжнароднай арэне, кажыце пра нас. Мы як праваабаронцы будзем рабіць сваю справу». Ён вельмі мяне натхніў у той момант. Я спадзяюся, што гэта дасьць яшчэ большы штуршок нашым палітычным сябрам, каб прыцягваць больш увагі да Беларусі, каб больш працавалі, ціснулі на рэжым, каб усе палітвязьні, у тым ліку і Алесь Бяляцкі, былі выпушчаныя на свабоду».

## Бяляцкі — трэці ў гісторыі ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру за кратамі

7 кастрычніка 2022

Валер Каліноўскі

*Барацьбіты за свабоду і правы чалавека нярэдка станавіліся ляўрэатамі Нобэлеўскай прэміі міру.*

Але такіх выпадкаў, каб прэмію ім прысуджалі ў той час, калі яны за кратамі, да 7 кастрычніка 2022 году было толькі два: Карл фон Асецкі (Нямеччына, 1935) і Лю Сяобо (Кітай, 2010). Трэцім 7 кастрычніка 2022 году стаў беларускі праваабаронца і палітвязень Алесь Бяляцкі.

Яшчэ тры ляўрэаты Нобэлеўскай прэміі міру ў момант агучваньня рашэньня былі пад хатнім арыштам або ў ссылцы: навуковец і праваабаронца Андрэй Сахараў (СССР, 1975), прафсаюзны лідэр Лех Валэнса (Польшча, 1983), змагарка за правы чалавека Аўнг Сан Су Чы (Бірма, 1991).

### Карл фон Асецкі, барацьбіт зь нямецкім фашызмам і мілітарызмам

У нацыстоўскім канцлягеры сустрэў навіну пра сваю Нобэлеўскую прэмію міру 1935 году Карл фон Асецкі, нямецкі журналіст, выдавец, пацыфіст і антыфашыст. Нобэлеўскі камітэт яго ўзнагародзіў з фармулёўкай «За барацьбу зь мілітарызмам у Нямеччыне».

Ён з пачатку 1920-х гадоў вёў кампанію супраць пераўзбраеньня Нямеччыны, падрыхтоўкі да вайны, публікаваў артыкулы, у якіх выкрываліся парушэньні Вэрсальскай дамовы, якая прадугледжвала дэмілітарызаваны статус Нямеччыны па выніках Першай сусьветнай вайны.

Пасьля першага свайго выраку ў 1931 годзе ён нейкі час быў на волі, меў пры сабе пашпарт і да разгляду апэляцыі мог зьехаць з краіны. Але застаўся, нягледзячы на просьбы сяброў. «Эфэктыўна змагацца з гнільлю можна толькі знутры, — сказаў ён. — Таму я ня зьеду».

Неўзабаве пасьля таго, як ён выйшаў па амністыі, да ўлады ў Нямеччыне прыйшлі нацысты. Адразу пасьля падпалу Рэйхстагу Асецкага зноў арыштавалі. Нобэлеўская прэмія міру стала адным з важных момантаў у барацьбе сьвету за яго вызваленьне. Угневаны нацысцкі ўрад заявіў, што ніводзін навуковец пасьля гэтага ня прыме аніякую Нобэлеўскую прэмію. Нямецкай прэсе забаранілі камэнтаваць гэтае ўзнагароджаньне.

Асецкі памёр ад сухотаў у 1938 годзе. Ад прэміі ён не адмовіўся, як таго патрабавалі нацысты. Прызнаньне ад нямецкага народу да яго прыйшло пасьля сьмерці, калі яго імем былі названыя ВНУ, вуліцы, калі яму паставілі помнікі.

## Лю Сяобо, кітайскі змагар за правы чалавека

У 2010 годзе, знаходзячыся ў турме, Нобэлеўскую прэмію міру атрымаў кітайскі праваабаронца і літаратар Лю Сяобо — за працяглую негвалтоўную барацьбу за асноўныя правы чалавека ў Кітаі. З 2003 году ён узначальваў кітайскі ПЭН-цэнтар. У 2008 годзе падпісаў Хартыю-08 з патрабаваньнем дэмакратычных рэформаў. 8 сьнежня 2008 году, за два дні да публікацыі Хартыі, Лю Сяобо арыштавалі. Яго пакаралі 11 гадамі зьняволеньня нібыта за падбухторваньне да падрыву дзяржаўнага ладу.

Улады Кітаю абурыліся, заявілі, што такое ўзнагароджаньне супярэчыць нобэлеўскім прынцыпам, паколькі Лю Сяобо знаходзіцца ў турме за парушэньне кітайскіх законаў, а Нобэлеўская прэмія створаная ў інтарэсах умацаваньня міру і дружбы паміж народамі. Кітайскія сродкі масавай інфармацыі нічога не паведамілі аб прысуджэньні Нобэлеўскай прэміі Лю Сяобо.

Пра Нобэлеўскую прэмію Лю Сяобо даведаўся ад сваёй жонкі, якую пусьцілі на спатканьне ў турму, ад навіны ён заплакаў і сказаў, што хацеў бы прысьвяціць гэтую прэмію ахвярам плошчы Т’яньаньмэнь.

У 2017 годзе ў турме ў Лю Сяобо выявілі рак пячонкі, ад якога ён памёр. Кітай праігнараваў міжнародныя заклікі дазволіць Лю Сяобо правесьці апошнія дні за мяжой.

## Алесь Бяляцкі, беларускі праваабаронца і палітвязень

7 кастрычніка 2022 году, калі ў Осла агучылі імёны новых ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі міру і калі першым прагучала ягонае імя, Алесь Бяляцкі ўжо год і тры месяцы знаходзіўся ў галоўнай менскай турме — СІЗА на вуліцы Валадарскага.

Сьледзтва нібыта вядзецца, але ніякіх дэталяў ні сябрам, ні калегам не перадаюць, адвакатам пад падпіскай забаронена нешта расказваць, лісты даходзяць толькі да сваякоў і моцна цэнзуруюцца.

Рэжым у Беларусі скочваецца да найгоршых дыктатарскіх практык, у тым ліку і ў адносінах да палітвязьняў. Але я ўсё ж веру, што лёс Алеся Бяляцкага будзе лепшым, чым у нямецкага і кітайскага ляўрэатаў.

Веру, таму што ведаю, які ён моцны чалавек, што яго трымае разуменьне правільнасьці сваёй праваабарончай справы, свайго служэньня Беларусі. Асэнсаванасьць справы жыцьця дапамагае яму арганізаваць і турэмны побыт, выжываньне ў няволі. Зь першага тэрміну Алеся добра вядома, што турэмны час ён выкарыстоўвае для літаратурнай творчасьці і асэнсаваньня праблем праваабарончага руху, у якім ён стаў ня толькі арганізатарам і практыкам, але і тэарэтыкам на міжнародным узроўні.

Так, зь першага зьняволеньня Бяляцкага рэжым у Беларусі стаў больш жорсткім, амаль таталітарным. Можа, яшчэ ня так, як у Нямеччыне

часоў Асецкага і ў Кітаі часоў Лю Сяобо. Хоць і ў Беларусі афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі маўчаць пра другую ў гісторыі Нобэлеўскую прэмію, прысуджаную грамадзяніну краіны.

Хіба што за выключэньнем абразаў у Тэлеграме з боку прапагандыста Рыгора Азаронка і абурэньня прэсавага сакратара МЗС Анатоля Глаза. Гэтая рыторыка, сапраўды, нагадвае заявы нямецкіх нацыстаў і кітайскіх камуністаў пра прэміі сваім зьняволеным дысыдэнтам.

Алесь Бяляцкі ў 2011 годзе адрэагаваў на пагрозу першага крымінальнага перасьледу і турэмнага зьняволеньня прыблізна як Асецкі ў 1930-х гадах. Ён тады сьвядома не пакінуў Беларусь, што яму раілі сябры, ён катэгарычна адмовіўся, бо бачыў сябе толькі на радзіме ў рэалізацыі сваёй справы жыцьця — адстойваньня правоў чалавека, дапамогі палітвязьням. І сам стаў палітвязьнем.

Але ўнікальнасьць ягонай справы жыцьця ў тым, што і гэта не разбурыла праваабарончы рух, які годна сустрэў рэпрэсіўную машыну Лукашэнкі ў 2020-м і працягвае эфэктыўную працу без сваіх лідэраў ва ўмовах фактычнага тэрору. Гэта паказвае моц грамадзтва Беларусі і дае спадзеў, што справа Алеся Бяляцкага і прэмія яму дапамогуць урэшце прывесьці Беларусь да лепшай будучыні.

# «Бяляцкі ніколі не адступаў ад патрабаваньня дэмакратычных свабодаў, якіх заслугоўвае беларускі народ»

08 кастрычніка 2022

*У сьвеце рэагуюць на Нобэлеўскую прэмію беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму.*

## Прэзыдэнт ЗША Джо Байдэн

Прэзыдэнт ЗША Джо Байдэн выступіў з заявай, у якой павіншаваў сёлетніх ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі міру — беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага, украінскі Цэнтар грамадзянскіх свабод і расейскую праваабарончую арганізацыю «Мэмарыял».

Сярод іншага ў заяве сказана: «Сёлетнія ляўрэаты Нобэлеўскай прэміі міру нагадваюць нам, што нават у змрочныя дні вайны, перад абліччам запалохваньня і прыгнёту, агульначалавечае імкненьне да правоў і годнасьці ня можа быць задушана.

На працягу многіх гадоў яны нястомна змагаюцца за правы чалавека і фундамэнтальныя свабоды, у тым ліку за права свабодна выказвацца і адкрыта крытыкаваць. Яны выконваюць сваю місію з запалам і настойлівасьцю. [...] Алесь Бяляцкі ніколі не адступаў ад патрабаваньня дэмакратычных свабод, якіх заслугоўвае беларускі народ, нават застаючыся ў зьняволеньні. [...]

Перш за ўсё, адважныя людзі, якія робяць гэтую працу, шукаюць праўду і дакумэнтуюць для ўсяго сьвету палітычныя рэпрэсіі супраць сваіх суграмадзян — выказваючыся, супраціўляючыся, не зьбіваючыся з курсу, тым часам як ім пагражалі тыя, хто дамагаўся іх маўчаньня. Тым самым яны зрабілі наш сьвет мацнейшым».

**Прэзыдэнт Францыі Эмануэль Макрон**

«Алесь Бяляцкі ў Беларусі, НДА „Мэмарыял“ у Расеі, Цэнтар грамадзянскіх свабод ва Ўкраіне: Нобэлеўская прэмія міру ўшаноўвае непахісных абаронцаў правоў чалавека ў Эўропе. Працаўнікі для міру, яны ведаюць, што могуць разьлічваць на падтрымку Францыі».

**Міністар замежных справаў Латвіі Эдгарс Рынкевічс**

«Мае шчырыя віншаваньні ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі міру: Алесю Бяляцкаму зь Беларусі, „Мэмарыялу“ з Расеі і Цэнтру грамадзянскіх свабод з Украіны. Лукашэнка пасадзіў праваабаронцу, Пуцін забараніў „Мэмарыял“, але сьвет прызнае сапраўдных герояў».

**Міністар замежных справаў Нямеччыны Анналена Бэрбак**

«Схіляюся перад мужнасьцю Алеся Бяляцкага, „Мэмарыялу“ і Цэнтру грамадзянскіх свабод. Гэтая Нобэлеўская прэмія ўшаноўвае ўсіх тых,

хто адважна змагаецца за свае правы і свабоды, нягледзячы на пагрозы ўласнаму жыцьцю. Яны змагаюцца зь несправядлівасьцю тых, хто нібыта мацнейшы».

## Прэзыдэнт Эўракамісіі Урзуля фон дэр Ляен

«Пляскаю ў ладкі неверагоднай мужнасьці жанчын і мужчын, якія выступаюць супраць аўтакратыі. Яны паказваюць сапраўдную моц грамадзянскай супольнасьці ў барацьбе за дэмакратыю. Расказваюць свае гісторыі. Дзеляцца сваім вопытам. Дапамагаюць зрабіць сьвет больш свабодным».

## Генэральны сакратар NATO Енс Столтэнбэрг

«Віншую пераможцаў. Права казаць праўду ўладзе зьяўляецца фундамэнтальным для свабодных і адкрытых грамадзтваў».

## Міжнародная фэдэрацыя правоў чалавека

«Гэтая прэмія — узнагарода супраціву. Супраціву таталітарызму, спробам прымусіць замаўчаць галасы тых, хто адважваецца выступіць і асудзіць парушэньні правоў чалавека», — Эліс Могвэ, прэзыдэнт FIDH.

## Вярхоўны прадстаўнік ЭЗ у зьнешняй палітыцы і палітыцы бясьпекі Жузэп Бурэль

Паводле яго слоў, ЭЗ «сардэчна віншуе ляўрэатаў з такім аўтарытэтным прызнаньнем іх нястомнай і бясцэннай працы».

Бурэль нагадаў, што Бяляцкі заснаваў Праваабарончы цэнтар «Вясна», які «апошнія 30 гадоў змагаецца за правы чалавека ў Беларусі, абараняе палітвязьняў». «Алесь Бяляцкі цяжка хворы, ён знаходзіцца ў зьняволеньні з 14 ліпеня 2021 году, яму пагражае 12 гадоў пазбаўленьня волі. Ён адзін з больш як 1300 палітвязьняў у Беларусі, пазбаўленых волі рэжымам Лукашэнкі», — адзначыў кіраўнік дыпляматыі ЭЗ.

## Сацыял-дэмакратычная фракцыя Бундэстагу

«Віншуем Алеся Бяляцкага, „Мэмарыял“ і Цэнтар грамадзянскіх свабод. Выдатны сыгнал у абарону правоў чалавека!»

## «Маладыя эўрапейскія фэдэралісты»

«Нобэлеўскую прэмію міру атрымаў зьняволены беларускі апазыцыйны лідэр Алесь Бяляцкі. Яго шматгадовая мірная барацьба за дэмакратычную Беларусь была прызнаная і будзе працягваць натхняць суайчыньнікаў супрацьстаяць тыраніі Лукашэнкі».

## Амэрыканскі ПЭН-клюб адзначыў мужнасьць Алеся Бяляцкага

Амэрыканскі ПЭН-клюб лічыць, што «Нобэлеўскі камітэт прызнаў мужнасьць беларускіх, украінскіх і расейскіх праваабаронцаў, якія працягваюць адстойваць правы чалавека і дэмакратыю перад рэпрэсіямі і спробамі прымусіць іх замаўчаць і падарваць да іх давер. Нобэлеўскі камітэт прызнаў і адзначыў важную ролю, якую грамадзянская супольнасьць павінна адыгрываць у забесьпячэньні свабоды і годнасьці, а таксама захаваньні асноўных свабод».

У заяве ПЭН-клюб кажа, што арганізацыя вітае прысуджэньне прэміі Алесю Бяляцкаму, арыштаванаму 14 ліпеня 2021 году, і адзначае: «Арышт Бяляцкага зьяўляецца часткай сыстэматычных дзеяньняў беларускага рэжыму па выкараненьні свабоды слова і іншадумства шляхам зьняволеньня ў турмы актывістаў, мастакоў, пісьменьнікаў і навукоўцаў».

«Жывучы пры ўрадзе, які вырашыў зламаць волю нават сваіх самых стойкіх крытыкаў, Бяляцкі няўхільна змагаўся за правы чалавека на працягу дзесяцігодзьдзяў, ахвяруючы сваёй свабодай, бясьпекай і дабрабытам», — лічаць амэрыканскія праваабаронцы.

«Прысудзіўшы прэмію міру-2022 Бяляцкаму, Нобэлеўскі камітэт прызнаў важную ролю, якую пісьменьнікі адыгрываюць у якасьці крыніцы праўды, натхняльнікаў ідэй і ў якасьці апоры супраць аўтарытарызму», — гаворыцца ў заяве.

# «Цэласнасьць асобы, служэньне Беларусі і беларушчыне — каштоўнасьці, неаддзельныя ад Свабоды»

8 кастрычніка 2020

*З Нобэлеўскай прэміяй Алеся Бяляцкага віншуюць тыя, хто быў зь ім побач у розныя гады ягонай дзейнасьці як палітыка і грамадзкага дзеяча.*

## «Ён верны прысязе»

*Вінцук Вячорка, палітык і мовазнаўца:* Алесь!!! Такая была мая першая рэакцыя на навіну. Бракавала словаў, бо перапаўнялі невымоўныя пачуцьці: ёсьць у сьвеце справядлівасьць! Калі сьвет бачыць і цэніць беларускую ахвярнасьць — то яна ня марная! Для Алеся зьявілася сьвятло ў канцы тунэлю!

Нобэль павітаў Алеся Бяляцкага як усясьветна вядомага праваабаронцу — тым самым стаўшы поруч з тымі, хто ў Беларусі бароніць правы чалавека ад нялюдзкае дыктатуры. Гэта знак і ягоным паплечнікам-вясноўцам. Але гэта і прызнаньне цэласнасьці ўзорнае для свайго пакаленьня Алесевай асобы, няўхільнае лініі яго жыцьця як служэньня Беларусі і беларушчыне — каштоўнасьцям, неаддзельным ад Свабоды.

У далёкім 1981 годзе мы з Алесем працавалі на раскопках у Мірскім замку, адначасова адкрываючы для сябе сапраўдную, але схаваную ад

людзей камуністычнымі ўладамі беларушчыну. Утраіх — Алесь Бяляцкі, Ігар Чарняўскі (ён кіраваў тымі раскопкамі) і я — мы напісалі прысягу-запавет нашчадкам аб змаганьні супраць савецкай імпэрыі, за вяртаньне беларусам гістарычнае памяці і мовы, за незалежнасьць Беларусі. Паклалі ў вечную бутэльку з тоўстага шкла, залілі парафінам — і закапалі ў самым глыбокім шурфе, на ўзроўні мацерыку.

Дзе б ні быў Алесь — на мітынговай трыбуне ці за пісьмовым сталом, на праваабарончым пікеце ці ў лукашэнкаўскай турме — ён верны прысязе. Яе месца, калі спатрэбіцца натхніцца і нашчадкам, ён ведае.

## «Разумны і прыхільны крок з боку Нобэлеўскага камітэту»

*Зянон Пазьняк, старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ:* Прэмія міру ў час акупацыі для беларуса, што ўвязьнены ў лукашысцкай турме ў гэты жахлівы пякельны час, калі нішчаць і зьневажаюць наш добры вялікі Беларускі народ, гэта ёсьць разумны і прыхільны крок з боку Нарвэскага Нобэлеўскага камітэту ў Осла.

Віншуем Алеся Бяляцкага з Нобэлеўскай прэміяй і прызнаньнем Беларусі. Верым у сьветлую будучыню Беларускай нацыі.

Акупацыя і зьдзек над народам шмат чаму навучылі ўжо беларусаў і тых, што ў турме, і тых, хто яшчэ не ў турме. Наш народ пройдзе праз пакуты

і злачынствы варвараў, праз здраду й шыпеньне няверных сяброў, праз акупацыю і варожы забор, і прышласьць Яго будзе прыўкраснай.

## «Зьяўлялася пачуцьцё ўпэўненасьці і аптымізму, калі ў судовай залі бачыў спакойную сяброўскую ўсьмешку Алеся»

*Пётра Садоўскі, першы амбасадар незалежнай Беларусі ў Нямеччыне:* Для мяне Алесь Бяляцкі — з той кагорты маладых людзей, якія яшчэ да зьяўленьня абрэвіятуры БНФ пачалі ня толькі «думаць Беларусь», як гэта праз гады глыбакадумна заявяць некаторыя нашы мысьляры і літаратары, што будуць ствараць «лятучыя ўнівэрсытэты», калі гэта будзе зусім бясьпечна (плягіят назвы ў гераічных палякаў), а шукаць Беларусь пад руінамі старых замкаў, у забароненых для шырокага доступу архівах, адраджаць беларускія народныя звычаі, мову, выдаваць першыя падпольныя ўлёткі і люстрадзёны, рызыкаваць, папулярызаваць забытую літаратурную спадчыну, каб зерне, кінутае ў глебу сярод пяскоў прыспанай Бацькаўшчыны, закрасавала і пакінула пасьля сябе плён.

Плён — частае слова, трохі публіцыстычна зацёртае. Яно само значыць — корань. Менавіта актывісты першых няўрадавых арганізацыяў былі тымі каранямі, зь якіх вырас нацыянальны грамадзянскі рух на беларускіх абшарах канца 80-х і пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Будучы паводле ўзросту бацькам тых маладых

хлопцаў і дзяўчат, я сам шмат чаму вучыўся ў іх, ужо будучы дацэнтам ВНУ.

Сярод тых пачынальнікаў быў і Алесь Бяляцкі, стрыманы, нягучны, здатны на абложную працу. Моладзевыя талокі на публічных акцыях аховы культурных помнікаў, карпатлівая эгіпецкая праца, ціхая і ахвярная, незаўважная дзейнасьць, дратаваная чарнасоценнымі незычліўцамі, здаўна прысутнымі на Беларусі афіцыйнымі агентамі рускага сьвету, патрабавалі вытрымкі і нэрваў. Бясконцыя арышты і турэмныя зьняволеньні каштавалі здароўя і блізкім. Сваё 50-годзьдзе і 60-годзьдзе Алесь сустракае за кратамі.

…У час вулічных пратэстаў у канцы 2019 г. супраць паглыбленай інтэграцыі з Расеяй, якія суправаджаліся масавымі арыштамі і судамі, а таксама ў жніўні 2020 г. і на працягу 2021 г. да свайго арышту Алесь Бяляцкі не займаўся кансьпіралёгіяй і публічнымі разборкамі, а наколькі была мага, арганізаваў актывістаў «Вясны» на дапамогу пацярпелым ды апэратыўнаму інфармаваньню беларускай грамадзкасьці і замежжа пра тое, што адбываецца ў краіне. З свайго досьведу ведаю, наколькі важная была юрыдычная падтрымка «Вясны». Я перажыў у 2019–2020 гг. два суды (5 судовых пасяджэньняў). Зьяўлялася пачуцьцё ўпэўненасьці і аптымізму, калі ў судовай залі бачыў спакойную сяброўскую ўсьмешку Алеся.

…Я ўпэўнены, што Алесь Бяляцкі, атрымаўшы прэмію ў статусе вязьня, хутка абдымецца са сваімі сябрамі на свабодзе.

## «Першы Нобэль беларускамоўнаму беларусу»

*Сяргей Навумчык, журналіст, дэпутат Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня:* Чаму радуе Нобэль менавіта Бяляцкаму? Напішу пункцірна. Бяляцкі заўсёды быў за Незалежнасьць — яшчэ з 80-х, калі пра яе марылі толькі некалькі дзясяткаў чалавек.

Алесь быў заснавальнікам «Тутэйшых», членам Аргкамітэту БНФ, заяўнікам легендарных «Дзядоў» 30 кастрычніка 1988. Уваходзіў у Сойм БНФ, быў дэпутатам Менгарсавету. Падпісаў заяву дэпутатаў супраць ГКЧП у жніўні 1991 і тады ж умацаваў бел-чырвона-белы сьцяг на будынку Менгарвыканкаму. Быў дырэктарам літаратурнага музэю Багдановіча. У 1994 уваходзіў у каманду кандыдата БНФ на прэзыдэнцкіх выбарах Зянона Пазьняка. Выступіў супраць так званага рэфэрэндуму ў 1995-м. Удзельнічаў у антырасейскіх масавых акцыях у 1996. Ніводнага недакладнага ці сумнеўнага палітычнага кроку.

Ну, а з 1996 — ужо пачалася праваабарончая дзейнасьць у «Вясьне», змаганьне і турмы.

Акрамя ўсяго іншага, гэты Нобэль Бяляцкаму — вельмі справядлівы ў вачах тых, хто ў дэмакратычным нацыянальным руху дзесяцігодзьдзямі.

Яшчэ і таму радасна, што, як хтосьці сказаў ужо, гэта першы Нобэль беларускамоўнаму беларусу (які і сына выхоўваў па-беларуску). А таму — Жыве Беларусь!

## Кіраўніца Цэнтру грамадзянскіх свабод пра надзеі пасьля Нобэлеўскай прэміі: Трыбунал для Пуціна і Лукашэнкі, вызваленьне палонных

10 кастрычніка 2022

*Ва ўкраінскай арганізацыі «Цэнтар грамадзянскіх свабод», якая атрымала Нобэлеўскую прэмію міру, яшчэ ня вырашылі, на што яе патрацяць.*

Кіраўніца арганізацыі Аляксандра Матвійчук на пытаньні журналістаў Радыё Свабода адказала, што яшчэ не было часу абмеркаваць гэта з калегамі.

«Ва Ўкраіне шмат праблем, якія трэба вырашаць грашыма. Мы параімся з камандай, з нашым кіраўніцтвам, і знойдзем найлепшы варыянт выкарыстаньня гэтых грошай для дапамогі людзям», — адказала яна на прэс-канфэрэнцыі.

У той жа час Матвійчук расказала пра свае чаканьні ад атрыманьня прэміі.

«Мы вельмі спадзяёмся выкарыстоўваць усе магчымасьці, якія дае гэтая пляцоўка, для некалькіх рэчаў: вызваліць усіх палонных вайскоўцаў і цывільных, стварыць міжнародны трыбунал і прыцягнуць Пуціна, Лукашэнку і іншых ваенных злачынцаў да адказнасьці», — сказала яна.

## У ААН патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць нобэлеўскага ляўрэата Алеся Бяляцкага і ягоных калег

11 кастрычніка 2022

*У паведамленьні, апублікаваным на сайце Офісу правоў чалавека ААН, незалежныя экспэрты на чале з Анаіс Марэн, спэцдакладчыцай ААН аб сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, нагадалі беларускім уладам пра іх абавязкі ў выкананьні правоў чалавека і заклікалі да неадкладнага і безумоўнага вызваленьня ўсіх праваабаронцаў, затрыманых з палітычных матываў.*

«Мы ўстрывожаныя адвольным затрыманьнем Алеся Бяляцкага і новымі абвінавачаньнямі, якія цягнуць за сабой пакараньне да 12 гадоў пазбаўленьня волі, выстаўленымі супраць яго за законную праваабарончую дзейнасьць», — заявілі ў ААН.

## Швэдзкія дыпляматы сустрэліся з жонкай нобэлеўскага ляўрэата Алеся Бяляцкага, які застаецца за кратамі

11 кастрычніка 2022

Часовая павераная ў справах Швэцыі Эва Сундквіст і супрацоўнікі пасольства ў Менску 10 кастрычніка сустрэліся з Натальляй Пінчук, жонкай ляўрэата Нобэлеўскай прэміі міру Алеся Бяляцкага, «каб выказаць пашану яго дзейнасьці ў абарону дэмакратыі і мірнага разьвіцьця ў Беларусі».

«Падчас сустрэчы Натальля таксама атрымала падарунак і віншаваньне ад пасольства Нарвэгіі ў Вільні», — паведаміла швэдзкае дыпляматычнае прадстаўніцтва.

«Гэта яго, ягоных паплечнікаў узнагарода за цяжкую працу, за небясьпечную працу. І я вельмі ўдзячная тым, хто ўнёс свой уклад у гэтую ўзнагароду», — такім чынам Пінчук раней пракамэнтавала прысуджэньне свайму мужу Нобэлеўскай прэміі міру.

# «Маральны аўтарытэт, чые каштоўнасьці бясспрэчныя». Паплечнікі і вучні пра Алеся Бяляцкага

Кастрычнік 2022

*Свабода пагаварыла з калегамі Алеся Бяляцкага, якіх ён далучыў да праваабарончай дзейнасьці.*

**«Алесь быў ідэйным натхняльнікам»**

Праваабаронца Дар'я Рублеўская кажа, што спачатку пазнаёмілася з кнігамі Алеся Бяляцкага. І пасьля прачытаньня гэтых кніг, як прызнаецца дзяўчына, ёй маляваўся партрэт чалавека вельмі змрочнага, абцяжаранага досьведам працяглай барацьбы, пастаяннага змаганьня.

«А калі я першы раз прыйшла ў „Вясну", Алесь Віктаравіч выйшаў з кубкам, на якім была намаляваная лялька „Барбі", і вельмі цёпла размаўляў са мной. Мы доўга гаварылі пра каштоўнасьці. Ён запытаўся, адкуль я, чаму размаўляю па-беларуску і калі адважылася на гэта, шмат распытваў пра сям'ю. І дагэтуль у сваіх лістах заўсёды пытаецца пра гэта.

Для мяне ён ніколі ня быў босам у такім клясычным разуменьні, як у сур'ёзных камэрцыйных ці вэртыкальна пабудаваных структурах. Для мяне ён быў чалавекам, да якога прыходзіш па пэўную параду. Сам ён ніколі не дае парады, калі ты ня просіш. Але яго погляды на некаторыя

рэчы былі вельмі каштоўныя, і гэтага зараз вельмі не хапае», — кажа Дар'я Рублеўская.

Яна працуе ў «Беларускай праваабарончай школе», дзе моладзь навучаюць правам чалавека. Ад пачатку заснаваньня гэтай ініцыятывы Алесь выкладаў на розных курсах, ён расказваў пра гісторыю дысыдэнцкага руху, пра структуру беларускіх праваабарончых арганізацыяў.

«Але, натуральна, ён ня толькі сваімі лекцыямі ўплываў на людзей, гэта было заўважна — людзі глядзелі на яго як на маральны аўтарытэт, чые ўнутраныя каштоўнасьці проста бясспрэчныя. Людзі станавіліся ў чэргі, каб падпісаць кніжкі, каб даведацца, як ён перажываў ранейшы турэмны досьвед, якія ў яго творчыя пляны.

Для мяне ён застаецца, нягледзячы на розьніцу ва ўзросьце, досьвед, перажытае, — вельмі энэргічным, бадзёрым, і галоўнае — крэатыўным і творчым чалавекам».

Дар'я яшчэ ўзгадала, як у 2020 годзе, калі пачаліся масавыя пасадкі людзей яшчэ па адміністрацыйных справах, маладыя праваабаронцы заснавалі ініцыятыву «Майстэрня паштовак салідарнасьці» і пісалі лісты і палітвязьням, і тым, хто трапіў у ЦІП на суткі.

«Алесь быў ідэйным натхняльнікам, ён заўсёды гаварыў пра важнасьць такой падтрымкі, пра важнасьць салідарнасьці найперш праз лісты і паштоўкі. Таму, што б ні здарылася, падобнай дзейнасьці нельга пакідаць. Алеся Віктаравіча вельмі не хапае ў камандзе», — кажа праваабаронца Дар'я Рублеўская.

## «Калі нешта здараецца, ён вельмі спакойна і цьвяроза ацэньвае, што трэба рабіць»

Алесь Буракоў, праваабаронца «Вясны», пазнаёміўся з Алесем Бяляцкім, калі той толькі выйшаў з Бабруйскай турмы і прэзэнтаваў у Магілёве сваю кнігу «Іртутнае срэбра жыцьця». У 2015 годзе трапіў на сустрэчы з праваабаронцамі «Вясны».

«Алесь Віктаравіч падаўся вельмі грунтоўным. Такія людзі ўражваюць. Вельмі падкупляла прастата ў камунікацыі. Ён чалавек, якога вылучалі на Нобэлеўскую прэмію міру, ён сымбаль праваабарончага руху, такая велічная постаць, але так проста размаўляў, лёгка дзяліўся простымі, побытавымі рэчамі з калегамі, як ён можа паехаць да сябе ў вясковую хату, штосьці там рабіць. І пра гэта ён расказваў вельмі цікава!

Таксама мяне вельмі ўражвае, як ён ставіцца да цяжкасьцяў, што тычацца прафэсійнай дзейнасьці. У Бяляцкага ёсьць магія навучаць людзей, якія побач зь ім, не рэагаваць эмацыйна на праблемы. То бок, калі нешта здараецца, ён вельмі спакойна і цьвяроза ацэньвае, што трэба рабіць.

Для мяне гэта быў вельмі карысны ўрок: любую праблему самага вышэйшага ўзроўню можна вырашыць зь мінімальнымі нэрвовымі затратамі», — кажа Алесь Буракоў.

## «Калі я асабліва востра адчуваю безнадзейнасьць, адчай, ня бачу сьвятла, — заўсёды згадваю Алеся»

Для праваабаронцы Дзіяны Пінчук Алесь Бяляцкі — яскравы прыклад адданасьці сваёй ідэі і прынцыпам.

«Менавіта ад Алеся Віктаравіча я зразумела, што такое каштоўнасьць Чалавека зь вялікай літары — тое, што стаіць у аснове канцэпцыі правоў чалавека. Таму цяпер, калі я асабліва востра адчуваю безнадзейнасьць, адчай, ня бачу сьвятла, заўсёды згадваю Алеся.

Гэты чалавек, нягледзячы на тое, што перашкодаў было больш, чым нейкіх спрыяльных умоваў, яшчэ ў 1996 годзе здолеў стварыць і захаваць вялікую праваабарончую арганізацыю „Вясна“, якая заўсёды была і застаецца не даспадобы беларускім уладам. Менавіта за дзейнасьць „Вясны“ ўтрымліваюць за кратамі Алеся і іншых праваабаронцаў», — перакананая Дзіяна.

Сам Алесь Бяляцкі заўсёды кажа, што калі б не каманда, не ідэйныя людзі побач, у яго б не атрымалася стварыць такую арганізацыю. І ён заўсёды асабіста апекаваўся кожным супрацоўнікам «Вясны», валянтэрам.

«Памятаю, што ў 2020–21 гадах, калі ў нас было надзвычай шмат працы, ён заўсёды знаходзіў час патэлефанаваць, запытацца, як у мяне справы, як я пачуваюся. Калі мне давялося пакінуць Беларусь і пераехаць ва Ўкраіну, ён таксама заўсёды зьвязваўся.

Таму для мяне цяпер вельмі важна, каб ён ведаў, што праваабарончая дзейнасьць працягваецца — у выглядзе працы „Вясны“, фіксацый парушэньня правоў беларусаў, падтрымкі палітвязьняў, прасоўваньня правоў чалавека нават у такіх проста немажлівых умовах і абставінах. Каб ён ведаў, што ідэя, за якую схавалі за краты праваабаронцаў, жыве і сёньня», — кажа Дзіяна Пінчук.

## «Алесь працуе над новай кнігай успамінаў пра літаратурны музэй Багдановіча»

Праваабаронца Сяргей Сыс сябруе з Алесем Бяляцкім яшчэ з студэнцкіх часоў — агулам больш за 40 год. І, ведаючы цьвёрды характар калегі і сябра, пэдантычнасьць і настойлівасьць у дасягненьні мэтаў, перакананы, што і ў зьняволеньні ў чаканьні суду Бяляцкі не марнуе свой час.

«Лісты ад Алеся — вялікая рэдкасьць, перапіска амаль цалкам блякуецца турэмнымі цэнзарамі. Тым ня менш я ведаю, што Алесь працуе над новай кнігай успамінаў пра літаратурны музэй імя Максіма Багдановіча, дзе ён працаваў дырэктарам. Эсэ піша. Толькі вось невядома, ці зьберажэцца гэта ўсё.

Раней Бяляцкі свае кнігі, напісаныя ў турме, часткамі ў лістах перадаваў на волю. І мы часам калектыўна расшыфроўвалі вельмі цяжкі почырк Алеся».

Сяргей Сыс расказвае, што Алесь за кратамі шмат чытае, хоць выбар кніг у бібліятэцы СІЗА на «Валадарцы» ня вельмі багаты, і спадзяецца, што і ў тых кнігах сябра знаходзіць нешта для душы і розуму. Алесь акуратна ставіцца да свайго здароўя, з даступных прадуктаў вырабляе цікавыя стравы, дбае пра тое, каб хоць нейкія вітаміны былі.

«Прыкра, вядома, што столькі часу ён, як і іншыя нашыя сябры, за кратамі. Няволя — надзвычай цяжкае выпрабаваньне. Але перакананы, што Алесь з годнасьцю яго пройдзе», — перакананы Сяргей Сыс.

## Кароткая гісторыя адной прамовы

13 кастрычніка 2022

Сяргей Абламейка

*Пісаць успаміны пра Алеся Бяляцкага рана, дый не да месца. Чалавек у росквіце гадоў, на піку міжнароднага прызнаньня і зь яснай пэрспэктывай плённай і актыўнай дзейнасьці ў вольнай Беларусі, дарма што пакуль у турме.*

А вось паспрабаваць вызначыць галоўныя рысы асобы нобэлеўскага ляўрэата ў дні ягонага найвышэйшага прызнаньня, згадаўшы пару фактаў нашага зь ім знаёмства і супольнай дзейнасьці, можна.

### Вырашальны 1987

Для мяне Алесь Бяляцкі заўсёды быў актыўным, энэргічным і крэатыўным беларускім пасіянарыем. Добра, што ягоныя бацькі вярнуліся ў Беларусь з Карэліі, дзе Алесь нарадзіўся. Інакш бы мы ня мелі такога актывіста і шматлікіх ягоных ініцыятыў і дасягненьняў.

Разам з Алесем мне давялося браць удзел у многіх імпрэзах і акцыях, арганізаваных моладзевымі структурамі ў 1980-я гады. Гэта Першы вальны сойм беларускіх суполак, мітынг у абарону Верхняга гораду, мітынгі і шэсьці на Дзяды, так званыя ральлі ў абарону Дзьвіны і Прыпяці, сход Мартыралёгу Беларусі, першы зьезд БНФ і

іншыя. Былі і падпольныя нарады, распаўсюджваньне самвыдату, капіяваньне і пераплёт забароненых кніжак, друкаваньне абвестак і ўлётак.

Але чамусьці помніцца першы антысавецкі мітынг у гісторыі савецкай Беларусі — мітынг на Дзяды 1987 году ў Менску.

1987 год у БССР быў асаблівы. Менская «Талака» і аналягічныя моладзевыя беларусацэнтрычныя клюбы ў іншых гарадах нарошчвалі сваю актыўнасьць і стваралі на савецкі агітпроп ідэалягічны ціск, на які КПБ і ЛКСМБ ня мелі адэкватнага адказу і мусілі патроху саступаць «нефармалам».

Кульмінацыяй таго году стаў першы Вальны сойм беларускіх суполак, праведзены 26–27 сьнежня ў Палачанцы пад Ракавам на базе аднаго зь піянэрскіх лягераў. У сойме бралі ўдзел 560 чалавек, якія прадстаўлялі 30 беларускіх моладзевых нефармальных структураў. На сойме была створаная Канфэдэрацыя беларускіх суполак, якая ў наступным годзе стане асновай для стварэньня БНФ, і, фактычна, быў вызначаны курс на нацыянальнае адраджэньне ў рэспубліцы — менавіта такім быў зьмест прынятых на сойме пастановаў.

Прычым прынятыя гэтыя пастановы былі насуперак актыўнай барацьбе супраць іх сакратароў ЦК ЛКСМБ, якія разам з талакоўцамі былі куратарамі сэкцыяў сойму (напрыклад, за працай гістарычнай сэкцыі сойму, якой кіраваў аўтар гэтых радкоў, даглядаў сакратар ЦК ЛКСМБ Міхаіл Падгайны).

## Дзяды 1987

Але ў першага Вальнага сойму беларускіх суполак быў папярэднік, які, у маім разуменьні, стаў своеасаблівым Рубіконам. Перайшоўшы празь яго, моладзевы беларускі рух павёў рэспубліку і народ да незалежнасьці, нават насуперак таму, што гэтага тады маглі ня бачыць і не разумець як яго ўдзельнікі і кіраўніцтва БССР, так і сам беларускі народ. Гэта першая публічная антысавецкая акцыя ў савецкай Беларусі — мітынг на Дзяды 1987 году ў Менску, каля помніка Янку Купалу ў парку ягонага імя.

Парк Янкі Купалы быў ачэплены ўперамешку чорнымі «Волгамі» КДБ і жоўта-сінімі міліцэйскімі «казламі», якія стаялі суцэльным ланцугом з боку вуліцы Купалы і праспэкту Леніна. Было вельмі страшна і нават вусьцішна, ніхто з нас ня ведаў, вернецца ён у той дзень дадому ці трапіць у турму КДБ — «Амэрыканку». Гэта быў СССР, яшчэ ў турмах сядзелі дысыдэнты, а на мітынгу размова ішла не пра беларускую мову і культуру (што таксама яшчэ ня надта ўхвалялася, хоць і было ўжо прадметам публікацый у друку, асабліва ў «ЛіМе»), а пра рэабілітацыю ахвяраў камуністычнай сыстэмы.

На мітынгу ўпершыню ў БССР былі публічна названыя імёны ахвяраў рэпрэсіяў НКВД 1920–30-х гадоў зь ліку беларускай эліты, гучалі патрабаваньні рэабілітацыі нявінна забітых, пакараньня вінаватых і асуджэньня злачыннай дзейнасьці НКВД. Гэта была палітыка чыстай

вады. І менавіта гэта выклікала жах у тых, хто за мітынгам назіраў паводле пасады ці па доўгу службы. Памятаю, як да мяне, тады студэнта гістарычнага факультэту БДУ, і майго 17-гадовага брата Андруся падышоў з поўнымі жаху вачыма намесьнік дэкана і сакратар партыйнай арганізацыі факультэту Мечыслаў Часноўскі і з адчайнай надзеяй у голасе пачаў пытацца:

— Сяргей, ты ж ня сам сюды прыйшоў? Ня сам? Цябе запрасілі, так? Ты ж ня сам?..

Клопат Мечыслава Эдвардавіча быў зразумелы — удзел студэнта ягонага факультэту ў антысавецкім мітынгу пагражаў ня толькі стратай пасады, але і разбурэньнем усёй кар’еры.

Але нас не арыштавалі, і рэпрэсіяў пасьля мітынгу не было. Былі дробныя разборкі па месцы працы ці вучобы з боку партыйных і камсамольскіх структур. Назаўтра пра нашу акцыю напісалі многія эўрапейскія газэты.

На тым мітынгу 1987 году з асноўнай прамовай выступіў Анатоль Сыс. У яго гарэлі вочы, палалі шчокі і трэсьліся рукі — ад холаду і хваляваньня. Ён, як і ўсе мы, ня ведаў, чым гэтая акцыя скончыцца, але тым ня менш узяў рызыку і гонар прамоўцы на сябе.

Але Анатоль ня быў яе аўтарам. Яго прамову напісалі Алесь Бяляцкі, Сьвятлана Лобач (цяпер Жынкіна) і я.

## Як мы прамову пісалі

За тыдзень да мітынгу ў памяшканьні менскага гаркама камсамолу на плошчы Леніна ў Менску каля Чырвонага касьцёла (цяпер праспэкт Незалежнасьці, 17) адбывалася чарговае паседжаньне «Талакі». Правадзейныя сябры сядзелі за вялікім доўгім сталом з двух бакоў. Зьлева ад мяне сядзела Сьвятлана Лобач, за ёй Алесь Бяляцкі, які на той час ужо другі год кіраваў таварыствам маладых літаратараў «Тутэйшыя».

Ня памятаю, пра што была гаворка і хто браў удзел у абмеркаваньні на паседжаньні «Талакі». У нашай тройкі быў зусім іншы клопат. Ішла падрыхтоўка да першых Дзядоў у Менску, і нам трэба было напісаць тэкст галоўнага выступу, бо менавіта «Тутэйшыя», старшынём якіх быў Алесь Бяляцкі, падалі заяўку на правядзеньне мітынгу і атрымалі на яго дазвол.

Бяляцкі накідаў праект прамовы, пакінуўшы шматкроп'і на месцы ахвяраў рэпрэсіяў і іх арганізатараў, Сьвятлана дадала некалькі сваіх думак, і нарэшце праект прамовы трапіў да мяне.

Фінальным пунктам гэтага «творчага» працэсу я стаў невыпадкова. У «Талацэ» як студэнт гістарычнага факультэту БДУ, які вучыўся на два курсы старэй за Сержука Вітушку, я лічыўся некім накшталт эксьпэрта ў гісторыі Беларусі. У той час, з другой паловы кастрычніка 1987 году, ужо ішлі цяжкія перамовы аргкамітэту першага Вальнага сойму беларускіх суполак зь Бюро ЦК ЛКСМБ у справе яго правядзеньня і зьместу

пастановаў. У аргкамітэце я адказваў за гісторыю, пісаў праект пастановаў гістарычнай сэкцыі і кіраваў пасьля яе працай на сойме.

Усё гэта стала нечаканым вынікам маёй імклівай студэнцкай «кар'еры». Пасьля ацэнкі курсавых прац за першы і другі курсы па гісторыі СССР мяне запрасілі на паседжаньне катэдры гісторыі Беларусі і паведамілі, што вырашылі запрасіць мяне застацца пасьля ўнівэрсытэту на катэдры. Мне далі тэму, якую я меўся пісаць спачатку як курсавыя і дыплёмную працы, а праз год пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту абараніць як кандыдацкую дысэртацыю. Тэма гучала наступным чынам: «Культурная рэвалюцыя ў БССР. 1928–1932 гг.».

Я пачаў працаваць, пайшоў у Ленінскую бібліятэку, чытаў друк 1920–30-х гадоў, які, як ні дзіўна, быў у вольным доступе, адкрыў для сябе «тарашкевіцу» зь яе «блёк-нотамі» і «пляц-формамі», судовыя працэсы над «нацдэмамі» і... прапаў. Справа скончылася «Талакой», разьвітаньнем з катэдрай гісторыі Беларусі і напісаньнем дакумэнту пад назвай «Праект выкладу патрабаваньняў студэнцтва ў галіне гісторыі», дзе ўпершыню ў Беларусі ўтрымлівалася думка, што беларусы павінны глядзець на гісторыю сваімі вачыма і адпаведна пісаць падручнікі. Пазьней гэты «праект» быў апублікаваны ў самвыдавецкай «Студэнцкай думцы».

А ў той дзень у менскім гаркаме камсамолу на паседжаньні «Талакі», падумаўшы некалькі хвілін, наколькі далёка нам варта заходзіць у

прамове на мітынгу, я вырашыў секануць з-за пляча. Калі мы ўспамінаем рэпрэсаваных пісьменьнікаў і навукоўцаў, то чаму ня ўспомніць айцоў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія таксама былі і пісьменьнікамі, і журналістамі, і навукоўцамі? Прыняўшы гэтае рашэньне, я ўпісаў у прамову імёны рэпрэсаваных дзеячоў БНР, уключна з Ластоўскім, Лёсікам, Некрашэвічам, Цьвікевічам і многімі іншымі, пасьля пералічыў рэпрэсаваных пісьменьнікаў і паэтаў, а таксама вядомых на той час дзеячоў НКВД БССР. Натуральна, былі там і словы пра патрэбу рэабілітацыі нявінных ахвяр палітычных рэпрэсіяў, выданьне іх твораў і патрэбу пакараньня вінаватых, калі яны яшчэ жывуць.

Атрымаўшы ад мяне тэкст, Бяляцкі ўважліва яго прачытаў, зьдзіўлена пахітаў галавой, і мы па-змоўніцку абмяняліся ўсьмешкамі. За наступныя паўгадзіны мы напісалі і праект рэзалюцыі мітынгу. Справа была зроблена.

Празь некалькі дзён, 1 лістапада 1987 году, Анатоль Сыс зачытаў поўную вэрсію нашай прамовы бязь зьменаў з патрабаваньнем рэабілітацыі дзеячоў БНР і беларускіх літаратараў. У многіх прысутных быў шок, людзі рэальна былі ўражаныя такой нечуванай па тых часах сьмеласьцю прамовы. Ніхто, паўтаруся, ня ведаў, чым скончыцца яго ўдзел у гэтым мітынгу.

Пасьля Сыса сьпяваў Сяржук Сокалаў-Воюш і выступалі іншыя прамоўцы, у тым ліку першы сакратар Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Васіль

Зуёнак, які меўся там быць паводле пасады, паколькі акцыю арганізавалі «маладыя літаратары».

Геройства Анатоля Сыса ў гэтай справе бясспрэчнае. Ён разам з Алесем Бяляцкім падаваў заяўку на той мітынг ад імя «Тутэйшых» і ўзяў на сябе цяжар магчымага ўдару за дзёрзкасьць публічнай прамовы.

## Рубікон

Але аўтарам ідэі, арганізатарам і галоўным матарам Дзядоў-1987 быў сябар «Талакі» і старшыня Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» Алесь Бяляцкі.

Цяпер, як гісторык і ўдзельнік тых падзеяў, я бачу велізарнае, ключавое значэньне гэтага мітынгу. Дазвол на правядзеньне Дзядоў 1 лістапада і першага Вальнага сойму беларускіх суполак 26–26 сьнежня 1987 году — быў вялікай, фатальнай памылкай камуністычных уладаў БССР. Пасьля сойму яны спахапіліся і пачалі кампанію цкаваньня «нефармалаў» у друку. Але было ўжо позна.

Створаная на Сойме агульнанацыянальная Канфэдэрацыя беларускіх суполак пачала актыўную дзейнасьць. Аргкамітэт на пачатку 1988 году пайшоў у падпольле, прызначыў адказных за рэгіёны, якія разьвезьлі па абласных цэнтрах размножаны поўны камплект пастановаў сойму і яго сэкцый. Куратараў абласьцей паводле аналёгіі з апошняй паўстанцкай функцыяй Кастуся Каліноўскага рамантычна назвалі «дыктатарамі»

(мне, напрыклад, даверылі Горадзенскую вобласьць).

«Дыктатары» прыяжджалі ў абласныя гарады, мясцовыя суполкі «нефармалаў» зьбіралі актыў і вэтэранаў беларускага руху на паседжаньні, на якіх прадстаўнікі аргкамітэту вальнага сойму расказвалі пра яго ход і раздавалі памножаныя тэксты пастановаў. Людзі на месцах прачыталі даўно чаканыя словы пра дыскрымінацыю нацыянальнай культуры і мовы, пачулі праўдзівыя словы пра сваю гісторыю і атрымалі ясныя і зразумелыя задачы і мэты для сваёй грамадзкай дзейнасьці.

Сустрэчы тыя праходзілі часта вельмі натхнёна і кранальна. Ніколі не забуду сьлёзы старэйшых людзей, якія слухалі мяне на паседжаньні горадзенскай «Паходні», седзячы на задніх шэрагах актавай залі музэю Максіма Багдановіча. Гэта былі вэтэраны заходнебеларускага нацыянальнага руху.

У выніку пачалося «брожение умов». У чэрвені 1988 году ў «ЛіМе» быў апублікаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці», адбыўся мітынг у Курапатах, а 19 кастрычніка на ўстаноўчым сходзе «Мартыралёгу Беларусі» быў утвораны аргкамітэт БНФ. Назаўтра па ўсёй краіне члены Канфэдэрацыі беларускіх суполак арганізавалі групы падтрымкі БНФ. Фактычна Канфэдэрацыя стала асновай БНФ. Распачаты моладзевымі «Майстроўняй», «Талакой» і «Тутэйшымі» рух краіны да нацыянальнага абуджэньня быў пад-

хоплены старэйшымі беларускімі патрыётамі — тымі, чые творы або праца часта і заахвочвалі моладзь да дзеяньня.

30 кастрычніка 1988 году прайшлі другія Дзяды, якія таксама былі арганізаваныя «Тутэйшымі» пад кіраўніцтвам Бяляцкага і на якіх упершыню быў публічна ўзьняты нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. У 1989 годзе ў Менску не дазволілі правесьці спачатку другі Вальны сойм Канфэдэрацыі беларускіх суполак, а пасьля і першы зьезд БНФ, але гэта камуністам ужо не дапамагло. Беларусь выбрала тады нацыянальны шлях, які быў прыпынены прэзыдэнцкімі выбарамі 1994 году. Зрэшты, як мы ўбачылі ў 2020 годзе, шлях гэты падспудна працягваўся ўсе доўгія гады нацыянальнай цемры.

Але ў пачатку быў мітынг на Дзяды 1987 году.

Цяпер я разумею, што той мітынг як бы адкрыў шлюз для пераменаў у Беларусі. Ён адкрыў дарогу для ўсёй назапашанай энэргіі нацыянальнага беларускага этасу, які на той час ужо быў дастаткова разьвіты і ўмацаваны дасягненьнямі нашай акадэмічнай навукі і культуры насуперак антынацыянальнай камуністычнай ідэалёгіі, якая доўгія дзесяцігодзьдзі панавала ў СССР.

Калі б 1 лістапада 1987 году нас арыштавалі і пасадзілі, шмат якіх падзеяў наступных гадоў магло б ня быць і гісторыя Беларусі была б зусім іншаю. Ня выключана, што і СССР мог бы захавацца ў нейкім моцна ўсечаным выглядзе, без Прыбалтыкі і Ўкраіны, але зь Беларусьсю і, маг-

чыма, яшчэ якімі-небудзь рэспублікамі ў сваім складзе.

Але кіраўнікі БССР і ЦК КПБ праявілі нерашучасьць, і сьнежны ком, распачаты тым мітынгам, а пасьля і першым Вальным соймам беларускіх суполак, у рэшце рэшт зьнёс з гістарычнай дарогі іх саміх.

Яны спахапіліся праз год і паспрабавалі разагнаць мітынг на Дзяды 1988 году, але было ўжо позна — цягнік сышоў. Разгон выклікаў скандал, усесаюзны розгалас, прыезд маскоўскіх камісіяў і меў адваротны высілкам камуністычнага кіраўніцтва БССР вынік.

Нават на этапе падрыхтоўкі да другіх Дзядоў мне запомнілася нерашучасьць уладаў. Улёткі з заклікам прыйсьці на той мітынг у раёне Ўсходніх могілак размнажалі і разразалі талакоўцы на вуліцы Сурганава ў кватэры Міхася і Жэні Грыгор’евых. Там жа побач была і кватэра Вінцука і Арыны Вячоркаў, а непадалёк жылі Віктар Івашкевіч з Аленай Радкевіч. Усе яны, натуральна, бралі ўдзел у гэтым працэсе. Калі мы скончылі, расклалі ўлёткі па сумках і сталі разьяжджацца па сваіх раёнах, аказалася, што ў двары дому і на вуліцах нас чакалі некалькі міліцэйскіх «казлоў». Некаторыя зь іх ехалі за тралейбусамі, куды зайшлі талакоўцы з улёткамі. Але нікога не затрымлівалі. Я зрабіў дзьве перасадкі, і ад мяне адчапіліся. У выніку ўлёткі трапілі да жыхароў Менску.

З таго часу ў нас пачалася традыцыя «палітычнага» адзначэньня Дзядоў, якая можа здавацца

палітызацыяй народнага звычаю. Дзяды ў нашага народу — гэта сьвята найперш сямейнае, у той дзень беларусы згадваюць менавіта сваіх дзядоў. Але і нацыя, як вялікая сям'я, павінна згадваць пра сваіх Дзядоў. Так што ўсё ў парадку, трэба і пра сваіх дзядоў не забываць, і нацыянальных памятаць.

## Асоба Бяляцкага

Сёньня, разважаючы пра першага ў маім жыцьці нобэлеўскага ляўрэата, знаёмства зь якім можна назваць блізкім, я думаю найперш пра яго асабістыя якасьці, якія і прывялі Алеся да сусьветнага прызнаньня. І гэта, вядома, вялікі гонар, мець у жыцьці такога паплечніка ці, хутчэй, мець магчымасьць назваць сябе ягоным паплечнікам.

Я назіраў за Алесем Бяляцкім у розных грамадзкіх і прыватных сытуацыях. Думаю, гэты чалавек стаў вялікім падарункам для Беларусі. Усё вырашала яго асабістая неўтаймоўная энэргія, ініцыятыўнасьць і крэатыўнасьць. Гэта тычыцца і яго арганізацыйнай дзейнасьці, калі ён кіраваў «Тутэйшымі», быў намесьнікам старшыні БНФ, калі мы разам зь ім адраджалі рэлігійнае жыцьцё ў Беларусі, выдавалі адпаведныя часопісы, увахodзілі ва ўправу адроджанай на пачатку 1990-х гадоў беларускай хадэцыі — партыі «Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць».

Бяляцкі ўсюды быў натхняльнікам, ініцыятарам і лідэрам.

Бывала, ён як бы сыходзіў убок, але аказвалася, што там, куды ён сышоў, узьнікала структура ці арганізацыя, якая станавілася вельмі важнаю і патрэбнаю Беларусі. Так ён засноўваў «Тутэйшых», Беларускую каталіцкую грамаду, Праваабарончы цэнтар «Вясна» і іншыя структуры. А пасьля зьяўляліся іх вельмі важныя плады.

Гэтак стала і зь «Вясной» у 1996 годзе. Памятаю, як ён, прыехаўшы ў Прагу, са сваёй нязьменнай усьмешкай прэзэнтаваў мне зборнік пра мітынгі менскай пратэставай вясны таго году са здымкам скрываўленага мітынгоўца на вокладцы. Вясна тая фактычна стала правобразам падзеяў 2020 году. Менавіта тады Алесь заняўся праваабаронай — і чарговы раз у жыцьці меў рацыю.

Палітыкі нічога не змаглі зрабіць з рэжымам у Беларусі, палітыка ў краіне, як такая, зьнікла, апазыцыя аказалася задушанай і маргіналізаванай, незалежныя мэдыя задушаныя і выкінутыя з краіны, і процістаяньне фактычна зьвялося да лініі дыктатура — праваабарона.

Першая правы людзей парушае, другая іх бароніць і фіксуе парушэньні. Нават з-за мяжы.

На чале адной — дыктатар, на чале другой — Бяляцкі.

Аднаго ў сьвеце ганяць, другога — ушаноўваюць.

Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны дзясяткамі міжнародных прэмій, ён ганаровы грамадзянін многіх эўрапейскіх гарадоў. Нобэлеўская прэмія міру 2022 году стала толькі вянцом гэтага сусьветнага прызнаньня.

Віншую, дарагі Алесь, з заслужанай узнагародай! Гэта твая перамога над цемрай. Ты ня раз мяняў Беларусь. Зьменіш і яшчэ ня раз.

## «Алесь да гэтага часу ня можа прыйсьці ў сябе, ён моцна ўражаны»

2 сьнежня 2022

*Старшыню Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага працягваюць ўтрымліваць ў СІЗА-1 17 месяцаў. На цырымонію ўручэньня 10 сьнежня ў Осла ён трапіць ня зможа — крымінальную справу супраць яго і іншых вясноўцаў накіравалі ў суд.*

У Беларусі нобэлеўскаму ляўрэату пагражае ад 7 да 12 гадоў зьняволеньня за праваабарончую дзейнасьць. Жонка Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук упершыню за сямнаццаць месяцаў атрымала спатканьне з мужам і расказала «Вясьне», як яна ўспрыняла навіну аб прэміі і як гэта ўспрыняў ён сам.

*Пінчук:* Гэта была ашаламляльная навіна, але пры ўсіх супярэчлівых пачуцьцях — прыемная і радасная. Цяпер, у адрозьненьне ад папярэдніх разоў вылучэньня Алеся на прэмію, не было ніякіх чаканьняў, бо пра ягонае намінаваньне ніхто ня ведаў і не казаў.

Калі ў папярэдні раз Алесь быў у зьняволеньні (2011–2014 гады. — РС), то да яго і іншых палітвязьняў таго часу была пільная ўвага ў сьвеце, але цяпер такой увагі не адчувалася. Я тлумачыла гэта тым, што за кратамі цяпер утрымліваецца незьлічоная колькасьць людзей і ўвагу трэба разьмяркоўваць паміж імі ўсімі. І гэтае зацішша

сфармавала ў мяне думку, што на Алеся наогул забыліся, а пра прэмію такога ўзроўню нават і думак не было. Мы цяпер жывём у змрочныя часы, у якіх людзі закінутыя ў турмы і мусяць выжываць, як могуць, таму і разьлічваць на нешта большае не прыходзілася.

### «За адно-два „лішнія“ словы ліст можа быць проста выкінуты цэнзарам у сьметніцу»

Натальля перакананая, што рашэньне Нобэлеўскага камітэту стала падтрымкай для многіх беларусаў і беларусак, якія працягваюць барацьбу за свабоду.

*Пінчук:* Я лічу, што гэта ўзнагарода для тых беларусаў, якія паказалі сябе сапраўднымі грамадзянамі сваёй краіны, якія маюць спадзяваньні на свабоду і волю. Гэтая прэмія — арыенцір для іх. Я думаю, што беларусы ўспрынялі гэтую навіну радасна і са спадзевамі.

Жонка Бяляцкага кажа, што пасьля навіны пра атрыманьне прэміі за два месяцы зь СІЗА-1 прыходзілі лісты ад Алеся, але сярод іх не было ніводнага, дзе ён неяк бы выказваўся пра прэмію.

*Пінчук:* На спатканьні бачна было, што для яго гэта таксама была вельмі нечаканая, але радасная навіна, і ён да гэтага часу ня можа прыйсьці ў сябе. Ён моцна ўражаны гэтай навіной.

Паводле жонкі, у канцы жніўня стала вядома, што Бяляцкага ўтрымліваюць у так званым «спэцкалідоры» — паўпадвальным памяшканьні з дрэннымі ўмовамі.

*Пінчук:* Вядома толькі, што ён цяпер утрымліваецца там жа, дзе і раней. Больш нічога невядома. Наколькі я зразумела за гэты час, яму наогул забараняюць расказваць пра ўмовы ўтрыманьня, пра тое, як ідзе сьледзтва, выказвацца пра сучасную палітычную сытуацыю і іншае. Ад іншых палітвязьняў пра гэта часам можна давецацца. Ягоныя ж лісты вычышчаныя ад усяго, бо, умоўна, за адно-два „лішнія“ словы ліст можа быць проста выкінуты цэнзарам у сьметніцу. Але нават і пры гэтым ня ўсе лісты выпускаюць на волю. Такое ўражаньне, што проста выкідаюць ці цотныя, ці няцотныя.

## «Гэта было першае спатканьне за паўтара года»

Натальля адзначае, што Алесь выглядае спакойным, але ўсё роўна выклікае заклапочанасьць і хваляваньні за яго здароўе.

*Пінчук:* Ён трымаецца, але ўсё роўна бачна, што здароўе пагаршаецца. Гэта вялікая праблема ня толькі для Алеся, але і для ўсіх зьняволеных. Даводзіцца канстатаваць, што ўмовы ўтрыманьня ў нашых турмах прыводзяць да пагаршэньня здароўя ўсіх, хто там знаходзіцца. Ці выводзяць зьняволеных на сьвежае паветра, ці адбываецца гэта рэгулярна, сказаць цяжка. Я толькі адзін раз за ўвесь час пра гэта прачытала ў ягоным лісьце.

Алесь рэдка паказвае, што штосьці адбываецца дрэннае. Таму яго расповед пра сябе даволі сьцісла і не заўсёды канкрэтны. І мне любую ін-

фармацыю даводзілася дазнаваць праз ускосныя пытаньні да яго. Гэта было першае спатканьне за паўтара года. Я рада была яго бачыць, мы радыя былі бачыць адзін аднаго.

## «Прэмія павінна даваць надзею тым, хто ўтрымліваецца ў турмах»

28 лістапада з прэс-рэлізу Генэральнай пракуратуры стала вядома, што  крымінальную справу супраць Алеся Бяляцкага, ягонага намесьніка Валянціна Стэфановіча і каардынатара кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Ўладзіміра Лабковіча накіравалі ў суд. Падобныя прэс-рэлізы — адзіная крыніца інфармацыі пра ход «справы „Вясны“» для родных і калег зьняволеных праваабаронцаў. Дата суду пакуль невядомая.

*Пінчук:* Цяжка сказаць, ці будзе адкрыты, ці закрыты гэты суд. Бо сытуацыя непрадказальная, як паказвае досьвед іншых палітвязьняў. І ці паўплывае нейкім чынам прысуджэнне прэміі на сытуацыю з Алесем, сказаць цяжка. Як бачыце, завяршэньне справы адбылося ўжо пасьля ўсіх гэтых падзей. Улады даюць знак, што нічога не мяняецца. Спадзявацца на нешта станоўчае не прыходзіцца. Адзінае, што важна ў гэтай прэміі, — што Беларусь гучыць. Гэтая прэмія — знак таго, што пра беларусаў не забыліся, і гэта істотна важна. Гэта павінна ў нейкай ступені даваць надзею тым, хто ўтрымліваецца ў турмах.

# Па-за кантэкстам

## Алесь Бяляцкі. Радкі зь біяграфіі

Нарадзіўся 25 верасьня 1962 году ў гарадзкім пасёлку Вя́ртсіля ў Карэльскай АССР, дзе ў той час працавалі ягоныя бацькі-беларусы.

У 1965 годзе сям'я вярнулася ў Беларусь, у Сьветлагорск.

У 1984 годзе Алесь скончыў гісторыка-філялягічны факультэт Гомельскага ўнівэрсытэту, працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне.

Служыў у савецкім войску ў Сьвярдлоўскай вобласьці РФ мэханікам-кіроўцам браняванага цягача.

У 1986–1989 гадах быў заснавальнікам Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя».

У 1988 быў сябрам Аргкамітэту БНФ «Адраджэньне», працяглы час быў адным зь лідэраў БНФ — членам Сойму, сакратаром Управы і намесьнікам старшыні.

У 1989 годзе скончыў асьпірантуру Інстытуту літаратуры Акадэміі навук Беларусі.

З 1989 да 1998 году працаваў дырэктарам Літаратурнага музэю Максіма Багдановіча.

У 1991–1995 гадах быў дэпутатам Менскага гарадзкога савету дэпутатаў.

У 1996 годзе заснаваў праваабарончую арганізацыю «Вясна».

4 жніўня 2011 году быў затрыманы — яго абвінавацілі «ва ўхіленьні ад выплаты падаткаў».

23 лістапада асуджаны на 4,5 года пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці.

У 2012 годзе ў Бібліятэцы Радыё Свабода выйшла кніга Валера Каліноўскага «Справа Бяляцкага».

21 чэрвеня 2014 году быў датэрмінова вызвалены з Бабруйскай калёніі.

За 25 гадоў сваёй дзейнасьці быў адзначаны шматлікімі прэміямі і ўзнагародамі: швэдзкай прэміяй імя Пэра Ангера, прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава, прэміяй Homo Homini, якую ўручаў Вацлаў Гавэл, прэміяй Нарвэскага зьвязу пісьменьнікаў «За свабоду слова», прэміяй Дзяржпэпартамэнту ЗША, прэміяй Леха Валэнсы, прэміяй імя Пэтры Кэлі, прэміяй Вацлава Гавэла ад ПАРЭ, прэміяй «За правы чалавека і вяршэнства закону» ды іншымі.

Пяць разоў вылучаўся на Нобэлеўскую прэмію міру.

Алесь — аўтар кніг «Прабежкі па беразе Жэнэўскага возера», «Асьвечаныя Беларушчынай», «Халоднае крыло Радзімы», «Іртутнае срэбра жыцьця», «Бой з сабой», «Турэмныя сшыткі».

14 ліпеня 2021 году быў затрыманы паводле крымінальнага абвінавачаньня, у яго дома і ў офісе «Вясны» адбылісяператрусы.

Цяпер ён у СІЗА № 1 — на «Валадарцы» — разам з калегамі: праваабаронцамі Валянцінам Стэфановічам і Ўладзімерам Лабковічам.

Усяго за актыўную грамадзкую і праваабарончую дзейнасьць прыцягваўся да судовай адказ-

насьці больш за 20 разоў. Прызнаны палітычным зьняволеным.

7 кастрычніка 2022 году Алесю Бяляцкаму была прысуджаная Нобэлеўская прэмія міру.

# Паказьнік асобаў

## A Man of Hope for Belarus

The award of the Nobel Peace Prize to Ales Byaliatski is not only a fitting tribute to a great freedom fighter but also a global declaration of support for his lifelong struggle for democracy in Belarus. A dissident during the late Soviet period, Byaliatski founded the *Viasna* Human Rights Center soon after Alexander Lukashenka reimposed a dictatorship over Belarus in 1994. Constantly harassed and repeatedly arrested, Byaliatski has never wavered in his commitment to nonviolence and democracy and has been a unifying national figure, defending not just the political rights of all Belarusians but the integrity of their culture, language, and national identity. He embodies the democratic aspirations of the Belarusian people and their hope for a better future.

How different he is from Lukashenka, who has been exposed by the Nobel award to Byaliatski for being what he is — a dictator who rules only by force and without legitimacy. The great Polish philosopher Leszek Kolakowski wrote in his 1971 essay on Hope and Hopelessness that no state or political system can exist without democratic legitimacy, in the absence of which dictators try fiercely to create a surrogate legitimacy based on ideology, economic performance, or nationalism. Lukashenka has none of these. Communist ideology is dead; the devastating consequences of Russia's invasion of Ukraine have made economic progress in

Belarus unthinkable for the foreseeable future; and Lukashenka's unconditional submission to Putin as the price for his retaining power has left him without a shred of patriotic credibility. Byaliatski, his stature now elevated by the Nobel Prize, by contrast is a national hero.

In the end, it is Russia's inevitable defeat in Ukraine that will consign not just Putin but also his Belarusian houseboy to the ash heap of history. A weakened Russia will strengthen the prospect for a democratic transition in Belarus, and according to an important article in the *Journal of Democracy*, this prospect has also been strengthened by the civic mobilization around the stolen 2020 election that has "transformed the consciousness of the Belarusian nation." Not least, there is the moral and democratic example of Ales Byaliatski, whose courage, perseverance, and humaneness offer an inspiration for the rebirth of Belarus. This makes the collection in this volume of Byaliatski's interviews and RFERL reports about him of special interest to the people of Belarus and to everyone who cares about the country's future.

*Carl Gershman,*
*Founding President of the National Endowment for Democracy, USA*

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.* **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2020.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 434 с.




**Неверагодны 2020-ы.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.* **Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.** Кніга другая. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.* **Дзевяноста шосты.** 2-е выд., дап. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2021.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 386 с.




**Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 412 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.* **Забіць упалмінзага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 360 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Чаму Беларусь не Расея.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 324 с.: іл.